Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР.

У НУМАРЫ:



**8 (54)**

Жнівень.

1957.

Год выдання V.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.



**Мікола ГАМОЛКА**

# ЦЫТАДЭЛЬ НЕБА

**Навукова-фантастычны раман ***

Мал. П. Калініна.

## Раздзел першы

Шэры зімовы вечар, падсвечаны мігатлівым электрычным святлом, вісеў над горадам. Каменныя муры, здавалася, сталі цяжэйшымі, страцілі прывабнасць ліній і форм. Затое можна было любавацца шырокімі прасветамі вокан, вітрынамі магазінаў, высокімі вежамі і аркамі, аплеценымі гірляндамі агнёў і ланцужкамі яркіх неонавых трубак.

Недзе спявае рэпрадуктар. Паветра чыстае, марознае. Лёгка дыхаць на ўсе грудзі. Каля тратуараў высокія ліпы раскінулі вільготныя галіны. Хутка вясна. Яе набліжэнне адчуваецца ў подыхах мяккага нязлоснага ветру, яна заўважаецца ля капяжоў, дзе нарос малады лядок.

На вуліцах, плошчах, на галоўным праспекце шумліва, як днём. Імчацца аўтамашыны, праносяцца высокія аўтобусы і тралейбусы. Па

* У гэтым рамане дзейнічаюць тыя-ж героі, якія вядомы чытачам па аповесці «За вялікую трасу» (Аўтар.)

тратуарах няспынна цячэ людская рака. Вось з прадаўгаватага будынка, упрыгожанага мармуровымі калонамі, выбегла дзяўчына. Акінуўшы зіхатлівую далячынь горада гарачым, узрушаным позіркам, яна збегла на асфальтавую дарожку і праз садзік пайшла на вуліцу.

Як лёгка патануць у натоўпе, растварыцца ў стракатым мільганні капелюшоў, шапак, каўняроў, шарфаў, паліто! Але постаць гэтай дзяўчыны, яе паходка адразу кідаліся ў вочы. Чаму ў яе такі ўсхваляваны твар, пакрыўджаны позірк? Што здарылася?

Наташа глядзіць на знаёмыя абрысы будынкаў, на гаманлівы натоўп — і сэрца яе сціскаецца, замірае ад незаслужанай крыўды. Марыла, спадзявалася, імкнулася да нечага прыгожага і светлага. Дзе ўсё гэта? Як балюча на душы! Яе моцна пакрыўдзілі. Ёй рыхтуюць расправу. Трэба змагацца! І не адной, а разам з сябрамі. Фёдараў — хітры нягоднік, і Наташа памылілася, калі спадзявалася толькі на свае сілы.

На скрыжаванні вуліц Наташа спынілася, пачакала, пакуль пройдуць машыны. І вось зялёным агеньчыкам мігнуў светафор. Яна хуценька перабегла праспект, наставіла каўнер паліто, паправіла белы шарф на галаве і шпарчэй пакрочыла наперад.

На вуліцы Янкі Купалы Наташа падышла да двухпавярховага асабняка. Ён быў абсаджаны з аднаго боку маладымі ялінкамі, а з другога — садам. Наташа адчыніла брамку, узбегла па прыступках і пазваніла.

Дзверы на лесвічную пляцоўку адчыніліся, і тоўстая круглатварая жанчына ветліва ўсміхнулася:

— Гэта вы, Наташа? Так рана? У вас-жа камсамольскі сход.

— Ён ужо скончыўся, — з намаганнем прамовіла дзяўчына і зайшла ў пакой. Запаліўшы святло, хуценька распранулася. Позірк міжвольна спыніўся на стале. Новенькі гадзіннік... Раскрытая недачытаная кніга... І што гэта — аднекуль пісьмо? Размашысты почырк, знаёмы адрас. Ад Віктара ліст!

Радасць, якая ўзнікла так нечакана, гарачай хваляй прайшлася па душы.

Пісьма Наташа даўно чакала. Што яно прынесла ёй?

Як-быццам баючыся чагосьці невядомага, яна, заплюшчыўшы вочы, разарвала канверт.

У памяці,— выразна і ярка,— паўстаў вобраз Віктара. Рукі закладзены за спіну, твар спакойны, сур'ёзны. Толькі вочы выдаюць яго характар — усміхаюцца, гараць зухаватасцю, маладым запалам.

«Дзень добры, Віктар!» — прашаптала Наташа і разгарнула лісток паперы. І тут-жа знік боль у сэрцы.

* * *

Гэта было некалькі месяцаў таму назад пад Масквой. Яны пазнаёміліся ў Галактыцы — гарадку інстытута міжпланетных зносін. Наташа заканчвала інстытут сувязі і тэлебачання. Віктар вучыўся ў спецыяльнай школе астранаўтаў. Перад выпускам студэнтам інстытута даводзілася многа працаваць. Яны не толькі трэніраваліся на прыём па рацыях розных дэпеш, шыфраваных тэлеграм, але і па некалькі гадзін дзяжурылі ў радыёрубках ракетаапарата.

Аднойчы па ўсяму гарадку разнеслася трывожная вестка. Ракетаплан, якім кіраваў курсант вучылішча Віктар Машук, пацярпеў аварыю... Па ўсёй трасе ад Масквы да Байкала пачаліся пошукі. У эфір ляцелі пазыў-

ныя. Але дарэмна. Віктар не адказваў. Што здарылася? Катастрофа? Але дзе, у якім месцы? Самалёты, пасланыя на пошукі, без поспеху вярталіся на базы. Не ўдалося адшукаць ніякіх сігналаў у эфіры. Аднак ніхто не хацеў верыць, што Віктар загінуў.

Трое сутак узапар Наташа Гоман сядзела ў апаратнай інстытута, дзяжурыла ля рацыі. Усе, хто заходзіў туды, бачылі яе схіленую над сталом галаву. Чужое гора як-бы звалілася і на яе плечы. Вочы ў Наташы запалі, твар асунуўся.

Асабліва цяжка дзяжурыць ноччу. За акном — цемра, вецер, а ў пакоі ціха-ціха. У такі час непрыкметна падкрадаецца сон. Міжволі зліпаюцца павекі. Трэба мець моцныя нервы, волю, каб змагацца з дрымотай. А ў эфіры — цішыня. Змоўклі, зніклі недзе галасы дзесяткаў і сотень кароткахвалевых станцый. Прабягаеш па ўсёй шкале, і толькі дзе-ні-дзе зловіш то санлівы голас дыктара, то настойлівы пошчак «марзянкі», то музыку. А нервы напружаны, слых навостраны, як ніколі. Дзе-ж ты, мужны стратанаўт? Што з табою? Чаму маўчыш? Адгукніся!

І зноў пакутлівае чаканне.

У канцы трэціх сутак Наташа зусім змарылася. Сон пачаў сцінаць павекі, туманіць свядомасць. І нечакана — уздрыганула, схапілася рукамі за навушнікі. Аднекуль даляцеў слабы, ледзь чутны сігнал: «Я — у тайзе... Я — у тайзе... Каардынаты 100° даўжыні, 52° шырыні».

Наташа намагалася зразумець, спіць яна ці не. Не, не спіць. Чаму-ж тады ў навушніках зноў цішыня? Дзе тая станцыя, што падала гэты голас? Дзяўчына ўстала, хуценька папраўіла настройку рацыі. Апарат маўчаў. Недзе далёка плыла навальніца, і ў навушніках цяпер чуўся сухі трэск электрычных разрадаў.

Наташа глядзела на апарат разгублена і трывожна. Вось загадка! З галавы не выходзілі пачутыя каардынаты. Ці то скрозь сон, ці сапраўды прагучалі ў навушніках — цяжка было адгадаць. На ўсякі выпадак Наташа ўзяла аловак і запісала іх.

Да самай раніцы яна пільнавала кожны гук і шолах бязмежнага эфіру. Не, не паўтарыліся больш сігналы. Можна было толькі думаць, што гэта вынік бяссонных начэй. Наташы зрабілася яшчэ больш сумна.

Калі раніцай у пакой забеглі сяброўкі, яна па-ранейшаму сядзела за рацыяй.

— Маўчыць? — запыталася адна з дзяўчат.

Наташа працягнула лісток паперы. Сяброўкі зацікаўлена прыніклі да кароткага запісу. Твары іх успыхнулі радасцю.

— Ён жывы!

— Чаго-ж ты маўчыш, Наташка!

Сувязістка павярнулася, ускінула на іх стомлены, сумны позірк.

— Я нічога пакуль не магу зразумець,— прамовіла яна і расказала ўсё, што было ўначы.

— Я паверу, што ў сне можа ўявіцца ўсё, аб чым думаеш,—прамовіла Зіна Кужаль,— але толькі не каардынаты. Наташка, ты пачула гэта ў эфіры. Даю слова. Не верыш?

Дзяўчаты тут-жа пазванілі начальніку ракетапорта. На месца, якое прыснілася Наташы, быў пасланы самалёт. Увесь гарадок насцярожыўся, чакаючы вестак з далёкага краю.

І вось, якая радасць! Днём з Іркуцка прыйшла радыётэлеграма. Ракетаплан Віктара быў знойдзены. Каардынаты Наташы правільныя. Астранаўт самалётам вяртаўся ў Маскву. Ніхто так не быў шчаслівы ў гэты

час, як студэнты інстытута сувязі і тэлебачання. І не дарэмна. Заслуга ў выратаванні ракетаплана і Віктара Машука належала студэнтцы інстытута Наташы Гоман. Аб ёй гаварылі ўсюды.

Наташа не чула пахвалы. Не дзеля пахвалы яна сядзела трое сутак у апаратнай. І, нібыта адчуваючы, што зрабіла вялікую справу, выратавала чалавека, дзяўчына спала моцна і спакойна. Сяброўкі стаялі ля яе ложка, хацелі разбудзіць, каб паведаміць навіну, але не рашаліся.

Яна яшчэ спала, калі ў інстытут прышоў высокі юнак у лётнай форме. Ён папрасіў пабачыць Наташу Гоман. Студэнткі з несхаванай цікавасцю аглядалі нечаканага госця. Зіна Кужаль, найбольш смелая і рашучая, выйшла наперад, сказала:

— Выклікаць не можам. Яна адпачывае.

Юнак у лётнай форме паўтарыў просьбу.

Дзяўчаты толькі цяпер зразумелі: перад імі Віктар Машук. Будзіць трэба абавязкова.

Наташа выйшла ў вестыбюль у сіняй шаўковай сукенцы. Дзве чорныя касы былі ўкладзены на галаве вянком, і яны асабліва ярка падкрэслівалі прыгажосць яе твару.

Віктар сумеўся, але, паправіўшы непакорны рыжы віхор, радасна падышоў да дзяўчыны.

— Дык вось хто мяне выратаваў! Добры дзень! Рад пазнаёміцца...— Ён моцна паціснуў ёй руку.

Наташа ўсхвалявана глядзела на юнака.

— Значыць, я не памылілася?.. Гэта не сон?.. Вы падавалі сігналы?.. Што-ж здарылася? Раскажыце,— папрасіла яна.

Віктар сеў на канапу, шырокай далоняй прыгладзіў валасы.

— Турбіна расплавілася... Сплаў, мабыць, недасканалы... Здарылася аварыя... Пры пасадцы крыху пабіўся... Вось і ўсё! Калі ачуняў, бачу: уся апаратура патрушчана... Кінуўся да рацыі — не працуе. Два дні сядзеў, рамантаваў. Потым уключыў... батарэі былі вельмі разраджаны... Я ніколі не чакаў, каб мяне хто-небудзь пачуў... І вось вы... Яшчэ раз дзякую вам, Наташа,— шчыра сказаў Віктар. Твар яго расчырванеўся. Юнак камечыў у руках пілотку і, апусціўшы вочы, прамовіў: — Мне расказвалі, як вы мяне шукалі. Я ніколі гэтага не забуду. Верыце, Наташа?

Зірнуўшы спадылба на хлопца, Наташа ціха папрасіла:

— Не гаварыце так. Я ведаю, што значыць гора...

Віктар зацікавіўся:

— А ў вас было гора?

— Было. Калі загінуў пры аварыі самалёта мой брат. Засталіся я і мама... Мне нават і сёння цяжка ўспамінаць тыя дні.

Наташа змоўкла, і Віктар убачыў затоены жаль у яе вачах.

— Не хвалюйцеся, Наташа. Я разумею... Я...— Віктар раптам адчуў, што ён хвалюецца: — Я хачу замяніць вам брата...

Гэтыя словы канчаткова расчулілі дзяўчыну. Віктар узяў яе за локаць, ласкава сказаў:

— Давайце пойдзем у сад, Наташа! Я — сябар ваш і брат.

Яны ішлі па шырокай алеі вялікага парку. Вечарэла. Пад голлем кучаравых ліп гарэлі ліхтары. Высока над галавой плыў круглы месяц. Аднекуль з глыбіні гушчару павявала прыемным халадком.

Наташы не верылася, што побач з ёю ідзе той самы чалавек, якога трое сутак шукалі сотні людзей.

Ёй прыемна было ісці побач з ім. Ён гаварыў мякка, асцярожна. І па зямлі ён ступаў таксама лёгка, амаль нячутна.

Падыходзячы да фантана, Наташа раптам спыталася:

— Скажыце, Віктар, вам было страшна, калі вы зразумелі, што пагражае катастрофа?

— Было крыху боязна, але не страшна,— адказаў юнак.

— Хіба вы не баіцёся смерці?

— Чаго баяцца? Не разумею,— усміхнуўся Віктар.— Я проста ніколі не думаю пра яе.

— А я баюся смерці,— памаўчаўшы, прызналася Наташа.

— Ха-ха! А я ніколі нічога не баюся! — сказаў Віктар, і Наташы здалося, што ён хвалько.

У верхавінах дрэў шумеў вецер. З гушчару, дзе панаваў таямнічы змрок, плыў прыемны водар. У вясёлкавых кругах месяца варушыліся высокія белыя хмаркі. Было ціха, прыгожа.

Наташа лапраўіла на плячах хусцінку.

— Вам холадна?

— Хадземце дамоў,— папрасіла дзяўчына.

Калі ішлі назад, сустрэліся інстытуцкія дзяўчаты. Ёй раптам захацелася быць сярод іх, і яна сказала пра гэта Віктару. Віктар нерашуча спытаў:

— А можа я праводжу вас?..

Наташа падзякавала і адмовілася.

«Дзяўчына з гонарам»,— падумаў Віктар.

Надышлі дзяржаўныя экзамены. Наташа закончыла інстытут. Яна атрымала прызначэнне ў Мінск. Перад тым, як прыступіць да самастойнай работы, яна часта сустракалася з Віктарам. Між імі завязалася дружба. Ён прасіў яе застацца ў Маскве, не ехаць у Мінск. Але яна не згадзілася.

Сустрэлі дзяўчыну ў Мінску прыязна, шчыра. Наташа стала адной са зменных дзяжурных на радыёлакацыйных установках. Гэта была цікавая і адказная работа. Хоць на каляндарных лістках значыўся 196... год, але не ўсюды яшчэ на свеце спраўляла сваю ўрачыстасць праўда і свабода.

За акіянам знаходзіўся апошні плацдарм старога свету. Разлютаваныя мільярдэры рыхтавалі вайну супроць Краіны Саветаў. На яе тэрыторыю засылаліся шпіёны. Арганізоўваліся правакацыі, дыверсіі.

Ваенная зграя Штатаў шалела. Амаль кожную ноч з заходніх ваенных баз запускаліся ракетапланы, якія пралятлі на вялікай вышыні над тэрыторыяй Савецкага Саюза. Ды ў дадатак — паветраныя шары... Днём і ноччу яны блукалі ў неабсяжных прасторах неба на вялізнай вышыні. Іх нельга было не толькі збіць, але і заўважыць няўзброеным вокам.

Служба сувязі і апавяшчэння стаяла на варце.

Наташы прыходзілася нялёгка. Некаторыя ночы былі асабліва трывожнымі. Не паспееш праводзіць у далёкі шлях паветраны карабель, што ўзняўся з Мінскага ракетапорта, як раптам на малочна-жаўтлявым экране радыёлакатара ўзнікаў чорны язычок. Ён поўз павуком, трывожыў сваёй маўклівасцю. Што пад крыламі няпрошанага паветранага каршуна — бомбы, бактэрыі, газы? Трэба хутка перадаць аб гэтым асобнаму цэнтру супрацьпаветранай абароны, хай рыхтуецца «каршуну» адпаведная сустрэча.

Шэсць месяцаў працавала Наташа. Ні на адным з яе дзяжурстваў не было непаладкаў. Сувязь і назіранне вяліся дакладна. Яна ўнесла нават

невялікую рацыяналізатарскую прапанову, як палепшыць прыём далёкіх радыёлакацыйных перадач. Ужо нікога не здзіўляла, што да былой студэнткі прыходзілі раіцца, прасіць парад.

І раптам — непрыемная гісторыя... Дзяўчына, якая працавала ў планавым аддзеле радыёлакацыйнага цэнтра, аднойчы расказала Наташы, што начальнік радыёлакацыйнага цэнтра Фёдараў нядаўна прысвоіў восем тысяч рублёў нібыта за рамонт апаратуры.

Наташа накінулася на сяброўку:

— А ты маўчыш? Раіцца прышла? Што пасля гэтага табе сказаць? Баязліўка ты, вось што! Зараз-жа ідзі ў Соўнаргас, раскажы пра ўсё. Чуеш?

Сяброўка паабяцала. Але мінуў тыдзень, а пра махінацыі начальніка нідзе не было гаворкі. Наташа сама прышла да дзяўчыны.

— Мужнасці нехапае? — проста ў вочы ёй кінула Наташа.

— Што наша мужнасць для Фёдарава,— адказала панура сяброўка.— Зацкуе, абняславіць... А навошта гэта мне?

— Якая ты пасля гэтага камсамолка?!

— Не горшая за цябе,— раззлавалася сяброўка.— І чаго ты мяне дакараеш? Я не хачу нічога ведаць. Разумееш?

Наташа схапіла сяброўку за руку, пільна паглядзела ёй у вочы:

— Пачакай, я сапраўды не разумею цябе. Скажы, хто мы тут — госці ці гаспадары?

— Фёдараў выкруціцца... Яго не зловіш...

— Зловяць! — горача ўсклікнула Наташа.— Ведай: лісіцу ловяць хітрасцю, а ваўка — мужнасцю. Мужнасці ў цябе нехапіла, але затое яна знойдзецца ў мяне.

Наташа выйшла з утульнага пакойчыка сяброўкі, поўная злосці і рашучасці. Ну што-ж, гэтую тайну раскрые яна сама. Хай ведаюць, хто такі Фёдараў. Хоць ён і ўсміхаецца кожнаму супрацоўніку і просіць на сходах, каб яго крытыкавалі, але ў сапраўднасці ён хцівы, несумленны: залез у дзяржаўную кішэню.

На наступны дзень аб махінацыі Фёдарава ведаў увесь радыёлакацыйны цэнтр. Сакратар камітэта камсамола, сустрэўшы Наташу, пахваліў:

— Малайчына. Даўно пара ўзяцца за яго...

У бухгалтэрыі запрацавалі камісіі, паявіліся кантралёры.

Фёдараў хадзіў надзьмуты, насуплены. Наташы перадалі, што на адной з вечарынак ён паабяцаў адпомсціць ёй. Наташа толькі ўсміхнулася. Няхай сабе пагражае. Што ён зробіць? Працуе яна сумленна, прэміі атрымлівае.

Але дзяўчына не агледзелася, як непрадбачана, нечакана трапіла ў бяду. Пад вечар, калі заканчвалася дзяжурства першай змены, у радыёлакацыйны цэнтр прышло паведамленне, што ў гарадку Прыдняпроўску над важным заводам упаў варожы паветраны шар. Ад выбуху згарэў адзін цэх. З Прыдняпроўску запытваліся, чаму ніхто не паведаміў аб набліжэнні небяспекі.

Дзяжурныя аператары захваляваліся. Адразу пачалі правяраць, у якіх напрамках дзьмулі вятры на працягу апошніх шасці гадзін, перачытвалі запісы ў журналах. Ноч на рэдкасць была спакойнай. Ні на адным экране ніхто не заўважыў пабочных паветраных аб'ектаў. Выказваліся розныя здагадкі... І вось прышоў Фёдараў. Ён папрасіў зводкі надвор'я, журналы з запісамі. Доўга сядзеў, унурыўшыся ў паперы.

Нарэшце, у аператарскую зайшла сакратарша:

— Наташа Гоман, вас просіць начальнік...

Дзяўчына здзіўлена паціснула плячыма, устала з крэсла. Яна пайшла між мармуровых калон, на хаду папраўляючы тугую касу. Сяброўкі адчувалі, што выклік Наташы ў такі момант не абяцае нічога добрага. Ведалі, што паграмжаў Фёдараў. За прысваенне дзяржаўных грошай яго ледзь не знялі з пасады. Але ён знайшоў мяккія сэрцы, даў дзесяткі абяцанняў, і ўся гэтая справа закончылася, як кажуць, лёгкім перапалохам — яму далі суровую вымову.

Зайшоўшы ў кабінет, Наташа ветліва прывіталася. Фёдараў сядзеў за сталом з арэхавага дрэва, абкладзены з усіх бакоў папкамі і картамі. На адной з карт дзяўчына заўважыла тлустую чырвоную лінію, праведзеную на 75 квадрат.

— Бачыце,— пачаў Фёдараў, пастукваючы алоўкам па карце,— здарылася няшчасце... Я заўсёды папярэджваў, што лёгкадумнасць і самаўпэўненасць — страшэнныя ворагі чалавека. Вось яны вас і падвялі...

— Мяне? — не паверыла Наташа.

Фёдараў крыва ўсміхнуўся. У вачах яго мільганулі раз'юшаныя агеньчыкі.

— Я ведаю, які ў вас язык. З вамі цяжка згаварыцца. Лепш вазьміце карту і падумайце, як атрымалася, што вы не заўважылі ў сваім сектары небяспечны паветраны аб'ект.

Сэрца ў Наташы пахаладзела. Спраўджваліся папярэджанні сябровак... Фёдараў нанёс нарэшце загадзя падрыхтаваны ўдар. Ён помсціў...

Наташа закусіла губу, прымусіла сябе не хвалявацца. А сухі, басавіты голас не змаўкаў:

— Тут мною ўсё праверана, улічана. Шар быў у вашым сектары. Вы яго не заўважылі. Вельмі кепска. Вось і спадзявайся на вас! Скажыце, з вашай радні нікога няма за мяжой?

Гэта было ўжо занадта. Наташа паглядзела гарачым, гнеўным позіркам на тлусты з двайным падбародкам твар Фёдарава і не ўтрымалася, крыкнула:

— Паклёп!.. Несумленна! Вы хочаце мяне ачарніць, зганьбіць. Не ўдасца!

Ад роспачы і крыўды запякло ў горле... Наташа прыкрыла твар рукамі і выбегла з кабінета. Яе абступілі супрацоўнікі і пачалі распытваць, суцяшаць. Але горкая крыўда не давала прамовіць і слова. Наташа выбегла з аператарскай на вуліцу. Ёй хацелася пабыць адной...

## Раздзел другі

Здарылася незвычайнае. Упершыню ў гісторыі галоўны горад Штатаў быў разбуджаны глыбокай ноччу. Не, не грымела над ім кананада, не праносіліся варожыя ракетапланы... Начное бязвоблачнае неба было спакойным. На ім, як і заўсёды, гарэлі мільёны зорак. Жыхары горада выбягалі на вуліцы і плошчы, імкліва падымаліся ў ліфтах на верхнія паверхі небаскробаў, узбіраліся на дахі.

Дзесьці завывалі паліцэйскія сірэны, гулі званы. Здавалася, горад звар'яцеў. Натоўпы людзей рухаліся да Юніён-сквера. У паветра ўзляталі падкінутыя капелюшы, кепкі, букеты кветак. А нейкі таўсцяк у прыступе радасці раскідваў над натоўпам доларавыя паперкі...

Высока ў небе, над горадам, вісеў аграмадны шар, асветлены мяккім

жаўтаватым святлом. Вакол яго на чорным аксаміце вышыні ўсплывалі, расцякаліся агністыя словы:

«Месяц — народу Штатаў. Купляйце акцыі на ўчасткі! Вы будзеце самымі багатымі ў свеце. Адзін долар на Зямлі — мільёны на Месяцы».

Гандлёвы азарт, прага нажывы затуманілі свядомасць буйных і дробных бізнесменаў. Яны крычалі, прабіваліся наперад, падалі, падымаліся і зноў беглі... Твары іх успацелі. Пранырлівыя, скваііныя вочы наліваліся крывёю...

Да самай раніцы бушаваў вялікі горад, абуджаны незвычайнай вестнай. І вось з палацаў, гмахаў небаскробаў нібы нехта сарваў зорны, зіхатлівы дыван. Небаскробы цяпер вырысоўваліся шэрымі непрывабнымі веліканамі... Дым і туман запоўніў каменныя цясніны вуліц. Узышло сонца. Здавалася, некуды знік, патануў дзівосны горад-прывід, сатканы з агнёў і мігатлівага полымя. На яго месцы засталося толькі нагрувашчанне каменя, сталі і шкла.

Першы дзень продажу акцый на ўчасткі на Месяцы... Бізнесмены шалелі ад гарачкі нажывы.

Палац «Кароль Рэспублікі»,— самы велізарны будынак на Юніён-скверы — зрабіўся падобны на чалавечы мурашнік. Тут размясцілася галоўная маклерская біржа па продажу акцый. На ўсіх пятнаццаці паверхах — больш трох тысяч кас. У аграмадных залах і файэ не бачна твараў людзей — толькі адны капелюшы і модныя кепі. Пад распісанай і аздобленай цяжкай люстрай столлю — сіняватае воблачка ад папяроснага дыму.

У самым канцы палаца ля закратаванага акна высокі і плячысты джэнтльмен, стаўшы на сплеценыя рукі сваіх калег, гаворыць прамову. Слоў не чутно, ён энергічна, з запалам махае рукамі, горда ўстрасае галавой...

І вось на двух супрацьлеглых сценах у плеценых залатых рамах успыхваюць малочна-белыя экраны.

Натоўп замірае. Чорныя капелюшы шчыльней ціснуцца да сцен. На экранах узнікае добрадушны твар сенатара Уолтэра... Ён выцірае хусцінкай з ілба пот, не спяшаючыся, гаворыць:

— Вітаю вас, дарагія суайчыннікі, з вялікім святам. Сёння мы падзелім самы тлусты пірог, які падаравала нам неба. Бачыць бог, мы ўмеем жыць, мы разумеем цану жыцця і яго прыгажосць. У нас існуе права долара і больш ніякага права! Месяц наш, бо ў нас долары. Мы пабудуем там гасцініцы, чыгункі, рэстараны. Калі хочаце заўтра прачнуцца багатымі, купляйце акцыі нашага канцэрна. Сёння кожны квадратны метр Месяца — долар. Заўтра — за гэтую цану вы яго не купіце. Хачу пахваліцца, лэдзі і джэнтльмены. Мой даўні сябар Франк Уэст закупіў Мора Дажджоў. Наступным летам ён запрашае вас адпачыць у яго нябесным санаторыі. Спяшайцеся! Падлічвайце долары! Да вашых паслуг адкрываюцца касы...— закончыў з уздымам сенатар, зняў капялюш з пляшывай галавы, пакланіўся.

Адкрыліся акенцы хрустальных кабін, на сценах і вокнах загарэліся назвы ўчасткаў на Месяцы, лічбы іх кошту. Зашамацелі чэкі... Незвычайны гандаль пачаўся...

Сенатар Уолтэр, заклаўшы рукі за спіну, паважна хадзіў па пакоі. На мяккай з сіняга плюшу канапе сядзелі Фрэнк Уэст і генерал Колінг. Яны густа дымілі цыгаркамі, маўчалі. Паголены твар Колінга блішчаў, як медзь. Пад рыжымі жорсткімі брывамі варочаліся пукатыя вочы.

Уолтэр спыніўся, паглядзеў у велізарны праём акна і стаў задаволена штосьці паціху насвістваць. Там, на вуліцах, гудзеў натоўп. Там плыло яго багацце. Якая гэта магутная сіла — золата! Яно — дыктатар жыцця, законадаўца, крыніца радасці і асалоды, яно будуе гарады, запальвае агні, ператвараецца ў бомбы...

Золату пакланяюцца, як богу. І вось, нарэшце, прышоў час, калі яно хлынула ракой у яго, Уолтэра, сейфы. Дрыжыце, людзі! Цяпер Уолтэр — кароль Зямлі і Месяца, уладар банкаў і біржы. Там, за акіянам, ёсць дзе і над чым папрацаваць. Ён пастараецца зрабіць так, каб зноў зашугала вайна. К д'яблу мірнае суіснаванне! Зямля адна, і на ёй павінен панаваць капітал.

Сёння сенатар стаў вядомы ўсяму свету. На стале — куча тэлеграм. У кожнай — віншаванні, пажаданні. Фрэнк Уэст і генерал Колінг прыехалі асабіста павіншаваць сенатара. Уолтэру прыемна гэтая ветлівасць. Яна сведчыць пра тое, якую сілу і ўладу атрымаў ён у Штатах. Ён, Уолтэр, яшчэ падумае і, магчыма, выставіць сваю кандыдатуру на бліжэйшых прэзідэнцкіх выбарах...

Прадаўгаваты, парэзаны маршчынамі твар сенатара ззяў ад радасці і ўзрушанасці. Ён павярнуўся да гасцей і павольна сказаў:

— Джэнтльмены, вы ведаеце мой дэвіз: не паспею чаго-небудзь пажадаць, а ўжо бяру рукамі. Я загадаў пабудаваць дваццаць касмічных ракет. Я яшчэ перакую, джэнтльмены, наш срабрысты Месяц у золата. Гэта маё слова гонару! Няхай бог пакарае мяне бяссмерцем, калі я не дасягну гэтага.

Фрэнк Уэст непрыкметна зморшчыўся. Яму не падабалася фанабэрыстасць сенатара. Некалі прэзідэнт атамнай фірмы марыў паслаць сваю экспедыцыю на Месяц, адкрыць там першыя ўранавыя руднікі, але Уолтэр пераблытаў яго карты. Цяпер Уэсту прыходзілася цярпліва слухаць самазадаволенага магутнага боса Штатаў, бо ён ведаў, што ад ласкі сенатара ў далейшым будуць у многім залежаць справы яго фірмы.

— Джэнтльмены, запрашаю вас на абед,— сказаў сенатар, падыходзячы да канапы.

Генерал Колінг узняў галаву, прыжмурыў вочы і сказаў:

— Сенатар, вы апярэдзілі мяне. Дзякую за гасціннасць. Я хачу сказаць, што нас чакаюць у рэстаране «Залаты метэор».

Уолтэр насцярожыўся. У словах генерала ён адчуў нейкі намёк, але ніяк не мог яго разгадаць.

— Прабачце, генерал,— мякка сказаў сенатар,— сёння ў мяне незвычайны дзень. Я ступіў адной нагой на Месяц. Я завалодаў небам...— Вы — мой госць, і я хачу вас бачыць у сваім доме.

— Забыліся, сенатар,— стрымана заўважыў на гэта Колінг, — вы хочаце завалодаць небам, не атрымаўшы дазволу бога...

Уолтэр здзіўлена ўскінуў вочы на генерала. Гэта быў намёк на нейкую ўсемагутную ўладу. Няўжо Колінг — агент, а можа быць і лідэр «Сіндыката забойцаў»? Магутнасць гэтага сіндыката была вядомай на ўсе Штаты. Ён кіраваў справамі злачыннага свету ва ўсіх штатах, вёў тайны гандаль, кантраляваў дзейнасць буйнейшых палітычных дзеячоў, сачыў за ростам прыбыткаў мільярдэраў.

Каб не паказаць сваёй разгубленасці, сенатар жартаўліва кінуў:

— Я богу паслаў свае малітвы...— і здзівіўся, што сказаў гэта спакойным, роўным голасам.

Фрэнк Уэст, адчуўшы сябе лішнім чалавекам, пакланіўся і паспешліва пакінуў кабінет.

Генерал Колінг жаваў цыгарку, абапёршыся на спінку канапы і, пыхкаючы сівым дымам, з дакорам прамовіў:

— Я вас, сенатар, разумею з поўслова. А вы мяне чамусьці не хочаце разумець,— і пацікавіўся: — Дарэчы, тут нас не могуць падслухаць, запісаць размову?

— Можаце не хвалявацца. Тут слова — не верабей, а золата. Яно застаецца ў сейфах.

— Калі так, то па даручэнню караля сіндыката я пакідаю тут наша слова. Яно будзе каштаваць нядорага — усяго пяцьдзесят тысяч долараў, — генерал весела зарагатаў. — Скажыце, не чакалі? Ха-ха-ха! Колінг і сіндыкат — што тут агульнае, праўда? Адкрыю вам вочы — я звязан з ім, як неба з Зямлёй. Цяпер, я думаю, вы ўсё зразумелі. Апранайцеся, нас чакаюць!

Уолтэр стаяў у нерашучасці і нейкі момант думаў. Не, пярэчыць сіндыкату нельга.

Ён падышоў да тэлевізара, націснуў на кнопку і, калі засвяціўся экран, загадаў мітусліваму чалавеку з вусікамі:

— Паветраны аўтамабіль!

Праз некалькі хвілін Уолтэр сядзеў сярод нахабных малойчыкаў. Гэта былі заправілы злачыннага сіндыката, якія трымалі ў паслухмянасці многіх магнатаў. Уолтэру было вядома, што шчупальцы гэтага сіндыката дасягнулі нават Белага Дома.

## Раздзел трэці

Наташа прынікла вачыма да знаёмых, напісаных смелай размашыстай рукой радкоў. Дзяўчыне зрабілася аж горача, калі яна прачытала: «Ты далёка ад мяне. Але нішто нас не разлучыць — ні час, ні адлегласць. Я нікога не заўважаю вакол сябе. Здаецца, іду з табой, усюды толькі з табою...»

Радкі пісьма былі дробненька напісаны. Наташа яшчэ і яшчэ перачытвала іх.

— Віктар! — прашапталі вусны. — Ты прышоў мне на дапамогу. Дзякую табе. Мне цяжка, горка, крыўдна. І ты сэрцам адчуў... Не, не дарэмна я палічыла цябе сваім братам...

Наташа падышла да акна, прыціснулася ілбом да халоднага шкла. Павольна падалі сняжынкі. Там, недзе далёка-далёка, за заслонай чорнай ночы, гараць агні падмаскоўнага гарадка. Што робіць цяпер Віктар? У пісьме ён ні словам не ўспамінае пра сваю работу. Ці скора будзе падрыхтавана касмічная ракета на Месяц? У час сустрэч Віктар пра гэта шмат гаварыў.

Каб ён ведаў, як ёй цяжка. Фёдараў зволіць яе з работы, а можа нават паспрабуе наладзіць суд...

Толькі не! Яна будзе змагацца, яна не дасць сябе ў крыўду. Не ведала дагэтуль Наташа, што ёсць на свеце такія хцівыя людзі! Яна дакажа Фёдараву, што праўда мацней за хлусню і подласць. Пралящеў шар, пажарам знішчан цэх. Але гэта не яе віна...

У пярэдняй зазвінеў званок. У яе пакой зайшлі госці.

— Хаваешся ад нас, Наташа? Забілася ў клетку, як сініца. Хоць-бы зайшла да каго,— з вясёлым дакорам прамовіў Юзік Хлябцэвіч.

Ён быў сакратаром комсамольскай арганізацыі радыёцэнтра. Вясёлы,

таварыскі, Юзік часта прыходзіў да апаратараў, радыстаў, дапамагаў у працы, быў першым завадатарам на вечарынках.

Разам з ім прышла нізенькая, з чорнымі вялізнымі вачыма, дзяўчынка.

Наташа, убачыўшы гасцей, спачатку разгубілася. Іх прыход для яе быў нечаканасцю. Адклаўшы пісьмо ўбок, яна замітусілася:

— Сядайце, калі ласка, сядайце!

Юзік і дзяўчына прынеслі ў пакой марозную свежасць ночы.

— Ты нас не чакала, Наташа? — запытаўся Юзік.— А мы да цябе з навіной.

Наташа запытальна зірнула на яго.

— Прышоў пакет з Масквы. Просяць цябе ў Галактыку, — адказаў Юзік і зірнуў у твар дзяўчыны, як-бы жадаючы ўбачыць, якое ўражанне на яе зробіць гэтае паведамленне. Потым весела дадаў: — Я чуў, быццам хутка адправіцца ў першы рэйс касмічная ракета. Вось і цябе выклікаюць...

Наташа ўздыхнула з палёгкай.

Юзік адкінуў рукой навісшую над віском пасмачку ільняных валасоў, губы яго строга сціснуліся.

— Мы таксама радуемся за цябе, Наташа. Але ведаеш, Фёдараў будзе пярэчыць. Вылічэнні паказваюць, што быццам шар ляцеў праз твой участак назірання.

— Юзік! — крыкнула ў адчаі Наташа і кранула яго за плячо.— І ты мне не верыш? Скажы праўду — не верыш? Так?

У яе вачах гарэў ліхаманкавы агенёк трывогі.

— Ты маўчыш, Юзік? Цяпер я разумею: не верыш...

— Веру, Наташа! — адказаў ён і ўстаў з-за стала.

Яны нейкі момант стаялі адзін супраць аднаго, маўчалі. Толькі позіркі іх гаварылі лепш усіх слоў: яны верылі адно аднаму.

## Раздзел чацвёрты

Толькі ўвечары сенатар Уолтэр вярнуўся з Сэн-Крытона ў галоўны горад Штатаў. Запылены, успацелы, ён змяніў смокінг на піжаму і пайшоў у ванную. Мыўся доўга, старанна. Потым слуга — малады высокі негр — рабіў масаж. Кроў у жылах запульсавала. Калі ён выйшаў з ваннай, нельга было паверыць, што гэты чалавек правёў увесь дзень у клопатах, быў у ад'ездзе.

У гасцінай на шырокай тахце яго дачка разглядала кніжку з яркай вокладкай. Як толькі ўбачыла бацьку, адклала ўбок кніжку, пайшла насустрач.

— Нарэшце! — прамовіла яна радасна.— Па-а, дзе так доўга бадзяўся? Ледзьве дачакалася...

— Хто хоча жыць пад сонцам, той менш павінен бываць пад дахам сваёй вілы,—сказаў сенатар. І, пацалаваўшы дачку ў лоб, запытаў: — Што ты хацела, мая дзяўчынка?

— О, у мяне незвычайная размова... Па-а, гэты вечар будзе нашым святам.

Сенатар зацікаўлена прыўзняў галаву.

— Добра, пойдзем, усё мне раскажаш.

Яны ўвайшлі ў сталовую. Гэта была прасторная, высокая зала з двума радамі мармуровых калон. Вокны французскія, да самай падлогі.

Пасярод залы стаяў круглы стол з некалькімі крэсламі ў чахлах. Тут збіралася чатыры разы ў дзень сям'я сенатара.

Пажылы слуга з сярэбраным ланцужком на грудзях прынёс вячэру і паклаў перад сенатарам картку з пералікам французскіх він.

— Якое загадаеце падаць?

Уолтэр прабег вачыма картку, тыцнуў пальцам у першы радок.

Слуга пачціва сагнуўся і выйшаў са сталовай.

Сенатар быў у настроі. Справы ішлі, як не трэба лепш. Усе надзелы Месяца былі распраданы. Поўным ходам будаваліся касмічныя ракеты. Слава Уолтэра расла з кожным днём. Ён пачаў упэўніваць сябе, што хутка Штаты яго імем будуць дыктаваць сваю волю Зямлі і Небу.

Выпіўшы бургундскага віна, Уолтэр яшчэ больш павесялеў. Ён зірнуў на прыціхшую дачку:

— Ну, расказвай, Элсі. Што ты мне падрыхтавала?

Вочы Элсі гарэлі нецярплівасцю. Яна падсунулася бліжэй да бацькі, ласкава абхапіла яго плячо рукамі і адважна сказала:

— Поль просіць маёй рукі, па-а. Я дала згоду.

— Што? — сенатар адкінуў убок сурвэтку, здзіўлена вылупіў вочы. Потым дажаваў запхнуты ў рот кавалак вяндліны, выцер рот і, павярнуўшыся да Элсі, спытаў: — Што здарылася, Элсі? Я цябе не пазнаю...

— Я вырасла, па-а! — усклікнула дачка і тонкай белай рукой з бранзалетамі пяшчотна абвіла шыю бацькі.

— Вырасці — вырасла, а калі будзеш разумнець? — спытаў Уолтэр.

На румяных шчоках Элсі з'явіліся плямінкі роспачы, крыўды.

— Па-а, за што ты мяне крыўдзіш?

— За Поля. Ён табе не пара.

Элсі ўсхапілася з крэсла. На яе твары няцяжка было заўважыць пакутлівае хваляванне.

— Я яго кахаю, па-а! Ты разумееш, што такое каханне?

Сенатар забарабаніў пальцамі па стале, потым глыбока ўздыхнуў.

— Каханне, мілая дзяўчынка, пустое слова,— сказаў ён.— Яно для мяне нічога не значыць. Я ацэньваю чалавека толькі па яго здольнасцях рабіць долары. Калі ён здатны на гэта, усё астатняе само сабой прыкладзецца. Дарэчы, я хацеў табе сказаць: ты можаш скласці добрую партыю з сынам Колінга.

— Па-а, ты ўпарты чалавек... Ты на жыццё глядзіш з вышыні залатой гары. Зразумей, я кахаю Поля, я веру ў яго. Ён разумны, смелы! Ды калі хочаш ведаць, не такі ўжо бедны, ён — багаты...

— Хе-хе-хе! — зарагатаў Уолтэр. Яго па-ранейшаму не пакідаў вясёлы настрой. — Мая дачушка, што ты мне гаворыш? Адзінае багацце ў Поля — яго нахабнасць. І я павінен заўважыць, што ён добра выкарыстоўвае яго...

Элсі замахала рукамі, адышла да акна і, рэзка павярнуўшыся, з крыўдай у голасе спытала:

— Па-а, ты можаш зрабіць, каб я была шчаслівая? Скажы, можаш?

— Вядома.

— Тады дай згоду выйсці замуж за Поля.

Уолтэр лагодна ўсміхнуўся і незадаволена пакруціў галавой.

— Эх, молада-зелена! Куды вы спяшаецеся? Хіба не ведаеце, што быстрая рака да мора не даходзіць. Падумаць трэба, памеркаваць. А то раптам: «Любіце Поля, бо я яго люблю!» Не, Элсі, ты клапаціся не толькі аб сабе, але і аб сваім бацьку. А нам ёсць аб чым падумаць.



Уолтэр акінуў позіркам нізкія арэхавыя серванты, што ззялі тонкім хрусталем пасуды, адкрыты раяль, потым паглядзеў на Элсі, распешчаную знатнасцю і прыгажосцю, і яму раптам стала зразумела, што ён не зможа перараканаць дачку. У яе такі характар! Яна навучылася патрабаваць, браць, не думаючы ні аб чым.

— Вось што, Элсі,— сказаў Уолтэр, устаючы з крэсла.— Я выказаў сваё меркаванне. Я хачу цяпер прасіць цябе, каб ты звярнула на яго сур'ёзную ўвагу.

— Па-а, ты не ведаеш Поля. Ён разумны, старанны хлопец. Ты з гонарам будзеш называць яго сваім сынам. Дай толькі час — і ты ўпэўнішся, што я казала праўду.

— А што я табе казаў, Элсі,— сенатар падышоў да люстранай сцяны і, агледзеўшы ў ёй свой твар, прадоўжыў: — Час — вялікі суддзя. Мы ўскладзем на яго ўсе свае спадзяванні. Згодна, Элсі?

— Добра, па-а,— Элсі радасна ўстрапянулася, парывіста падышла да бацькі і пацалавала яго ў шчаку. Вяртаючыся ў свой пакой, яна на развітанне сказала: — Я прымушу вас з Полем стаць сябрамі. Ён табе спадабаецца, па-а. Чакай яго ў сябе сёння...

Павячэраўшы, сенатар вярнуўся ў свой кабінет, сеў у высокае крэсла і заплюшчыў ад стомленасці вочы. Калі сказаць па-праўдзе, жыццё не песціла яго. Ён, сённяшні сенатар, пачынаў абжывацца з крамы, якую пакінуў пасля смерці бацька. Ужо тады ён зразумеў, што жыццё нічога не аддае так, дарма, што ўсё, чаго хочаш дамагчыся, трэба браць у яго сілай і хітрасцю. Багацце прышло не адразу. За яго не аднаму суперніку давялося перагрызці горла. Толькі на саракавым годзе жыцця быў сабраны дастатковы капітал. Уолтэр купіў запалкавую фабрыку, потым машынабудаўнічы завод. Праз некалькі год яго выбралі ў сенат, і ён зрабіўся прыкметнай фігурай у сваім штаце. Уолтэр умеў рабіць долары,

умеў, як кажуць, выграбаць каштаны з агню чужымі рукамі. Так ён стаў любімцам фартуны.

А час не чакаў. Непрыкметна падкралася старасць. З кожным годам сенатар адчуваў, што сілы пакідаюць яго. Часта ў гутарках ён крыўдзіўся на ўсявышняга. І вельмі шкадаваў, што яго не існуе ў сапраўднасці. Можна было-б з ім дамовіцца...

Надзеяй і ўцехай для яго была дачка. Уолтэр цішком падбіраў ёй жаніха. Дзіва што! Не ў тым справа, ці будзе ён па сэрцу ёй, ці не. Галоўнае — каб на яго можна было спадзявацца. Застанецца-ж капітал у мільярды долараў, дзесяткі магутных прадпрыемстваў, біржы і банкі. Імя Уолтэраў не памрэ разам з ім. Яго павінен захаваць і зберагчы будучы зяць...

І раптам — капрыз дачкі... Уолтэр быў-бы менш здзіўлены, калі-б яму паведамілі, што ён абанкруціўся.

Надыходзіў вечар. У кабінеце згушчаўся змрок. За вокнамі гарэла высокае неба,ператворанае гандлярамі падцяжак, кока-кола, мыла і жавальных гумак у велізарную рэкламную вітрыну.

Святло ў кабінеце Уолтэр не запальваў, каб лепш было разважаць.

Нечакана адчыніліся дзверы, і адразу ўспыхнула святло. Сенатар расплюшчыў вочы. Перад ім стаяў высокі малады чалавек з загарэлым тварам, на якім вылучаўся доўгі з гарбінкай нос і велізарныя вочы. Зняўшы з галавы капялюш, ён пакланіўся і ветліва прывітаўся:

— Хэло, сэр! Вось я і прышоў. Вы, мабыць, не чакалі...

Сенатар агледзеў постаць увайшоўшага.

— Як вы мінулі дварэцкага і швейцара?

— Я Поль Арноль, сэр. Ваш будучы зяць!

— Гэта не дае яшчэ вам права заходзіць да мяне без дазволу.

— Вінаваты, сэр,— зноў пакланіўся Поль Арноль.— Я ведаю, вы любіце дзелавых і смелых людзей. Я і ёсць адзін з такіх.

— Памыляецеся, містэр,— сказаў сенатар і адвёў убок вочы, не жадаючы глядзець на госця.— Я люблю багатых.

— Затое мы ўдваіх з вамі аднолькава моцна любім Элсі,— усклікнуў госць, і на твары яго бліснула белазубая ўсмешка.— У нас ёсць аснова для перагавораў. Я думаю, мы іх пачнем.

— Вы гэта сур'ёзна?

— Хіба вам Элсі нічога не гаварыла?

Сенатар Уолтэр спачатку прымусіў сябе спакойна назіраць за нахабнай развязнасцю бязвусага малойчыка, але дзёрзкасць Поля перайшла ўсе граніцы, і ён, адхінуўшыся ад спінкі крэсла, надзеў маску таго велічнага і магутнага Уолтэра, якога, затаіўшы дыханне, слухалі ў сенаце, перад якім дрыжалі дробныя, сярэднія і буйныя бізнесмены Штатаў.

Поль быў апрануты даволі прыстойна. Клятчаты пінжак зграбна ляжаў на шырокіх дужых плячах. Яркасіні гальштук з чырвонымі гарошынкамі быў акуратна завязаны.

— Дазволіце сесці? — падыходзячы да крэсла, спытаў Поль.

— Выходзіць, што вы яшчэ не страцілі пачцівасці,— заўважыў сенатар.— Сядайце! Але я спадзяюся не на вашу пачцівасць, а на разважлівасць, калі вы яе яшчэ захавалі.

— Вядома, сэр. Мы—дзелавітыя людзі. Нам без разважлівасці цяжка давялося-б жыць.

— Мудрыя словы,— сказаў сенатар.— І вы нічога лепшага не прыдумалі, абралі найкарацейшы шлях узбагачэння праз каханне да Элсі? Вы

разумееце, што робіце? Вы ганьбіце мяне, маю сям'ю, — сказаў ён здаўленым, глухім голасам. — Нічога ў вас, малады чалавек, не атрымаецца. Запомніце, усе любяць дабро, але не ўсіх любіць яно!

— Містэр Уолтэр, — сказаў Поль Арноль, нікольні не збянтэжыўшыся. — Я хацеў сёння засведчыць да вас сваю павагу, сказаць некалькі цёплых, харошых слоў аб Элсі. Вы папракаеце мяне за беднасць. Дарэмна! Я даб'юся высокага становішча ў свеце. Я выходжу на арэну барацьбы з закасанымі па локці рукавамі. У мяне такі закон: ні перад кім не кланяцца, ні ў кога нічога не прасіць. І ведайце — у мяне ўсё будзе! І прыдзе час, калі вы палічыце за шчасце, што аддалі за мяне сваю дачку.

— Які вы самаўпэўнены! — выгукнуў Уолтэр, і на яго вуснах мільганула нейкая дзіўная зларадная ўсмешка.— Баюся, вы наклічаце на сябе гнеў. Фартуна не любіць такіх!

— Якіх гэта такіх?

— Саманадзейных.

— Дзякую за праўду, сэр. Цяпер я ў некаторай ступені адчуваю вашу прыязнасць да сябе. Вы зразумелі мяне і маё становішча.

— Яно даволі-такі незайздроснае, — заўважыў сенатар.

— Але не безвыходнае. І ведаеце чаму? — і, не чакаючы адказу, ён весела сказаў: — Таму што мяне любіць ваша дачка.

— Вы, па-мойму, выказаліся да канца, сэр? — Уолтэр адвярнуўся ўбок, зрабіўшы выгляд, што не звяртае ніякай увагі на госця.

Поль Арноль устаў з крэсла, адкланяўся і пайшоў да дзвярэй.

— З вашага дазволу, я забіраю Элсі на вячэру ў мюзік-хол, — сказаў ён.— Вы чуеце, сэр?

Уолтэр нічога не адказаў. Але калі Поль Арноль выйшаў з кабінета, ён заклапочана пачухаў патыліцу і шырока закрочыў па кабінету, сціснуўшы кулакі.

Дачка падвяла! Выцягнула з калоды туза, а ён — пяты. О, божа! За што ты наслаў такі здзек і сорам? Але пакуль яшчэ круціцца зямля, ён, Уолтэр, не дазволіць, каб яна круцілася не па яго волі. Цяпер усё будзе залежаць ад хітрасці. Пагрозы, як відаць, справе не дапамогуць. Цяпер моладзь такая, што пераконваць яе вельмі цяжка. Ну што-ж, ён зробіць усё па-іншаму.

Адкрыўшы скрыначку, што стаяла на стале, ён дастаў сігару, закурыў. Паступова добры настрой вярнуўся. У галаве нараджаліся новыя думкі... Галоўнае,— спакой і вытрымка. Удар балючы, жорсткі. Але іскры з вачэй пасыплюцца ў другіх, а не ў яго, Уолтэра...

* * *

Седзячы ў крэсле, сенатар задрамаў. У руцэ ледзьве дымілася сігара. Нечакана паявіўся слуга і паведаміў, што прышоў Фрэнк Уэст.

Уолтэр ажывіўся. Фрэнк Уэст ніколі дарэмна яго не турбаваў, і ён быў заўсёды рады з ім пагаварыць.

— Прасіце! — загадаў паважна сенатар і пайшоў насустрач госцю.

Кароль атамнай фірмы павольна прайшоў праз адкрытыя насцеж дзверы, моцна паціснуў руку гаспадару і, аддыхваючыся, пайшоў да бліжэйшага крэсла.

Зручна ўсеўшыся, Фрэнк агледзеў кабінет, выцягнуў кароткія ў вузенькіх штанах ногі і спытаў:

— Што вы думаеце, старына? Як далей будзем жыць?

— А што такое? — насцярожыўся сенатар.

— Існуе вялікая небяспека...— сказаў Уэст, разглядаючы ўзор персідскага дывана.

У вачах Уолтэра загарэліся лютыя агеньчыкі.

— Усякая небяспека зычыць долары, сэр!

— На гэты раз будзе не так,— адказаў Уэст і, павярнуўшыся да сенатара, спытаў:

— Вам нічога не гаварыў Колінг?

— Гледзячы пра што!

— Пра вашу марудлівасць, сэр! — адсек Уэст і з дакорам паглядзеў яму ў твар.

— Нічога не разумею. Што вас непакоіць?

— Мора Дажджоў. Сёлета чырвоныя пасылаюць на Месяц экспедыцыю. Яны хочуць пабудаваць навуковы гарадок на Моры Дажджоў... Гэта дакладныя весткі, сэр.

Сенатар заплюшчыў вочы і, адкінуўшыся на высокую спінку крэсла, нейкі момант маўчаў. Здавалася, што ён анямеў.

На стале, у прыгожай з рубінавых каменняў аправе, стаяў атамны гадзіннік. Фрэнк не без задавальнення разглядаў кляймо сваёй фірмы. Што ні кажы, яго гадзіннікамі вымяраецца час жыцця Уолтэра і ўсёй планеты.

І вось сенатар заварушыўся, прыўзняў ацёкшыя павекі. Вочы глядзелі спакойна, разважліва.

— Пакіньце хвалявацца, старына, — сказаў ён ціха. — Мы знойдзем спосаб апярэдзіць рускіх.

— Якім-жа чынам?

— Праз тры месяцы пашлем ракету.

— Чакайце, сэр. Наколькі мне вядома, нашы ракеты яшчэ недасканалыя?

— Так,— ажывіўся сенатар,— вы правільна інфармаваны. Яны могуць даляцець толькі да Месяца і то з цяжкасцю. На зваротны шлях нам не ўдаецца забяспечыць іх палівам.

— Што-ж вы думаеце рабіць? — зацікаўлена ўставіўся ў твар сенатара Уэст.

— У кожнай гульні выгадвае той, хто рызыкуе. Прайграць нам нельга. Мы, — прамовіў ён цвёрда і рашуча, — абвесцім набор добраахвотнікаў на першы касмічны рэйс. Нашы хлопцы даставяць на Месяц флаг Штатаў, перададуць адтуль першае радыёпаведамленне для ўсяго свету.

Фрэнк Уэст пацёр ад задавальнення рукі.

— Слова гонару, вы ўмееце, сэр, лавіць свой лёс за хвост,— сказаў ён з усмешкай.— І проста, і нядорага...

— Вы-ж маеце справу не з кім-небудзь, а з сенатарам Уолтэрам. Запомніце гэта,— прамовіў ён паважна.— Мы хутка прымусім плаціць долары ўсіх, хто будзе карыстацца нават святлом Месяца... Хе-хе-хе!

Твар сенатара быў добрадушны. Размашыстым жэстам ён паказаў зямнога спадарожніка на карце, што вісела на сцяне ля канапы, і дадаў:

— Заўтра мы набярэм для яго першых жыхароў.

— Сэр, не жыхароў, а смяротнікаў,— паправіў свайго калегу Уэст.

Уолтэр усміхнуўся.

— Уэст, навошта такі цынізм?! Іх жыццё акупіцца бяссмерцем...

Позна ўвечары Фрэнк Уэст вярнуўся дадому. Ён быў задаволены візітам да сенатара.

## Раздзел пяты

Наташа прачнулася ў сем гадзін. За вокнамі стаяў густы, непраглядны змрок. Недзе далёка-далёка, аж за небакраем, няцяжка было прыкмеціць ледзь улоўнае трапятанне святла.

Адхінуўшы фіранку, Наташа доўга ўглядалася ў цемру. Мігцелі, пераліваліся зоркі. І самая прыгожая, самая буйная сярод іх — Венера. Глядзіш на яе — і здаецца: нехта прымацаваў на небасхіле буйны з блакітна-бэзавым ззяннем алмаз.

За вокнамі нараджаўся новы дзень...

Новы дзень нараджаецца кожны раз па-новаму. Ён узнімае на наш небасхіл не толькі сонца, — ён коціць да берага жыцця, як хвалі, новыя клопаты, абавязкі, загадвае чалавеку: рабі, стварай, змагайся!

Учора зыходзілі з канвеераў заводаў аўтамашыны, трактары, камбайны. Людзі з задавальненнем думалі: не дарэмна патрачаны час, іх праца дала свае вынікі. Яны ганарыліся гэтым, і ў іх узнікалі новыя мары.

Народзіцца новы дзень — людзі ператвораць гэтыя мары ў жыццё. Ён пашле іх будаваць гарады, асвойваць новыя землі, вырошчваць сады...

Учора на ватманскай паперы канструктары закончылі праекты складаных машын, станкоў, архітэктары — праекты палацаў, стадыёнаў, заводскіх цэхаў, вучоныя на магутных сінхрацыклатронах разгадалі будову драбнейшай часцінкі матэрыі,— цікавыя, незвычайныя здзейснены справы. Але якім-бы ўчарашні дзень ні быў цудоўным і прыгожым, людзі з нецярпеннем, з пачуццем радаснага чакання і хвалявання сустракаюць дзень новы.

Многага чакала ад гэтага дня і Наташа. Пры гэтым разважанні да яе вярнуўся спакойны настрой. Новы дзень быў жаданым і радасным не толькі таму, што яна імкнулася як мага хутчэй сесці за пульт радыёлакатара. Наташа нецярпліва чакала сустрэчы з сябрамі. І толькі недзе там, у глыбіні душы, балюча варушылася ўчарашняя крыўда.

Зайшоўшы ў тралейбус, Наташа села на канапку і задуменна пачала разглядаць горад праз размаляваную марозам шыбіну. Дзесяць хвілін язды — і вось ён, радыёлакацыйны цэнтр. Дом, у якім ён знаходзіцца, стаяў у глыбіні двара. Тут расло многа дрэў. Густыя ёлкі, абсыпаныя зіхатлівым інеем, здаваліся як-бы намаляванымі нейкім мастаком.

Ля табельнай дошкі Наташа спынілася і здзіўлена паціснула плячыма. Яе нумарок быў зняты. Няўжо гэта — выпадковасць? Дзяўчына разгублена паглядзела па баках.

У канцы калідора пачуліся крокі. Наташа павярнулася і ўбачыла дзяжурнага па ўчастку.

— Таварыш Гоман, пазнаёмцеся з загадам, — сказаў ён ціха, як-бы неахвотна, і працягнуў паперку.

Перад вачыма дзяўчыны заскакалі нейкія кругі, твар яе балюча перасмыкнуўся. Каб стрымаць сябе, яна прыкусіла ніжнюю губу і ўзяла паперку.

Значыць, усё? Яна ўжо не працуе? Як гэта крыўдна і горка!

Думкі і разважанні дзяўчыны парушыў знаёмы голас.

— Наташка! Пойдзем да Фёдарава. Там у яго сакратар партбюро...

Дзяўчына павярнулася і з удзячнасцю глянула ў твар Юзіка. Хлопец адчуваў сябе ніякавата. Відаць, загад начальніка быў для яго не меншай нечаканасцю, чым для Наташы.

— Нікуды я не пайду, — адказала ціха дзяўчына. — Мне цяжка гаварыць з гэтым чалавекам.

Юзік схапіў яе за руку.

— Ты — комсамолка... Мы пастаім за цябе. Пішы заяву.

— Навошта? —спакойна вымавіла Наташа. — Ці ў мяне ўсе дарогі зышліся ў клін?.. Я паеду ў Маскву. Бывай!

Яна павярнулася і пайшла з аператарскай.

## Раздзел шосты

Новы ўпраўляючы ракетным заводам Білі Спайт умела вёў справу. Ён клапаціўся, каб раслі прыбыткі сенатара Уолтэра і яго кампаніі. Ракеты маркі «Метэор», пабудаваныя заводам, курсіравалі на транспартных лініях. Імі-ж падтрымлівалася сувязь са штучнымі спадарожнікамі «Скарпіён», «Юпітэр», «Гідра», «Змеяносец», запушчанымі Штатамі над Зямлёй два гады назад.

Асабліва старанна працаваў упраўляючы пасля продажу ўчасткаў на Месяцы, калі пачалі будавацца адначасова дваццаць касмічных ракет. Білі стараўся выслужыцца перад гаспадаром.

Канчатковай канструкцыі касмічнай ракеты яшчэ не было. Затрымлівалася распрацоўка атамнага рухавіка. Але гэта не стрымлівала пачатае мерапрыемства. Касмічная ракета — аграмадны карабель даўжынёй у 200 метраў — складаецца з некалькіх ступеняў. Адна з іх, па задуме канструктараў, павінна мець паветрана-рэактыўны рухавік, другая — праматочны і толькі трэцяя, якая панясе першых пасажыраў у далёкія касмічныя прасторы, — атамны. Праекты першых двух ступеняў былі распрацаваны даволі дакладна. З іх пачыналася будаўніцтва цэлай эскадры касмічных караблёў.

Між тым набліжалася небяспека. Рабочыя і служачыя кампаніі ўсё часцей патрабавалі палепшыць умовы працы, паменшыць штрафы.

І вось, нарэшце, — забастоўка...

Сёння рабочыя дзённай змены адмовіліся працаваць. Па цэхах плыў гул людскіх абураных галасоў...

Білі Спайт не чакаў такога павароту справы. Каб супакоіць рабочых і сарваць забастоўку, ён паслаў ва ўсе цэхі сваіх людзей. Але гэта толькі падліло масла ў агонь.

Адразу-ж быў арганізаваны забастовачны камітэт, які вылучыў дэлегатаў для перагавораў з Уолтэрам. Па ўсіх цэхах запелі гудкі. Забастоўка пачалася!

Якраз у гэты час на плоскі дах будынка заводакіраўніцтва апусціўся паветраны аўтамабіль. Усе здагадаліся — гэта машына боса.

Сенатар выйшаў з кабіны, нацягнуў на ўспацелую галаву капялюш і глянуў на заводскі двор. Тое, што ён убачыў, здавалася, ніколькі яго не ўстрывожыла. З самазадаволенасцю сенатар падышоў да ліфта і на ім апусціўся ў цэнтральную кантору завода.

— Што тут у вас адбываецца? — уладна спытаў ён у Білі Спайта.

Спайт, тонкі, сухі, з казлінай бародкай, паслужліва падбег да гаспадара і, узяўшы з яго рук капялюш і палку, паклаў на стол. Твар упраўляючага быў разгублены і бездапаможны. Развёўшы рукамі, ён з цяжкасцю прамовіў:

— Нічога не разумею, сэр. Яны бастуюць!

— Заткніце ім горла! Чуеце?

— Але як-жа... — і ён асёкся, не ведаючы, што гаварыць.

— Дзе іх дэлегаты? — рэзка спытаў сенатар. — Прышліце да мяне.

Калі Білі Спайт паведаміў, што сенатар Уолтэр чакае дэлегатаў забастовачнага камітэта, рабочыя здзівіліся. Гэта было неверагодна — сам бос хацеў гаварыць з забастоўшчыкамі.

— Хадзем, хлопцы! — прапанаваў старшыня забастовачнага камітэта двум сваім таварышам-дэлегатам.

Сенатар сустрэў іх хоць стрымана, але не варожа. Павярнуўшыся ў крэсле, ён запытаўся:

— Што вам трэба? Якія вашы ўмовы?

— Мы патрабуем павялічыць заработную плату, ліквідаваць штрафы, даваць усім рабочым трохтыднёвы адпачынак за кошт прадпрыемства.

— Усё?

— Так, сэр. Гэта нашы мінімальныя патрабаванні.

Сенатар нахмурыўся. Якое нахабства! Гэтыя чырвоныя ведаюць, калі нанесці ўдар. Цяпер адмовіць ім нельга — забастоўка зацягнецца на некалькі тыдняў. У выніку — марна прападзе не адна тысяча гадзін рабочага часу.

Саркастычна ўсміхнуўшыся, сенатар сказаў:

— У вас, хлопчыкі, дзёрзкія галовы. Баюся, вы іх можаце згубіць. Вашы патрабаванні нерэальныя. Трэба лепш працаваць, хлопчыкі, ведаць сваё месца! А яно кожнаму строга вызначана богам.

— Мы думалі, сэр, што вы дзелавіты чалавек... Пайшлі, хлопцы, — сказаў старшыня забастовачнага камітэта і штурхануў перад сабою дзверы.

Сенатар падхапіўся з крэсла:

— Стойце! Паслухайце гаспадара. Перадайце рабочым: я прымаю іх патрабаванні. Хай развязваюць свае кашалькі. Ім будуць сыпацца долары цэлых тры месяцы. Так, так, тры месяцы і ні адной хвіліны больш. А цяпер можаце ісці, — сказаў сенатар, праводзячы дэлегатаў позіркам, поўным знішчальнай пагарды.

Калі дзверы зачыніліся, Уолтэр звярнуўся да Білі Спайта:

— Вы зразумелі мяне?

— Не, сэр, — шчыра прызнаўся ўпраўляючы.

— Хе-хе-хе, — самазадаволена зарагатаў сенатар. — Гэта ход канём, містэр Спайт. Гэта — ахвяра, якой патрабуе наш бог.

Білі ўгодліва ўсміхнуўся.

— Дык слухайце. Тры месяцы — гэта тэрмін, за які я пабудую касмічную ракету «Анаконда». Я павінен апярэдзіць рускіх і быць на Месяцы першым!

Білі Спайт вырачыў вочы. Новы скарочаны тэрмін пабудовы «Анаконды» вымушаў перабудоўваць усю работу на заводзе.

— Вы што, спалохаліся? — углядаючыся ў твар упраўляючага, запытаў сенатар. — Не паспеем?

— Гэтага ніколі не было, сэр, — угодліва адказаў Спайт. — Вашы словы — нашы справы.

Сенатар узбуджана закрочыў па кабінету. Ён гаварыў, гаварыў... Потым, падышоўшы да сцяны, крута павярнуўся, загадаў:

— Уключыце тэлевізар. Праверце, ці вярнуліся рабочыя ў цэхі.

Упраўляючы з юнацкай спрытнасцю і рухавасцю выканаў загад гаспадара.

— Рабочыя супакоіліся. Праца аднавілася, — паведаміў ён праз хвіліну.

— Я хачу прайсці па цэхах, — раптам сказаў сенатар.

— Я да вашых паслуг, сэр. — Білі Спайт падаў сенатару капялюш і бамбукавую палку.

Бліскучая нікеляваная брамка аўтаматычна расчынілася, і яны ўвайшлі ў цэх. Над галавой вісеў выгнуты між двух высокіх сцен шкляны дах, пераплецены павуціннем металічных канструкцый. У цэху было цяжка дыхаць. Працавалі станкі-аўтаматы, гулі маторы. У сярэдзіне цэха ішла доўгая лінія канвеера. З двух бакоў стаялі кантралёры, сачылі за работай машын.

Сенатар пастаяў з хвіліну, разглядаючы цэх, потым узмахнуў палкай і бадзёра пакрочыў наперад. На прыход гаспадара амаль ніхто з рабочых не звярнуў увагі. Да Уолтэра падбеглі толькі некалькі майстроў і разам са Спайтам пакрочылі ззаду за сенатарам, гатовыя ў кожную хвіліну адказваць на запытанне свайго боса.

Абыходзячы доўгі рад аўтаматычных станкоў, сенатар міжвольна залюбаваўся работай машын, якія самі вярцелі свёрдлы, вырэзвалі канаўкі на дэталях, пераносілі гэтыя дэталі на другое месца, шліфавалі іх, выкідваючы потым на ленту транспарцёра. Ля маленькага століка стаяў рослы юнак у карычневым камбінезоне. Ён трымаў у руках нейкі валік, разглядаў яго і ўсміхаўся. Уолтэр загадаў Спайту паклікаць рабочага. Той павbooлі подышоў і з усмешкай сказаў:

— Чым магу служыць, сэр?

У вачах Уолтэра заскакалі халодныя іскрынкі.

— Чаго ты радуешся, дурань? — спытаў ён, губляючы цярпенне.

— Мне весела, вось і ўсміхаюся, — адказаў рабочы. — Я ўпэўнен, што за гэта наш паважаны Білі Спайт не аштрафуе?

— Нахабны шчанюк! — прасіпеў сенатар. — Няўжо ты не ведаеш, што жарты на прадпрыемствах маёй кампаніі адменены? Мне тут патрэбны толькі рукі і сіла. Ідзі прэч! — загадаў ён.

Юнак павярнуўся, бесклапотна засвістаў і пакрочыў назад да століка.

Білі Спайт міргаў павекамі. Д'ябал паднёс бязглуздага малакасоса! Сёння яму, Білі, цэлы дзень не шанцуе.

Уолтэр стукнуў палкай і, паказваючы ёю на станкі, спытаў:

— Містэр Спайт, вы нічога не бачыце?

— Аўтаматычную лінію, сэр, — паслужліва адказаў упраўляючы.

Сенатар пакруціў галавою.

— Вы — сляпы, Білі, вы нічога не бачыце, апрача свайго носа, — нездаволена гаварыў ён. — Вашы рабочыя працуюць і ўсміхаюцца. А чаму? — раптам ён павярнуўся ўбок. — Глядзіце — сцены ружовыя, станіны станкоў — чырвоныя. Нехапае толькі чырвонага сцягу! Няўжо вы не разумееце, што чырвоны колер выклікае комуністычныя настроі, непакору? Вы тупы чалавек, Спайт. З-за вас я губляю долары...

Упраўляючы апусціў галаву.

— Вінаваты, сэр...

— Рабочых трэба прывучаць не да ўсмешак і жартаў, — вучыў сенатар. — Ніколі ў іх не павінна ўзнікаць думка аб забастоўках. Раю вам сёння-ж пафарбаваць сцены цэхаў у чорны колер, станкі і машыны — у зялёны. Чуеце? Вы самі заўтра скажаце, наколькі я практычны і прадбачлівы чалавек.

Білі Спайт палахліва зірнуў у твар гаспадара.

— Усё будзе зроблена, сэр. Вашы думкі падказаны самім богам.

— Вось гэта размова, — прыходзячы ў роўнавагу, адказаў Уолтэр. — Што-ж, на сёння хопіць.

## Раздзел сёмы

Наташа доўгі час пазірала ў акно вагона і ніяк не магла адарваць позірку ад шырокіх вясновых прастораў. Палі ўжо былі амаль чыстыя ад снегу. Ля самага чыгуначнага палатна вілася прасёлачная дарога. На ёй то там то тут відаць былі люстраныя лужыны.

Потым на даляглядзе ўзніклі белыя вежы высотных будынкаў. Масква!.. У вагоне захваляваліся, загрукалі чамаданамі.

Атамавоз спыніўся. Наташа апранулася і выйшла на платформу вакзала.

Людскі паток вынес яе да метро. Узбегшы на рухомую дарожку эскалатара, яна раптам успомніла, што ля бліжэйшай станцыі, на Арбаце, жыве яе сяброўка Зіна Кужаль. «Заеду, пагляджу», — рашыла Наташа.

Калі яна падыходзіла да высокага будынка, сонца ўжо заходзіла. Наташа ўвайшла ў пад'езд, паднялася ліфтам на пяты паверх. Расчыніўшы дзверы кабіны, яна тварам у твар сустрэлася з сяброўкай.

— Зіна!

— Наташка! — усклікнула тая, не верачы сваім вачам. — Ці ты гэта?

Яны пацалаваліся.

— Уга, якая ты стала, — з захапленнем гаварыла Зіна. — Пасталела, папрыгажэла. І падрасла нават, здаецца.

Наташа толькі махнула рукой.

— Ужо не расту. Расце толькі лік гадоў. Вядзі паказвай, дзе жывеш. І лепш аб сабе раскажы. Можа, ёсць прычына павіншаваць? — хітравата спытала Наташа.

— Ат, не гавары, Наташка. Рана мне выходзіць замуж. Ды і боязна. Раптам памылюся... А вось мой пакойчык,— сказала Зіна, прапускаючы наперад сяброўку. — Цеснаваты, але адной добра.

У пакоі было ўтульна, пахла духамі. Тут стаялі два крэслы, невялікі стол, круглае люстра, якое вісела каля акуратнага чысценькага ложка, і канапка з двума квяцістымі вышытымі падушачкамі.

— Вось бачыш, які ў мяне прастор, — сказала Зіна.

— Дальбог, добра. Прыгожа нават, — шчыра прызналася Наташа.— Я ў Мінску таксама мела пакойчык. У мяне, прызнацца, было горш.

Чорныя нітачкі броваў у Зіны насцярожана падскочылі ўгору. Яна падышла да сяброўкі і, узяўшы яе за рукі, спытала:

— Ты гаворыш аб Мінску, як аб мінулым. Чаму?

— Так, я ў Мінск больш не вярнуся, — і яна пачала расказваць пра сваё жыццё.

— Чакай, я пастаўлю кофе, — перапыніла яе сяброўка. — Ты з дарогі, галодная. За сталом усё і раскажаш.

Зіна выйшла на кухню. Наташа засталася ў пакойчыку адна. Спачатку яна разглядала вышытыя кветкі на падушках, потым падышла да стала, каб паглядзець на партрэт сяброўкі, што стаяў у рамцы. Тут

Зіна, прыжмурыўшы вочы, хітравата ўсміхалася. Якая яна прыгожая! Наташа міжволі працягнула руку да карткі. І раптам з-пад рамкі выпаў канверт. Дзяўчына падхапіла яго, хацела пакласці на месца, але аднаго імгнення хапіла ёй, каб прачытаць на канверце зваротны адрас Віктара Машука.

Наташу як-бы ўдарыла электрычным токам. Што гэта? Віктар прысылае пісьмы Зіне? Якія ў іх адносіны? У Наташы ад нядобрага прадчування задрыжалі рукі.

У калідоры пачуліся крокі. Госця паставіла на месца рамку з партрэтам, правяла рукой па ілбе. Хваля абурэння, вострае пачуццё рэўнасці сціснулі грудзі.

Зіна ўбегла ў пакой, клапатліва накрыла стол, дастала з невялікай шафы кубкі і сподкі.

— Ну, вось і гатова!

Але Наташа не чула вясёлага шчэбету сяброўкі. Пакойчык стаў раптам чужым. Захацелася хутчэй выбегчы на чыстае паветра, на волю. А ці так усё гэта, як яна думае? Можа Віктар напісаў Зіне дзелавое пісьмо. І яно ў яе першае і апошняе! Як-жа інакш магло быць —ён-жа прызнаваўся ў глыбокім і шчырым каханні ёй, Наташы! Гэта думка крыху супакоіла яе. Яна ўздыхнула і запыталася:

— Табе Віктар пісьмо толькі адно прыслаў?

— Ды што ты! — усміхнулася сяброўка. — У мене іх цэлая кіпа. Пасля таго, як вы пасварыліся, ён піша толькі мне. І калі бывае ў Маскве, заходзіць.

— Пасварыліся? — здзівілася Наташа і тут-жа спахапілася: яна-ж выдавала сябе! Каб супакоіць сяброўку, яна з сумам дадала: — Атрымалася вельмі недарэчна: па сутнасці, з-за глупства... — Памаўчаўшы хвіліну, папрасіла: — Пакажы, калі ласка, хоць адно пісьмо. Ты можаш гэта зрабіць?

— А чаму-ж не, магу! Піша ён прыгожа, ад сэрца...

Зіна адкрыла чамаданчык, выцягнула некалькі каляровых канвертаў. Дрыготкім голасам пачала чытаць:

«Я палюбіў цябе з першага позірку. Я тады-ж зразумеў: нялёгка будзе заваяваць цябе. Так яно і здарылася. Ты была жорсткая, гнеўная, недаступная...»

— У мене такіх пісем не менш, чым у цябе, Зіна, — як-бы скардзячыся, прамовіла Наташа. — І табе, і мне ён маніў. — Яна адкрыла сваю сумку, выцягнула перавязаны чырвонай істужкай пачак акуратна складзеных паперак. — На, паглядзі...

Зіна ўзяла лісты, разгарнула адзін з іх, і ўпілася ў яго вачамі.

— Які нягоднік! — сказала яна ціха і адвярнулася да акна.

У маўчанні прайшло некалькі хвілін. Нарэшце Наташа падышла да Зіны і абняла яе за плечы.

— Зіна, табе цяжка? — спытала Наташа.

Сяброўка вырвалася з абдымкаў. Толькі дыханне выдавала яе трывожную ўсхваляванасць.

— Зіна, стыне кофе. Сядай, супакойся!

— Мы вып'ем, Наташка, не кофе, а віна, — раптам прапанавала Зіна, адышоўшы ад акна. — Ты згодна?

— Я ў цябе госць, што паставіш на стол, тое і добра, — адказала Наташа.

Дзіўнае бывае ў жыцці: у цябе гора — месца не знаходзіш, пакутуеш, хвалюешся. Калі-ж гэтае гора з кім-небудзь падзеліш — становіцца лягчэй. Так было і ў Наташы з Зінай.

Яны сядзелі за сталом спачатку сумныя, панылыя, выказвалі адна другой свае дзявочыя крыўды. Тут-жа, за сталом, яны рашылі не знацца больш з Віктарам, не верыць у яго заляцанні.

Вечарам дзяўчаты спалілі віктаравы пісьмы. Наташа пераначавала ў Зіны, а раніцай паехала ў астранамічны гарадок — Галактыку.



## Раздзел восьмы

Поль Арноль прагульваўся па Пятай Авеню, заходзіў у магазіны, каб знайсці добры падарунак для Элсі, падоўгу стаяў ля багатых вітрын. Нарэшце дастаў сігару, закурыў і бестурботна пакрочыў дамоў.

Нечакана да абочыны тратуара падляцеў карычневы лімузін і спыніўся ў адным кроку ад Поля. Расчыніліся дзверцы, і чалавек з маленькім, круглым тварам, весела кіўнуўшы яму, працягнуў картку.

Поль Арноль ад нечаканасці збянтэжыўся. Не паспеў ён як след аб усім падумаць, машына, набраўшы хуткасць, знікла.

Поль паглядзеў на картку. У правым баку, у кутку, віднеўся тлусты надпіс: «Мы — Сёння, Заўтра, Заўсёды!» Гэта быў дэвіз Нябачнай імперыі.

Далей Поль прачытаў:

«Мы абяцалі табе рай не толькі на тым свеце, але і на Зямлі. Калі хочаш апынуцца ў ім, прыходзь у 8 гадзін вечара ў Кложу № 33! «Сябры Д'ябла».

Поль засумаваў. На сёння была назначана сустрэча з Элсі. Як недарэчна ўсё атрымліваецца! Але што зробіш... А палове восьмай Поль на ўласнай машыне выехаў за горад.

На ўскраіне парку ў засені платанаў стаіць нізкі мураваны дом. Поль ведаў: тут адбываюцца патайныя сустрэчы «клавалераў» клана.

Навокал панавала цішыня. Над уваходнымі дзвярамі гарэлі яркія неонавыя лямпачкі. Калі да іх прыглядзецца ўважліва, то можна

ўбачыць, што яны ствараюць дакладную копію сузор'я Дракона. Поль асцярожна падняўся па прыступках пад'езда.

Дзверы аўтаматычна расчыніліся, і ён увайшоў у шырокую залу. Тут панаваў поўзмрок. Пасярод залы стаяў высокі шкляны крыж, які свяціўся чырвоным жахлівым агнём. Навокал крыжа сядзела чалавек трыццаць, апранутых у чорныя мантыі.

Гэтае відовішча было знаёмым Полю. Ён ужо больш года лічыўся членам клана «Вялікі Дракон» і добра ведаў усе яго законы і парадкі. Невялікая колькасць «клавалераў» крыху яго здзівіла. Сярод іх ён паспеў заўважыць галоўных лідэраў Нябачнай імперыі. Поль насцярожыўся. Гутарка, відаць, будзе сур'ёзная.

Ці не правініўся ён у чым-небудзь? Думка працавала хутка, напружана. І вось Поль высока падняў галаву, па-кланаўску скрыжаваў на грудзях рукі.

— Падыйдзі, клансмен, сюды, — загадаў тоўсты чалавек у чорным балахоне.

Поль Арноль паважна і ўрачыста наблізіўся да шклянога крыжа. На стале, убаку, ляжала цырыманіяльная біблія, а пасярэдзіне стаяла пазалочаная глыбокая чаша.

У зале ўсталявалася цішыня.

— Клансмен Арноль, — сказаў тоўсты чалавек санлівым голасам. — Мы, браты вялікага клана, бачым у тваёй асобе нашага вернага і шчырага клавалера. У цябе дужая рука, вернае вока, смелае сэрца. Ты варты сваіх вялікіх продкаў. Скажы, мы правільна думаем аб табе?

— Правільна, — зараз-жа адказаў Поль. — Я імкнуся быць такім...

— Усе прысутныя тут твае браты выконваюць у нашай Нябачнай імперыі абавязкі клавалераў тайнай паліцыі клана. Ты хочаш быць такім, як яны?

— Хачу, — адгукнуўся Поль.

— Ты павінен ведаць нашы мэты і задачы. Мы, клавалеры Нябачнай імперыі, узялі на сябе пачэсны і вялікі абавязак выратаваць Штаты ад неграў, яўрэяў і ад чырвонай пошасці. Штаты — для белых! Мы змагаемся за гэты ідэал, і мы ўпэўнены, што наша справа не загіне дарэмна. Скажы, клансмен Арноль, ці верыш у вялікасць і непераможнасць нашых ідэалаў?

— Так, мае сябры!

Чалавек, што сядзеў у крэсле «Вялікага Дракона», устаў, падышоў да Поля.

— Ты павінен даць клятву вернасці ўласнай крывёй.

Поль Арноль падышоў да пазалочанай чашы, маўкліва працягнуў руку. Хтосьці балюча правёў па ёй лязом. З раны пырснула кроў і палілася ў чашу.

Пасля гэтай працэдуры патрэбна было зрабіць Знак Прысвячэння. Поль Арноль пакорліва апусціўся на адно калена. Што-ж цяпер? Ага, трэба прыкласці руку да сэрца.

— Клянiся! — загадаў яму таўсцяк.

Поль Арноль набраў поўныя грудзі паветра і хутка прагаварыў:

— Клянуся берагчы наш слаўны непераможны флаг. Тры яго колеры ўвасабляюць тры нашых вялікіх ідэі. Клянуся навекі помніць, што чырвоны колер флага будзе нагадваць заўсёды мне кроў, якую я гатоў праліць за яго, белы — змаганне за чысціню і магутнасць

нашай белай расы, а блакітны — неба, якое дае нам сілу і магутнасць... Як клавалер клана, я абавязваюся не выдаваць тайн. Калі-ж буду спакушаны д'яблам і развяжацца мой язык, хай мяне пакарае рука брата...

Поль быў моцна ўсхваляваны. Урачыстасць і таямнічасць абстаноўкі вельмі ўразіла яго. Закончыўшы клятву, ён апусціў левую руку і хацеў устаць. Але зрабіць гэта перашкодзіў уладар куклуксклanaўцаў. Ён паклаў на плячо Поля руку і, абмачыўшы палец у чашу з крывёю, накрэсліў ім на ілбе знак кланаўскага крыжа.

— Устань, рыцар ку-клукс-клана! — усклікнуў ён хрыплым прастуджаным голасам. — Будзь заўсёды гатовы змагацца за Штаты, за нашу «Нябачную імперыю»!

У зале зашумелі. Чорныя пачварныя людзі працягвалі рукі да Поля Арноля.

— Вітаем цябе, наш брат! Ты прышоў у час — у нас шмат работы.

Нарэшце хвіліны ўрачыстасці мінулі. Поль дастаў са скрутка чорны балахон, накінуў яго на плечы. Цяпер ён нічым не адрозніваўся ад прысутных. Хіба толькі ярчэй, чым у другіх, блішчалі яго вочы ў шчылінах чорнага капюшона.

— Браты! Слаўныя Рыцары! — узняўшы руку ў чорнай пальчатцы, загаварыў чалавек, якому належала крэсла «Вялікага Дракона». — Хопіць размоў. Пара паказаць, чаго варты клавалеры клана. Сёння ў дансінгу «Капітэл» збіраюцца чорнамазыя слухаць свайго спевака Томсана. Мэта іх зборышча зразумелая — яны рыхтуюць здрадніцкую змову.

Чалавек у чорнай пальчатцы прыўзняў вялізную галаву, схаваную пад вострaверхім капюшонам, абвёў усіх прысутных доўгім, пранікліўым позіркам.

— Хто хоча быць героем, праславіць навекі сваё імя? — нарэшце запытаўся ён. — Браты мае, звяртаюся да вас!

Угару ўзляцелі сціснутыя кулакі. З усіх бакоў пачуліся воклічы:

— Смерць чорным свінням! Смерць!

Сярод дзікіх, раз'юшаных галасоў вылучаўся задорны тэнар Поля Арноля. Ён хацеў даказаць «клавалерам» сваю адданасць клану. Тут, на алтары перад неонавым крыжам, у чашы блішчала яго кроў. Арноль прысягнуў над ёю і пакляўся, што цяпер ён будзе бачыць толькі чужую кроў.

Нечакана неонавы крыж узняўся над галовамі «клавалераў». Усе зразумелі: цырыманіял закончаны. Чорныя постаці заварушыліся, рушылі да выхаду. Маўклівыя, засяроджаныя, выходзілі куклуксклanaўцы з залы.

Прывіды смерці ішлі знішчаць жыццё.

* * *

Уставаць не хацелася. Балела галава, звінела ў вушах. Перад вачыма, нават і тады, калі ён заплюшчваў іх, не знікалі малюнкі ўчарашняй ночы. Добра папрацаваў Поль Арноль. Браты яго клана бачылі, як ён першы расштурхаў неграў, дабраўся да сцэны, збіў з ног спевака Томсана, учапіўся ў яго горла.

А што было далей, цяжка расказаць. Нягледзячы на супраціўленне ўзбунтаваных людзей, ён і «клавалеры» клана схапілі Томсана і яшчэ дзесяць чалавек неграў, вывезлі іх за горад і доўга збівалі гумавымі

палкамі. Білі ўсе па чарзе. Поль памятае, што яго ўдары былі самымі балючымі: негры, калі ён біў, стагналі мацней. На шматкі рвалася іх адзенне, з цела пырскала кроў.

Непадалёку на стале ляжала кіпа ранішніх газет. Поль працягнуў руку, узяў «Дэйлі мэйл». Ён прадчуваў, і гэта было так: газета прысвяціла цэлую паласу ўчарашняй падзеі, расказваючы аб усім у загадкавым плане. Поль задаволена ўсміхнуўся: на здымку сярод чорных балахонаў ён пазнаў сваю постаць. Як добра, што быў закрыты твар. Ніхто на свеце не даведаецца, што ў пагроме ў дансінгу «Капітэл» удзельнічаў і ён, Поль Арноль.

Яго стараннасць заўважылі: Поль сёння атрымаў чэк на дзве тысячы долараў і быў вельмі задаволены. Ён скажа сёння Элсі: яе бацька павінен стаць больш ветлівы. Поль Арноль не з такога цеста зроблены, каб над ім здзекаваліся.

Перагарнуўшы першую старонку, Поль вылупіў вочы. Сенсацыя! Можна зарабіць пяць мільёнаў долараў за некалькі дзён. «Першы палёт на Месяц, — прачытаў ён і прыўзняўся на ложку, — зробяць бравыя хлопцы Штатаў. У экіпаж набіраецца толькі тры чалавекі. Палёт намечаны ў чэрвені. Патрабуюцца добраахвотнікі. На свеце многа ёсць шчасліўцаў, на гэты раз іх будзе толькі тры. Гэтыя трое праславяць Штаты. Пасля звароту герояў чакае ўзнагарода — пяць мільёнаў долараў!»

Поль адкінуў убок газету і, як ашалелы, саскочыў з ложка. Гэта недаравальна! Ён усё праспаў! Ужо, мабыць, запісаўся мільён добраахвотнікаў...

Ён падбег да тэлефона. Хвалюючыся, набраў нумар касмадрома.

— Я — Поль Арноль, — закрычаў ён у трубку. — Запішыце мяне добраахвотнікам.

Па яго твары прабег цень абурэння і незадаволенасці. Так, прадчуванне яго не было дарэмным: ужо набрана больш сямі тысяч добраахвотнікаў і запіс спынены.

Панура апусціўшы галаву, Поль вярнуўся назад у спальню. Марудна і неахвотна пачаў апранацца. Потым падняў з падлогі газеты, яшчэ раз паглядзеў на буйны загаловак сенсацыйнага паведамлення.

І тут Полю Арнолю прыйшла шчаслівая думка — папрасіць у сенатара Уолтэра дазволу на першы палёт. Гэта нічога, што запісана больш сямі тысяч добраахвотнікаў. Сенатар — уладар пасажырскай касмічнай ракеты, ён можа зрабіць усё, што захоча.

О, гэта было-б выдатна! Ён, Арноль, вернецца з падарожжа, атрымае грошы, — і тады любы сенатар не будзе супраць, каб мець такога зяця. Пяць мільёнаў для пачатку, — аб гэтым не снілі ў свой час нават Рокфелер і Морган.

## Раздзел дзевяты

На ўскраіне Галактыкі стаіць пяціпавярховы прамавугольнай формы будынак з масіўнай каланадай. З самай раніцы сюды па бліскучых асфальтаваных дарогах, абмытых дажджом, пад'язджалі аўтамашыны.

Раней за ўсіх прыехалі Іван Іванавіч Дзянісаў і Білі Рэндол. Яны былі апрануты ў белыя летнія касцюмы. Рэндол — рослы, хударлявы, з добрадушным тварам і светлымі вачыма — хадзіў туды-сюды ля параднага пад'езда, часта прыпыняўся, разглядаючы за масіўнай чыгуннай агарожай старыя раскідзістыя ліпы; Дзянісаў — круглатвары, з высокім адкрытым ілбом і арліным носам, пажылы, але яшчэ бадзёры і жвавы, сядзеў на лаўцы і чытаў свежы нумар «Огонька».

Калі ля пад'езда спынілася сігарападобная, ззяючая нікелем і шклом аўтамашына, мужчыны хутка падышлі да яе.

— Добры дзень, Надзежда Нікалаеўна! — прыўзняўшы капелюшы, прывіталіся яны з Хлебнікавай.

— Вы мяне чакалі? — спытала жанчына, папраўляючы загарэлай рукой каштанавыя валасы.

— Як бачыце, — адказаў Рэндол, усміхнуўшыся. — Баяліся, што вы абмінеце гэты дом.

Надзежда Нікалаеўна падхапіла Дзянісава і Рэндола пад рукі, і яны разам сталі ўзнімацца ўверх па мармуровай лесвіцы.

Вось і светлая прасторная зала. На сценах у пазалочаных рамах — карціны вядомых рускіх майстроў жывапісу, пад столлю ззяе хрусталем і золатам велізарная люстра.

Рады крэслаў уздымаюцца амфітэатрам. Тут поўна народу. І калі Хлебнікаву заўважылі, стрыманы гул і шэпт прайшоў па радах.

Надзежда Нікалаеўна спынілася з Рэндолам ля акна. Дзянісаў пайшоў далей да доўгага, пакрытага зялёным сукном стала, што стаяў перад амфітэатрам на ўзвышэнні, узяў у рукі лісток паперы і, звяртаючыся да прысутных, сказаў:

— Таварышы, дазвольце з вашай згоды запрасіць за стол прэзідыума нашых паважаных Надзежду Нікалаеўну Хлебнікаву і Вілі Рэндола.

Па зале прабег хваляй шум і тут-жа сціх. Усталявалася цішыня. Рэндол і Хлебнікава занялі свае месцы побач з Дзянісавым. Надзежда Нікалаеўна, строгая, задуменная, глядзела перад сабою. Сёння будзе абмяркоўвацца адно з вялікіх адкрыццяў эпохі, у якім яна прыняла самы актыўны ўдзел. Яна чула, як нехта ў зале назваў яе імя, але Надзежда Нікалаеўна была паглынута сваімі думкамі.

Хлебнікава ажывілася толькі тады, калі пачула густы бас Дзянісава.

— Сябры! — сказаў Дзянісаў. — Мы сабраліся сюды на важную нараду. Чалавецтва ўжо зрабіла першы вялікі крок, аб якім марыў Цыялкоўскі. Мы стварылі выдатныя збудаванні эпохі — спадарожнікі нашай планеты. Чалавецтва павінна зрабіць другі вялікі крок — пабываць на Месяцы, дасягнуць Венеры і Марса. Як вам вядома, ракета для палёту на Месяц сканструявана і ўжо будуецца на нашых заводах. Гэты касмічны карабель будзе працаваць на атамнай энергіі. З дазволу майго шаноўнага сябра Вілі Рэндола скажу· мы, падарожнікі космаса, незадаволены ракетай. Чаму? Вы ведаеце, ракеце трэба браць дзесяткі тон вадкага вадарода-акісляльніка. Было многа праектаў і прапаноў, каб вызваліць касмічны карабель ад лішняй нагрузкі. Нам параілі накіраваць на спадарожнікі Зямлі замарожаныя глыбы вады ў сталёвай абшыўцы. Спадарожнікі будуць рухацца па арбіце, і ракета, накіроўваючыся ў касмічны рэйс, можа іх узяць з сабой і буксіраваць да самага канечнага пункта палёту. Гэта вырашыла праблему далёкага падарожжа. Некалькі дзён назад у інстытут міжпланетных зносін прыйшла Надзежда Нікалаеўна Хлебнікава і прапанавала ў першым палёце на Месяц выпрабаваць новы від энергіі — энергію святла.

У зале заварушыліся, загаманілі. Хлебнікава абапёрлася рукамі аб падлакотнікі крэсла, і ўбачыла, як раптам успыхнулі цікаўнасцю сотні вачэй.

— Выходзіць, атамная энергія больш непатрэбна, — выгукнуў нехта.

Губы Хлебнікавай уздрыгнулі, яна ўся напружылася і стала побач з Дзянісавым. Іван Іванавіч саступіў ёй месца і, адышоўшы ўбок, сеў побач з Рэндолам.

Надзежда Нікалаеўна ўсхвалявана пачала:

— Вы дарэмна так думаеце, таварышы. Наадварот, мы павінны выкарыстаць усе багацці ядра, паставіць іх на службу чалавеку. Вы не будзеце пярэчыць, калі я скажу: нельга ў наш час жыць без веры ва ўсемагутнасць навукі. Раней людзі думалі: — атам — найдрабнейшая часцінка матэрыі. Навука сказала сваё слова, і перад намі ва ўсёй велічы паўстала цудоўная карціна будовы рэчыва. Вы цяпер ведаеце, што сярод так званых элементарных часцінак, якія ўваходзяць у склад атама, яго ядра, ёсць аднолькавыя па вазе, але рознайменна зараджаныя часцінкі: электрон і пазітрон, пратон і антыпратон. Калі быў адкрыты антыпратон, памятаеце, колькі было розных размоў, гіпотэз, меркаванняў. Многія буржуазныя вучоныя гаварылі: чалавецтва яшчэ не падрыхтавана да такога вялікага, небывалага адкрыцця: моў, яно прывядзе яго да гібелі. У некаторых лабараторыях пачаліся пошукі мінус-матэрыі. Калі-б такія пошукі закончыліся паспяхова, гэта дало-б у рукі асобных людзей страшэнную зброю знішчэння. Не па такому шляху пайшла наша савецкая навука. Мы новае адкрыццё рашылі паставіць на службу чалавеку, каб яно памножыла сілу розуму.

Сябры! Я не адхіляю праекта, па якому будуецца ракета для палёту на Месяц. Я толькі хачу паведаміць вам, што мы сёння можам не фантазіраваць, а павесці сур'ёзную размову аб стварэнні касмічнага карабля, які здолее не толькі даляцець да Марса, але і наведаць ваколіцы бліжэйшых да нас зорак. Такім караблём можа стаць так званая фатонная ракета. — Надзежда Нікалаеўна змоўкла, перагарнула ў пальцы лісткі запісаў. У зале стала ціха-ціха. Здавалася, людзі перасталі нават дыхаць.

З поўнага шырокага твару Дзянісава збегла задаволеная ўсмешка. Ён бачыў, што кароткае навуковае паведамленне Хлебнікавай з'явілася для ўсіх нечаканасцю. Новае адкрыццё знішчала вузкія граніцы, у якіх была заціснута чалавечая мара, давала магчымасць людзям спрачацца ў палёце з праменнямі Сонца. Дзянісаў прыгладзіў сіваватую пасму валасоў, што прыкрывала лысіну, зухавата падміргнуў Рэндолу і запляскаў у далоні. І здавалася, у залу хлынуў вадаспад.

Надзежда Нікалаеўна падняла руку, у якой была заціснута хусцінка, просячы ўвагі. Але апладысменты выбухнулі з новаю сілай. Тады яна адпіла са шклянкі глыток вады і пачала гаварыць далей. І зала прыціхла.

— Пакуль мы падрыхтуемся да палёту на Марс, — гучаў яе мяккі голас, — трэба праверыць дзейнасць рухавікоў, што працуюць на энергіі святла. Рухавікі гэтыя складаныя, але невялікія. Яны называюцца фатоннымі, аднак будуць выкарыстоўваць не святло Сонца, а святло атамаў. Так, так, не здзіўляйцеся, іменна святло атамнага ядра. Як яно ўтвараецца? А вось як. У рухавік накіроўваюцца два патокі элементарных часцінак ядра — пратоны і антыпратоны. Няцяжка здагадацца, што яны пастараюцца зліцца разам. Адбудзецца небывалы працэс узнікнення пучка светлавой энергіі. А святло па закону Лебедзева мае ціск. Вось тут і канец нашай тайны: ціск стварае цягавую сілу, і ракета пачне набіраць хуткасць. — Хлебнікавай, відаць, стала горача, яна расчырванелася. Голас яе гучаў па-ранейшаму бадзёра: — Цяпер я даю магчымасць нашым касманаўтам зрабіць усе астатнія разлікі. Сёння мы можам зазірнуць не толькі далёка ў нашу будучыню, а нават і пашукаць ля бліжэйшых зорак такія планеты, як наша Зямля. Хто ведае, можа мы там сустрэнем падобных самім сабе людзей і істот.

— Здзіўляючы будзе гэты палёт! — прадаўжала яна. — Ракета можа развіць хуткасць да 290 тысяч кіламетраў у секунду, і тады для касмічных падарожнікаў уступяць у дзеянне законы, адкрытыя Эйнштэйнам. Час у ракеце будзе працякаць вельмі марудна ў параўнанні з зямным часам. Дзесяць год, патрэбныя для таго, каб наведаць ваколіцы бліжэйшай зоркі, скароцяцца для іх да аднаго года.

Хлебнікава гаварыла спакойна, разважліва, быццам гутарыла з адным чалавекам. Кожнае яе слова прысутныя лавілі, затаіўшы дыханне. Многія назіралі за Вілі Рэндолам, які працаваў у Штатах, а потым пакінуў радзіму з-за праследаванняў. Цікава было ведаць, што думае ён аб навуковым адкрыцці, ці можна практычна рэалізаваць новую энергію.

Доўга Надзежда Нікалаеўна не магла закончыць свайго выступлення. Некалькі разоў яна садзілася на месца, але зноў уставала, каб адказаць на шматлікія пытанні. Нарэшце яна ўзяла ў рукі некалькі запісак і сказала:

— Засталося яшчэ, таварышы, пяць пытанняў. Але на іх я не магу, нажаль, даць пэўнага адказу. Было-б вельмі добра, каб мой сусед, — і яна паглядзела на Вілі Рэндола, — дапамог мне.

Дзянісаў усміхнуўся Вілі Рэндолу.

Рэндол устаў, і ўсе ўбачылі, які ён сівы і строгі. Але яго вочы, глыбокія, празрыстыя, блішчалі юнацкім агнём.

— Сябры, таварышы, — пачаў Вілі Рэндол з прыкметным акцэнтам. — Калі гаварыць аб дапамозе, дык трэба проста сказаць — Інстытут ядзерных даследаванняў і асабіста Надзежда Нікалаеўна не дапамаглі нам, а проста нас вызвалілі з бяды. Фатонная энергія — энергія будучыні. — Ён разгарнуў запіску, паклаў на стол і прадаўжаў: — Тут таварышы цікавяцца, якая цягавая сіла фатоннага рухавіка. Законнае пытанне. Я ахвотна адкажу, але, мабыць, многія здзівяцца: усяго толькі некалькі сот кілаграмаў. Мала? Вядома. Усе ведаюць, каб узняць звычайную ракету ў космас нашы атамныя рухавікі развіваюць цягавую сілу ў некалькі мільёнаў тон. А тут толькі нейкая сотня кілаграмаў. Гэтай сілы не хопіць, каб нават зрушыць з месца ракету.

Але, сябры, не забывайце: цяжка нагружаны вагон таксама нялёгка скрануць з месца. Аднак, калі даць яму разгон, дастаткова сілы аднаго чалавека, каб не толькі рухаць яго ўперад па рэйках, але нават павялічыць хуткасць руху. Па такім-жа прынцыпу будзе выкарыстоўвацца фатонная энергія. Ракету спачатку прывядуць у рух атамныя рухавікі, нададуць ёй касмічную хуткасць, і толькі тады будзе сэнс уключыць фатонныя рухавікі. Зямля і другія планеты ствараюць у прасторы гравітацыйныя палі, гэта значыць, палі прыцяжэння. Яны, вядома, тармозяць рух ракеты, ускладняюць кіраванне ёю. Перад намі, як бачыце, узнікла задача праверыць эфектыўнасць работы рухавіка на новай энергіі ў складаных умовах касмічнага падарожжа. Я думаю, — сказаў усміхаючыся Рэндол, — нашы касманаўты з радасцю згодзяцца гэта зрабіць.

Іван Іванавіч Дзянісаў кіўком галавы пацвердзіў думку Рэндола. У зале пачуліся галасы:

— Зробім!

— Абавязкова.

— Давайце новы рухавік!

Вілі Рэндол пагладзіў рукой свае пасівелыя валасы, імкнучыся прыглушыць хваляванне. Ён загаварыў аб перспектывах будучыні, і яго самога захапіла, узрушыла небывала смелая ідэя выкарыстання новай энергіі атамнага ядра.

— Тут патрабуюць ад нас новы рухавік, — сказаў Рэндол, абводзячы дапытлівым позіркам прысутных. — Што я павінен адказаць на гэта? Вядома, толькі адно: рухавік будзе і вельмі хутка. Магу нават вам паведаміць, што ў мяне ўзніклі ўжо сякія-такія думкі аб ім. Таварышы, сёння, як ніколі, хочацца паўтарыць словы Энгельса: «Адна крэпасць за другой капітулююць перад націскам навукі...» Нас чакае штурм яшчэ не адной крэпасці. Мы возьмем яе. Мы дадзім у рукі людзей новыя веды для стварэння шчасця працоўнаму чалавецтву.

Зала слухала маўкліва, заварожана. Сотні вачэй глядзелі на рухавага з строгім хударлявым тварам чалавека, — і ў сэрцах людзей нараджалася гордасць за савецкую навуку, за небывалыя гарызонты новага жыцця, поўнага росквіту і шчасця.

Пасля выступлення Вілі Рэндола некаторыя з інжынераў давалі свае прапановы аб канструкцыі і формах будучага фатоннага рухавіка. Рэндол толькі ўсміхаўся і раз-по-разу паўтараў: «Удала, удала, сябры!»

Сход выбраў асобны камітэт канструктараў пад старшынствам Рэндола, даручыўшы яму весці ўсе работы па канструяванню некалькіх новых рухавікоў.

Выйшаўшы на пляцоўку параднага пад'езда, Рэндол новымі вачамі зірнуў на навакольны свет. Зіхацела залітая сонцам далячынь. Пад белымі, халадняватымі крыллямі воблакаў свежымі струменямі цурчэла блакітная паветраная рака. Дыміліся, звінелі серабрыстым звонам магутныя фантаны. Між густой зеляніны садоў свяціўся чысты мармур палацаў, бронза ўзнятых на пастаментах скульптур, бліскучыя люстры канапак. І над усім гэтым, — над багатай, прыгожай і чароўнай зямлёй, — ззяла велізарнае сонечнае неба. Цяпер яно не так ужо і далёка ад людзей...

## Раздзел дзесяты

Поль зняў нумар у атэлі і, сеўшы за раяль, пачаў іграць нейкую поўзабытую мелодыю. Вадаспад гукаў запоўніў пакой. Поль хваляваўся перад сустрэчай з Элсі.

Два ўтульных пакоі складалі заняты ім нумар атэля. За зялёнай плюшавай шырмай, прыбраны пуховымі падушкамі, стаяў шырокі з арэхавага дрэва ложак. Мэбля была з чорнага дубу, цяжкая, упрыгожаная мудрагелістай разьбой. Пасярэдзіне пакоя — круглы стол. На ім попельніца з марской ракавіны, старая ў скуранай вокладцы кніжка, карабок духмяных цыгар, калода новых карт.

Полю здалося, што ў нумары халаднавата. Ён устаў з-за раяля. Павялічыць тэмпературу пакоя тут проста: апусці манету ў электранагравальнік, і ты атрымаеш крыху цеплыні. На высокай падстаўцы ўзвышаецца тэлевізар. Ён маўчыць. Але і яго можна прымусіць працаваць: кінь у медную спецыяльную скрыначку некалькі цэнтаў і, калі ласка,— можаш поўгадзіны слухаць і бачыць любую праграму з любога тэлецэнтра Штатаў.

Поль сядзеў за сталом, дыміў цыгарай і не заўважыў, як увайшла Элсі. Яна насцярожана прыпынілася ў дзвярах, трапяткая, лёгкая. Ціха наблізілася да свайго каханага, закрыла рукамі яго твар.

— Хто гэта? — прытворна спалоханым голасам усклікнуў Поль. Ён абмацаў пальцы Элсі, пазнаў іх і, павярнуўшыся да дзяўчыны, схапіў яе на рукі і пасадзіў сабе на калені.

Яна прыпала да яго грудзей.

— Разбойнік! Дзе быў учора? Абзваніла ўсе тэлефоны — і як у ваду кануў. Ці не надумаўся здрадзіць?

— Ды што ты, Элсі! Я быў у горадзе. Трэба было зрабіць адну справу. А якую — не пытай, не скажу. Адно ведай — гэта быў сапраўдны бізнес.

Элсі глядзела яму проста ў вочы. Дзяўчына верыла: Поль гаварыў праўду. Тонкі спіральны браслет на руцэ, медальён на шыі, бліскучыя вочы — усё ў Элсі сёння зіхацела. І вось Поль беражліва пасадзіў яе ў крэсла насупраць, закінуў адну нагу на другую і строга спытаў:

— Элсі, скажы шчыра, ты моцна любіш мяне?

Бровы дзяўчыны ўздрыгнулі, ссунуліся на пераноссі.

— Навошта такое пытанне? — здзівілася яна, абхапіўшы рукамі падлакотнікі крэсла. — Ты-ж мой каханы.

— Ты павінна мець багатага мужа, — сказаў Поль. — А я бедны.

Яна закрыла твар рукамі.

— Ты хочаш мяне пакінуць? Бацькі пабаяўся! — усхліпнула яна.

Поль разняў яе рукі, паклаў іх сабе на плечы і стаў перад ёй на калені.

— Любая, — супакойваў Поль. — Я не настолькі дурны, каб адмовіцца ад цябе. Ты тая, хто мне патрэбны. Я люблю цябе і хачу стаць багатым. Чуеш, багатым! Мне трэба атрымаць тыя пяць мільёнаў долараў, якія абяцае твой бацька падарожнікам на Месяц.

Яна пільна паглядзела яму ў вочы.

— Ты звар'яцеў, — крыкнула яна. — Падумай, што ты гаворыш?

— Элсі, — сказаў ён ціха. — Так, я рызыкую. Ты сама ведаеш: каханне патрабуе подзвігаў. Любое выпрабаванне будзе мне радасцю. Чуеш, Элсі? Калі кахаеш мяне, павінна дапамагчы!

— Што ты хочаш? — зняможана запыталася яна.

— Папрасі свайго бацьку, каб ён залічыў мяне ў экіпаж ракеты. Табе гэта проста зрабіць. Праз тыдзень пасля адлёту з Зямлі я стану багатым. Элсі, я буду тваім мужам, добрым зяцем твайго бацькі...

Дзяўчына абняла яго, глянула ў яго твар.

— Неразумны хлопчык, ты шукаеш смерці... Я так баюся за цябе... Мне страшна...

— Я няўмольны, Элсі, — сказаў ён. — Любоў і золата надаюць чалавеку смеласць, упэўненасць. Ты павінна папрасіць бацьку. Дай мне слова, што пагаворыш з ім. Чуеш, Элсі?

Яна ўстала з крэсла, узбуджана захадзіла па пакоі.

Потым падышла да тэлефона, набрала нумар.

Поль падбег да Элсі і стаў побач з ёю.

— Па, — сказала дзяўчына. — Ты набраў экіпаж ракеты? Ого, больш сямі тысяч добраахвотнікаў! Слухай, па, я хачу спытаць цябе, — толькі адкажы проста і шчыра, — палёт рызыкоўны, ці не? Не! Гэта пэўна? Дзякую, татачка. Я буду сёння з табой гаварыць аб адной важнай справе. Ну, вось і ўсё.

Яна павярнулася, прыгожымі, тонкімі пальцамі ўзяла на стале з карабка цыгарэту, закурыла.

— Калі па сказаў, гэта надзейна і пэўна, — прамовіла яна пасля хвіліннага маўчання.

— Можа сходзім у муніцыпалітэт і абвянчаемся? — спытаў нясмела Поль.

Яна ўздрыгнула, насцярожылася.

— Нашто гэта? Нам бацькі дадуць законнае бласлаўленне — і тады... Ты-ж будзеш багатым, Поль?

— Абавязкова! — сказаў Поль з ноткай злосьці ў голасе. — З гэтага выпадку мы павінны пакаштаваць віна. — Ён націснуў на белы сігнальны гузік, і праз некалькі хвілін у нумар увайшоў слуга. Ён з незвычайнай спрытнасцю сервіраваў стол, падаваў закуску і віно.

— Мая маленькая лэдзі, — жартаўліва сказаў Поль. — Ты тут гаспадыня. Вып'ем за поспех будучага падарожжа, за наша багацце.

Элсі нахілілася да Поля, пацалавала яго.

— Мой маленькі хлопчык, я п'ю за каханне, — сказала яна з шчырым дакорам і маленькімі глыткамі пачала адпіваць з чаркі віно.

Позна ноччу на машыне Поль адвёз Элсі дамоў.

## Раздзел адзінаццаты

Масіўная бліскучая цэнтрыфуга ліхаманкава круцілася. Не было чутно нават гудзення матораў. Толькі сонечныя зайчыкі непрыкметна мільгалі па яе выпуклай, адпаліраванай пакрыўцы. Убаку, за двума столікамі, засланымі звычайнай цыратай, стаялі тры чалавекі ў белых халатах. Высокі мужчына ўзняў руку, паглядзеў на гадзіннік і тут-жа ўзмахнуў флажком. Цэнтрыфуга спынілася. Адна з сценак яе адчынілася, і на бетонную пляцоўку выйшлі два юнакі ў форме пілотаў.

Твары іх былі ўспацелыя, стомленыя. Да юнакоў падбеглі ўрачы, сталі разглядаць прыборы, прымацаваныя да рук і грудзей пілотаў. Іх засыпалі пытаннямі.

Юнакі паглядалі адзін на аднаго і весела ўсміхаліся. Першага, з рыжым чубам, было лёгка пазнаць. Гэта Віктар Машук. Другі, бялявы, з нетаропкімі, але ўпэўненымі рухамі, таксама даўні наш знаёмы. Гэта Алег Дрозд, які яшчэ піонерам лятаў на касмічным караблі.

Хлопцам у час работы цэнтрыфугі давялося вытрымаць вялікую перагрузку. Ціск крыві павялічыўся, узрос пульс, але яны адчувалі сябе даволі добра.

Віктар Машук прыгладзіў рукой валасы і, пазіраючы на высокага мужчыну ў халаце, сказаў:

— Я не адчуваю стомленасці, доктар, але вельмі хочацца спаць.

— Усё зразумела, — адказаў адразу той. — У вас, малады чалавек, часцей б'ецца сэрца. Перад трэніроўкай не адпачывалі, так?

— Магчыма.

— Глядзіце, каб гэтага больш не было. Загадваю вам зараз-жа пакінуць трэніровачную станцыю і ехаць у санаторый. Заўтра паўторная трэніроўка. Зразумела? А ў вас, — павярнуўся доктар да Алега, — пакуль што ўсё ў парадку. Трымайцеся! Вы будзеце першым кандыдатам у штурманы карабля.

Хлопцы развіталіся і пайшлі ў павільён пераапранацца. Выйшлі адтуль у параднай лётнай форме і накіраваліся да аўтастрады. Непадалёку, на бетоннай пляцоўцы, стаяла машына. Кузаў яе зроблены з лёгкай і трывалай пластмасы. Цяжка было заўважыць, дзе знаходзяцца ў машыне дзверы. Паверхня яе гладкая, суцэльная. Віктар Машук націснуў кнопку, і дзверцы з абодвух бакоў расчыніліся.

Алег сеў за руль, побач размясціўся Віктар. Вывеўшы машыну на магістраль, юнак уключыў аўтамат кіравання. Так больш зручна і надзейна: машына-ж імчыць з хуткасцю больш двухсот кіламетраў у гадзіну!

Яна ідзе ціха, не чутно і рокату матора. Матор у яе электрычны. Пад бетон шасейнай дарогі ўкладзены электрычны кабель, па якім праходзіць ток высокай частаты. Яны ствараюць пераменнае магнітнае поле. Яно ўзбуджае ў маторы ток, і машына імчыцца.

Хораша ехаць у такіх імклівых наземных ракетах. Па адпаліраваных баках машыны шорхае вецер. Шыпяць, быццам раззлаваныя, гумавыя колы. Узбоч дарогі нельга адрозніць асобных дрэў і кустоў — яны ствараюць суцэльную светлазялёную паласу.

Алег уключыў тэлевізар. Побач з цыферблатам і стрэлкамі прыбораў засвяцілася акенца экрана. Выступала спявачка. Песня яе напоўніла кабіну.

Віктар заплюшчыў вочы, задумаўся. Голас спявачкі вельмі падобны да голасу Наташы. Дзе яна цяпер? Віктар учора даведаўся, што яе запрашалі на працу ў Галактыку. «Вось, каб яна прыехала!» — шчыра пажадаў хлопец і ў гэты момант адчуў, як яго раптам штурхнула наперад. Ён расплюшчыў вочы.

— Прыехалі! — абвясціў Алег, выключаючы матор.

Хлопцы выйшлі з машыны. На франтоне белакаменнага будынка красаваўся надпіс: «Санаторый «Зорны дождж». Навокал шумеў высокі сасновы бор. Пасярод яго ішла шырокая алея з ліпавых дрэў. Было дзіўна бачыць ліпы сярод высокіх бронзавых сосен. Але позірк паступова звыкаўся з такім пейзажам. Алея як-бы надавала лесу новыя фарбы, яго суровасць і змрочнасць былі ўжо не такімі падкрэсленымі.

— Пойдзем адпачываць? — запытаўся Віктар.

— Пайду паблукаю па лесе, — адказаў Алег.

— Хіба ты не бачыш, што хутка навальніца будзе.

— Вось і добра: падыхаю азонам.

Алег павярнуў у бок ад асфальтавай дарожкі і хутка трапіў у гушчар. У твар дыхнула моцным сасновым пахам.

Недзе за лесам, набліжаючыся, пагрымлівала хмара. Сінія, бляклыя сполахі маланак адсвечвалі на чорным небе.

Віктар гаварыў праўду: з хвіліны на хвіліну можна было чакаць дажджу. Алег як-бы не прыкмячаў гэтага. Ён, не спяшаючыся, ішоў па лесе, прыпыняўся, прыслухоўваўся да птушынага гоману. Хораша было тут! Усё спявала, цвіло дзівоснымі фарбамі.

Неўзабаве дрэвы расступіліся — і ўдалечыні бліснула люстрам лясное возера.

Юнак цешыўся прыгожым поўкругам берага — у адным баку роўным, пясчаным, а ў другім — высокім, з густым маліннікам. І раптам убачыў: над кручай сядзела дзяўчына.

Алег падышоў да дзяўчыны і спыніўся ў нерашучасці. Яна не магла не чуць, што нехта спыніўся за яе спіной, але не звяртала на гэта ніякай увагі.

Возера было спакойнае, маўклівае. На яго паверхні, унізе пад кручай, як у люстры, віднелася постаць дзяўчыны. Алег сумеўся. Які ён нездагадлівы: дзяўчына, не павярочваючыся, бачыла яго, наглядала за ім!

— Добры дзень! — сказаў ён, падышоўшы да самага берага. — Вы не баіцёся навальніцы? Ля вады небяспечна сядзець — можа трапіць маланка.

— Вы не хвалюйцеся за маё жыццё, — адказала дзяўчына, не пазіраючы на Алега, — можа, яно нічога не варта...

— Навошта-ж гэтак? — запярэчыў хлопец. — Чаму ў вас такія сумныя думкі?

Дзяўчына не адказала.

Яна відавочна хацела, каб Алег не турбаваў яе сваімі размовамі. Але хлопец не адыходзіў ад берага. Ён сарваў травінку і прымасціўся на камені.

У маўчанні прайшло некалькі хвілін. Цяжкая хмара набліжалася да сярэдзіны неба. Усё возера з краю ў край пацямнела. Подзьмуў вецер. Азёрная роўнядзь пакрылася хвалямі. Паветра стала вільготнае, свежае, водырнае.

І вось дзве маланкі — адна ў небе, другая ў вадзе — бліснулі ярка і размашыста. Амаль у тую-ж хвіліну грымнуў гром. З кручы пасыпаўся пясок.

Алег зірнуў на дзяўчыну. Яна не зварухнулася, быццам нічога не чула. «Што за ўпартасць? — падумаў юнак. — Набліжаецца навальніца, а яна і не кранецца...»

Удалечыні над возерам павісла мутная сетка дажджу. Алег падхапіўся, крануў дзяўчыну за плячо.

— Вы-ж прамокнеце? — сказаў ён.

Дзяўчына зірнула хлопцу ў твар і, абапёршыся на яго руку, устала.

Пасыпаў дождж, буйны і густы.

— Бяжым, схаваемся! — закрычаў Алег і схапіў дзяўчыну за руку. Яна маўкліва пабегла за ім.

Юнак заўважыў нахіленую з раламі сасну, і яны нырнулі пад яе густы шацёр. Толькі цяпер юнак разгледзеў сваю спадарожніцу. На ёй была простая сукенка ў гарошыну, на плячах — сіняя касынка. Але чаму такі журботны яе позірк? Што прывяло яе ў такую пару на бераг ляснога возера?

І яму раптам захацелася быць разам з ёю, ісці па гэтым лесе ўвесь дзень і ўсю ноч без дарог і сцежак, напрасткі, любавацца зорамі дыхаць цёплымі ранішнімі туманамі...

Дождж спыніўся гэтак-жа нечакана, як і пачаўся. Выглянула сонца, і ўсё навокал заблішчала.

Дзяўчына павярнулася да Алега.

— Бывайце! — кінула яна і сіняватым воблачкам мільганула між бярозак.

У гэты час Алег заўважыў, што дождж прайшоў і навокал зноў была цішыня. А дзе-ж дзяўчына?

— Чакайце! — устрапянуўшыся, крыкнуў ён і заспяшаўся за ёю.

Але адразу спыніўся. Ён не заўважыў, куды знікла дзяўчына. Яе ўжо нават не відаць.

Доўга Алег не мог уцяміць, як усё гэта здарылася. Прыгожая лясная чараўніца была побач — і вось няма яе. Ён не ведае нават яе імя. Ці сустрэнуцца яны калі-небудзь? Алегу раптам стала сумна.

Непадалёку хвалявалася возера, недзе ў гушчары кугікала птушка. Хоць вакол было столькі хараства і радасці, Алег нібы не заўважаў гэтага.

* * *

Алег прышоў у пакой, закурыў. Ля акна на ложку спаў Віктар. За акном палала вячэрняе неба. Высока над лесам уздымалася густая пара: абмытая дажджом зямля дыхала ў неба. Яно было чыстае, высокае. Усе хмары спаўзлі да небасхілу і ляжалі там, парваныя на шматкі. Тады ён расчыніў акно. Густое паветра адхінула фіранкі, паплыло ў пакой. На ложку заварушыўся Віктар.

— Уставай, вячэру праспіш, — папярэдзіў Алег сябра.

— Я, брат, усё праспаў, нават не чуў навальніцы. Затое не будуць скардзіцца дактары. Заўтра буду ў поўнай форме.

— Днём выспаўся, а ноччу зноў куды-небудзь пойдзеш...

— Нікуды не пайду, даю слова.

— Віктар, — раптам запытаўся Алег, пазіраючы ў акно, — ты сустракаў калі-небудзь лясных чараўніц? Дзяўчат, глядзець на якіх хацелася бясконца.

— Дзівак, гэта табе толькі здалося, што ў цябе такое жаданне, — з паблажлівай усмешкай заўважыў сябра. — Усё ў жыцці надакучае. Нават самыя прыгожыя дзяўчаты...

Алег павярнуўся, нездаволена нахмурыў бровы.

— Памыляешся, Віктар. Вось я ўбачыў сёння дзяўчыну, дык і спаць, мабыць, не буду. Гэта — кавалак сонца, вогненны і прамяністы, гэта ціхая, крыштальнай чысціні крыніца.

— Ну, брат, я бачу, ты нарэшце закахаўся. І павінен сказаць — па самыя вушы. Якая-ж яна з выгляду?

— Смуглявая, вочы цёмныя, даверлівыя, бровы чорныя так і выгінаюцца, уздрыгваюць, косы ўкладзены вянком...

— Пачакай, пачакай! — раптам перабіў яго Віктар. — Гэтую дзяўчыну завуць Наташай?

Алег паціснуў плячыма. Віктар у нецярплівасці падбег да яго.

— Ды гавары ты — яна? Так?

— Не ведаю, — развёў рукамі Алег. — Можа і яна...

Віктар весела зарагатаў.

— Вось дык пазнаёміўся! Імя дзяўчыны не ведае! Ха-ха-ха!

— А ты не смейся, — сказаў з дакорам Алег. — Гэта было незвычайнае знаёмства. Хоць дзяўчыну гэтую я можа ніколі больш не сустрэну, але памятаць яе буду доўга...

— Ды кінь ты, хлопча, у воблаках лётаць! Прызямліся!

— Табе не зразумець мяне, — уздыхнуў Алег.

## Раздзел дванаццаты

— Вы будзеце багатым — у вас ёсць нахабства, — сказаў сенатар Уолтэр, запрасіўшы да сябе Поля Арноля. — Паважаю такіх людзей, цаню. Мая дачка гаварыла са мной, і я згодны на ваш палёт. Дай руку, Поль. Вітаю з будучым поспехам!

З сенатарам зрабілася нешта незвычайнае: ён стаў ласкавы, уважлівы, на дзіва вясёлы. Поль паверыў у шчырасць гаспадара. Што ні кажы, сэрца не камень, ён не мог быць ворагам сваёй дачцы, перадумаў аб усім, памякчэў.

Яны доўга і падрабязна гаварылі аб будучым палёце.

— Ты павінен для гэтай дарогі мець самае галоўнае — здароўе. Як сябе адчуваеш?

— Містэр Уолтэр, каб тут былі ільвы, я наглядна паказаў-бы гэта. А так, калі пахвалюся, вы не паверыце.

Сенатар лагодна ўсміхнуўся.

— Што ні кажы, ты, Поль, добры хлопец. Не дарэмна цябе пакахала Элсі. Праўда, у цябе ёсць недахоп — беднасць, але гэта нічога, ты будзеш шчасліўчыкам.

— Значыць, мая кандыдатура пэўная? — перапытаў Поль, баючыся, каб сенатар не перамяніў сваёй думкі.

— О, так!

— І я магу аб гэтым сказаць Элсі?

— Вядома. Дарэчы, я паклічу яе сюды.

— Я шаную ваша давер'е. Тысячу разоў дзякую за гэта!..

У гэты момант дзверы расчыніліся, і сівы лёкай нізка пакланіўся.

— Паклічце міс Элсі, — загадаў яму сенатар.

Хутка яна ўвайшла — у белай сукенцы, шчаслівая, радасная.

— О, мілы Поль! Па вачах бачу ты добра пагаварыў з па, — сказала яна, сядаючы побач з ім.

— Так, ты ўгадала — я адчуваю сябе сапраўды на небе, — згадзіўся Поль. — Цяпер усё вырашана — мы будзем разам! Ці не так, містэр Уолтэр?

— Сэр, я даў слова і выканаю свой бацькоўскі абавязак. Элсі, моцна любі гэтага хлопчыка. Ён непакорны, задзірысты, прагавіты. За ім трэба добрае вока.

— Па, я сёння шчаслівая. Загадай, калі ласка, накрыць стол.

Яны разам увайшлі ў невялікую гасціную. Пакуль гаварылі аб розных гарадскіх навінах, лёкай з незвычайнай спрытнасцю падаваў на стол закуску.

У пазалочаных вядзёрках, напоўненых лёдам, стаяла шампанскае, асобна былі пададзены віны з французскіх і іспанскіх склепаў.

— Гэты маленькі банкет дазвольце адкрыць, — сказаў, лагодна ўсміхаючыся, сенатар, — тостам за перамогу нашай вялікай справы, за славу Штатаў.

Элсі прыемна было бачыць, як бліснулі вочы Поля. Ён ахвотна выпіў і старанна заняўся смажаным фазанам.

Пасля віна размова пайшла больш жвава. Поль Арноль загаварыў з пахвальбой.

— Я не сумняваюся, што апраўдаю давер'е нашага прэзідэнта, нашага народа. Гісторыя Зямлі, можна лічыць, ужо закончана. З гэтага часу пачынаецца гісторыя Месяца. І створым яе мы, сыны Штатаў. За Месяц, за пяць мільёнаў долараў, Элсі!

Яе тонкія вусны раскрыліся, і твар асвяціўся ўсмешкай.

— Мой харошы хлопчык, ты сёння двойчы шчаслівы! — сказала Элсі і, нахіліўшыся, пацалавала Поля ў шчаку.

Пасля абеду Поль з Элсі на паветраным аўтамабілі накіраваліся на пагулянку за горад.

...Прайшло два месяцы. Поль заняўся вывучэннем касмічнай ракеты, сакрэтамі яе кіравання. У экіпаж разам з Полем трапілі яшчэ два хлопцы — Макс Вэл, былы рыбак, і негр Роб Пітэрс. Поль займаўся асобна ад іх, ён быў капітанам касмічнага карабля.

Напярэдадні адлёту Поль рашыў пагаварыць са сваімі спадарожнікамі. Яны сустрэліся на ракетадроме ў бары, дзе загадзя быў падрыхтаваны столік.

— Вы будзеце мне вельмі карыснымі ў нашым падарожжы, — адразу сказаў Поль, калі ўсе члены экіпажа сабраліся за сталом. — Мы адкрыем для людзей новы свет, мы паб'ем казырны туз іспанца Калумба, якім ён засланяў любое адкрыццё. Джэнтльмены, — ён перавёў дыханне і прамовіў горача, з энтузіязмам: — Мы не толькі адкрыем новы свет, мы пасыплем нашы жыццёвыя сцежкі доларамі. Макс Вэл, кім ты быў раней?



Ён стаў на рукі на першай парце і так прайшоў увесь рад, да самай апошняй парты. Хлопцы былі ў захапленні. Слава высока трымаў гонар тых, хто наважыў прысвяціць сваё жыццё высокароднай вайсковай справе.

Але Вераніка не толькі не ўхваліла гэтага ўчынку, а нават зняважыла Славу.

— Не вялікі гонар падняць ногі вышэй галавы, — сказала яна. — Збіраешся паступаць у цырк, то навошта скакаць па партах...

Горш абразіць было нельга. З гэтага часу пайшла ўжо адкрытая вайна Веранікі са Славай. Не праходзіла дня, каб яны не абмяняліся якімі-небудзь ўзаемнымі колкасцямі. Вераніка зневажала Славу, як магла. Яна высмейвала кожны яго крок, кожнае яго слова. Слава не заставаўся даўжніком. Ён таксама не шкадаваў з'едлівых кепікаў у адрас Веранікі. Так яны закончылі дзевяты клас.

У дзесятым класе працягвалася тое-ж самае. Вераніка не прызнавала за Славай ніякіх дадатных якасцей. Яна яго падкалвала яшчэ больш, чым раней. Хлапец плаціў дзяўчыне тым самым. Але дзесяцікласнікі паразумнелі. Хітрыя ад прыроды дзяўчаты хутка скемілі, што гэта ідзе вайна не так сабе. Здагадка паміж тым пакрысе пацвярджалася. Калі Славе намякалі, што ён няроўнадушны да Веранікі, то хлопец адразу мяняўся з твару. Ён чырванеў, гарачыўся, бянтэжыўся і гэтым самым выдаваў сябе з галавой. Ліда Шашолка проста не пераносіла Веранікі. Яна заўсёды станавілася на бок Славы ў яго паядынках з Веранікай, але гэтай падмогі Слава быццам не заўважаў.

Пасля аднаго выпадку мы пераканаліся, што і Вераніка нападае на Славу не проста так. На кастрычніцкія святы ў школе быў наладжаны вечар. На яго прышлі не толькі вучні, але і выпускнікі школы, якія вучыліся цяпер у інстытутах. На вечары быў і свой школьны лейтэнант. Ён закончыў дзесяцігодку два гады назад і прыехаў у Малінаўку на пабыўку. Вераніка прышла на вечар у новым плацці, і з яе не спускалі вачэй ні студэнты, ні лейтэнант. Усе запрашалі Вераніку танцаваць. Але яна адмаўлялася. Яна сядзела ціхая і задуменная. Такой яе не бачылі ніколі.

Быў на вечары і Слава. Ён сеў побач з Лідай Шашолкай, і яны аб нечым доўга размаўлялі. Пасля пайшлі танцаваць. Ліда танцавала ўвесь час са Славай. Ім здавалася, што абаім было вельмі весела.

Вераніка не дасядзела да канца вечара. Яна знікла неяк ціха і непрыкметна. Ніхто не бачыў, калі яна пайшла...

Пасля гэтага Вераніка перамянілася. Яна стала нейкай строгай, задуменнай. На Славу яна болей не нападала. Яна проста старалася яго не заўважаць.

Пра тое, што паміж Славай і Веранікай нешта ёсць, цяпер ужо ведаў увесь наш клас. Толькі гэта былі нейкія дзіўныя, незразумелыя адносіны. І Слава і Вераніка пазбягалі адзін аднаго, ніколі паміж сабой не размаўлялі і не сустракаліся. З нашага дзесятага класа болей ніхто не быў закаханы, і мы з трывогай глядзелі на гэтых дваіх, якія так упарта таіліся адно ад другога.

Так прайшоў той апошні год нашага навучання ў школе. За гэты год мы ўсе пасур'ёзнелі і сталі трошачкі болей шанаваць адзін аднаго. Нам усім трэба было рабіць нейкі крок у невядомае жыццё, і гэта прыкметна зблізіла, з'еднала клас. Толькі Слава і Вераніка па-ранейшаму пазбягалі паміж сабой сустрэч і размоў.

Надыходзіў май, наш апошні школьны май. Усім класам мы згаварыліся пайсці ў лес па дзеразу. Гэты паход у лес мы прыдумалі не толькі для таго, каб нарваць лапак і ўпрыгожыць сваю школу, мы хацелі як-небудзь звясці Славу з Веранікай і пакінуць іх дзе-небудзь адных. Няхай-бы яны нарэшце памірыліся. Хопіць ім гуляць у хованкі...

Свой план мы здзейснілі. Мы зрабілі так, што Слава з Веранікай асталіся ўдваіх на адной дзялянцы. Яны проста не маглі не пагаварыць адно з другім. Мы радаваліся, што яны нарэшце паміж сабой аб усім дамовяцца.

Але ніякай добрай гаворкі паміж Славай і Веранікай, відаць, не адбылося. Слава выйшаў з лесу маўклівы і змрочны. Веранікі мы наогул не маглі дачакацца. Яе ў лесе не было...

Мы неслі ў школу дзеразу і размаўлялі аб усім пабочным. Адчувалі сябе ўсе няёмка. Каля рэчкі нас дагнала Вераніка. Яна была вясёлая, узбуджаная. Слава на дзяўчыну не глядзеў. Вераніка весялілася, а ён становіўся ўсё болей змрочным...

З гэтага часу ўсё зноў пайшло па-ранейшаму. Вераніка пры ўсякім выпадку падкалвала Славу, высмейвала і пацяшалася над ім. Толькі Слава цяпер маўчаў. Нешта нібы звязала яму язык. Мы думалі, што гэтым незразумелым адносінам не будзе канца.

Але канец наступіў. Ён наступіў нават раней, чым яго чакалі. Наш дзесяты клас вытрымаў свае апошнія экзамены, і цяпер ішла падрыхтоўка да развітальнай урачыстасці. Вераніка, Слава і Валерый Самасад заслужылі атэстаты выдатнікаў, а ўсе астатнія самыя звычайныя атэстаты. Гэтыя атэстаты нам павінны былі выдаць на школьным вечары. Мы, чатырнаццаць хлопцаў, свайго намеру не змянілі. Мы збіраліся паступаць у ваенныя вучылішчы.

Але вечара ў той год не было. Атэстаты нам аддалі без ніякай урачыстасці. Пачалася вайна, напаў Гітлер.

Усіх хлопцаў на трэці дзень вайны выклікалі ў ваенкамат. Нам знялі машынкай прычоскі і ўсім шаснаццаці загадалі быць вечарам на станцыі. На станцыю прышлі праводзіць нас усе дзяўчаты дзесятага класа. Прышла і Вераніка. Яна стаяла ў купцы дзяўчат маўклівая і, здавалася, нават спалоханая. Дзяўчаты гаварылі, жадалі нам хуткай перамогі і звароту дамоў, а яна маўчала. У яе не было для нас ніякіх слоў.

Мы і на гэты раз здагадаліся, што трэба зрабіць. Мы трошкі адыйшліся ўбок з такім разлікам, каб Вераніка асталася адна са Славай Загароўскім. І яна асталася. Вераніка нешта гаварыла Славе, яна была ўсхваляваная і ад гэтага яшчэ болей прыгожая. Але нам было няёмка падслухоўваць чужую размову. Пагэтаму ніхто не ведаў, што сказала

тады Вераніка Славе. Мы толькі бачылі, як яна паправіла на штрыфелі славінага пінжака значок «Юны варашылаўскі стралок».

Такой Вераніку мы запомнілі назаўсёды. Болей яе нам не прышлося пабачыць. Нас вярнулася з вайны жывых толькі шасцёра, і ўсё-ж мы не змаглі абараніць Веранікі. Яе расстралялі фашысты ў нашай Малінаўцы яшчэ ў сорак другім годзе за тое, што яна друкавала на машынцы лістоўкі. Расстралялі Вераніку каля самай рэчкі, у бярозавым гайку, там яна і пахавана. Мы, шасцёра, хто прайшоў вайну і астаўся жывым, помнім Вераніку. Але двое нашых, мабыць, не толькі помняць яе. У Малінаўку сяды-тады прыязджае Слава Загароўскі. Ён цяпер падпалкоўнік і ў яго на скронях лёгкая сівізна. Слава жанаты, у яго двое дзяцей. Але на бераг нашай невялікай рэчкі, дзе пахавана Вераніка, ён прыходзіць заўсёды адзін. Ён падоўгу ходзіць там і пра нешта думае.

Прыходзіць на гэты бераг, калі прыязджае ў Малінаўку, і другі чалавек — Валерый Самасад. Ён цяпер дацэнт. Тады ў дзесятым класе ніхто з нас не здагадваўся, што Валерый таксама кахаў Вераніку.





**Генадзі БУРАЎКІН**

Генадзі Бураўкін нарадзіўся ў 1936 годзе на Полаччыне ў сям'і служачага. Цяпер ён займаецца на аддзяленні журналістыкі Беларускага Дзяржаўнага ўніверсітэта імя В. І. Леніна.

Першыя вершы І. Бураўкіна з'явіліся ў 1953 годзе на старонках полацкай абласной газеты «Сцяг камунізма».

Пасля яго творы друкаваліся ў «Полымі», «Беларусі», «Маладосці», «Чырвонай змене». Ніжэй змешчаны новыя вершы Г. Бураўкіна.

# ЛЯ ПАРТЫЗАНСКІХ СЦЯГОЎ У МУЗЕІ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ



Яны выцвілі у дыме боек,
Ля агню партызанскіх кастроў
І прынеслі у залу з сабою
Родны пах беларускіх бароў.

І між іх ёсць адзін, запаветны,
З пахам хвой і купальскіх траў,
Той, які перад часам смертным
Бацька мой цалаваў.

Можа, гэты, прабіты куляй,
Край яго ад крыві парудзеў.
Да яго працягнуў руку я,
Каб прыціснуць яго да грудзей,

Каб узняць, яго, як мой бацька,
Стаць насустрач нягодзе любой...
Толькі раптам: «Не дакранацца
Да музейных сцягоў рукой!»

Гэта вы вартаўнік? Прабачце.
Я у вашага сцяга ў гасцях.
Гэта, пэўна, яго мой бацька
Перад смерцю схаваў на грудзях.

Я знайшоў яго між сцягамі,
Гэты самы звычайны з сцягоў.
Калі нельга рукой — губамі
Мне дазвольце крануцца яго.

# ЗІМНЯЯ НОЧ У ПОЛАЦКУ


Я люблю тваю дзіўную зімнюю ціш,
Твае казкі начныя, мой горад.
Хто сказаў, што ты ноччу маўчыш?—
Ты не спіш.
Ты са мною гаворыш.

Толькі ўслухацца лепш у марозны спакой,
Толькі вочы закрыць на хвіліну —
І я чую дыханне далёкіх вякоў
І забытыя песні-быліны.

І не проста ўжо рыпнуў запознены крок
І дымком пацягнула ад фабрык —
Гэта рыпнуў Скарыны друкарскі станок
І запахла друкарскаю фарбай.

Рукавом выцер потны, задумлівы твар,
Стаў на ганку пад лютаўскім ветрам,
З хрустам плечы расправіў стамлёны друкар,
П'е начное паветра.

А ад Верхняга Замка спяшае сюды-ж
Пётр Першы, суровы і горды.
І не дуб недзе крэкнуў, парушыўшы ціш, —
Зарыпелі пятровы батфорты.

Хто сказаў, што тут ноччу няма ні душы,
І ўсё гэта рамантыка ўрэшце —
Толькі снег зарыпіць, зазвіняць ледашы
І нікому з магіл не ўваскрэсці?

Не, прыслухайся лепш: не ільдзінкі звіняць —
Гэта шаблі аб ківеры звоняць,
Гэта цяжка даецца французам Дзвіна,
Гэта падаюць ворага коні.

І таму я люблю слухаць зімнюю ціш,
Твае казкі начныя, мой горад.
Хто сказаў, што ты ноччу маўчыш? —
Ты не спіш.
Ты са мною гаворыш.

* * *



вочы твае сінія
Хлопцы не глядзеліся,
А вішнёвай чырванню
Губы пунсавеліся.

І таму паверыў я
У цябе залішне мо'.
Толькі ты даверыла
Сэрца сваё іншаму.

І як кветку раннюю,
З холадам нязвыклую,
Сэрца тваё зраніў ён,
Зледзяніў і выкінуў.

Ад бяды нязведанай
Раптам ты паблекла ўся:
Сталі губы бледнымі,
І каса пасеклася.

Пазіраеш рэдка ты
На мяне з надзеяю,
Ды цябе і гэткую
Разлюбіць не ўмею я.



Ігнат ДУБРОЎСКІ

# МАРСКАЯ ХВАРОБА НА СУШЫ

**Апавяданне**

Мал. А. Паслядовіч.

Не думайце, што я так ціха пражыў свае гады. Чаго варта ўжо тое, што, не плаваючы па моры, я перахварэў на марскую хваробу. Можа пагэтаму і ўзнікла патрэба напісаць апавяданне пра адзін выпадак без ніякіх там адгаворак. Толькі не ведаю, як і з чаго пачаць. Словам, няхай ідзе так, як падасць перажытае памяць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

За сцяною прыглушана гучаў жаночы альт. Мінорны тон песні я больш чуў не праз сцяну, а праз адчыненае акно. І песня гэтая напаўняла сумам не толькі маё сэрца, але мой пакой, палоску стракатага поля, сіні ў далечыні лясок, бялёсае вераснёўскае неба, ледзь прыцярушанае высокімі перыстымі аблокамі, — усё, што было відаць праз маё акно.

Жанчына выходзіла ў калідор, і тады песня пачынала гучаць мацней, але яе мелодыя перарывалася бразгатам керагаза і пасуды, таму словы разабраць было нельга. Па бразгату пасуды, па голасу і прыцішаных кроках я ўяўляў жанчыну маладой, прыгожай, разумнай, бадзёрай, — чалавекам, які ўмее пераадольваць дробныя нягоды жыцця. У такой

жанчыны павінны быць чыстыя пачуцці. Прага такіх пачуццяў, жаночай душэўнай сілы можа і ёсць мой сум. Нейкі час мне здаецца, што голас яе, хвалюючыя нюансы песні і сама песня несумяшчальны са звонам пасуды. А раз яна ўмее гэтак спяваць, перамываючы посуд, значыць гэта — моцны чалавек. Я параўноўваю створаны мною характар і вобраз жанчыны з вобразам тае, з якой мы апынуліся на розных берагах. Перадумваю ўсё, што здарылася, і галава мая робіцца цяжкай, напаўняецца густым шумам. Я кладуся на ложак і адчуваю, як ные сэрца. У мяне заўтра лекцыі, але рыхтавацца да іх няма ахвоты. Мною авалодвае згубная абыякавасць, і ў галаве застаецца толькі адна-адзіная думка:

— Чаму так здарылася? Хто вінават: я ці яна? Я кахаў яе. Не, я кахаю яе і цяпер. І яна кахае мяне. Я выракся кахання, цаною яго заплаціў за спакой жыцця і не знайшоў яго. І вось гэтая песня з-за сцяны ўзрушыла ва мне ўсё, давяла да хваробы, якую ніякі доктар не распазнае і не вылечыць.

Назаўтра раніцою ў калідоры я сустрэў жанчыну гадоў пад паўсотні, але на дзіва маладжавую, са стройнымі, па-маладому прыўзнятымі плячамі. Яна была прыгожая, з яснымі, праўдзівымі вачамі. На мой паклон яна адказала запытаннем:

— Новы сусед? Адкуль? Факультатыўна ці на сталую работу? У вас мо' пасуды няма, то калі ласка, — убачыўшы, што я толькі з адной мыльніцай у руках, прапанавала яна.

У гэты момант у мяне ўзнікла жаданне бліжэй пазнаёміцца з гэтай жанчынай і праз яе дазнацца, хто так спявае ў мяне за сцяной і муціць для мяне белы свет.

Жанчына наліла ў графін вады, яшчэ раз напомніла аб тым, што я магу карыстацца яе пасудай і, адышоўшыся, ціхенька заспявала.

Я не ўлавіў слоў песні, але адразу пазнаў яе. Калі жанчына зачыніла дзверы, я нейкі час стаяў, як утрапёны. Потым, не выпіўшы нават чаю, пайшоў чытаць лекцыю.

* * *

Увечары зноў за сцяною гучала песня, зноў муціў мяне непазбыўны сум. Усё-ж я перамог сябе і сеў за работу, але ў маім пакоі не знайшлося чарніла, і я ўзрадаваўся шчасліваму выпадку, які даваў магчымасць пастукацца да суседкі. Я пайшоў да яе.

— Сядайце, — сказала яна. — Чарніла знойдзем. Значыць, мы — суседзі. Будзем знаёмы, — і назвала сябе Валерыяй Андрэеўнай Яворскай.

Яна паўтарыла ўслед за мной, прыслухоўваючыся да свайго голасу, каб запомніць маё імя і прозвішча:

— Ага, Віктар Андрэевіч Саўчук. Прыемна. Чарніла знойдзем. Што выкладаеце? Фізіку? Я — англійскую мову. Муж — дацэнт кафедры геадэзіі. Затрымаўся са студэнтамі на вытворчай практыцы. Хутка прыедзе, — расказвала яна, выціраючы пасуду.

Гэтую маленькую работу, як здалося мне, яна рабіла лёгка і весела. Кончыла выціраць, злажыла талеркі, шклянкі, сподачкі грудкай на буфеце, зняла сіні ў чырвоныя з белымі кветкамі фартух і села да стала насупраць мяне.

— Сумуеце? Жонку пакінулі? Хутка прыедзе?

Зблізку твар яе быў яшчэ больш прыветлівым і светлым. Гэтую светласць яму надаваў высокі валік завітых валасоў над ілбом, на якім павуцінкай пралеглі маршчынкі.

Шчырасць і спагадлівасць жанчыны патрабавалі ад мяне таксама шчырасці.

— Мусіць, зусім не прыедзе жонка... — адказаў я.

Яна аж хіснулася назад, нібы пачула нешта страшнае, і паглядзела на мяне акругленымі сінімі вачамі.

— А чаму не прыедзе? — спалохана спытала яна.

— Не ведаю, — прызнаўся я.

— Кахалі адзін аднаго? Моцна?

— Моцна і шчыра, але ўсё абарвалася.

— Так і абарвалася? Не паверу! Я заўважыла ваш непакой, ваш сум. Нейкую няпраўду адчувае ваша душа і не хоча мірыцца з ёю. І сум ад гэтага.

На маё шчасце, прыйшлі дзеці са школы — дзяўчынка гадоў пятнаццаці, цыбатая, у кароткім карычневым плацці і белым фартушку, і хлопчык трохі меншы, шырокалобы, з вострым падбародкам. Маці пайшла ім насустрач. Я ўзрадаваўся гэтаму і выйшаў. Настрой мой перамяніўся. Не, не супакоіўся, проста маё хваляванне стала не такім вострым. Мне захацелася расказаць гэтай жанчыне ўсю праўду. І я расказаў ёй у другі раз усё, што было ў нас з Людмілай.

— Пачніце з першай сустрэчы, — папрасіла яна.

— У нас не было першай сустрэчы.— Я казаў праўду: першая мая сустрэча з Людмілай загубілася ў тлуме інстытуцкіх калідораў. Я не магу прыгадаць, як і калі запомніў яе сярод іншых студэнтак, з якімі хадзіў на заняткі.

Маленькі пакойчык інтэрната, чатыры на чатыры метры, адно акно, дзве ніжнія шыбы захінуты газетай. Каля акна — невялічкі столік, на ім — груды кніг, газеты, шклянка, пачаты пачак цукру з раскіданымі па стале дробкамі, непрыбранае лушпінне яек, соль на шматку паперы, гальштук і бог ведае, што яшчэ. На падаконніку — таксама кнігі, газеты, канспекты. На спінцы крэсла — мой гарнітур. На падлозе галошы і шкарпэткі. Я моцна прастудзіўся і другі дзень ляжу ў пасцелі.

Вечарэла. Праз акно відаць асенні захад сонца. Яно, чырвонае, без праменняў, павольна апускалася сярод агністых нерухомых хмар. Пад акном стаяў клён, абрабаваны дажджамі і ветрам. Толькі на самай вяршыні яго сям-там ліпела жоўтае лісце. Мне ў тую хвіліну хацелася ўспомніць найлепшага друга і найшчаслівейшы момант у жыцці.

Стук у дзверы. Заходзяць трое студэнтаў — дзве дзяўчыны і хлопец. Я быў збянтэжаны гэтым наведваннем майго пакоя выхаванцамі, якіх я апярэдзіў ва ўзросце гадоў на пяць-шэсць. Сярод траіх была і Люда Лазоўская. Люда села на крэсла ў маіх нагах, і я добра бачыў яе. Залацістыя валасы, карыя вочы, прыпухлыя губы. У твары дзяўчыны я заўважыў нешта новае, нібы яна нешта прадчувала, чакала чагосьці важнага. Я шмат разоў бачыў гэты твар, але сёння ён здаўся мне новым, іншым, на ім адбіліся нейкія душэўныя змены, нейкая ўзнёсласць. На твар дзяўчыны ўпаў прамень заходзячага сонца, і мне здалося, што аблічча яе стала яшчэ болей адухоўленым. Мне стала радасна.

Мая ўзбуджанасць прайшла не адразу. Хвароба абвастрыла ўражанні, і мне чамусьці асабліва ласкавай здалася даўно знаёмая Люда.

— І вы закахаліся? — перабіла мяне Валерыя Андрэеўна.

— Не ведаю, ці з таго наведвання. Але ў той вечар і назаўтра я адчуваў вострую патрэбу ў прысутнасці Люды і чакаў кожную хвіліну, што вось-вось яна зойдзе.

— А яна не прышла... — упэўнена сказала мая суседка.

— Не прышла. Паправіўшыся, я сустрэў яе і адразу спытаў, чаму яна болей не заходзіла. Яна адказала: «Хацела, ды адной няёмка было». З таго часу мы пачалі сустракацца штодня і нарэшце зразумелі, што жыць адно без другога не можам. Мы пажаніліся, згулялі вяселле на новы год і пасяліліся ў маім пакойчыку.

— І былі шчаслівы? — спытала Валерыя Андрэеўна.

— Вядома! Каб вы бачылі, як змяніўся гэты пакойчык, як змянілася маё жыццё! Мы былі заўсёды разам. Нас разлучала толькі работа і вучоба. Але... — я змоўк, мяне ахапіў сорам.

— Што-ж далей? Што здарылася? — настойліва пытала Валерыя Андрэеўна. — Якую-небудзь дробязь вы ўзвялі ў квадрат...

Не, гэта была не дробязь, гэта было нешта вельмі і вельмі важнае. Я перамог нялоўкасць і сказаў:

— Я вам раскажу ўсю праўду, Валерыя Андрэеўна, хоць, можа, і не маю на гэта права. На прадвесні Люда прызналася мне, што яна будзе маці. Я ўзрадаваўся. Яна радасць маю прыняла насцярожана, праз некалькі дзён засумавала і аднойчы сказала мне, што раджаць не хоча.

Мне прыгадаліся сцэны тых дзён у нашым шчаслівым пакойчыку. Люда ў зялёным пярэстым халаце, непрычэсаная, са збітымі валасамі. Павекі чырвоныя, пад вачамі цмяныя плямы ад плачу і бяссонніцы.

— Паглядзі, якая я стала. Я павінна кінуць вучобу, стаць хатняй гаспадыняй. І куды мы дзенемся ў гэтым катуху з дзіцём? Мы яшчэ і не жылі на свеце.

Колькасць аргументаў нарастала штодня. Пачаліся істэрычныя прыпадкі, і я аднойчы на хвіліну паверыў, што загубіў яе жыццё.

Валерыя Андрэеўна ўвесь час уважліва слухала, але раптам уздрыгнула пасля гэтых слоў, як ад холаду, і сказала:

— Гаварыце, гаварыце далей....

Хтось пазваніў, яна пайшла адчыняць дзверы і з неахвотай запрасіла ў пакой нейкіх сваіх знаёмых. Гутарка наша абарвалася.

У наступны раз, калі я зайшоў да маіх суседзяў, Валерыя Андрэеўна штосьці пісала. Я толькі заўважыў яе дробненькі расцягнуты почырк. Яна як-бы сумелася, закрыла сшытак і паклала яго ў шуфляду.

— Можа я перашкодзіў?

— Ды не, што вы! Гэта я проста ад няма чаго рабіць пішу дзённік.

За дзённікам я бачыў яе пазней некалькі разоў. Мне ўжо добра стаў знаёмы яе почырк, здзіўляла толькі, што кожны раз яна бянтэжылася і хавала сшытак у шуфляду.

Апошні раз яна падставіла мне крэсла і проста спытала:

— Дык усё-ж такі яна перамагла?

— Перамагла, — пацвердзіў я. — І пазней заўсёды дабівалася перамогі і ўсё ставіла на сваім. Летам мы былі на курорце. Яна загарэла, ёю ўсе захапляліся. І нам было добра, мы былі шчаслівыя: сонца, мора, свежае паветра, гарачы пясок...

— Бачыш, а каб было дзіця, мы не былі-б тут... — сказала мне аднойчы Людміла.

Я прамаўчаў, але нешта халоднае кранула маё сэрца. Тады яно прайшло, а пазней часцей і часцей гэты лёд халадзіў мне грудзі. Калі яна прапанавала мне кастрычніцкія святы правесці дома, толькі ўдваіх, у сваім пакойчыку, я адразу згадзіўся. Цяпер гэты пакойчык, з узорнымі фіранкамі на акне, з вялікім трумо, з вазонамі, з яе туалетным столікам,

габеленчыкам на сцяне, мне быў самым утульным месцам на ўсёй зямлі таму, што са мной была Люда.

Мы не маглі быць адзін без аднаго.

Калі я спазняўся прыйсці дахаты, яна сварылася са мной.

— Ты чаго, Людачка, такая сумная? — пытаўся я іншы раз, заўважыўшы яе насупленай.

— Затое табе весела.

— Я-ж быў на занятках гуртка.

— Ты ўсюды хочаш паспець.

Мне здавалася, што я не звяртаю ўвагі на капрызы Люды, хоць яны і прычынялі мне пакуты. Але гэта толькі так здавалася мне. На самайжа справе, калі быў повад прапусціць заняткі, пайсці са сходу, або адкласці выпуск насценгазеты, я рабіў гэта. Перастаў рыхтавацца да лекцый. Не было часу. Гэта кідалася ўсім у вочы, і я пачуў аднойчы па свайму адрасу слова «пасіўнасць». Потым я і да гэтага прывык.

Улетку групе маладых выкладчыкаў прапанавалі па месяцу свайго адпачынку правесці ў падшэфным калгасе. Людачка падняла бунт.

— На табе толькі і выязджаюць! Мне трэба лячыцца, паглядзі, якая я.

Я вымушан быў адмовіцца ад паездкі ў калгас. Мы зноў трапілі на марское ўзбярэжжа. Мне ўжо так весела не было.

Нарэшце мы абрыдлі адзін аднаму.

Пад восень я не прайшоў па конкурсу на сваёй кафедры.

— Гэта ты такі, ты! — абвінавачвала мяне Людачка. — Ты са мной ужыцца не можаш, не можаш і з людзьмі.

Гэты папрок перавярнуў усё ў маёй душы.

Адносіны сапсаваліся так, што я не меў надзеі на іх выпраўленне. Гэтакім чынам я апынуўся тут.

— Страшна слухаць усё гэта, — сказала Валерыя Андрэеўна. — Адно глупства ідзе за другім і нічога сур'ёзнага. З-за глупства загінула каханне, вось бяда.

Аднойчы пры сустрэчы Валерыя Андрэеўна сказала:

— Зайдзіце сёння абавязкова. Прыехаў муж. Я вас пазнаёмлю.

Калі я прышоў да Валерыі Андрэеўны, муж яе быў дзесьці на агародзе. Праз хвілін колькі, высокі, шырокалобы, з касмылямі шэрых валасоў на палыселай галаве, ён пераступіў парог. Мы пазнаёміліся. Мужа звалі Сямёнам Васільевічам. Валерыя Андрэеўна накінула на шыю мужу доўгі вышываны ручнік, дала ў рукі мыльніцу і яны выйшлі. Першай вярнулася яна з чайнікам. Хутка прышоў і Сямён Васільевіч, умыты, з мокрай прычэсанай галавой, і адразу сеў за стол.

— Сёма, у чалавека трагедыя. Была жонка і няма жонкі. Выбачайце за прамату, — усміхнулася яна мне.

Сямён Васільевіч дробненька скалануў галавой, быццам пачуў жудасную навіну.

— А дзеці? — і ён спачувальна павярнуўся да мяне. Твар яго ў адзін момант перамяніўся, выраз яго стаў мяккі, добры, спагадлівы.

— Дзяцей няма.

— Колькі пражылі?

— Тры гады, — адказаў я.

— А чаму-ж дзяцей не было?

Я збянтэжыўся і не ведаў, што казаць. Ці гаварыць так, як я расказаў Валерыі Андрэеўне, ці проста прамаўчаць.

— Бачыце, адзін пакой, цесна ды і жонка не хацела, — так я адказаў, але гэтыя словы прагучалі страшэнна няшчыра.

— Баяліся, што з дзецьмі ў адным пакоі будзе цесна, а цяпер, без дзяцей, вам цесна ў цэлым свеце. Цесната з дзецьмі цёплая, шчаслівая. У нас іх чацвёра. Двое ў людзях, двое з намі, — нібы папракнуўшы мяне, сказаў Яворскі.

— Не толькі дзеці, Сеня. Шчаслівая пара адарвалася ад усяго на свеце, — і яна коратка перадала яму тое, што я вечарам апавядаў ёй.

Ён слухаў, глядзеў на мяне ўсмешлівымі вачыма і нарэшце сказаў:

— Вы сваё каханне адарвалі ад жыцця. Яно і змарнела. Каханне — самае найбольшае шчасце чалавека! Не зберáглі... Захварэлі хваробай, якую некаторыя імянуюць... марской хваробай на сушы.

Я, трохі здзіўлены такім вызначэннем майго стану, дапытліва зірнуў на спакойны твар Сямёна Васільевіча.

— Так, марская хвароба на сушы, звычайная хандра. Так, так. А ўсё гэта ад таго, што захацелі ўдваіх, асобна, на лодачцы жыццё праплысці. А жыццё, яно... — і Сямён Васільевіч пазыбаў рукой... — хвалюецца і часам бурліва. Лодачка няўстойлівая. І пайшло — ты вінават, ты вінавата. А тым часам так закалыхала, што аж моташна...

У маім стане кожны занадта адчувальны да крыўды. Можа мне і здалося тады, што Сямён Васільевіч трошкі з'едліва сказаў апошнія словы. Наогул, думалася мне, што ён не адчувае да мяне павагі. Хоць я яшчэ і малады, але дажыў да таго часу, калі зразумеў, што людзі ў няшчасці могуць быць і смешнымі і агіднымі, калі яны праяўляюць сваю бязвольнасць. Пазней, значна пазней, я зразумеў, што рэзкасць Сямёна Васільевіча лячыла мяне можа нават больш, чым спагада Валерыі Андрэеўны.

Тым не менш і ў той час я жыў надзеяй на ўсемагутнасць часу, спадзяваўся, што ўсё гэта пройдзе і забудзецца. Аднойчы я атрымаў тоўсты пакет. Канверт быў надпісаны почыркам Люды, і ад аднаго, што я ўбачыў знаёмыя круглыя, трошкі ўлева злёгшыя літары, страшэнна ўсхваляваўся. Я нервова парваў пакет, адтуль выпала фатакартка Люды з надпісам: «Майму каханаму дурню». Фотакартка прынесла мне такую дарагую, трошкі сумнаватую ўсмешку Люды...

Але што там, у пакеце? Я выцягнуў адтуль добры дзесятак лістоў са знаёмым мне дробненькім расцягнутым почыркам Валерыі Андрэеўны. Што за праява? Якім чынам яны знаёмы? Аб чым тут напісана? Я з прагай пачаў чытаць лісты.

«Людміла Цярэнцьеўна! Мы зусім незнаёмы. Ваш муж стаў нашым суседам, і я даведалася пра ваш разлад...» І далей Валерыя Андрэеўна апісвала ўсё, што я ёй расказаў. Напісала і свае ўласныя думкі, і думкі Сямёна Васільевіча. Было там і пра лядашчую лодачку, і пра марскую хваробу, і што наша каханне не аперлася на ўстойлівы грунт жыцця...

Дык вось яны, дзённікі Валерыі Андрэеўны! У канцы апошняга ліста была людзіна прыпіска:

«Я прачытала. Я столькі перажыла, і многае зразумела... А гэтыя пісьмы, нібы працягнутая рука... Не ведаю ні думак тваіх, ні пачуццяў, ні таго, як ты цяпер думаеш пра мяне...».

Я даў тэлеграму: «Чакаю, выязджай».

Хоць гэта было гадоў пяць таму назад, але надта памятаю сваё хваляванне. Гадзіны за тры да прыходу цягніка я прышоў на перон, бо нідзе не мог знайсці спакойнай мясціны, апроч гэтай. І спакайней адчуваў я сябе тут таму, што далей некуды было ісці. Тут адбудзецца сустрэча. Час ішоў

страшэнна марудна. Я і цяпер-бы мог расказаць вам пра ўсе драбніцы архітэктуры вакзальнага будынка.

Перад самым прыбыццём цягніка на станцыю прышла Валерыя Андрэеўна. Быў канец красавіка. Вечарэла. Паветра цёплае і свежае. А я хваляваўся так, як не хваляваўся ў дні першых нашых сустрэч. Нарэшце паказаўся цягнік. Вось ён, пяты вагон, і Люда стаіць у расчыненых дзвярах у паліто, зялёнай шапачцы блінчыкам, светларужовай кофце, радасная, усмешлівая. Яна заўважыла мяне і прыветліва махае рукой. Мне здаецца, што яна павышэла і неяк змянілася, але ў чым, не магу зразумець. Цягнік супыніўся, і Людміла...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Выбачайце, дарагія чытачы, прыдзецца часова спыніць апавяданне... Прышла наша чатырохгадовая дачка з дзіцячага саду. Вунь яна, ружовашчокая, стаіць у дзвярах, у чырвоным аксамітавым паліто, белай пухоўцы. Радасць наша!

— Ну, ідзі-ж, ідзі сюды, Нінуся. Давай, дачушка, здымем паліто. Зараз прыдзе мама з работы.

Цяпер ужо нічога не напішаш. Настаў час сямейных спраў. Дакончу другім разам.



**Віктар РАКАЎ**

# НАД МАГІЛАЮ БАЦЬКІ



На узлессі ціхім пры Сажы,
Як глядзець ад Слаўгарада ўніз,
Ёсць магілы воінаў,
Між іх —
Бацькава.
З галін жывы карніз
Там сплялі магутныя дубы.
След вайны — пад гэтаю ліствой.
Без вярхоў яліны,
Як слупы,
Сведчаць здаўна:
Быў гарачы бой
За мясціны гэтыя,
За Сож,
Дзе ў маленстве між іскрыстых рос
Я, ледзь бачны ў травах,
Басанож,
Наравіў,
Каб першы мой пракос
Спадабаўся бацьку...
Цераз луг
Я ізноў спяшаю да яго,
Быццам да жывога,
Каб удвух
Раздзяліць пачуцці столькіх год.
Зноўку з ім я,
Стомлены з дарог,
Не хлапчук малы,
А ўжо — салдат.
Як шкада,
Што я ў той час не мог
Да пляча прыціснуць аўтамат...
Сёння-ж цвёрда на рубеж я стаў,
Каб маглі шчасліва людзі жыць,
Каб ніхто ў жыцці сваім не знаў
Вось такой магілы пры Сажы.

# МАЁЙ НАСТАЎНІЦЫ



Ад ран знямогшы, за Дняпром
Я ўпаў, прынікшы долу...
І раптам праз гарматны гром
Пачуў знаёмы голас:

«Жыццё — змаганне. Той жыве,
Хто не складае крылы...»
І, абяскроўлены, ў траве,
Адчуў прыліў я сілы.

Устаў і ціхі голас твой
Пазнаў беспамылкова:
«Жыццё — змаганне...» — за табой
Пісаў я ў сшытак словы.

І ў сэрцы іх хаваў, як мог,
І захаваў дарэшты...
Са мной, дзе-б шлях мой ні пралёг,
Настаўніца, ідзеш ты.

Праз гром вайны, пажараў дым
Я воблік твой не страціў,
Бо стала ў школьныя гады
Ты мне другою маці.



**Фёдар ФЕДАСЕНКА**

# НА ПАСЕЦЫ

**Эцюд**

Мал. А. Паслядовіч.

Пчол я ўпадабаў у маленстве. Гадзінамі праседжваў каля вулля, назіраючы, як яны снуюць каля лётак, нясуць абножку: жоўтую, чырвоную, белую — «хлеб», корм для расплоду. Бывала, бацька распаліць дымакур, ускіне на галаву сетку і пойдзе на пасеку ў сад. Тут роўнымі радамі растуць вішні, кусты агрэсту і парэчак, яблыні і грушы. Пад кронамі дрэў стаяць вуллі. Захінуўшыся ў коўдру, я крочу ўслед за бацькам. Хадзіць па пасецы непакрытым, калі пачынае красаваць мак, горш, чым сядзець голым у крапіве. Пчолы, беручы нектар, п'янеюць, і тады ад іх няма ратунку. Я сяджу за кустамі і гляджу, як бацька асцярожна дастае з вулля рамкі, абтрасае пчол, заглядвае ў ячэйкі. Каля вулля пахне кветкамі, белай грэчкай, ліпай. Хочацца падысці бліжэй, пацікавіцца. Я высоўваюся з-за куста. Пчолы роем кружацца над бацькам. Крыху адкрываю твар. І раптам пчала прыліпае на носе. Я збіваю яе рукой. Коўдра спаўзае з галавы. Адчуваю пякучы боль, ускрыкваю і хутка бягу дахаты. Нос мой таўсцее, робіцца нейкім не сваім. Павекі зліпаюцца, вузеюць.

У такія дні прыходзіцца сядзець у хаце і з зайздрасцю пазіраць у акно: на вуліцы дзеці гуляюць у лапту. Спрабую паглядзецца ў люстэрка, і не пазнаю самога сябе. Пачынаю ўсхліпваць, але з такім тоўстым носам няёмка скрыўляцца ад плачу. А тут яшчэ маленькая сястрычка Марынка не дае спакою:

— Чаму ў цябе такі смешны нос? — пытаецца яна і спрабуе дакрануцца да яго пальчыкам.

Я доўга думаю, потым са злосцю адказваю:

— Зубы баляць.

У садзе было яшчэ некалькі новых, але пустых вулляў. Я рашыў завесці сваіх пчол. Як толькі наставала раніца, ішоў на сенажаць лавіць чмялёў. Пасля рабіў ім гняздо, наліваў у соты мёд і пускаў іх

у вулей. Назаўтра прыходзіў паглядзець, але мае пчолы былі ўжо нежывыя...

Шмат часу прайшло з тых дзён маленства. Я вырас, скончыў школу пчаляроў-садоўнікаў і прыехаў на працу ў калгас «Новы шлях».

У праўленні я застаў двух мужчын. Яны сядзелі за сталом і аб нечым раіліся. Я прывітаўся, таксама сеў і пачаў чакаць, калі яны скончаць размову.

— Як ты думаеш, Сцяпан, — звярнуўся мужчына сярэдніх год з хударлявым тварам да другога, з сівізною на палыселай галаве, — ці будзе што з той канюшыны, што мы пасеялі на прыдатках?

—Хто-ж яе ведае, Мартын Іванавіч, — адказаў той і, пагладзіўшы шурпатай далоняй лысіну, дадаў: — Каб сказаў — глеба дрэнная, дык не. І канюшына тая ў пояс, а неўмалотная.

Выслухаўшы іх, я зразумеў, што ўжо не першы год у калгасе высяваецца канюшына, але амаль не дае насення. Мартын Іванавіч паглядзеў на Сцяпана. Позірк яго быццам-бы гаварыў: «Што-ж ты, а яшчэ аграном!»

Потым звярнуўся да мяне:

— Вы да каго?

Я назваў сябе. Мы пазнаёміліся.

— Якраз у пару, — сказаў старшыня. — Чулі, тут мы наконт канюшыны гаварылі. Не родзіць яна ў нас.

Я падсунуўся бліжэй да стала і запытаўся:

— Якая ў вас парода пчол?

— Пчолы як пчолы. Хіба ў гэтым прычына?! Вось дайце рады, што зрабіць, каб канюшына не звялася, — паскардзіўся аграном.

— Ад пароды пчол залежыць апыленне многіх раслін, і асабліва канюшыны. Значыцца, яна дрэнна апылялася... Узяць, напрыклад, сярэднерускую пчалу. Яна не ляціць на канюшыну, а ўкраінская — наадварот. Кожны гектар канюшыны дае да ста кілаграмаў мёду.

Старшыня падпёр кулаком галаву, задумаўся. Было відаць, што цяпер яго не цікавіць мёд. Мы змоўклі. Аграном задыміў папяросай.

— Без спецыяліста, як без рук, — задуменна сказаў Мартын Іванавіч і забарабаніў па стале пальцамі.

— Ёсць адзін спосаб... — пачаў я выказваць свае меркаванні.

— Які? — старшыня ўзняў на мяне свой заклапочаны позірк.

— Зрабіць дрэсіроўку пчол.

— Як гэта? — запытаўся аграном.

— Варыцца для гэтага спецыяльны цукровы сіроп. У яго кідаюць кветкі той расліны, на якую дрэсіруюць пчол. Гэты сіроп даецца перад вылетам кожнай сям'і. У пчол выпрацоўваецца пэўны рэфлекс, і яны ляцяць на гэты самы меданос...

Мартын Іванавіч выслухаў мяне, і мы парашылі паспрабаваць гэты метад.

Мы ішлі вуліцай і размаўлялі. Пад нагамі хлюпала гразь. З кузні даносіўся звон жалеза на накавальнях. Крыху воддаль ад кузні стаяў гараж, а побач з ім пад павеццю прытуліліся жняяркі, касілкі.

У голасе старшыні чулася нейкая скарга.

— Які там рост, — гаварыў ён, закладваючы на руцэ пальцы. — Аграном патрэбен — раз, механік — два... Адным словам, калгасу спецыялісты патрэбны. З такімі «акадэмікамі», як Сцяпан, далёка не паедзеш.



Калгасны пчаляр Мікалай нешта занядужаў, і я з дня на дзень павінен быў прыняць у яго пасеку. Мне, як маладому спецыялісту, было шмат турбот. Я думаў: «А што, калі ў сем'ях, якія непаладкі?»

Вясна пазнілася. Яна была халодная, з мокрым снегам і парывістым ветрам. Але што будзе, тое і будзе. Пагутарыўшы з Мартынам Іванавічам, я прыняў пасеку.

У першы сонечны дзень зрабіў ачыстку вулляў і пачаў рыхтаваць сем'і да лёту. У некаторых вуллях былі нязначныя страты пасля зімы — гэта не трывожыла мяне. У асноўным, сем'і былі моцныя.

Але што гэта? У адным вуллі мёртвая цішыня. Каля лёткі — ні пчалы. Здымаю крышку, дастаю ўцяпленне. Саламяныя маты папрэлі. Пачынаю вымаць рамкі. На іх — ніводнай пчалы. На дне вулля шмат адмору. Соты паплеснелі, паточаны чарвямі. З рамак капае мёд. І ў гэтай кашы я заўважаю матку. Яна ледзь паўзе. Мокрая, з пакурчанымі крылцамі. Вакол яе няма світы. Асцярожна бяру і саджу яе на рамку сярод пчол, задумваюся. Што рабіць? Матка павінна ўжо чарвіць, нарошчваць сям'ю, а ў сотах няма расплоду. Захварэла, ці можа старая?

Ачысціўшы вулей, я адразу пайшоў да раённага пчаляра, які жыў кіламетраў за сем у мястэчку.

Мяне сустрэла ветлівая жанчына. На пытанне, дзе Пятро (так звалі яе мужа), яна адказала:

— Паехаў у калгас «Прамень», — і, пачакаўшы, запыталася: — А што здарылася? Вы вельмі ўстрывожаны...

Я расказаў, у чым справа.

— Не хвалюйцеся так, — выслухаўшы, сказала яна. — Прыедзе муж, дык я яму перадам...

К вечару я прышоў дадому ўзрушаны, стомлены і пачаў праглядваць літаратуру па пчалярству, але так і не знайшоў адказу на свае пытанні.

У галаву лезлі трывожныя думкі. Няма расплоду... Чаму?

Назаўтра раніцай я сустрэўся з Мартынам Іванавічам. Ён запытаўся, як у мяне ідуць справы, як адчуваюць сябе пчолы пасля зімоўкі. Аб тым, што здарылася, я прамаўчаў. У яго сваіх клопатаў было шмат. Ды мне і не хацелася прызнацца перад ім у сваёй бядзе.

Сад стаяў нерухома. Пахла карой дрэў. Я спыняўся то каля аднаго, то каля другога вулля, чакаючы, калі засвеціць сонца. Марудна ідзе час. Але нарэшце падзьмуў ветрык, разагнаў хмары. Я распаліў дыма-

кур і пачаў аглядаць слабую сям'ю. Тое, што я заўважыў, развеяла мае трывожныя думкі. Матку акружыла світа. Яна зрабілася рухавай, і ў ячэйках быў ужо аднасутачны расплод.

Як потым высветлілася, прычынай усяго быў холад. Мінулая восень была ранняй і дажджлівай. Мікалай не падрыхтаваў як належыць пасеку да зімоўкі. І я, хоць са спазненнем, пачаў уцяпляць вуллі.

Пчолы працавалі дружна. Я доўга сядзеў на кукішках каля лётак і сачыў, як яны нясуць абношку. Зараз прыходзілася чакаць, калі закрасуе агрэст, каб пачаць генеральную падрыхтоўку пасекі да веснавога медазбору.

Вечарамі я заставаўся ў будану, што стаяў у садзе, рабіў новае абсталяванне: летнія магазіны, рамкі, замяняў старую вашчыну новай.

На маіх вачах вярба і арэшнік, потым бяроза і вольха прыбраліся ў жоўтыя пацеркі. Закрасавалі першыя вясновыя кветкі, а далей зашумелі квеценню сады... Над маёй пасекай стаяў густы, духмяны пах.

...Настала гарачая пара. Як я і дакляраваў Мартыну Іванавічу, надышоў час прыняць мой метад — даваць сем'ям цукровую падкормку — сіроп.

Вось закрасавала дзікая лясная канюшына, а за ёй успыхнула чырвоным полымем лугавая. Дрэсіроўка пчол распачалася.

На пасеку кожны дзень заглядваў Сцяпан. Ён не вельмі быў упэўнены, што пчол можна прымусіць рабіць карысную справу. Сцяпан глядзеў, як я прывіваю пчолам «вучоную працэдуру», а праз гадзіну бег на прыдаткі, дзе была пасеяна канюшына.

— Ты-б зрабіў дрэсіроўку пчол усёй пасекі, — прапанаваў ён мне аднойчы.

— У гэтым няма патрэбы, — сказаў я, — зрабіць дрэсіроўку пчол усёй пасекі, значыць адарваць іх ад асноўнай работы...

Неяк аднаго разу на пасеку зайшоў Мартын Іванавіч.

— Ну, брат, пчолы роем на канюшыне, — сказаў ён.

У гэты момант я адчуў сябе перад ім, як вучань перад настаўнікам пасля першага паспяхова здадзенага экзамена.



Потым падышоў Сцяпан. На яго маршчыністым твары была радасная ўзбуджанасць. Мы прыселі каля вулля... Ляцяць і ляцяць пчолы. Яны не садзяцца, а падаюць на лётку. Другія, не дасягнуўшы яе, апускаюцца на траву, каб адпачыць. Старшыня зрывае травінку, на якой сядзіць пчала, і апускае яе на далоню. Яна з нектарам, цяжка дыхае, стамілася. Мартын Іванавіч падносіць да лёткі і кажа:

— Ёсць мёд — будзе і ўмалот.

Аграном моўчкі ў знак згоды ківае галавой.

Мы яшчэ доўга сядзім моўчкі, удыхаем густое духмянае паветра, напоенае ўраджайным пахам чырвонай канюшыны...

Янка **НЕПАЧАЛОВІЧ**

## ЗРЫВАЮЧЫ ЛІСТОК КАЛЕНДАРА



Зрываючы лісток календара,
Рука ад хвалявання не дрыжыць,
Бо мне яшчэ не скора паміраць,
А дню пражытаму — яшчэ нямала жыць.

У каляндар упісаныя дні —
Нямала дзён мы ведаем такіх,
Прайшлі яны, а слава іх звініць,
Іх рэха коціцца ў наступныя вякі.

Любы наш дзень сабой здзіўляе свет:
Адзін змог землі новыя адкрыць,
Другі — славуты універсітэт,
А трэці — атамам прасторы азарыць..

Рука ад хвалявання не дрыжыць,
Зрываючы лісток календара:
Мне выпала у дні такія жыць,
Якім не суджана ніколі паміраць.

## СОНЦА І КРОПЛЯ ВАДЫ



Сонца вялікае можа адбіцца
Ў дробненькай кроплі расы,
Кропля-расінка агнём загарыцца,
Пазычыўшы ў сонца красы.

Ды, непрыкметна зрабіўшыся парай,
Падымецца ўвысь над зямлёй,
З ветрам пакружыцца, злучыцца з хмарай,
Што сонца заслоніць сабой.

Хмара шырокая нізка навісне—
Зробіцца цёмна. Тады
Ярка, як сонца, маланкаю бліснe
Дробная кропля вады.

Зырка асвеціць зямлю бліскавіца,
Махнуўшы агністай касой.
Дробная кропелька можа дзяліцца
З сонцам сваёю красой.



Курт ШТЭРН

# СВАІМ ШЛЯХАМ

Мал. Г. Паплаўскага.

## I

Пятнаццаць год працаваў Рэнэ Рыбар аўтаслесарам. Дзесяць год, як ён ажаніўся, восем, як стаў бацькам, і пяць, як аўдавеў.

Жыў ён са сваёй дачкой на ўскраіне горада ў маленькім доміку — кухня, пакой, агародзік. Усе свае непатрачаныя пачуцці, пяшчоту і клопат аддаваў ён свайму дзіцяці — маленькай Жаржэце, якая ўдалася такой-жа бледнай і кволай, як і яе маці.

Рэнэ Рыбар жыў сціпла і ў адзіноце. Праўда, іншы раз увечары, калі дзяўчынка засынала, ён заходзіў у шынок, што на рагу, каб перакінуцца ў карты. Але яго гэта не вельмі вабіла. Ён хадзіў туды толькі зрэдку ў зімовыя вечары, калі надта ўжо марудна цягнуўся час перад сном. Адзінай сапраўднай яго ўцехай была лоўля рыбы. Прыгожай летняй парой ён кожную нядзелю ездзіў да рэчкі на веласіпедзе з рыбалоўнымі прыладамі за сядлом і дачкой на раме. І там, на беразе, ён сядзеў нерухома з люлькай у зубах і вудай у руцэ, а Жаржэта плёскалася ў вадзе або будавала з пяску каналы і гарады.

Так, сапраўды, Рэнэ Рыбар быў рыбаком з ног да галавы. У яго быў і выгляд рыбака — больш круглы, чым вуглаваты. І размаўляў ён не вельмі многа — як рыбак. І характар таксама, як у рыбака, — не вельмі бойкі, хутчэй памяркоўны. Каб вывесці яго з гэтага спакою, патрэбна было сапраўды нешта асаблівае. Тады спакой раптоўна змяняўся запальчывасцю, і ён ужо больш не помніў, што робіць. Так было аднойчы, многа год таму назад, калі ён працаваў яшчэ ў гаражы ў цэнтры горада. Увесь пасляабедзенны час ён добрасумленна стараўся залатаць стары прычэп маркі «Сітраэн», а тут увечары прышоў гэты агідны тып з гаражнага начальства і назваў яго гультаём. Тады Рыбара пакінуў спакой, і чалавек проста пляснуў гэтаму малойчыку па мордзе. З прычыны таго, што ён нанёс фізічныя пакалечанні, яго пасадзілі на восем сутак у турму, а таго тыпа з той-жа прычыны паклалі на пятнаццаць сутак у бальніцу.

Але ці часта ў жыцці рыбака бывае, што ён зусім траціць цярпенне? І Рыбар вёў мірнае, без прыгод, жыццё. Пасля таго здарэння ён знайшоў работу на вялікім аўтамабільным заводзе. І таму, што там ніхто яго не лічыў за гультая, ён вось ужо дванаццаць год з раніцы ў раніцу ходзіць уздоўж гэтай бясконцай шэрай мураванай сцяны, каб разам з двума тысячамі іншых рабочых і работніц знікнуць за велізарнай брамай.

Таварышы па працы не адчувалі да яго ні любві, ні нянавісці. Яму давалі спакойна займацца сваёй справай. Ён быў рады гэтаму і пазбягаў усяго, што магло вылучыць яго ці проціпаставіць астатнім. Толькі таму ён і таставаў разам з імі і толькі таму ён уступіў у прафсаюз. Ён павінен быў плаціць членскія ўзносы — пяць франкаў; але затое прынамсі «Маленькі Поль» пакінуў яго нарэшце ў спакоі.

Не тое, каб Рыбар меў што-небудзь супраць «Маленькага Поля». Не, ён быў зусім не дрэнны хлопец і за сваіх таварышаў па працы заступаўся ўсюды, дзе толькі мог. Аднойчы ён нават з-за яго, Рыбара, моцна паспрачаўся ў бухгалтэрыі, калі таму хацелі выпісаць зарплату па ніжэйшай расцэнцы. Але Рыбар не жадаў, каб за яго заступаліся: гэта магло прывесці да якіх-небудзь абавязацельстваў з яго боку, а ён іх баяўся. Таму і самых прыстойных, самых прыемных і самых добразычлівых людзей Рыбар цярпеў толькі тады, калі яны не дакучалі яму сваёй прыстойнасцю, прыемнасцю і добразычлівасцю.

Калі пачалася вайна, фірма, дзе ён раней працаваў, запатрабавала яго да сябе. Цяпер ён рамантаваў не аўтамашыны, а браневікі. І ў гэтым для яго была ўся розніца: у той час вайна яго мала цікавіла. А потым настала перамір'е. Горад быў заняты немцамі. «Вайна ёсць вайна», — гаварыў Рыбар. На яго заводзе камандавалі немцы. «Яны пераможцы», — растлумачваў сабе Рыбар, паціскаючы плячыма. Багатая на рыбу рака стала дэмаркацыйнай лініяй, і гарнізоннае начальства забараніла сядзець на беразе з вудай. Аднак і з гэтым прымірыўся Рыбар: «Трэба трошкі пачакаць, пакуль скончыцца вайна». А жыццё ішло — жыццё рыбака без рыбнай лоўлі.

Але нават у жыцці рыбака ёсць нешта такое, ад чаго нельга адмаўляцца, а тым больш чакаць канца вайны, — ежа. Чым даўжэй рабавалі краіну чужыя салдаты, тым больш яна бяднела. Голад пачаў грызці доўгацярпенне рыбака.

Не яго ўласны голад, не. Яшчэ-ж было дзіця, такое кволае і бледнае, аж сэрца заходзілася ад жалю. Клапаціцца аб маленькай Жаржэце, абараняць яе ад голаду стала сутнасцю яго жыцця. Што засталося ў яго на гэтым свеце пасля смерці жонкі і забароны рыбнай лоўлі, акрамя яе? Цяпер, замест ракі, ён кожную нядзелю ездзіў на веласіпедзе па навакольных вёсках, выпрошваючы масла, малако і яйкі. У гэтыя паездкі ён заўсёды браў з сабою малую, каб з дапамогаю яе дзіцячага тварыка размякчыць сэрцы сялян.

Некаторы час яму ўдавалася здабываць такім чынам самае неабходнае. Але хутка ён усё часцей і часцей пачаў паціскаць плячыма. «Больш ужо няма, — тлумачыла яму адна сялянка за другой, — яны забіраюць усё, што ў нас ёсць. Нам самім ледзь-ледзь хапае».

А дні рабіліся даўжэйшымі... і карацейшымі... Хлеба станавілася ўсё менш, галеча расла. Усё цішэй, блядней, усё больш санлівай рабілася маленькая Жаржэта. Рыбара ахапіў жах. Цяжкім кашмарам душылі яго ўспаміны. Ні начная цішыня яго каморкі, ні металічны

грукат завода не маглі вызваліць яго ад гэтага. Усе перыяды яго доўгай, адчайнай барацьбы за жыццё жонкі зноў пагрозліва ўсплывалі перад ім. Той барацьбы, што была ні чым іншым, як павольным, з падманлівымі надзеямі, адступленнем перад страшным ворагам: туберкулёзам.

Чырвонае святло заходзячага сонца ледзь прабівалася скрозь шэры асенні туман. Зябка хутаючыся, больш у сумным прадчуванні хуткага прыходу зімы, чым ад халаднаватай сырасці гэтага кастрычніцкага вечара, уздоўж бясконцай шэрай сцяны завода таропка вярталіся дадому змораныя працай людзі. Моўчкі абміналі яны нямецкіх вартавых, якія ахоўвалі фабрыку. Вуліца дрыжала ад тысячагалосага тупату драўляных падэшваў і цокання жалезных цвікоў на асфальце. Так сурова і цяжка вісеў над вуліцаю гэты грукат, што пагроза штыкоў і сталёвых шлемаў для гэтага рабочага натоўпу стала не такой ужо страшнай.

Таропка прабіваўся Рыбар скрозь чалавечы натоўп. Не больш гадзіны назад сярод грукату машын ён заклапочана і ў той-жа час з палёгкаю вырашыў: «Заўтра-ж пайду з ёю да доктара Фуркада». Вядома, у яго моцна сціснулася сэрца, калі ён падумаў аб прыгаворы ўрача. Але ён быў поўны надзеі. Магчыма, доктар зусім нічога не знойдзе. А калі знойдзе што-небудзь, то ён даб'ецца для дзяўчынкі дыэтычнага пайка: малака, масла. І ўсё можа яшчэ добра скончыцца.

З такой надзеяй, як у гэты вечар, Рыбар ужо даўно не зварочваў на сваю вуліцу. Яшчэ здалёку пачаў ён шукаць вачыма сваю дзяўчынку, якая ў гэты час, звычайна, гуляла на вуліцы з дзецьмі. Не, у гэтай шумлівай групе на рагу перад шынком, якая гуляла ў паветраную трывогу, Жаржэты не было. Рыбар кінуў паспешлівы позірк пад арку брамы Дзюранаў. Не ўбачыўшы яе і там, ён адразу накіраваўся да сваёй хацінкі.

Ён адчыніў дзверы і яшчэ з парога гукнуў:

— Жаржэта!

Ніхто не азваўся. Ён паспешліва ўвайшоў у хату. Яна сядзела ў вялікім крэсле, такая маленькая, скурчаная і бездапаможная, што ў Рыбара мароз прайшоў па спіне. У два крокі апынуўся ён каля яе і апусціўся перад ёю на калені.

— Што з табой, дачушка, ты захварэла?

Яна зірнула на яго ўстрывожана бліснуўшымі вачыма і кіўнула галавой. Рыбар паклаў сваю руку на маленькі лобік. Так, у яе тэмпература.

— Што табе баліць? — палахліва спытаўся ён.

— Горла... і ўсюды... — адказала яна і заплакала.

Рыбар падняў яе з крэсла і перанёс на ложак. Распранаючы яе, ён гаварыў ёй ласкавыя словы. Потым сеў на край ложка. Яна не кашляла. Хутчэй за ўсё гэта была прастуда, магчыма, грып. Калі заўтра раніцай ёй не стане лепш, ён прывядзе доктара Фуркада.

Доўга сядзеў яшчэ Рыбар каля дзіцяці. У хаце ўжо стала зусім цёмна, калі дзяўчынка крыху прыціхла. «Магчыма, яна заснула», — з надзеяй падумаў Рыбар і на дыбачках пракраўся на кухню. Там ён сеў за стол і падпёр галаву абедзвюма рукамі. Можа, трэба хутчэй паклікаць доктара? А мо' гэта звычайная прастуда?

Ён асцярожна падышоў да дзвярэй і пачаў прыслухоўвацца да цішыні пакоя. Дзяўчынка дыхала цяжка і няроўна, але, здавалася, яна спіць. Рыбар хадзіў па кухні ўзад і ўперад. Яго чаравікі стукалі

па каменнай падлозе. Да яго дайшоў гэты стук і раптам ён адчуў сябе— першы раз у жыцці — зусім адзінокім і пакінутым. Ніхто на яго вуліцы, у яго горадзе не думаў аб ім, не ведаў пра яго турботы. Ён можа памерці, і ніхто гэтага нават не заўважыць. Ён спыніўся і паглядзеў вакол сябе: якім грубым было дрэва кухоннай шафы, якім цвёрдым было жалеза пліты, якой халоднай і бязлітаснай была шэрая цагляная сцяна!

Рыбар зноў сеў за стол і стаў думаць пра сваю дзяўчынку, якая любіла яго і якую ён баяўся страціць. Не, — намагаўся ён супакоіць сябе, — гэта не туберкулёз. Гэта якая-небудзь хвароба з тых, якімі яна не раз ужо хварэла.

Раптам, як нажом, пацяла яго жахлівая думка: якая-небудзь хвароба... Дзе чытаў ён гэта? Ён ускочыў, пачаў капацца на паліцах і ў шуфлядах шафы, пакуль у яго руках не апынуўся ілюстраваны часопіс, які Нана некалі пакінула ў іх. Ён перагортваў старонкі паспешлівымі, няўмелымі пальцамі. Вось яно: «Наш надзённы хлеб» Медыка. Яго позірк трывожна бегаў па радках. Нарэшце ён знайшоў гэты сказ, гэты страшэнны сказ, што глядзеў на яго разважлівымі, халоднымі літарамі: «Ад аднаго голаду не паміраюць; захворваюць якой-небудзь хваробай, і аслабеўшы арганізм здаецца». Рыбар так збянтэжыўся, што зноў падышоў да дзвярэй і прыслухаўся да таго, што робіцца на ложку. Потым зноў сеў за стол. І праз кожныя пяць мінут высоўваў галаву ў пакой.

Ён нават не ведаў, колькі прайшло часу, як раптам ён уздрыгнуў, пачуўшы жаласны плач. Ён кінуўся ў пакой, запаліў святло. Балюча сціснулася сэрца. Дзяўчынка цяжка дыхала, глытаючы паветра; маленькі тварык гарэў агнём, шыйка ўспухла, шырока раслюшчаныя вочы трывожна глядзелі на бацьку.

Рыбар схіліўся над ложкам.

— Што... Мая любая... Дзе баліць?.. Хутчэй скажы мне... Хутчэй! — запінаючыся, гаварыў ён.

Задыхаючыся, скрозь слёзы, дзіця прашаптала:

— У горле...

Не памятаючы сябе ад страху, Рыбар яшчэ прагаварыў; — Пачакай, я зараз-жа прыду, пачакай, адну хвілінку... — І выбег прэч з пакоя, з дому, у ноч.

«Я зараз-жа... зараз-жа вярнуся... Божа мой! Божа!» — мармытаў ён і бег стрымгалоў. Перад ім прасцёрлася цёмная і бязлюдная вуліца. Ён бег і бег, нічога не бачачы перад сабою, ні аб чым не думаючы. «Божа мой!» — ціха стагнаў ён. Молатам стукала сэрца, яго ўдары, здаецца, скаланалі ўсё цела. Хоць ноч і была халодная, але пот градам цёк па яго твары. Ён больш ужо не мог бегчы, ён адчуваў востры боль паміж рэбрамі, але не спыняўся, а ўсё бег далей. Яшчэ два кварталы, а там і плошча, дзе жыве доктар Фуркад.

— Хальт! — крыкнуў нехта спераду, і нешта цямнейшае, чым ноч, загарадзіла яму дарогу.

Рыбар нічога не зразумеў, адштурхнуў нешта цёмнае ў бок і, задыхаючыся, прагаварыў:

— Божа мой, пусціце! У мяне няма часу!

Салдат ухапіў яго за каўнер:

— Цішэй, дружок! Твае дакументы?

Рыбар вырываўся з усяе сілы:

— Я не магу! Маё дзіця... Пусціце мяне!

Больш ён нічога не мог сказаць. Немец, які не разумеў ніводнага слова па-французску і не бачыў дакументаў, тузануў яго да сябе:

— Маўчаць!

Усякі пратэст, усякі лямант, усякае супраціўленне былі дарэмныя. Рыбара павалаклі да бліжэйшага каравульнага ўчастка. Яму не дапамагло і тое, што, увайшоўшы ў памяшканне, ён тлумачыў, пратэставаў, крычаў; яго зусім не слухалі, а проста штурхнулі ў камеру і з грукатам зачынілі за ім дзверы.

Рыбар звар'яцела крычаў, барабаніў кулакамі ў дзверы. Нарэшце, прышоў салдат і ўдарам дубінкі прымусіў яго змоўкнуць.

— Вось гэтак! — прамармытаў немец і зачыніў за сабою дзверы камеры.

А шостай гадзіне раніцы Рыбара расштурхалі. Спачатку ён не ўцяміў, дзе ён. У скронях гудзела. Балела галава. Усё цела скарчанела.

— Можаш ісці, — сказаў салдат, паказаўшы рукою на адчыненыя дзверы. — Ну, пойдзеш?

Тады Рыбар усхапіўся на ногі і выбег з камеры. У каравульным памяшканні яго яшчэ для нечага затрымалі і сказалі нешта такое, чаго ён і не пачуў. Потым яго адпусцілі і ён пабег.

Ледзь пераводзячы дыханне, дабраўся ён да сваёй хацінкі. Усё было так як ён пакінуў: дзверы былі адчынены, на кухні і ў пакоі гарэла святло. Толькі маленькая Жаржэта была не такая: пухліна на шыі апала, тварык ужо не гарэў агнём. У яе маленькіх вачах ужо не блішчаў трывожны агеньчык. Нерухомым позіркам глядзела яна ў столь. Маленькае цела было халоднае.

Калі рабая Нана падышла да доміка Рыбара, каб прыбраць хату і зварыць абед, яна дакорліва паківала галавою: гэтае дзеўчанё зноў выбегла, не зачыніўшы дзвярэй! «Пакуль хто-небудзь не забярэцца і не абрабуе кватэру», — падумала Нана: яна больш за ўсё на свеце баялася грабежнікаў і забойцаў.

Яна ўвайшла ў маленькі, цёмны калідор і спалохалася: сярод белага дня на кухні гарэла лямпа. Божа мой, і ў пакоі таксама! Тут нешта не так. Ёй было нялёгка перамагчы свой страх і ўвайсці ў пакой. Там у яе вырваўся крык: «Езус-Мар'я!» Вылупіўшы вочы і раскрыўшы рот, з жахам глядзела яна на васковы тварык маленькай Жаржэты і распасцёртага ўпоперак ложка мужчыну, у якога можна было бачыць толькі спіну. Нарэшце яна сабралася з духам, зрабіла два нерашучых крокі да ложка.

— Мес'е Рыбар! — паклікала яна дрыжачым, ледзь чутным голасам.— Мес'е Рыбар!

Ён не адказваў.

Тады Нана разгублена выбегла на вуліцу і, захліпваючыся ад плачу, падняла на ногі ўсіх суседзяў.

Маленькі пакойчык хутка напоўніўся людзьмі. На дыбачках прабіраліся яны туды: жанчыны і дзяўчаты ў халатах, у кухонных фартухах, адна трымала яшчэ ў руцэ анучу, якой мыла падлогу; тоўсты булачнік з бліжняй пякарні ў сваім брудным рабочым адзенні, вусаты шынкар, што гандляваў на рагу. Тыя, хто быў наперадзе, прыпыніліся пасярэдзіне пакоя. Ніхто не адважваўся загаварыць. Баязліва глядзелі яны на ложак. Потым нерашуча пачалі перашэптвацца. Нарэшце, булачнік



павярнуўся да сваёй дачкі і прыглушаным, але выразным голасам прагаварыў:

— Чаго ты стаіш тут? Хутчэй бяжы па доктара! Фуркада! Няхай хутчэй ідзе сюды!

Потым праціснуўся скрозь натоўп жанчын, якія шапталіся паміж сабою, і падышоў да ложка. Белай ад мукі рукой ён узяў Рыбара за плячо:

— Мес'е Рыбар! Мес'е Рыбар!

Рыбар заварушыўся і пачаў павольна падымацца. Ён павярнуў галаву да людзей, што стаялі ў пакоі. Здавалася, ён прышоў з другога свету, адтуль, дзе няма ні гора, ні радасці, ні жаданняў і ні страху Абыякава, тупа, нічога не ведаючы і не пытаючы, пазіралі яго вочы. Так глядзелі яны на чужых людзей і на сваё мёртвае дзіцё.

У пакоі стала зусім ціха. Не змаўкала толькі дакучлівае, роўнадушнае ціканне будзільніка, які стаяў на начным століку. Булачнік міжволі зрабіў крок назад. Усе адчувалі, што нешта павінна адбыцца. Але ніхто не ведаў, што. Узрушаныя, збянтэжаныя, стаялі яны ў пакоі, не зводзячы вачэй з сумнага відовішча.

Зноў загаварыў булачнік:

— Што-ж здарылася, мес'е Рыбар? — запытаўся ён так мякка, што нельга было пазнаць яго звычайна сіпатага голасу.

Рыбар павярнуў галаву і глянуў на яго няцямлівым, пустым позіркам. І нічога не сказаў. Жанчыны крадком пераглянуліся. У куце стаяла Нана і плакала, прыкрыўшы твар фартухом. Булачнік не ведаў, што рабіць.

Нарэшце пачулі, як каля дома спынілася машына. Усе з палёгкай уздыхнулі. Яшчэ да таго, як у дзвярах паказаўся сівабароды твар доктара Фуркада, усе расступіліся, каб ачысціць шлях ад дзвярэй да ложка.

Урач нахмурыў лоб, калі ўбачыў натоўп людзей. Моўчкі, адзін за другім выйшлі яны з пакоя. Засталіся толькі Нана і тоўсты булачнік.

Без асаблівых намаганняў урачу ўдалося адвесці Рыбара ад ложка і пасадзіць у вялікае крэсла. Потым ён зноў падышоў да ложка і схіліўся над целам дзіцяці. Ледзь прыкметна паківаўшы галавой, ён выпрастаўся, яшчэ раз паглядзеў на збялелы тварык і адышоў ад ложка. Рыбар кінуў на яго змярцвелы позірк. Урач палічыў бяссэнсоўным гаварыць цяпер з гэтым чалавекам. Ён зрабіў крок да булачніка і Нана і ледзь чутна прагаварыў:

— Дыфтэрыя...

Потым адрывіста і яшчэ цішэй дадаў:

— Укол сывараткі... учора вечарам... магчыма, выратаваў-бы яе... Магчыма...

Ён пацiснуў плячыма і глыбока ўздыхнуў. Яго рука обхапіла падстрыжаную пад кружок шырокую бараду. Ён апрануўся. Яшчэ раз дапытліва глянуў на Рыбара. Потым, відаць, прыняў нейкае рашэнне.

— Яму патрэбен спакой,— сказаў ён, ледзь прыкметна кіўнуўшы галавою ў бок Рыбара.— Я да заўтрага вазьму яго да сябе. Калі-б вы маглі ўзяць клопат аб памёршай і аб выкананні ўсіх фармальнасцей...

Булачнік скрывіў твар і пачухаў за вушамі, але згадзіўся: навошта-ж у яго жонка і дачка? Нана кіўнула галавой, з яе вачэй, якія сталі яшчэ чырванейшымі, зноў пацяклі слёзы.

Як і прадбачыў доктар Фуркад, Рыбар дазволіў рабіць з сабою ўсё. Не азірнуўшыся нават на сваё дзіця, ён выйшаў з дому, абапіраючыся на руку ўрача. Прыехаўшы дадому, доктар Фуркад правеў яго ў пакой свайго сына, які быў у нямецкім палоне.

— Ну, вось, мес'е Рыбар,— сказаў ён і паказаў на ложак,— цяпер вы добра адпачніце. Лепш за ўсё — паспіце, колькі можаце.

Ён гаварыў, як гавораць з дзіцём, калі не ведаюць, ці разумее яно штонебудзь. Але калі праз поўгадзіны ён прасунуў галаву ў дзверы, то ўбачыў, што Рыбар спіць глыбокім сном, шырока раскінуўшыся на ложку.

Рыбар праспаў шмат гадзін. Гэта быў цяжкі сон, узмоцнены хаатычнымі прывідамі. Усё, што ён перажыў і перадумаў, усё, чаго чакаў і баяўся, магчымае і фантастычнае, бегла адно за другім і перамешвалася між сабою. А ў самым канцы з'явіўся шчаслівы прывід: у белым халаце, які быў так чыста памыты і выпрасаваны, як ніколі, у домік Рыбара зайшла хударлявая, рыжая малочніца, а за ёю стаялі трое маленькіх, апранутых ва ўсё белае, хатніх разносчыкаў. Усе чацвёра прынеслі пачкі масла, кошыкі яек, бідоны малака, сыр, вяндліну і каўбасы. Ужо ўвесь кухонны стол быў завалены ўсім гэтым, а яны ўсё неслі і неслі, складаючы там, дзе было хоць трошкі месца. Потым яны пакінулі яго аднаго з дачкой. «Чаго-б ты хацела?» — нерашуча запытаўся ён у дзяўчынкі. «Усяго патрошку» — усклікнула яна так весела і гучна, што ён прачнуўся.

Ён ускочыў і працёр вочы. Навокал была цемра. Яму патрэбна было толькі імгненне, каб скінуць з сябе гэты поўсон і вярнуцца да сапраўднасці. Невыказна пакутлівым быў гэты кароткі шлях: не толькі ўсе скарбы казачнай краіны, але і пастаянны страх перад хваробай ды і сама хвароба — былі прыгожым сном у параўнанні з непахіснай, канчатковай са-

праўднасцю, у якой зноў апынуўся Рыбар. Шэрай і бясконцай, як асенні дождж на моры, была яго роспач. Ён мог-бы плакаць, але ў яго не было слёз. І ён не памёр, хоць і хацеў памерці.

Прыціснуўшы локці да бакоў, абхапіўшы галаву абедзвюма рукамі, сядзеў Рыбар на краю ложка і ўглядаўся ў цемру. І ён убачыў бледны тварык памёршай Жаржэты, яе маленькае, нерухомае цела. Як у тумане, усплыло перад яго вачыма мноства людзей у маленькім пакойчыку. А потым — барадаты твар урача, калі той адышоў ад пасцелі, бегла зірнуў на яго, Рыбара, і падышоў да булачніка і Нана.

І раптоўна сэрца яго балюча сціснулася ад страшэннай думкі: хіба не сказаў ён, што дзіця яшчэ можна было-б выратаваць? Рыбар увесь затросся ад хвалявання. Ён напружана прыпамінаў. Не, гэта быў не сон. Ён зноў пачуў ціхі голас урача: «Укол сывараткі... учора вечарам... Магчыма...!» У яго выступіў халодны пот. Кроў, здавалася, выцякла з яго вен. Учора вечарам!.. Рыбар так расхваляваўся, што страціў усякую ўладу над сабой. Ён раптам ускочыў з ложка. Паспешліва, вобмацкам кінуўся скрозь цемру да дзвярэй, адчыніў іх і выбег на калідор. Ён не зрабіў і трох крокаў, як у вочы яму ўдарыў паток святла з процілеглага канца калідора: доктар Фуркад выйшаў са свайго кабінета. На здзіўлены вокліч урача Рыбар, разгублена заікаючыся, адказаў, што яму трэба ісці дадому... да свайго дзіцяці. Дарэмна намагаўся ўрач адгаварыць яго ад гэтага. Доктару Фуркаду ўдалося ўтрымаць яго толькі на той час, які спатрэбіўся, каб прынесці яму сваё пасведчанне, якое дазваляла хадзіць у гэтую пару па вуліцы.

Хістаючыся, як лунацік, ішоў Рыбар цераз маленькую плошчу, да якой у мінулы вечар не давялося яму дабегчы. Потым няцвёрдаю хадою пайшоў па цёмных вуліцах агорнутага сном маленькага гарадка, пакуль раптам у бязмесячнай ночы не пачуў уладны воклік:

— Хальт!

Ён спыніўся, як быццам ужо дасягнуў сваёй мэты. Дрыжачымі рукамі працягнуў ён да цёмнага, прыкрытага сталёвым шлемам твару пропуск урача. І калі эсэсавец пры святле свайго кішэннага ліхтара пачаў чытаць паперку, Рыбар кінуўся на яго, паваліў на зямлю, абхапіў рукамі горла і здушыў сваімі сутаргава дрыжачымі пальцамі, пакуль чалавек, што ляжаў пад ім, не перастаў варушыцца.

Потым Рыбар падняў з зямлі пропуск і пакрочыў да свайго мёртвага дзіцяці.

## II

У паветры імжэў халодны дождж; ён агарнуў гарадок і ўсё наваколле сваім панурым, мутнашэрым пакрывалам. На ўзгорку, за горадам раскінуліся могілкі. Каля дваццаці чалавек стаяла вакол Рыбара перад свежа выкапанай магілай — тых, што спачувалі ці проста цікаўных суседзяў і таварышаў з завода.

Свяшчэннік скончыў чытаць сваю малітву. Маленькую труну павольна апусцілі ў яму. Вільготныя камякі зямлі глуха падалі на века. Плачучы, усхліпвала Нана. Потым усе маўкліва пайшлі міма Рыбара, паціскалі яму руку, бязгучна, без слоў варушылі вуснамі і ціхенька, нібы вінаватыя, падаліся да варот могілак.

Толькі доктар Фуркад і «Маленькі Поль» прыпыніліся недалёка ад Рыбара і, дрыжучы ад холаду, чакалі, пакуль і ён не адышоў ад свежа-

насыпанага ўзгорачка. Тады яны пайшлі поруч з ім — адзін з аднаго боку, другі — з другога.

Маўкліва ішлі ўсе трое скрозь аднастайны без усякага ценю, шэры поўзмрок дажджлівага адвячорка. Іх чаравікі хлюпалі па мокрай зямлі. Роўная, без ніводнага дрэўца, стужка дарогі, якая пралягала сярод зжатых, голых палеткаў, цягнулася ад могілак у горад. Усе трое глядзелі сабе пад ногі. Толькі зрэдку «Маленькі Поль» узнімаў галаву, прыкідваючы, ці далёка яшчэ да апавітых туманам комінаў завода.

Раптам Рыбар загаварыў.

— Я хацеў паклікаць вас пазаўчора вечарам... Але яны не пусцілі...— сказаў ён з пакутаю ў голасе, не падымаючы галавы.

Доктар Фуркад імкліва павярнуўся да Рыбара. Здзіўлена, не зусім зразумеўшы, пра што той гаворыць, ён глянуў яму ў твар пільным, дапытлівым позіркам. Кароткімі, адрывістымі фразамі, якія даваліся яму з вялікай цяжкасцю, Рыбар, нарэшце, расказаў, што здарылася з ім у той час, калі яго дзіця змагалася са смерцю.

— Бандыты!— прагаварыў «Маленькі Поль».

Потым яны зноў пайшлі моўчкі. Урач апусціў вочы ў зямлю. Ён дакараў сябе: значыць, Рыбар чуў, што ён сказаў учора раніцай. Раптам доктар Фуркад прыпыніўся і ўсхвалявана паглядзеў на Рыбара.

— А сёння ноччу... той салдат?.. — спытаўся ён ледзь чутна.

Рыбар моўчкі кіўнуў. Над яго галавою сустрэліся трывожныя, пасуровеўшыя позіркі двух чалавек.

Калі трое мужчын прыпыніліся перад домікам Рыбара, «Маленькі Поль» ціхенька прагаварыў:

— Ні слова! Нікому! Што-б ні здарылася... Ні слова!

Рыбар, які ўжо зноў паглыбіўся ў свае няўцешныя, сумныя думы, глянуў на «Маленькага Поля» атупелымі ад гора вачамі. Такім-ж праніклівым шэптам той паўтарыў:— Ні слова!..

Але як толькі Рыбар зачыніў за сабою дзверы свайго дома, ледзь толькі, прашоўшы маленькі калідорчык, апынуўся ён на кухні, а адтуль прабраўся ў сваю каморку, як адразу забыўся на ўсё, акрамя новага для яго, але неадступнага адзіноцтва. Уся мэбля, кожная рэч няўмольна сведчылі аб яго адзіноце. Вось на стале кубак з Мікі-Маўсам, з яго дзіця піла; там, на кручку, сукеначка, цяпер яна нікому не належыць. І ложак — пусты, незвычайна шырокі, у ім будзе ён спаць цяпер адзін.

Рыбар упаў у крэсла. Упершыню з часоў дзяцінства з вачэй яго паліліся слёзы.

Наступіў прыцемак. Прышла ноч. Рыбар правёў яе ў крэсле — думаў, плакаў, драмаў.

На другі дзень ён уцёк ад сваёй адзіноты, ад пакутлівай тугі на завод. Яшчэ да таго, як ён дайшоў да вуліцы з доўгім мурам, яго падхапіў людскі натоўп, які з усіх кірункаў імкліва плыў да заводскай брамы. Рух, твары, галасы...

Але сярод гэтых людзей Рыбар адчуў сябе яшчэ больш чужым, яшчэ больш адзінокім. Бо для іх гэта быў звычайны дзень з бясконцага, тужлівага ланцуга дзён, і толькі для яго, Рыбара, ён быў не такім. Ён ужо бачыў канец гэтага дня, свой шлях назад. Усе гэтыя сотні і тысячы людзей, што цяпер цесна яго абступілі, увечары разбягуцца ў розныя бакі, як рыбы, якім рыбак закінуў кручок сваёй вуды. І толькі ён застанецца адзін, сам-на-сам са сваімі думкамі, да якіх нікому няма справы, са сваім жыццём, якое нікога не цікавіць, якога ён баіцца.

За сваім варштатам, у працы шукаў Рыбар збавення,— на людзях ён яго не знайшоў. Але як заўзята ні пілаваў ён напільнікам, як упарта ні стукаў малатком, як люта ні свідраваў, гора не адступалася ад яго. І чым вышэй узнімалася сонца, слабыя праменні якога ледзь прабіваліся ў цэх праз брудныя заводскія шыбы, тым настойлівей чапляўся да яго жах перад вячэрнім змрокам, перад доўгай ноччу.

У час абедзеннага перапынку Рыбар упершыню пайшоў у «Гасцініцу для халасцякоў», як ахрысцілі заводскую сталовую, і сеў за столік. Ён патануў у тлуме галасоў, звоне талерак, хлюпанні і чвяканні. Нехта ззаду сказаў штосьці пра «Маленькага Поля». І Рыбар прыгадаў могілкі і маўклівы шлях дадому скрозь дождж.

— З васьмі гадзін вечара да шасці раніцы, — прагаварыў нейчы прастуджаны голас справа ад Рыбара. Як напамінак аб смерці прагучалі гэтыя словы ў яго вушах, і ён падлічыў: з васьмі да дванаццаці і з дванаццаці да шасці — гэта дзесяць гадзін; дзесяць гадзін ў адзіноце паміж нямымі сценамі...

Раптам за столікам, наўкос ад Рыбара, зноў загаварылі аб «Маленькім Полі».

— Яго паднялі з пасцелі, — сказаў малады рабочы.

Цяпер толькі насцярожыўся Рыбар. Ён успомніў, што сёння зусім не бачыў «Маленькага Поля». Але больш ужо не чуў, што яшчэ гаварылі пра яго. Замест гэтага да яго вуха данёсся абрывак гутаркі, што ішла за суседнім столікам злева:

— Дваццаць французаў за аднаго немца, пагражалі яны...

Рыбар сядзеў, нібы наліты волавам. Ні адзін мускул не зварухнуўся на яго твары. Але сэрца пачало так страшэнна калаціцца, быццам хацела вырвацца з грудзей. Нямецкі салдат! Забыта было адзіноцтва яго панурага пакоя. Забыта мёртвае дзіця на могілках. Нямецкі салдат! Разгубленымі вачыма ўтаропіўся ён у прастору. Бура, якую ўзняў учынак, зроблены ім у бяссільна-сляпой роспачы, бура, аб якой вось ужо цэлы дзень і ноч толькі і гавораць рабочыя завода і ўсе жыхары горада, нарэшце абрушылася і на яго. Нямецкі салдат! Ніхто не пацікавіўся, чаму Рыбар так раптоўна выйшаў з-за стала і пакінуў сталовую. Ніхто не заўважыў, што амаль перад самым канцом абедзеннага перапынку ён перасек заводскі двор і знік за брамаю. Толькі прадавец газет на вуліцы, паківаўшы галавою, глянуў на гэтага рэдкага пакупніка, што сярод дня купляе газету, ды яшчэ кладзе на прылавак пятнаццаць сантымаў, хоць ужо больш двух месяцаў, як цана газеты дайшла да аднаго франка.

У маленькім бязлюдным шынку, крыху наўкос ад магазіна пісьмовых прылад, Рыбар сеў у самы цёмны кут. Ён паклаў сваю газету на брудны, пакрэмзаны стол. Шынкар паднёс яму нейкае ружаватае віно і зноў скурчыўся на табурэтцы за стойкай; не звяртаючы ўвагі на свайго адзінага наведвальніка, ён скрозь шыбіну панура глядзеў на вуліцу.

Ад хвалявання ці непрывычкі чытаць газеты, Рыбар адразу не знайшоў таго, чаго шукаў, а яно было надрукавана на першай старонцы вялізнымі літарамі ў разбіўку.

«Маладушнае забойства з-за вугла», «Стан аблогі», «Забарона руху з васьмі гадзін вечара да шасці гадзін раніцы» — разгледзеў ён нарэшце і больш здзівіўся, чым збянтэжыўся. Але потым яго позірк упаў на вялікае паведамленне, набранае чорным шрыфтам: «Камендатура даводзіць да ведама», — апавяшчаў загаловак.

Утрапёна ўглядаўся Рыбар у чорныя, бліскучыя літары. Не спалох прымусіў яго змярцвець, не страх і не абурэнне ці раскаянне — усё гэта



Токар Мінскага трактарнага завода Ніна Баранава.
Фото А. Дзітлава.



На Брэсцкім фестывалі моладзі.
Фото А. Дзітлава.



Моцна здружыла ўдзельнікаў фестывалю песня.
Фото С. Чырэшкіна і М. Мінковіча.



**Дэлегацыі ад'язджаюць дамоў. «Бывай, сталіца, горад Мінск. Нас чакае праца на палях і заводах».**

Фото С. Чырэшкіна і М. Мінковіча.

перамяшалася паміж сабою,— а злавеснае пачуццё, што ў яго жыццё ўварвалася магутная, нястрымная, бязлітасная падзея. Ён мог-бы схавацца, уцячы нямаведама куды. Але паралізаваны, як у жахлівым сне, ён не мог нават скрануцца з крэсла. Адзін за другім у яго галаве прамільгнулі твары, вобразы, імёны, але не паявілася ніводнай думкі. Перакрыўлены твар нямецкага салдата... Шэпт: «Ні слова, што-б ні здарылася!» Дваццаць чалавек, пастаўленых да сцяны... Шэсць гадзін вечара... «Маленькі Поль»!

І толькі тады, калі ў мёртвую цішыню шынка, гучна размаўляючы, увайшлі два чалавекі і Рыбар адчуў на сабе іх позіркі, толькі тады зніклі ўсе прадчуванні і прывіды, якія моцна трымалі яго, і ад усяго бязладдзя пачуццяў засталося толькі адно — страх. Страх за свой лёс, што, нібы велічэзная здань, паўстаў перад ім. Страх перад гэтым лютым ворагам, перад людзьмі, што не даюць яму спакою, безразважны, жывёльны страх за жыццё.

Каб збегчы ад людзей, каб унікнуць свайго лёсу, Рыбар выйшаў з шынка і пабег па вуліцы, пакуль не дабраўся да свайго агародзіка за домам. З інструментальнай кладоўкі ён выкаціў свой веласіпед, дрыжачымі рукамі накачаў камеры і паехаў па шашы, з дому, з горада — з адной толькі думкай: прэч, прэч адсюль!

Яго пальцы сутаргава абхапілі руль. Ногі ва ўпартым напружанні націскалі на педалі. Нават не кінуўшы развітальнага позірку, пакінуў ён ззаду ўзгорак з могілкамі. Праехаў паўз вёскі, дзе некалі жабраваў для сваёй дачкі, нічога не бачачы, акрамя маленькай істужкі дарогі, што імкліва бегла яму насустрач.

І раптам ён апынуўся ля ракі. Толькі цяпер уцяміў ён, што, сам таго не ведаючы, паехаў у старым, знаёмым напрамку—адзіным напрамку, якога яму не трэба было выбіраць. Рака-ж была граніцай, а мост, што звязваў яе берагі,— непераадольнай перашкодай. Рыбар у сваіх уцёках ад людзей зноў натрапіў на людзей.

Яго ногі больш ужо не націскалі на педалі. Ён даў колам, якія каціліся ўсё больш павольна, праехаць яшчэ невялічкі кавалак дарогі. Потым саскочыў з веласіпеда. Цягнучы яго за сабой, ён, хістаючыся і цяжка дыхаючы, пашоў нацянькі праз поле. Паставіў веласіпед да дрэва і апусціўся на паросшы мохам бераг ля самай ракі, на якім ён з вудай у руцэ правёў столькі гадзін свайго жыцця. Ён адчуў у сярэдзіне пустату і млявасць. Стомленымі вачыма пазіраў ён на раку, што імкліва несла міма яго сваю спакойную ваду, срабрыста пабліскваючы пад касымі праменнямі заходзячага сонца.

Навокал панавала глыбокая цішыня.

Страх прайшоў. Рыбар стаў вельмі разважлівы, залішне разважлівы. Раптам усё здалося яму зусім бессэнсоўным. Асабліва яго ўцёкі. Куды бегчы? І навошта? Нічога-ж не засталося, дзеля чаго варта было-б жыць. Тут, на гэтым беразе, дзе некалі ён пражыў самыя радасныя, самыя шчаслівыя імгненні свайго жыцця, — спачатку ўдваіх, а потым утраіх, і зноў удваіх,— тут сядзеў ён цяпер адзін і ўсё скончылася... Дом, пустаты якога ён баяўся, і два ўзгорачкі на могілках — нічога другога ў жыцці для яго не засталося; гэтага досыць, каб пакутаваць, але мала, каб баяцца смерці.

Якраз у той момант, калі Рыбар падвёў гэты рахунак свайму жыццю, з другога берага да яго данесліся звонкія дзіцячыя галасы, бесклапотны крык і смех. Рыбар узняў галаву. Чародка загарэлых хлопчыкаў і дзяўчынак шумліва ішла ўздоўж ракі. «Жаржэта...» — падумаў Рыбар і апус-

ціў вочы. Але амаль у тое-ж імгненне яны зноў глянулі на той бераг, і ў яго жылах застыла кроў. Дзеці ідуць са школы... Чатыры гадзіны... Праз дзве гадзіны скончыцца тэрмін!

Моцна забілася сэрца. Ён раптам пералічыў дзяцей. Іх толькі дзевяць. А тых, каму з-за яго прыдзецца паміраць,— дваццаць. Рыбар ускочыў на ногі. Ён павінен іх ратаваць. Яшчэ ёсць час. Да горада менш гадзіны. У камендатуру. Да немцаў.

Але замест таго, каб кінуцца да дрэва, схапіць веласіпед і рушыць у дарогу, Рыбар, як укапаны, застаўся стаяць на месцы. Не таму, што ён чапляўся за жыццё ці баяўся смерці. Яго паралізавала тое, што ляжала паміж імі. Ён думаў аб апошніх мінутах, аб тых мінутах... Быць зусім аднаму ў час свайго апошняга дыхання — ён не раз уяўляў сабе і больш жудасныя рэчы. І якім-бы страшэнным ні было адзіноцтва, у якім памірала яго дзіцё, як хацеў-бы ён памерці так, як яно,— цяпер, калі яго чакала больш страшнае. Чужыя людзі ў зялёных мундзірах, іх жорсткія, адрывістыя галасы, іх халодныя, рэзкія манеры. Да іх ён павінен ісці. Яны будуць яго катаваць. Сярод іх, у тысячу разоў больш адзінокі, ён павінен памерці.

Рыбар абліваўся халодным потам. Разгублена, быццам шукаючы дапамогі, азіраўся ён па баках. Чародка дзяцей на тым беразе знікла. Насустрач яго позірку бег толькі шырокі, нямы краявід. Багацце фарбаў, мяккія формы, усё гэта жывое, але не адчувальнае — яно таксама на гора чалавеку. Хто можа дапамагчы яму? Хіба «Маленькі Поль?» Але і ён сярод тых дваццаці. Рыбар выразна ўбачыў яго перад сабой. «Ні слова! Што-б ні здарылася!» Рыбар уздрыгнуў: «Маленькі Поль», ён-жа ведае!..

Ашаломлена, з раскрытым ротам утаропіўся Рыбар у прастору: «Дык чаму-ж не расказаў ён пра гэта немцам?»

Недарэчным і далёкім ад жыцця было гэтае пытанне. Яно ўзрушыла і ўскалыхнула яго. Тыя нямногія, няпэўныя і няправераныя ўяўленні аб людзях, што жылі ў яго разуменні, раптам пахіснуліся. «Маленькі Поль» не вінаваты, яго хочуць забіць, — а ён маўчыць. Яму трэба вымавіць толькі адно слова, і ён зноў убачыць сваю жонку і двух хлопчыкаў,— а ён не гаворыць гэтага слова. Ён любіць жыццё, трэба толькі раскрыць рот, і гэта выратуе яго,— але ён маўчыць. Хіба-ж не кідаецца на ежу той, хто галадаў, не п'е той, хто пакутаваў ад смагі? Не лямантуе, не кліча на дапамогу той, жыццю якога пагражае небяспека? І не змаўкае перад пагрозай смерці той, хто хоча жыць і не жадае паміраць?

Рыбар не знайшоў адказу на свае пытанні. Але адчуў, раптоўна зразумеў, што ў жыцці «Маленькага Поля» ёсць нешта такое, чаго ён, Рыбар, не ведаў, што ляжыць па той бок яго разумення. Яно павінна быць нечым вялікім, нечым магутным, нейкай неадольнай сілай.

Такім агідным здаўся сабе раптам Рыбар, такім нікчэмным, што ён рэзка павярнуўся спіной да ракі, да яго ракі, і кінуўся назад у горад.

Апусціўшы плечы, стаяў Рыбар перад камендантам, які аглядаў яго з ног да галавы адначасова сурова і здзіўлена. Адно імгненне ў пакоі панавала поўная цішыня. Ззаду, злева і справа ад дзвярэй, як васковыя статуі, застылі тыя два салдаты, што прывялі Рыбара.

Гладкі, мясісты твар каменданта зрабіўся барвовым. На ілбе выступілі дзве фіялетавыя жылкі. Упёршы кулакі ў бокі, напружана сядзеў ён за сваім сталом. Галава і цела не паварушыліся, калі раскрыўся яго рот. Напоўзлосна, напоўнасмешліва, ён стрымана вымавіў:

— А як дакажаце, што гэта зрабілі іменна вы?

Разгублена зірнуў Рыбар у твар афіцэру. Што, ён пацяшаецца над ім? Яшчэ не пачуўшы адказу Рыбара, немец пасунуўся наперад і крыкнуў:

— Здаецца, вам хочацца пакінуць нас у дурнях? Што? Але вы сур'ёзна памыліліся!

На ўсё быў гатовы Рыбар, калі паехаў сюды ад ракі; але яму нават і ў галаву не прыходзіла, што яны не павераць. Ён раптам адчуў, як задрыжалі калені. Якім-жа чынам даказаць, што гэта ён, а не хто іншы, забіў таго солдата? Доктар Фуркад, той ведае; але яшчэ і яго ўцягваць у гэтую гісторыю? Немагчыма! Бездапаможна зрабіў ён поўкрок да каменданта і ўмольна прамармытаў:

— Я запэўняю вас... Я... я клянуся: гэта я забіў яго!

Немец секунду нерашуча пазіраў на яго.

— Паклясціся, — нарэшце паўтарыў ён зняважліва, — паклясціся — гэта могуць зрабіць усе.— Ён зноў адкінуўся на сваім крэсле і, паціснуўшы плячыма, дадаў:— А вы абавязкова атрымаеце сваю кулю — не менш, чым кулю. Але не ўяўляйце сабе, што за аднаго бясшкоднага мучаніка, як вы, мы адпусцім дваццаць бандытаў.

Рыбара быццам аглушылі. Ён не ведаў, што можна яшчэ сказаць. Ведаў толькі адно — з яго спробы надаць сваёй смерці нейкі сэнс нічога не выйшла.

Аб нечым думаючы, камендант прыкурыў папяросу. Запалка яшчэ гарэла ў яго руцэ, калі ён нечакана кінуў на Рыбара хітры, пранізлівы позірк.

— А дзе-ж тая зброя, якой вы пераламалі хрыбет гэтаму чалавеку?— спытаўся афіцэр, не зводзячы з Рыбара вачэй.

— Зброя?— паўтарыў азадачана Рыбар. Невысока падняліся яго рукі са скрыўленымі, растапыранымі пальцамі; павольна абхапілі яны галаву. І такім мімавольным, такім натуральным і сапраўдным быў гэты жэст, што ён падзейнічаў больш, чым цэлы беззаганны ланцуг ускосных доказаў.

— Хопіць! — выціснуў скрозь зубы камендант, ускочыў з крэсла і адным ударам кулака паваліў Рыбара на падлогу.

Каменная падлога была халоднай і жорсткай, непрагляднай была цемра ночы, магільнай — цішыня камеры, у якой апрытомнеў Рыбар. Усё цела ныла. Скурчыўшыся ў клубок, трасучыся ад холаду, сеў ён на пальчыках у куце.

Перад яго вачыма імкліва пранеслася ўсё, што адбылося. Ён ніяк не мог зразумець, чаму немец спачатку ўзяў пад сумненне яго прызнанне, а потым так раптоўна ва ўсё паверыў.

Ён усё-ж перамог! Яны ўсе выратаваны! Сярод бязмежнага страху, страшэннага болю, халоднага поту і сумных думак Рыбар уявіў сабе, як нечакана адчыніліся дзверы вялікай камеры, куды загналі ўсіх дваццаць чалавек: «Можаце ісці, забойца аб'явіўся!»

І яму малявалася, як яны радасна спяшаліся дадому і як сустракалі іх жонкі і дзеці. А «Маленькі Поль», той ляжыць ужо ў сваёй цёплай пасцелі. Мажліва, ён думае пра яго: «Дык вось які ён чалавек, гэты Рыбар». А ад «Маленькага Поля» даведаюцца ўсе астатнія дзевятнаццаць, што ён, Рыбар, і быў той забойца, які добраахвотна, сам выдаў сябе, каб выратаваць іх. Гэта дойдзе і да тоўстага булачніка, і да доктара Фуркада, аб гэтым даведаецца ўвесь горад. І ўсе будуць гаварыць: «Дык вось які ён чалавек!»

Гэта была яго адзіная ўцеха. Яна ажывіла і сагрэла страшную і глухую вечнасць, якая аддзяляла яго ад світання. Ён стараўся ўхапіцца за гэтую думку, калі пачуў крокі падбітых цвікамі ботаў, калі яго валаклі па калідоры і ўверх па лесвіцы, калі яго ўвапхнулі ў халодную, як метал, цемру машыны. А калі яго трэсла ад гэтай шалёнай язды насустрач смерці і ён з заміраннем сэрца ўслухоўваўся ў шум матора, чакаючы, што вось-вось затармозяць ля якой-небудзь мураванай сцяны, у галаве яго паміж незлічоных думак і прывідаў, настойліва і неадступна стаялі словы, якія зрабіліся яго паролем: «Вось які ён чалавек!»

Потым яго вывалаклі з машыны. Скрозь смугу туманнага досвітку новага дня яго пацягнулі да мураванай сцяны могілак, за якою было пахавана яго дзіця.

Ён ледзь не ўскрыкнуў, калі раптам ля мура распазнаў дваццаць шэрых чалавечых постацей. Яго позірк блукаў ад аднаго чалавека да другога. «Маленькі Поль»... Пэр'е са зварачнага... Настаўнік народнай школы з суседняй вёскі... А там, адзін з апошніх у шарэнзе — доктар Фуркад! У Рыбара вырваўся хрыплы крык:

— Яны-ж нічога не зрабілі... Я... гэта быў я... Адзін я!

Абодва салдаты моўчкі пацягнулі яго далей, да шарэнгі.

— Ашуканцы! Забойцы!— крычаў Рыбар.

Ён раптам пачуў голас «Маленькага Поля»:

— Рыбар! Пакажы ім, што ты адзін з нас!

Рыбар асекся. Здзіўлена паглядзеў ён на «Маленькага Поля», а потым правёў позіркам па ўсёй шарэнзе, у канцы якой ён стаяў. Толькі на адзін момант панікла долу яго галава. Калі ён павольна ўзнімаў яе, то спачатку ўбачыў толькі кавалачак голага поля, потым — другую шарэнгу: нямецкіх салдат. Невялікай была адлегласць ад адной шарэнгі да другой, толькі трыццаць футаў. І гэтая мізэрная «нічыя зямля» паміж сэрцамі і дуламі вінтовак, гэтыя дзве шарэнгі, такія красамоўныя ў сваёй нямой нянавісці, надалі апошняму закліку «Маленькага Поля» вялікі сэнс. Стоячы спіной да могілак, бачачы перад сабой ворага, а навокал — бледнашэрую смугу світальнага змроку, Рыбар першы раз у жыцці адчуў сябе тут, у гэтай шарэнзе, адзіным цэлым з імі, другімі людзьмі.

Потым ён упаў. Ніхто ў горадзе так і не даведаўся, што забойца сам аб'явіўся, і хто ён такі.

Пераклаў з нямецкай мовы С. ДОРСКІ.

Яўген КУРТО, Павел ТКАЧОЎ

# ТРУБАЧ 44-га ПАЛКА

**Нарыс**

Гэта зусім не паходзіла на абуджэнне. Гэта хутчэй за ўсё быў працяг нейкага страшнага сну. Так здалося Валодзю ў першую хвіліну.

Ляжаў ён не на сваім салдацкім ложку, а на падлозе, і не ў казарме, а зусім у незнаёмым месцы. У казарме — белая столь, блакітныя сцены, а тут — ні столі, ні сцен... Усё ахутана нейкім туманам; патыхае порахам, бітай цэглай і яшчэ нечым цяжкім, удушлівым. У казарме побач — яго сябры, тут — шэрая горкласць ды перакуленыя ложкі, растрыбушаныя падушкі...

Так, гэта, напэўна, сон. Варта толькі прачнуцца, і тады ўсё знікне, усё стане такім, як учора, калі клаўся спаць. Валодзя памкнуўся ўстаць. Але што гэта? Паглядзеў на руку — яна ў крыві і баліць моцна. Валодзя азірнуўся. У сцяне — вялікая прабоіна. А вось і яго сябры; хутчэй не яны, а тое, што ад іх засталося.

Хутчэй, хутчэй бегчы адсюль. Асцярожна абыходзячы забітых таварышаў, хлапчук пачаў прабірацца да дзвярэй.

У гэты момант над галавой моцна грымнула. Са столі пасыпалася тынкоўка, перад самым тварам праляцеў дзвярны вушак. Валодзя прыціснуўся да сцяны, замёр.

А за сцяною грымела, грукатала, рушылася...

Вайна! І гэтак нечакана. Толькі ўчора ўвечары было так ціха, хораша...

Выбегшы з казармы, Валодзя хутка прабег двор і, прыціскаючыся да сцяны, пачаў прабірацца да крэпаснога валу. Хацеў убачыць сваіх, перакінуцца з імі хоць адным словам. І калі сапраўды вайна, узяць у рукі зброю і стаць у рады абаронцаў крэпасці.

Нічога, што яму яшчэ і чатырнаццаці няма; нічога, што і ў росце ён адстаў ад равеснікаў. Важна іншае — умець біць ворага. А біць яго Валодзя здолее бадай не горш за дарослых воінаў. Нездарма-ж на апошніх вучэбных стрэльбішчах іменна яму камандзір 44-га палка маёр Гаўрылаў аб'явіў падзяку. Выдатна страляў трубач Валодзя Казьмін.

Хлопчык бег, а вакол ірваліся снарады, міны, свісталі кулі. З боку ўсходняга форта даносіўся

няспынны трэск кулямётаў і аўтаматаў, глухія выбухі гранат. Там ішоў бой, там біўся яго, валодзін, полк. Вось туды і трэба спяшацца.

На хвіліну хлопчык спыніўся. Дарогу яму перайшла жанчына з дзіцём. Вопратка ў яе падзёртая, месцамі прапаленая. Але не гэта здзівіла Валодзю. Яго здзівілі, нават спалохалі яе вочы. Шырока расплюшчаныя, нерухомыя, яны глядзелі на абгарэлае дзіця. Яно было мёртвае. Але жанчына не бачыла ці не жадала заўважаць гэтага. Яна ішла, спатыкаючыся, і ўсё нешта шаптала дзіцяці.

Па спіне ў Валодзі прабеглі мурашкі, да горла падкаціўся горкі камяк. У вачах паўсталі жахлівы малюнак разбуранай казармы, мёртвыя таварышы, і хлопчык канчаткова зразумеў: гэта вайна.

— За мной!

Гэты спакойны, сіплаваты голас прымусіў Валодзю здрыгануцца — такім нечаканым ён быў сярод гэтага несціханага грукату. Валодзя азірнуўся і ўбачыў лейтэнанта з аўтаматам на грудзях, з гранатамі за поясам.

Кароткімі перабежкамі — лейтэнант уперадзе, а Валодзя за ім — дабеглі да ўсходняга форта. Валодзя ўбачыў, як, хаваючыся за танкамі, ішлі фашысты. Сярод іх вылучаўся адзін — худы, доўганогі, у фрэнчы з пагонамі і ў высокай зялёнай шапцы з белай цэшкай. «Афіцэр», — мільганула думка.

Хутка прыстаўшы да салдат, Валодзя ўскінуў карабін і стрэліў. Доўганогі, узмахнуўшы рукамі, паваліўся на зямлю.

Валодзя прыцэліўся ў другога немца, што бег з ручным кулямётам. І гэты ўпаў, не дабегшы да форта.

Але атака працягвалася, на форт паўзлі танкі, беглі аўтаматчыкі.

— Іх аднымі кулямі не спыніш, — заклапочана падумаў Валодзя і тут-жа з радасцю ўскрыкнуў: — Добра!..

Ён убачыў, як нечая моцная рука шпурнула пад танк звязку гранат. Танк загарэўся. Хутка запалаў другі, трэці. Астатнія павярнулі назад. І адразу як-быццам пацішэла.

Цішыня была кароткай. Не паспелі абаронцы крыху перадыхнуць, як на форт зноў рынуліся варожыя танкі, ударыла артылерыя, засакаталі кулямёты.

Да вечара не спыняліся атакі. Не шкадуючы салдат, танкаў, боепрыпасаў, нямецкае камандаванне хацела знішчыць крэпасць у першы-ж дзень вайны.

Толькі гэта ім не ўдалося. Не ўдалося фашыстам захапіць крэпасць і на другі, трэці, на пяты дзень... Рушыліся старыя метровыя сцены, радзелі рады байцоў, але тыя, хто быў жывы, трымаліся стойка.

Неяк сярод абаронцаў усходняга форта ў час зацішша паявілася дзяўчына. Яна шукала трубача 44-га палка.

— Я — трубач, — адазваўся Валодзя.

Дзяўчына перадала яму загад камандзіра палка: накіравацца ў шпіталь, на дапамогу санітарам.

Валодзя вельмі не хацеў пакідаць форт. Тут ён прыняў баявое хрышчэнне, тут упершыню ў жыцці ён за храбрасць атрымаў ад камандзіра падзяку. Але загад ёсць загад. І Валодзя пайшоў у шпіталь.

Шпіталь знаходзіўся пад знешнім валам, у памяшканні з жалезабетоннымі прыкрыццямі і тоўстымі сценамі. Урачы і санітары працавалі ў адноснай бяспецы.

«Таму мяне і накіравалі сюды, — з крыўдай падумаў Валодзя. — Бач, маленькі, хлапчук, берагчы трэба»...

Раненых было шмат. Адны трызнілі ў непрытомнасці, другія

курчыліся ад болю і скрыгаталі зубамі, трэція ляжалі ціха, нерухома, гледзячы патухшымі вачыма ў адну кропку. Гэта былі цяжка параненыя. Ні адзін лёгка паранены ў шпіталі не затрымліваўся. Яму зробяць перавязку, ён зацягнецца махоркай, падхопіць вінтоўку і ў бой.

Калі Валодзя зразумеў усё гэта, яму стала сорамна за сваю нядаўнюю крыўду. У шпіталі, выходзіць, ён не менш патрэбны, чым на фронце. Нібы ў пацверджанне гэтай ягонай думкі хлопчыка паклікаў галоўны ўрач,

— Хлопча, лядоўня ведаеш дзе?

— Ведаю. Пад унутраным валам.

— Ідзі і прынясі адтуль лёду і харчу для параненых. Толькі асцерагайся, бо месца гэтае праст-рэльваецца.

Так Валодзя стаў забеспячэнцам шпіталю.

Шпіталь — лядоўня, лядоўня — шпіталь. Па гэтаму маршруту ён прабіраўся шмат разоў за суткі. У адзін бок з парожнім мяшком, у другі — з поўным. І весь час — пад посвістам мін і снарадаў. Валодзя ўжо асвойтаўся, навучыўся адрозніваць, якая міна ўпадзе блізка, а якая паляціць далей. Думаць аб небяспецы было некалі. Лёду і харчу спатрэбілася шмат, а насіць іх не было каму, і Валодзя стараўся з усіх сіл.

У яго ныла спіна, перад вачыма плавалі жоўтыя кругі, а хлопчык усё ішоў і ішоў. Аднойчы, вярнуўшыся з чарговага рэйсу, Валодзя далажыў аб сваім прыбыцці галоўнаму ўрачу, хацеў зрабіць «налева — кругом», але тут-жа ўпаў на падлогу.

Урач устрывожана схіліўся над хлопчыкам, памацаў пульс і сумна ўсміхнуўся: Валодзя спаў, як кажуць, мёртвым сном. Санітары беражліва паднялі яго і аднеслі ў дальні куток — няхай хлопец паспіць...

Валодзя не памятаў, колькі часу ён праспаў. Калі-ж прахапіўся, то адчуў ва ўсім целе лёгкасць і сілу. Ён гатовы быў зноў працаваць без упынку — насіць лёд, харч, ісці на форт, рабіць усё, што загадаюць. Ён так і далажыў галоўнаму ўрачу:

— Трубач 44-га палка Уладзімір Казьмін гатовы працягваць службу!

Ваенны ўрач уважліва паглядзеў у запалыя вочы хлопчыка і зусім не па-камандзірску, а неяк цёпла, як бацька, сказаў:

— Ведаеш, Вова, загад будзе табе такі: спачатку як мае быць пад'еш, а потым дзве гадзіны адпачні...

Дзве гадзіны адпачынку! Нельга сказаць, каб Валодзя ўзрадаваўся гэтаму . Узрадаваўся іншаму — гэтыя дзве гадзіны ён прабудзе на сваім усходнім форце з карабінам у руках.

Прабраўшыся на форт, дзе над галовамі абаронцаў безупынна дзынкалі кулі, лопалася шрапнель, Валодзя адчуў знаёмы халадок кіпучай нянавісці да фашыстаў.

А тыя зноў пёрліся ў атаку. Яны ведалі, што на форце засталося вельмі мала людзей, што большасць складаў з боепрыпасамі пахавана пад абломкамі сцен і чырвонаармейцы берагуць кожны патрон, кожную гранату. Таму яны ішлі на прыступ ва ўвесь рост, закасаўшы рукавы, упарта і злавесна.

... Абаронцы маўчалі. Не страляў і Валодзя, хоць даўно ўзяў на мушку правафлангoвага.

Немцы набліжаліся. Усё мацней валодзева рука сціскае ложу карабіна. Чаму няма каманды? Чаму ніхто не страляе? Яшчэ хвіліна, другая, і праціўнік падыйдзе зусім блізка... І раптам кароткае, цвёрдае:

— Агонь!

Валодзя не чуў стрэлу свайго

карабіна. Ягоны стрэл зліўся з дружным клёкатам кулямётаў і аўтаматаў. Валодзя толькі адчуў лёгкі штуршок у правае плячо і ўбачыў, як упаў з усяго размаху правафланговы...

Валіліся і астатнія гітлераўцы: хто падкошаны куляй, хто ратуючыся ад яе. Але абаронцы не спынялі агню. Расстрэльвалі тых, хто поўз і бег прабежкамі, каб не дапусціць на прыступ. І ворагі не вытрымалі, адкаціліся назад.

Валодзя з палёгкай уздыхнуў. Поплеч таксама нехта ўздыхнуў. Валодзя павярнуў галаву і ўбачыў пажылога кулямётчыка. Той, старанна абціраючы спацелы твар пілоткаю, таксама пазіраў на хлопца.

— Ты адкуль такі ўзяўся? — спытаў кулямётчык.

— Я ў шпіталі быў, дапамагаў там. А цяпер тут... Адпусцілі на дзве гадзіны...

— Страшна? — у вачах кулямётчыка заскакалі хітрынкі-агеньчыкі.

— Не, — шчыра прамовіў Валодзя.

— У мяне вось таксама ўвесь страх прапаў, — ужо зусім сур'ёзна прагаварыў кулямётчык. — Нянавісць яго чыста выціснула...

І раптам папрасіў:

— Ты-б вады прынёс, сынку. Хлопцы піць хочуць ды і кулямёт таксама. Смага, ліха ёй, мацней за фашыстаў даймае!

Лёгка сказаць — прынесці вады. А дзе яе ўзяць, той вады? У шпіталі цяжка параненым даюць па глытку — не больш, а самі ўрачы і сёстры зусім без вады. У першую-ж бамбёжку фашысты пашкодзілі вадаправод. А каб дабрацца да Мухаўца ці Буга, асабліва днём, — і думаць нечага. Усё навакол прастрэльваецца.

Валодзя ведаў, што некаторыя смельчакі ходзяць па ваду ў Мухавец. Значыць, і ён можа прайсці.



**Валодзя Казьмін.**

— Я вам, калі сцямнее, прынясу вады, — паабяцаў Валодзя.

... Марудна ў чэрвені змяркаецца. Здаецца, і сонца ўжо даўно зайшло, а навокал светла, як у пахмурны дзень. Але горш за ўсё, што раз-по-раз неба сцябаюць успышкі выбухаў, працінаюць яго агністыя пісягі ракет, мацаюць наваколле пражэктары.

Доўга ляжаў ва ўкрыцці Валодзя, чакаючы зручнага моманту. Вось яркі прамень пражэктара марудна папоўз да берага, слізгануў па вадзе, затрымаўся крыху і зноў вярнуўся назад. Згас, потым зноў пачаў чагосьці шукаць на беразе і на рацэ. Так паўтаралася праз роўныя прамежкі часу. Гэтыя прамежкі зацішша Валодзя

і рашыў выкарыстаць для перабежак. Дзесяць-дваццаць крокаў зрабіць, потым кінуцца ў якую-небудзь ямінку ці за камень, затуліцца і чакаць, пакуль патухне пражэктар. Толькі-б біклагі не выдалі. Іх аж дванаццаць, і некаторыя не абшытыя — могуць забразгаць.

План аказаўся ўдалым. Да самай ракі Валодзя дабег незаўважана. Потым лёг у ваду, каб вытыркаўся толькі нос, і пачаў паспешліва напаўняць біклагі. Узрадаваны поспехам, назад прабіраўся не вельмі асцярожна. І калі да ўкрыцця заставалася якіх-небудзь пятнаццаць-дваццаць крокаў, па ім раптоўна слізгануў прамень пражэктара. Ледзь патрапіў Валодзя кінуцца вобземлю, як, захліпаючыся, заклекатаў кулямёт, затым адна за другой зусім недалёка ірвануліся дзве міны.

У Валодзі заняло дух, зазвінела ў вушах. Ён паспрабаваў падняцца, але тут-жа ўпаў, страціўшы прытомнасць. Апрытомнеў толькі тады, калі нехта дакрануўся да яго шчакі вільготнай рукой.

— Немцы! — мільганула страшная думка.

Валодзя ірвануўся, але на яго шыкнулі:

— Ляжы. Свае, — шаптаў нейчы голас.

Але ў гэты момант прасунуўся прамень пражэктара. Валодзя ўсё-ж заўважыў твар таго, хто гаварыў: гэта быў лейтэнант, якога трубач сустрэў у першы дзень вайны.

— Паўзці зможаш? — спытаў лейтэнант.

— Здаецца, змагу.

І вось яны ўтраіх — уперадзе лейтэнант, а за ім Валодзя і яшчэ адзін салдат — папаўзлі да крэпасці. Праз поўгадзіны Валодзя быў ля ўсходняга форта.

Світала. Было ціха. Толькі зрэдку даносіліся адзіночныя выстралы ці кароткая кулямётная чарга. Валодзя знайшоў вусатага кулямётчыка і працягнуў яму біклажку:

— Вось, піце...

Салдат асцярожна, нібы дарагі скарб, прыняў біклажку, патрымаў крыху і паднёс да губ. Заплюшчыўшы вочы, глынуў некалькі разоў.

— Ух, ты! — засмаглыя яго вусны расплыліся ў шчаслівай усмешцы. — Ну, цяпер мяне надоўга хопіць. Сцеражыся, немчура! — пагразіў ён вялікім, касцістым кулаком у бок праціўніка.

— Вы піце, піце яшчэ! — папрасіў Валодзя.

— Дзякуй, сынку. Добрае ў цябе сэрца, — адказаў кулямётчык. — Але і другія-ж піць хочуць. Вось і аднясі ім. А мне хопіць!..

Ад салдата да салдата ішоў Валодзя і падносіў кожнаму біклажку, напоўненую вадой. Людзі бралі яе дрыжачымі ад нецярплівасці рукамі, прыпадалі да горла біклажкі, але, глынуўшы разы са тры, адрываліся і, працягнуўшы яе назад, гаварылі:

— Нясі далей. Там таксама хочуць піць.

Валодзя бачыў усё гэта, і яшчэ большая гордасць узнімалася ў яго гарачым сэрцы. Вось якія яны — дружныя, як родныя браты! Ні адзін не выпіў да дна. А нясцерпная смага мучыла кожнага.

Калі Валодзя вярнуўся назад, было зусім светла. Зноў пачыналася атака.

Няспынна бухалі гарматы і мінамёты, адзін за другім, як каршуны, зніжаліся бамбардыроўшчыкі, абрушваючы на форт

тоны смяртэльнага грузу. Адстрэльвацца не было сэнсу, і байцы ляжалі нерухома ва ўкрыццях.

Пасля артналёту і бамбёжкі Валодзя асцярожна падняў галаву і паглядзеў на таго вусатага кулямётчыка. Яго твар быў у крыві.

— Вы ранены! — спалохана крыкнуў Валодзя.

— Але, сынку, — адказаў кулямётчык. — Пабудзь ля кулямёта, пакуль я схаджу ўніз, на перавязку.

Валодзя з радасцю згадзіўся. Дзіва што! Да гэтага часу ён біў ворага са звычайнага карабіна. А зараз у яго руках сапраўдны «максім». Няхай фашысты толькі пакажуцца!

Але праціўнік чамусьці марудзіў. Пасля пяцімінутнай перадышкі пачаўся зноў пякельны артналёт. Снарады ірваліся ва ўсім форце. Адзін з іх упаў побач з кулямётам. Валодзя толькі заўважыў, як шуганула вялікае полымя, і паляцеў некуды ў цёмнае прадонне...

Валодзя расплюшчыў вочы. Над ім — знаёмы вусаты твар, вакол таксама твары — змучаныя, схуднелыя. Яны пакалыхваюцца: туды — сюды. А за імі — чужыя, у мундзірах жабурынага колеру.

— Немцы!

Валодзя імкнецца ўстаць. Але чыісьці рукі моцна трымаюць яго.

— Ляжы, табе нельга ўставаць.

Гэта гаворыць вусаты кулямётчык.

Ён нясе Валодзю на руках...

Пазней, калі хлопец крыху ачуняў, кулямётчык расказаў яму пра ўсё, што здарылася. Выбухам снарада Валодзю моцна кантузіла, і ён страляць не мог. Але калі фашысты падбеглі да кулямёта і хацелі забраць яго, хлопчык так абхапіў поручні, што ніяк яго не змаглі адарваць. Немец замахнуўся штыком. Але ў гэты момант падбег кулямётчык і падхапіў Валодзю на рукі. Так ён і яшчэ некалькі чырвонаармейцаў трапілі ў палон...

Праз некалькі дзён у лагер прыгналі яшчэ групу ваеннапалонных. Сярод іх быў адзін хлопчык. Валодзя ўважліва ўгледзеўся ў ягоны твар: ён здаўся яму знаёмы.

— Дзе-ж гэта я бачыў яго? — прыпамінаў ён. — Ага!..

І Валодзю Казьміну ўспомніўся мірны Брэст. Быў прыгожы вясновы дзень. Валодзя прагульваўся з таварышамі па гораду. На адной з вуліц яны заўважылі ля латка з марожаным хлопчыка ў такой-жа, як і ў іх, вайсковай вопратцы. Паглядзелі адзін на аднаго, але так і не пазнаёміліся. Нехта з вайскоўцаў тады сказаў:

— Гэта Пеця Клыпа — трубач 333-га палка.

Больш хлопчыкі ў мірныя дні не бачыліся. І вось сустрэча.

— Пеця?!

— Валодзя?!

— Што думаеш рабіць?

— Уцякаць. А ты?

— Таксама.

І дзве рукі злучыліся ў моцным поціску.

... 1943 год. Таемнымі ляснымі сцежкамі, арыентуючыся па сонцу і зорках, ідуць на Усход два змарнелыя, абшарпаныя хлапчукі. Цяжка, ад голаду ногі не ідуць... Але жаданне вярнуцца на Радзіму мацней за ўсё.

Чым скончацца гэтыя, ужо восьмыя ці дзевятыя ўцёкі з нямецкай няволі? Ці зноў іх зловяць і, збіўшы страшэнна, вернуць назад? Не, лепш смерць, чым фашысцкі палон...

Ціха, асцярожна ідуць глухімі сцяжынкамі два хлопчыкі, два малыя героі. А дзесьці наперадзе ўжо чуцён хвалюючы гул савецкай артылерыі. Нашы наступаюць!

---

Тады, у пачатку вайны, выхаванцу арміі трубачу 44-га палка Валодзю Казьміну было няпоўных чатырнаццаць год. Ён — адзін з самых юных удзельнікаў абароны Брэсцкай крэпасці. Імя яго доўгі час было невядома.

Зараз Уладзімір Казьмін жыве ў вёсцы Васкрасенаўка Ліпецкай вобласці.



**Рыгор ХУДАБЧОНАК,**

**удзельнік першай Савецкай Антарктычнай экспедыцыі**

# НА КРАІ СВЕТУ

Маленства маё прайшло на азёрнай Браслаўшчыне, на глухім адзінокім хутарку. Да семнаццаці год жыў з бацькамі, не быў нідзе далей свайго раённага гарадка, але ў думках часта падарожнічаў па далёкіх невядомых краінах разам з адважнымі героямі прыгодніцкіх кніг, якімі захапляюся з дзіцячых год.

Калі маёй старэйшай сястры прапанавалі паехаць на Поўнач, на лесараспрацоўкі, я папрасіўся, каб паслалі мяне замест яе. Нічога, што мне тады ішоў восемнаццаты год і з выгляду я быў хлопец няраслы, шчуплаваты!

Дрымучыя архангельскія лясы, куды я прыехаў на працу, суровая прырода поўночнага краю не астудзілі майго ўзнёслага настрою, маёй рамантычнай мары. Атрымаўшы тут добрую працоўную загартоўку, я пайшоў на вайсковую службу, дзе набыў новую спецыяльнасць — цесляра-будаўніка.

Потым мне пашанцавала: мяне накіравалі на працу на востраў Дзіксан. Гэта суровы куток Поўначы. Зімой — доўгая палярная ноч, пякучыя марозы, завіруха, а ўлетку — доўгі палярны дзень. Сонца яркае, але не гарачае. На высокіх абрывах, паміж скаламі, снег амаль ніколі не растае. Ёсць нейкае сваё, не кожнаму зразумелае хараство ў суровасці поўночнага краю, які я палюбіў, здаецца, назаўсёды. Трапіў я ў добры, дружны калектыў, хлопцы ўсе маладыя, нядаўнія салдаты, гарачыя ў працы, вясёлыя ў адпачынку. Валянцін Смелаў з Валагодскай вобласці, Фелікс Шаркуноў з Вологды, Васіль Дзяшовых з Варонежскай вобласці сталі маімі лепшымі задушэўнымі сябрамі. Мы разам



Айсберг ля берагоў Мірнага.

працавалі, марылі аб нечым незвычайным, гераічным...

Нейк у пакой забег Валянцін з газетай у руках і ўсхвалявана закрычаў:

— Хлопцы, экспедыцыя ў Антарктыду! Паедзем?

Усе, вядома, не задумваючыся, адазваліся:

— Паедзем. Абавязкова паедзем!..

Я ўжо таксама ведаў, што рыхтуецца савецкая экспедыцыя на шосты, нязведаны мацярык, у Антарктыду, што там мяркуецца пабудаваць пасёлак-абсерваторыю. Мне вельмі хацелася туды трапіць. Але ці возьмуць. У экспедыцыю патрэбны сапраўдныя палярнікі, людзі загартаваныя. Тым не менш жаданне да такога заманлівага падарожжа ўзяло верх, і я прапанаваў сябрам:

— Напішам заявы!..

Такіх, як мы, добраахвотнікаў было шмат, але нас шчасце не абмінула. На нашу калектыўную просьбу неўзабаве з Масквы прышоў адказ: адкамандзіраваць цесляроў Смелага і Худабчонка, шафёраў Дзяшовых і Шаркунова ў распараджэнне Галоўнага Поўночна-Марскога шляху.

У Маскве нас сустрэў начальнік будаўнічага атрада экспедыцыі Уладзімір Аляксеевіч Сомаў — таленавіты інжынер-будаўнік, чулы і ўважлівы чалавек (з ім мы раней сустракаліся на востраве Дзіксан) і павіншаваў нас з залічэннем у экіпаж, а потым доўга і захапляюча расказваў пра наша будучае падарожжа, пра «зямлю загадак» Антарктыду. Мы стараліся не прапусціць ніводнага слова.

Антарктыда — поўднёвы палярны мацярык, на якім знаходзіцца Поўднёвы полюс зямлі.

Плошча Антарктыды 14 мільёнаў квадратных кіламетраў. Уся гэтая велізарная суша размешчана ў межах Поўднёвага Палярнага круга, амаль сіметрычна вакол



**Рыгор Худабчонак вярнуўся ў родную вёску Лаўнікі.**

Поўднёвага полюса Зямлі. Летам тут сонца свеціць круглыя суткі, а зімой удзень і ўначы пануе палярны змрок...

Антарктыда пакрыта вечнымі ільдамі. Таўшчыня лёдавага панцыру ў цэнтральнай частцы мацерыка дасягае двух тысяч метраў.

З двух супрацьлеглых бакоў у Антарктыду глыбока ўразаюцца моры Уэдэла і Роса, якія падзяляюць мацярык на дзве часткі — усходнюю і заходнюю. Да гэтага часу невядома, што знаходзіцца паміж морамі: суша ці шырокі марскі праліў. Уся гэтая прастора пакрыта магутнымі ільдамі. Мацярык акружаюць велізарныя лёдавыя бар'еры. У некаторых месцах ільды ўзнімаюцца суцэльнай сцяною на сто метраў у вышыню і цягнуцца на сотні кіламетраў...

Ад гэтых расказаў у нас замірала дыханне, а ў сэрцы нараджалася нецярплівая радасць: мы ўсё гэта ўбачым сваімі вачамі, мы бу-

дзем даследаваць Антарктыду! Хутчэй-бы ў дарогу!

...30 лістапада 1955 года магутны акіянскі дызель-электраход «Об» водазмяшчэннем 12 тысяч тон адплыў з калінінградскага порта і вышаў у апавітае туманам Балтыйскае мора. На палубе яго самалёты, цыстэрны, трактары, скрыні, умяшчальныя трумы прынялі цэлы гарадок зборных дамоў.

Мы ўжо бачылі мора. Але з кожным разам, калі глядзіш на яго, адкрываеш для сябе шмат новага — гэтая непрыветлівая свінцова-шэрая прастора вады як-бы захапляе, зачароўвае ўсяго цябе сваёй велічнай неабсяжнасцю.

Неўзабаве прайшлі Кільскі канал — ажыўленую марскую вуліцу Еўропы... Зноў мора. Пад яркімі праменнямі асенняга сонца срэбрам пераліваецца воднае бязмежжа. Судна мерна пагойдваецца на марскім улонні. Дзе-ж тыя штормы, пра якія мы столькі наслухаліся, збіраючыся ў падарожжа?

У нашым кубрыку дзесяць чалавек. Да нашай групы далучылася некалькі матросаў. Нягледзячы на сваю маладосць, яны ўжо добра абветрыліся ў моры, але таксама, як і мы, відаць, хвалююцца, калі заходзіць гутарка пра жарты дзядулі-акіяна. Нас, будаўнікоў, ехала семдзесят чалавек. Разам з намі былі навуковыя работнікі, лётчыкі-палярнікі на чале з камандзірам авіяатрада Іванам Іванавічам Чаравічным. Ужо некалькі разоў мы бачыліся з начальнікам экспедыцыі доктарам геаграфічных навук М. М. Сомавым. Міхаіл Міхайлавіч зімаваў на Поўночным полюсе, быў капітанам ледакольнага судна і ў часе вайны атрымаў званне Героя Савецкага Саюза. Гэта захапляла і ўзнімала нас, нібы на крыллях.

Набліжалася бурлівая Біскайская затока. У затоку ўвайшлі цёплым сонечным днём. Цёмнасінія ў баранчыках хвалі няспынна стукалі ў борт карабля, адчувалася невялікае пагойдванне. Старыя маракі сцвярджалі, што ў затоцы заўсёды бываюць штормы. Калі і сапраўды яны такія, дык гэта зусім не страшна! Многія з нас ужо ведалі, што такое марская гайданка — нас некалі папакідала ў Барэнцавым моры, і цяпер мы рыхтаваліся да большага выпрабавання.

У затоцы, праўда, нас крыху пакідала, некаторыя хлопцы замаркоціліся, але ўвогуле настрой не сапсаваўся. Было нават крышачку весела — ніякіх прыгод!

Ідзем хутка — адзінаццаць вузлоў. На караблі звычайнае жыццё. Кожны займаецца сваёй справай. Будаўнікі, разбіўшыся на брыгады, вывучаюць чарцяжы, тэорыю мантажу металічных падмуркаў. У вольны час глядзім кінофільмы, чытаем, гуляем у даміно, шашкі...

Першы прыпынак у нас быў у Кептауне — поўднёваафрыканскім порце. Стаялі нядоўга, але некаторыя паспелі пабываць у горадзе. Гэта цудоўная мясціна. Удалечыні, як беласнежныя муры, ахутаныя лёгкімі шызымі воблакамі, стаяць скалістыя горы. Незабыўнае ўражанне на ўсіх зрабіла Сталовая гара — высокая, светларужовая глыба ў воблаках; яе вяршыня роўная і нагадвае звычайны стол, пастаўлены нейкім казачным веліканам.

У Кептауне набралі вады, гаручага, папоўнілі запасы харчу. Цяпер у нас на снеданне былі апельсіны, бананы — прадаўгаватыя зеленаватыя плады, якія нагадваюць беларускія пахучыя бэры, ананасы — смачныя, сакавітыя плады, якія з выгляду падобныя на вялізныя недаспелыя хваёвыя шышкі. Да нас на судна прыходзілі афрыканцы, яны сустракалі нас цёпла, прыязна. Мы абменьваліся сувенірамі, частавалі іх савецкімі папяросамі.



**Свята бога мораў Нептуна.**

Далей — курс на Індыйскі акіян, да берагоў запаветнай Антарктыды. Без асаблівых прыгод прайшлі мыс Добрай Надзежды — граніцу паміж Атлантычным і Індыйскім акіянамі.

Падыходзячы да экватара, усё часцей успаміналі пра традыцыйнае марское свята Нептуна. Мы ўжо ведалі пра гэтую цікавую марскую традыцыю, і кожны з нас рыхтаваўся прыняць блаславенне ўладара акіянаў. Не буду падрабязна расказваць пра гэтую хвалюючую ўрачыстасць. Яна добра апісана многімі пісьменнікамі і падарожнікамі. Скажу толькі адно: гэтая падзея засталася ў мяне на ўсё жыццё.

Не паспеў я агледзецца, праціснуўшыся бліжэй да трона, на якім з трохзубцам у руках сядзеў размаляваны бог мораў, як мяне падхапілі яго слугі і павялі да басейна. Тут сядзеў «доктар» з велізарнай трубкай і «брадабрэй», узброены гіганцкай драўлянай брытвай; першы мяне абслухаў, другі намыліў твар — абсыпаў сажай з вядра, якое стаяла побач, і я апынуўся ў вадзе. Выплыўшы, падышоў да Нептуна, атрымаў шкалік віна і пайшоў мыцца...

Увечары ва ўрачыстай абстаноўцы ўсе мы, хто ўпершыню пераплываў экватар, атрымалі дыпломы.

«Пусть Вам сопутствует
фортуна,
Вас ждут морозы и туманы,
Капризы злого океана,
Но, не страшась суровых бед,
Храните Родины привет!» —

наказваў дзядуля-Нептун. Гэта было апоўдні 16 снежня 1955 года.

На зеленаватых успененых хвалях акіяна мы адчулі, што азначае сапраўднае марское падарожжа. Спачатку, як звычайна, ішлі спакойна, а потым карабель усё больш і больш гайдала. На саракавых шырынях — маракі празвалі іх «сороковые ревущие» — сёй-той пачаў здавацца; некаторых хлопцаў адольвала марская хвароба. Па кубрыку пакаціліся з кутка ў куток нашы чамаданы, з мацавання сарваўся табурэт, у ложках нельга было ўлежаць. Мы падбадзёрвалі адзін аднаго, жартавалі. Нішто так не ўзнімае настрой у напружаныя хвіліны, як жарт — наш дасціпны рускі жарт!..

Нарэшце, у канцы снежня мы ўбачылі абрысы мацерыка. Спачатку ў далечыні паказаліся грозныя вартавыя Антарктыды айсбергі — велізарныя плывучыя ледзяныя горы, якія ў тумане нагадвалі нейкія казачныя замкі, вежы, аркі. Потым на многа міль пацягнуліся ільды, якія шчыльным поясам акружаюць Антарктыду.

Здалёк айзбергі нагадваюць белыя, нібы вылітыя са срэбра, горы. Па меры набліжэння, горы становяцца блакітнымі, а зблізку ў вадзе — яны сінія. У сонечны дзень айзберг гарыць белым полымем, а ўвечары нібы абліваецца яркай пазалотай. Потым нам даводзілася не раз назіраць, як такі пазалочаны гмах велічна і спакойна, быццам казачны карабель, адплывае ў далеч туды, дзе сярод воднага абшару гойдаюцца такія-ж гіганты.

Заканчвалася кароткае, капрызнае антарктычнае лета, і трэба было спяшацца. 5 студзеня 1956 года, лавіруючы між ільдамі, крышачы ледзяное месіва, «Об» увайшла ў затоку Дэпо і стала на якар. Берагі Антарктыды дасягнуты!

Стаяла ціхае сонечнае надвор'е. Усе мы — і бывалыя маракі, і моладзь — высыпалі на палубу і з захапленнем любаваліся берагамі «зямлі таямніц». Вакол, як вокам акінуць, асляпляюча бялеў снег і толькі ў некаторых месцах чарнелі скалы і агромністыя валуны. На голых скалах вострава нас «віталі» тысячы пінгвінаў. Дзіўныя гэта птушкі! Яны добра плаваюць, ныраюць, але не лётаюць. Ільдзіны абломваюцца, а яны ідуць паважна, спакойна. Ім пачалі кідаць крошкі. Нехта выпадкова свіснуў, і пінгвіны кінуліся адзін на аднаго. Потым гэты жарт паўтаралі, і заўсёды пінгвіны пачыналі біцца, як пеўні. Яны вельмі блізка падыходзяць да чалавека, але ў рукі не даюцца. Спрабавалі ў самкі адабраць яйка, якое яна носіць у




**Гэты дыплом выданы Рыгору Худабчонку.**

кішэні, пад грудзьмі, але гэта не ўдалося...

З борта карабля першым спусціўся атрад навуковых работнікаў на чале з Міхаілам Міхайлавічам Сомавым, каб абследаваць прыбярэжжа і адшукаць падыходзячае месца для будаўніцтва пасёлка Мірнага. Так вырашана было назваць савецкую абсерваторыю на Антарктыдзе ў гонар памяці рускіх мараплаўцаў, якія ў 1819—1821 гадах пад камандаваннем Ф. Ф. Белінсгаузена і М. П. Лазарава на драўляных шлюпках «Усход» і «Мірны» дасягнулі берагоў шостага кантынента. На мацярык спусціўся таксама авіяцыйны атрад Героя Савецкага Саюза І. І. Чаравічнага і «мэр» будучага антарктычнага горада Харытон Грэку.

Выявілася, што надзейным месцам для Мірнага з'яўляецца ўзбярэжжа мора Дэйвіса, паблізу вострава Хасуэл, які ўваходзіць у архіпелаг, названы намі архіпелагам Дружбы. Гэта — ля самага Паўднёвага палярнага круга, пад 66-м градусам поўднёвай шырыні і 93-м градусам усходняй даўжыні. На беразе з пад ільду відаць былі чатыры скалы. Самая вялікая з іх, якую назвалі «Камсамольская», выступае далёка ў мора. На ёй размясціліся электрастанцыі, прыёмны радыёцэнтр, магнітны і сейсмічны павільёны.

Мы прыступілі да разгрузкі.

Трэба сказаць, што грузу ў нас было шмат: самалёты, трактары, цягачы, аўтамашыны, зборныя дамы, дошкі, бярвенні, прадукты, адзенне і г. д. — Радзіма шчодра забяспечыла экспедыцыю ўсім неабходным. У нас былі не толькі свежыя яблыкі і капуста, але і ў сухім выглядзе ацэдафілін, сыракваша, смятана. Наш руплівы загадчык гаспадаркі прывёз на полюс жывых свіней. Між іншым, яны добра перанеслі дарогу і нават далі прыплод. На навагоднім

стале ў нас было смажачае парасё...

Пачалі разгружаць спачатку самалёты. Іх у нас было чатыры, апрача таго — два верталёты і адзін біплан. Толькі разгрузілі адзін самалёт, як наляцеў моцны вецер, пачала трашчаць наша лёдавая пляцоўка. Самалёт перанеслі ў больш бяспечнае месца і працягвалі разгрузку. Не паспелі згрузіць другі самалёт, як узняўся страшэнны ўраган — да 30 метраў у секунду. Мы вымушаны былі перацягнуць самалёт зноў на борт карабля.

Пачаўся шторм. Узняўся такі вецер, што за пяць крокаў не было відаць чалавека. Цэлую ноч мы дрэйфавалі, чакаючы лепшага надвор'я. І сапраўды, на другі дзень пацішэла, утаймавалася завіруха...

За некалькі гадзін разгрузілі і сабралі самалёт. На ім адправіліся ў палёт М. М. Сомаў, І. І. Чаравічны і Х. А. Грэку.




**Ля помніка Івану Хмары, які загінуў пры заваяванні полюса.**

Тым часам прадаўжалася разгрузка. Спачатку пачалі згружацца на прыпайны лёд. Увішныя чырвоныя ўсюдыходы і трактары пацягнулі сані са снаражэннем на бераг. Аднак у хуткім часе прыпай рабіўся ўсё танчэйшым, трактары пачалі яго праломваць. Рашылі трактары пакінуць на ледніковым шчыце мацерыка, а сані цягаць тросам. У рабоце ўдзельнічалі ўсе: і вучоныя, і маракі, і будаўнікі, і лётчыкі. Працавалі па дванаццаць гадзін у суткі, але чамусьці стомы не адчувалі.

У часе разгрузкі былі дні, калі сувязь з берагам прыпынялася: на адзінай ледзяной дарозе з бухты да берага, па якой тралявалі грузы, утвараліся шчыліны. Яны пашыраліся з кожным днём. У адну з такіх шчылін, якая з'явілася нечакана, праваліўся з трактарам С-80 камсамолец Іван Хмара. Гэты трагічны выпадак навучыў нас быць больш асцярожнымі.

Невялікую колькасць грузу пераправілі па паветранай канатнай дарозе, але гэта было вельмі нязручна і цяжка. Вымушаны былі пачаць пошукі новага месца высадкі, але гэта нічога не дапамагло: усюды былі падводныя скалы, а берагі — суцэльны адвечны ледзяны бар'ер, з якога беспераапынна абрушваліся ў мора велізарныя глыбы спрасаванага снегу... Рызыкуючы, судна падышло амаль да самага бар'ера. У лёдзе выдзеўблі глыбокія ямы і замацавалі судна на мёртвых якарах.

Надвячоркам 14 лютага палубы і трумы суднаў апаражніліся. На бераг было выгружана каля 8 тысяч тон. Паспяхова разгрузіўся і экіпаж «Лены», якая прычаліла да берагоў трохі пазней за нас — 20 студзеня, заняўшы месца побач. Караблі прайшлі 20 ты-

сяч кіламетраў — шлях, роўны адлегласці паміж Поўночным і Поўднёвым полюсамі зямлі.

Можна вельмі многа расказваць аб эпапеі будаўніцтва Мірнага. Так, гэта была сапраўдная эпапея. Калі ўспамінаеш цяпер пра гэта, дык сэрца напаўняецца гордасцю за нашых савецкіх людзей, якія не шкадуюць ні сіл, ні жыцця, калі трэба выканаць заданне Радзімы.

Прыгадаю некаторыя эпізоды будаўніцтва Мірнага.

Я ўзначальваў адну з будаўніча-мантажных брыгад, якая была створана яшчэ на караблі. У нашай брыгадзе было шэсць чалавек, — Мікола Дзмітрыеў, Валянцін Смелаў, Яўгені Куяровіч, Аляксандр Усціменка і Аляксей Рагожын — баявыя хлопцы, выдатныя спецыялісты.

Нам трэба было ў кароткі тэрмін сабраць жылыя дамы і выканаць усе будаўніча-мантажныя работы па ўзвядзенню абсерваторыі. Будынкі ў Мірным мы ставілі з драўляных зборных шчытоў, якія складаюцца з каркаса, фанернай абшыўкі і пракладкі з тэрмаізаляцыйных плітак. Каб сцены былі больш трывалымі і не прапускалі холаду, іх трэба было абшыць знадворку тоўстымі дошкамі, а потым плітамі, прасмоленымі спецыяльным тлушчам. Усе будынкі ставілі на моцным металічным падмурку.

Сабралі першы дом, і раптам разгулялася пурга. Ісці на карабель не адважыліся і рашылі заначаваць на новым месцы. А вецер злосны, аж дыханне ледзянее. Добра, што на складзе знайшлася печка. Мы яе распалілі і так усёй грамадой — чалавек сорак — начавалі каля яе...

Працавалі мы, як я ўжо казаў, не пакладаючы рук, — па дванаццаць гадзін у суткі. Часта даводзілася змагацца са стыхіяй. Сёння падрыхтуем пляцоўку, падвязем матэрыялы, а заўтра ўсё замяце снегам. Аднойчы буран падхапіў і далёка аднёс сабраны дом. Кожны раз даводзілася аднаўляць дарогі, расчышчаць пляцоўкі, узрываць лёд, адвозіць каменне...

Асабліва даставалася трактарыстам і шафёрам — гэтым сапраўдным героям штурму шостага кантынента. Аднойчы мае сябры Мікола Канаплёў і Васіль Дзяшовых, працуючы ў цемнаце, заблудзіліся і рашылі ехаць наўгад — на святло. На шляху трапілася шчыліна. Выпадкова, калі Дзяшовых выглянуў з кабіны, Канаплёў таргануў рычаг, і машына павісла ў шчыліне паміж ільдамі. Хлопцы пехатою прышлі дамоў, а раніцой трактар ледзь выцягнулі.

Быў і такі выпадак. Трактарыст збіўся з дарогі і зноў-жа павёў машыну «на аганёк». Раптам матор заглух. Хлопец вылез з кабіны і зжахнуўся: ён ехаў проста ў шчыліну-прорву...

Але ніякія цяжкасці, ніякія перашкоды не маглі спыніць будаўніцтва. Мірны рос на вачах. Вось ужо пралегла шырокая прамая вуліца, застаўленая скрозь жоўтабокімі дамамі з плоскімі дахамі. У гэтых дамах пасяліліся першыя навасельцы — мантажнікі, сувязісты, шафёры.

У кароткі тэрмін збудавалі радыёстанцыю, правялі ўнутраную тэлефонную сувязь. У дзень адкрыцця XX з'езда КПСС радысты Мірнага паслалі ў Маскву першую радыёграму. У хуткім часе ў цэнтры пасёлка была збудавана кают-кампанія — дом, дзе размясціласся сталовая і клуб. Цэнтральную вуліцу пасёлка назвалі імем В. І. Леніна. Непадалёку ад пасёлка збудавалі электрастанцыю, майстэрню, склад, лазню, пральню. Не лічачы аэрадрома і радыёцэнтра, тэрыторыя пасёлка заняла 12 тысяч квадратных метраў.

Гэта горад, дзе створаны ўсе умовы для плённай навуковай працы.

13 лютага ў нас было незабыўнае свята — урачыстае адкрыццё Мірнага. Над суровай Антарктыдай узвілося чырвонае палотнішча сцяга, узнятага на самай высокай скале — «Комсамольскай сопцы». Яно палыхае і тады, калі свеціць асляпляючае палярнае сонца, і тады, калі ў небе мігацяць халодныя водбліскі поўночнага ззяння.

Будаўніцтва пасёлка было ў асноўным завершана ў сакавіку, да наступлення злоснай палярнай зімы. Але нам работы было яшчэ шмат — унутраная аддзелка дамоў, абсталяванне, ацяпленне іх. Апрача таго, трэба было пабудаваць новыя базы, якія спачатку не былі прадугледжаны праграмай, дзве пастаянныя поўднёва-палярныя станцыі: «Піонерская» — у глыбіні мацерыка і «Аазіс» — у раёне аазіса Бангера.

14 лютага дызель-электраход «Об» пакінуў Мірны. Праз месяц адплыла ад берагоў і «Лена». На Мірным засталося 92 чалавекі — начальніцкі склад, навукова-тэхнічныя работнікі, абслугоўваючы персанал — лётчыкі, трактарысты, радысты, шафёры...

Скончылася палярнае лета. Згас палярны дзень, калі сонца ўвесь час стаяла на небе. Засвяціліся зоркі, заблішчаў халодны сярэбраны месяц, надвор'е зазлавала. Усё часцей пачалі налятаць завірухі, лютыя штормы прыгналі да берагоў айзбергі, якія, быццам фантастычныя прывіды, закрылі поўнеба.

Палярны змрок ператварыўся ў густую цемру. Але ў Мірным кіпела жыццё. Ярка свяціліся вокны дамоў, мігцелі агні аўтамашын-усюдыходаў, трактарныя ліхтары...

Некалі да вяршыні Поўднёвага полюса дайшоў са сваімі спадарожнікамі Роберт Скот. Але назад не вярнуўся: ад голаду і марозаў загінула ўся яго экспедыцыя. Мы — савецкія палярнікі, якіх паслала Радзіма на «зямлю таямніц», атрымалі ўсё неабходнае для работы і жыцця ў суровых антарктычных умовах. Мы не адчувалі адарванасці ад сваёй краіны ні на адну гадзіну. У нашым пакоі, дзе са мной жылі трактарысты Алесь Рагожын і шафёр Васіль Дзяшовых, было радыё, электрычнае святло, цэнтральнае ацяпленне. У нас было цёплае і зручнае для работы адзенне, абутак.



**Новы год. З прамовай выступае М. М. Сомаў.**

Заўсёды мы слухалі радыё з Масквы. Масквічы, а іх у нас было нямала, мелі магчымасць пагаварыць з сем'ямі і сваякамі па радыётэлефону: з Масквой была бесперабойная радыётэлефонная сувязь. Кожны з нас меў магчымасць пасылаць на радзіму радыё-

грамы і атрымліваць адказы. I мне з далёкага браслаўскага хутара бацькі часта прысылалі весткі. У снежні 1956 года да нас прышоў першы карабель — нам прысылалі пасылкі, пісьмы, віншаванні з розных куткоў нашай неабсяжнай краіны. Асабліва ажыўленая перапіска была ў нас са школьнікамі. Піянеры Сталінграда прыслалі нам у мяшэчку зямлю, якую мы высыпалі на пляцоўцы ля прыёмнага радыёцэнтра, дзе быў узняты сцяг Мірнага. Часта атрымлівалі радыёграмы і пісьмы ад піянераў і школьнікаў 451-й школы г. Масквы. Потым, калі вярнуліся з экспедыцыі, піянерскай дружыне гэтай школы мы падаравалі на памяць сцяг, які быў узняты на Комсамольскай сопцы ў Антарктыдзе.

У нас была добрая бібліятэка — шэсць тысяч тамоў. Хоць часу вольнага было малавата, але чыталі ўсе многа, часта глядзелі кінофільмы. У нас было каля 100 кінокарцін, не лічачы кіночасопісаў. Авіяінжынер Уладзімір Ганюшкін і лётчык Аляксандр Кашын — нашы няштатныя кінамеханікі — пускалі кіно, не стамляючыся. «Толькі ў нас. Апошні, пяцідзесяты раз!» — пісалі яны ў афішы. I ўсе спяшаліся ў клуб.

Часта ставіліся канцэрты. У нас сабраўся народ вясёлы, жыццерадасны і не было нястачы ў артыстах, спеваках, танцорах. Электрык Пётр Апанасавіч Юдзін, які кіраваў мастацкай самадзейнасцю, стварыў добры хор. Сам выдатны спявак і акампаніятар, Юдзін усіх зачароўваў ігрой на гавайскай гітары. Геолаг Юрый Глебаўскі напісаў антарктычны вальс, музыку і словы, якія мы ўсе любілі спяваць і танцаваць. Асабліва цудоўна выконваў антарктычны вальс сам Глебаўскі.

Радасна і ўрачыста ў нас праходзілі святочныя дні. На Мірным мы адзначалі Новы год, Першае мая, гадавіну Вялікага Кастрычніка. За святочным сталом збіраліся ўсе — і вучоныя, вядомыя ўсяму свету прафесары-палярнікі, як Гусеў, Сянько, Вцюрын, Глебаўскі, Таубер, і простыя мантажнікі, і шафёры... У нас была добрая традыцыя — адзначаць дзень нараджэння кожнага члена экспедыцыі. Імянінніка звычайна саджалі ў цэнтр за стол, дзе ўзвышаўся торт, зроблены нашымі нястомнымі паварамі Аляксеем Міхайлавічам Яфімавым і Іванам Аляксандравічам Істоміным. Начальнік экспедыцыі віншаваў імяніннніка і ўручаў яму ад імя калектыву падарунак. Мне на дзень нараджэння падаравалі кнігу армянскага пісьменніка Рачыя Кочара «Дзеці вялікага дома» з аўтографамі ўсіх жыхароў пасёлка.

Рэгулярна, два разы ў месяц, выходзіла насценгазета «Пад сцягам Радзімы». Дасціпныя карыкатуры і кароткія заметкі-жарты і зараз у памяці.

Як ні заняты былі кожны на сваім участку, але знаходзілі час для вучобы. У нас працаваў паліттурток, а таксама меліся гурткі па вывучэнню аўтамабіля і фотасправы. У Мірным я навучыўся рабіць фотаздымкі, атрымаў правы шафёра-аматара.




**Адрас, які быў уручан Р. Худабчонку ў дзень яго нараджэння.**

Пазней, калі будаўнічыя работы былі закончаны, мяне накіравалі на работу ў сталовую, на абслугоўванне сваіх таварышаў-палярнікаў. Здаецца, тут другарадная справа. Папрацаваўшы ў сталовай, я стаў інакш думаць пра гэта. Трое нас спраўляліся нарыхтаваць, зварыць і падаць страву на стол для ўсіх 90 чалавек. Потым, калі да нас прышла другая экспедыцыя, — чалавек сто пяцьдзесят, — работы яшчэ прыбавілася. Мы і пяклі хлеб, і мылі посуд, здабывалі ваду. Між іншым, здабыча вады — вельмі клапатлівая справа. Трэба напілаваць, прывезці, а потым растапіць лёд, а вады трэба было шмат... Напрацуешся за дзень так, што рук не чуеш. Але адпачнеш — і зноў за працу.

У раёне Мірнага — суровае, жудаснае надвор'е. На працягу васьмі месяцаў — з сакавіка да кастрычніка — лютуюць страшэнныя вятры, з завірухамі, а ў некаторыя месяцы, як май, чэрвень і ліпень, даймаюць бесперапынныя штормы, жнівень — самы халодны месяц: мароз дасягае 40 і больш градусаў. Лета суровае і кароткае, яно пачынаецца са снежня і заканчваецца ў другой палове лютага. Што можна сказаць пра антарктычнае лета, калі тэмпература паветра даходзіць да + 5°, неяк, праўда, было і + 7°. На паверхні грунту тэмпература даходзіла да + 21°, тым не менш сярэдняя тэмпература ўлетку — — 0,5°. Аднак дзіўная рэч, ніхто з нашых зімоўшчыкаў не хварэў, усе адчувалі сябе бадзёра, былі здаровымі. Праўда, нашы выдатныя ўрачы Аляксандр Іванавіч Міхайлаў і яго памочнік Нікалай Палееў пільна сачылі за нашым здароўем, патрабуючы, каб усе строга прытрымліваліся рэжыму.

Заканчваючы свой расказ пра зімоўку на Антарктыдзе, хочацца прыгадаць нашых самых незабыўных тамашніх жыхароў з усяго не-


**Трактарыст Мікола Кудрашоў з птушанём-пінгвінам.**

багатага антарктычнага жывёльнага свету — пінгвінаў. Іх там вельмі многа. Побач з Мірным, на востраве Хасуэл і на бліжэйшых астравах іх цэлыя кірмашы. На каменнях спакойна адпачываюць пінгвіны: такі малеча, як на здымку, важыць каля пуда... Пінгвіны любяць падоўгу стаяць на задніх нагах і здалёк нагадваюць карліка-чалавека. Рухаюцца вельмі хутка, адштурхоўваючыся ластамі, на задніх лапах у іх перапонкі, як у гусей.

Карміцца пінгвіны ідуць з мацерыка на бераг, да мора. Гэта далёка, кіламетраў сорак. Так цэлы дзень няспынна ідуць чароды пінгвінаў, адна чарада на бераг, а другая — да мора...

Самка нясе толькі адно яйка — вагою поўкілаграма і кладзе яго на голых каменнях. Самыя вялікія з антарктычных пінгвінаў — імператарскія — выседжваюць птушанят у самым халодным месяцы, у жніўні. Зразумела, што шмат іх гіне ад холаду.

У нас у пакоі было двое пінгві-

нят — Мішка і Машка, вельмі цікаўныя стварэнні. Яны хутка прывыклі да нас. Не паспееш адчыніць дзверы, як яны шмыгнуць пад ногі. Яны вельмі любяць музыку, нават спрабуюць паказаць свой спрыт у танцы. Чатырох маладых пінгвінаў узяў з сабой на карабель наш урач Аляксандр Іванавіч. Некалькі штук павезлі навуковыя работнікі для Акадэміі навук.

...Зімоўка наша заканчвалася. Мірны мы здалі сваёй змене — другой экспедыцыі, якая прыбыла на дызель-электраходзе «Об» і цеплаходзе «Кааперацыя». Палярнікі пабудуюць яшчэ дзве новыя навуковыя станцыі і прадоўжаць справу, пачатую нашым атрадам. Савецкія вучоныя разгорнуць новыя даследаванні, згодна праграме Міжнароднага геафізічнага года, на яшчэ не вядомых частках шостага кантынента. Там ёсць велізарныя тэрыторыі, куды яшчэ не дасягаў чалавек. Навуковыя поўднёвапалярныя базы ствараюцца на адлегласці 1 500 — 2 000 кіламетраў ад Мірнага, у глыбіні мацерыка.

Раніцай 15 лютага 1957 года наш цеплаход «Кааперацыя» пакінуў бераг Антарктыды. Адплываючы, мы стаялі на палубе і махалі рукамі сябрам: «Да пабачэння, Мірны!»

З Антарктыды ішлі больш 55 дзён. Усюды ў партах нас сустракалі гасцінна і шчыра. Але самая радасная і незабыўная сустрэча была ў Рызе. Да нас у гасці прыходзілі рыжскія піонеры, прынеслі нам падарункі. Нашы кубрыкі запоўнілі гасцінныя рыжане. Усе мы тут атрымалі значок «Удзельніку Першай Антарктычнай экспедыцыі» і імянны гадзіннік «Антарктыда».

Потым мне ў Лаўніках, куды я прыехаў да бацькоў на адпачынак, прышоў пакет з Масквы, з Міністэрства марскога флоту СССР, у якім была мая другая ўзнагарода — значок «Ганароваму палярніку». Зусім нядаўна з гэтага міністэрства прышоў новы ліст.

«Таварыш Худабчонак, — піша ў лісце старшы інспектар па кадрах таварыш Бяляева. — Прашу пацвердзіць Вашу згоду на ўдзел у 3-й комплекснай Антарктычнай экспедыцыі».

Маці ўвесь час адгаворвае мяне, каб не ехаў на край свету, бацька чамусьці маўчыць, толькі ўсміхаецца ў вусы ды прыжмураным вокам цёпла пазірае на мяне, нібы ацэньвае, на што здатны ягоны сын. Напэўна, паеду — хочацца зноў прайсці тым шляхам, убачыцца з таварышамі, з якімі пасябраваў на ўсё жыццё.



Развітальны рапарт.

*Нашы землякі*

**Г. А. ЦІХАЎ,**
**член-карэспандэнт Акадэміі навук СССР.**

# ШЛЯХІ Ў НЯЗВЕДАНАЕ

Нарадзіўся я першага мая 1875 года ў мястэчку Смалявічы Мінскай губерні. Маці мая была дачкой свяшчэнніка, бацька — чыгуначнік. Маці мела добрую для таго часу адукацыю. Яна валодала польскай і французскай мовамі, іграла на раялі, дасканала ведала хатнюю гаспадарку. Бацька школьнай адукацыі не атрымаў, але быў пісьменны, нядрэнна спяваў пад уласны акампанемент на гітары, цудоўна расказваў аб прачытаным, умеў сталярнічаць і сам рабіў клеткі для канарэек, якіх надта любіў.

Калі мне споўнілася сем год, бацька перайшоў на службу на Лазова-Севастопальскую чыгунку. Потым працаваў у Аляксандраўску, а праз некаторы час — у Зайцаве.

Вучыцца я пачаў з пяці год. Пісьму мяне вучыла маці, а арыфметыцы — бацька. Разам са мной займалася мая сястра, на паўтара года старэйшая за мяне.

Амаль кожны год летам мы прыязджалі ў Смалявічы. Ад гэтых паездак у мяне на ўсё жыццё засталіся самыя лепшыя ўражанні.

Я вельмі любіў свайго дзеда, і ён мяне — таксама. Мне далі гэткае-ж, як і ў яго, імя — Гаўрыла.

Летні час у Смалявічах мы праводзілі вельмі цікава. Часта хадзілі вялікай кампаніяй у лес па грыбы і ягады, я захапляўся лоўляй рыбы і ракаў, катаннем на лодцы.

Я вельмі любіў слухаць расказы дзеда пра Пецярбург, дзе ён некалі вучыўся ў Акадэміі мастацтваў, але не закончыў, бо нехапіла сродкаў. У мяне да гэтага часу захаваўся альбом малюнкаў, зробленых пераважна алоўкам. Мабыць, ад дзеда я ўнаследаваў любоў да малявання. Пазней я нават збіраўся паступіць у Акадэмію мастацтваў.

У 1885 годзе я стаў навучэнцам прагімназіі ў горадзе Паўлаградзе. Тут-жа вучылася і мая сястра.

Вучыўся я вельмі старанна. Аднойчы нам, вучням, задалі навучыцца чытаць на лацінскай мове. Я столькі разоў прачытаў зададзенае апавяданне, што і да гэтага часу ведаю яго напамяць. Ды і ўсім дамашнім яно запомнілася.

Першы год вучобы ў гімназіі я

закончыў з пахвальным лістом. Займаючыся другі год, я пачаў ўжо зарабляць рэпетыруючы аднаго з вучняў падрыхтоўчага класа.

Закончыўшы шэсць класаў Паўлаградскай прагімназіі, я разам з маці і сястрой пераехаў у Сімферопаль, дзе працягваў вучобу. Неяк вясной, вяртаючыся з урока дамоў на змярканні, я ўбачыў дзве зоркі на заходнім гарызонце: адна — правей, вельмі яркая, ззяла спакойным святлом; другая, значна лявей, — менш яркая, але зіхатлівая, пералівалася ўсімі колерамі, як дыямент. Гэтыя дзве зоркі мяне надзвычай зацікавілі, і я вырашыў даведацца, што яны сабой уяўляюць. Выкладчык касмаграфіі Сімферопальскай гімназіі растлумачыў, што вельмі яркая, белая зорка — планета Венера, а мігатлівая — зорка Сірыус. Усё гэта вельмі зацікавіла мяне. Я пайшоў у публічную Сімферопальскую бібліятэку і папрасіў пачытаць што-небудзь па астраноміі. Мне далі дзве кнігі — Каміла Фламарыёна: «Папулярную гісторыю» на французскай мове і «Гісторыю неба» ў рускім перакладзе.

Прачытаў я гэтыя кнігі з вялікай цікавасцю. Выбар маёй будучай прафесіі быў зроблены: я цвёрда вырашыў стаць астраномам.

Надыйшлі летнія канікулы. Выклікаў мяне неяк да сябе ў кабінет дырэктар гімназіі і пазнаёміў з дзяўчынай, якая назвала сябе Такмаковай. Дырэктар растлумачыў, што брат яе займаецца ў Маскоўскай прыватнай гімназіі Пілаванава і што бацькі наважылі перавесці яго ў Сімферопальскую гімназію ў сувязі з тым, што ён дрэнна вучыцца. Сястра прыехала, каб знайсці вучня, які за лета мог-бы падрыхтаваць брата да паступлення ў адпаведны клас Сімферопальскай гімназіі. Дырэктар рэкамен-



Г. А. Ціхаў — вучань Паўлаградскай прагімназіі. (1890 год).

даваў мяне. Умовы былі наступныя: я еду на поўднёвы бераг Крыма, у сядзібу Алеіз, якая знаходзіцца ў трох кіламетрах ад Алупкі, і займаюся там з маладым Такмаковым па ўсіх прадметах, па якіх ён павінен здаваць экзамены. Буду знаходзіцца ў Такмаковых на поўным утрыманні і атрымоўваць 50 рублёў у месяц. Поўднёвы бераг Крыма вабіў мяне сваім хараством, таму я без ваганняў прыняў прапанову. У прызначаны час па мяне заехаў мой будучы вучань, і мы накіраваліся ў дарогу.

У Алеіз мы прыехалі на змярканні. Мне адвялі на другім паверсе прасторны пакой, пасля мяне наведаў бацька майго вучня, які пацвердзіў умовы заняткаў. Потым мяне запрасілі вячэраць. За сталом сядзела каля 20 чалавек. Я быў вельмі ўсцешаны, што са

мной абыходзіліся, як з дарослым, як з настаўнікам.

Назаўтра я пачаў займацца са сваім вучнем. Мы займаліся па тры гадзіны раніцай і па дзве гадзіны вечарам.

Прыгажосць начнога зорнага неба на поўднёвым беразе Крыма, якое хавала ў сабе столькі таямнічага і невядомага, яшчэ больш узмацніла маю любоў да астраноміі. Неўзабаве высветлілася, што і гаспадыня дома Варвара Іванаўна Такмакова таксама цікавіцца таямніцамі нябеснага акіяна. Цікавасць гэтую абудзіў у яе наступны выпадак. 9 снежня 1874 года чакалася рэдкая астранамічная падзея — прахаджэнне планеты Венеры перад дыскам Сонца. Адным з найбольш зручных месцаў для назірання гэтай з'явы быў горад Кяхта. Астранамічная абсерваторыя Маскоўскага ўніверсітэта камандзіравала туды свайго маладога супрацоўніка (у далейшым прафесара астраноміі) Вітольда Карлавіча Цэраскага. У той час сям'я Такмаковых жыла ў Кяхце. Там і адбылося знаёмства маладога астранома з гэтай сям'ёй. Цэраскі сваімі захапляючымі гутаркамі аб нязведаных касмічных прасторах абудзіў у Варвары Іванаўны цікавасць да астраноміі, паказаў ёй асноўныя сузор'і на небе і падараваў ёй некалькі астранамічных кніг.

Такім чынам, у Алеізе спаткаліся два аматары астраноміі. У Варвары Іванаўны аказалася марская падзорная труба, і мы глядзелі ў яе на Сонца, Месяц, Венеру і зоркі. У адну з дзівосных жнівеньскіх начэй жыхары Алеіза рашылі зрабіць прагулку на яліку па моры і крыху палавіць рыбы вудамі. Прагулка была цудоўная. Неба іскрылася яркімі зоркамі. Мора свяцілася рознымі адценнямі фарб.

На поўднёвым усходзе ўзыйшоў Сірыус. Ад яго па моры цягнулася светлая дарожка. Варвара Іванаўна сказала: «Узыйшла Венера». Але я ўжо ведаў, як адрозніць Венеру ад Сірыуса, і запярэчыў Варвары Іванаўне. Мы паспрачаліся на 5 рублёў. Я прапанаваў запомніць становішча спрэчнай зоркі адносна сузор'я Арыёна і групы Гіад, каб, прыехаўшы дамоў, паглядзець у астранамічным атласе. Прайшоў пэўны час, і значна лявей Сірыуса ўзыйшла Венера. «Вось яна, Венера», — сказаў я. Варвара Іванаўна тут зразумела, што ў спрэчцы яна прайграла. У гэтым яна канчаткова пераканалася, калі мы дома паглядзелі зорны атлас. Я атрымаў прайграныя Варварай Іванаўнай 5 рублёў. Гэта быў мой першы астранамічны заробак. За выйграныя грошы я купіў «Зорны атлас» Я. Месэра. Другім выданнем гэтага атласа я карыстаюся і цяпер.

Такмаковы былі знаёмы з выкладчыкам фізікі Смольнага інстытута ў Пецярбургу Чарновым (імя і імя па бацьку яго я не памятаю). Ён жыў на дачы ў Кікінеізе, у 16 кілометрах ад Алеіза. Неяк ён прыехаў да Такмаковых і, даведаўшыся, што я цікаўлюся астраноміяй, запрасіў мяне да сябе на дачу, дзе ў яго знаходзілася невялікая астранамічная труба. Я паехаў з Чарновым у Кікінеіз, і ён паказаў мне на небе тыя сузор'і, якіх я яшчэ не ведаў. Як зараз бачу выхад з-за гор зорнай «Плеяды». У трубу, устаноўленую на слупе, Чарноў паказаў мне некаторыя двайныя зоркі і зорныя скапленні ў Млечным Шляху.

Такім чынам, мая астранамічная адукацыя рухалася ўперад паспяхова. У Алеізе я пражыў каля двух месяцаў і вярнуўся ў Сімферопаль да пачатку заняткаў у гімназіі. Для мяне было ўжо зусім зразумела, што я буду астраномам. І я з прагнасцю набываў веды, чытаў кнігі па астраноміі.

Павінен прызнацца, што ў некаторых дарослых людзей маё захапленне астраноміяй выклікала неадабрэнне і нават кпіны, але гэта ніколькі не бянтэжыла мяне. Я цвёрда рашыў паступіць у Маскоўскі ўніверсітэт на фізіка-матэматычны факультэт, каб спецыялізавацца па астраноміі.

Мая любоў да астраноміі была ўжо добра вядома ўсім маім таварышам і знаёмым. Я вельмі ўзрадаваўся, калі бацькі аднаго з маіх вучняў падаравалі мне марскую падзорную трубу, такую-ж, якую я бачыў у Алеізе ў Варвары Іванаўны Такмаковай. Я нават пабудаваў у двары дома нешта накшталт абсерваторыі, выкарыстаўшы вялікую скрыню. Ускарабкаўшыся на гэтую скрыню, я глядзеў праз трубу ў неба.

Гімназію я скончыў у 1893 годзе з залатым медалем. А ў жніўні гэтага года маці разам са мной паехала ў Маскву і ўладзіла мяне на поўнае ўтрыманне ў знаёмых. Я паступіў на матэматычнае аддзяленне фізіка-матэматычнага факультэта Маскоўскага ўніверсітэта. Першую лекцыю, якую я тут праслухаў, чытаў прафесар матэматыкі Васілій Якаўлевіч Цынгер. Гэтая лекцыя зрабіла на мяне вельмі моцнае ўражанне.



Г. А. Ціхаў — студэнт. (1896 год.)

Прыйшоўшы дамоў, я з захапленнем расказваў аб тым, што бачыў і чуў на лекцыі.

Вялікую цікавасць выклікалі ў мяне і лекцыі прафесара фізікі Аляксандра Грыгор'евіча Сталетава. Лекцыі па фізіцы суправаджаліся доследамі, якія бліскуча падрыхтоўваў лабарант І. Ф. Усагін.

Слухаў я лекцыі і па вышэйшай матэматыцы і па іншых дысцыплінах. Усё гэта спрыяла майму навуковаму росту. Аднак астраномія на першым курсе не чыталася. Чым-жа я мог тады ўтаймаваць сваю прагу да астранамічных ведаў? На вуліцы Кузнецкі Мост знаходзіўся тады магазін оптыкі, а на даху высокага дома, дзе змяшчаўся магазін, была пабудавана вежа, купал якой мог круціцца, і ў ёй устаноўлена астранамічная труба з аб'ектывам каля 10 сантыметраў у дыяметры. У маскоўскай газеце «Русские Ведомости» час-ад-часу з'яўляліся аб'явы, што ў выпадку яснага надвор'я ў вызначаны час будуць паказвацца ў трубу нябесныя свяцілы. Плата за ўваход — 1 рубель, са студэнтаў — 25 капеек. Я стаў частым наведвальнікам гэтай абсерваторыі.

Летам 1894 года мае бацькі пераехалі ў Маскву. Бацька працаваў на вакзале Маскоўска-Курскай чыгункі. Займалі мы даволі вялікую кватэру, і маці ўзяла на ўтрыманне некалькі студэнтаў, што падтрымлівала наш небагаты бюджэт. Апрача таго, маці давала ўрокі музыкі і іграла

на раялі на прыватных вечарах. Я таксама зарабляў прыватнымі ўрокамі. Марай маёй было набыць сапраўдную астранамічную трубу, хоць-бы невялікую. Я завёў сабе скарбонку і сабраў 65 рублёў. На гэтыя грошы выпісаў з Германіі астранамічную трубу з аб'ектывам, які меў дыяметр у 54 міліметры. Гэтая труба ёсць у мяне і цяпер і служыць для назірання Сонца шляхам праектавання яго адлюстравання на белы экран.

Як і раней, летам з маці мы паехалі ў Смалявічы, і я ў чаканні прыбыцця з Германіі трубы, вырашыў пабудаваць для яе дубовы штаціў і вежу. З дазволу дзеда я пачаў усталёўваць вежу на даху хлява. Спачатку мне дапамагаў цясляр. З ім мы ўмацавалі на кроквах хлява пляцоўку для вежы. У далейшым я працаваў адзін. Энергія ў мяне была невычарпальная. Пачынаў работу на світанні, а канчаў на змярканні, адрываючыся толькі на абед. Пабудова цягнулася цэлы месяц. Купал я ўстанавіў на жалезных калёсіках, якія рухаліся на кольцы з тоўстага дроту. З вежы была відаць дарога на станцыю, адкуль прывозілі пошту. Кожны вечар я ўзбіраўся сюды і глядзеў у бінокль на паштовую брычку. І вось урэшце ўбачыў, што паштальён вязе доўгую шкатулку, абшытую палатном. Я зразумеў, што гэта доўгачаканая труба.

Радасці маёй не было межаў. Я паказваў у гэтую трубу сонечныя плямы, укладваючы яе на падушку, пакладзеную на невялікі стол на двары. Я прапанаваў глядзець у трубу нават прыдуркаватаму пастуху, які, мабыць, рабіў гэта толькі для таго, каб не пакрыўдзіць мяне.

Лік жадаючых пабыць на маёй астранамічнай вежы з кожным днём павялічваўся, але карыстаўся я сам ёю толькі тры тыдні, бо наступіў час ехаць на заняткі ва ўніверсітэт.

Праз год я зноў наведаў Смалявічы і пацікавіўся лёсам маёй вежы. Аказалася, што яна разабрана на дошкі, а купал атрымаў гаспадарчае прымяненне: яго паставілі на чатыры ножкі і пад ім хаваўся ад непагоды начны вартаўнік...

Дзеда ўжо не было ў жывых, гаспадарка яго перайшла ў спадчыну сыну Валодзю, майму дзядзьку. Валодзя любіў садоўніцтва і развёў каля свайго дома прыгожы кветнік. Гэтым летам я зацікавіўся батанікай: прачытаў некалькі кніг, у тым ліку і «Жыццё раслін» К. А. Ціміразева.

Кветнік Валодзі даваў мне жывую ілюстрацыю да прачытанага. Помню, як аднойчы я прачытаў, што ў кветках ёсць тычынкі і песцікі. Раней я не звяртаў на іх увагі і не разумеў, якое яны маюць значэнне ў жыцці раслін. Я заснуў з думкай аб іх, а прачнуўшыся раніцай, пабег у кветнік і ўпэўніўся, што ў кветках сапраўды ёсць тычынкі і песцікі.

Наогул гэты год аказаўся для мяне вельмі плённым. Я адчуваў, што набыў шмат ведаў, зрабіў значны крок уперад у сваім навуковым росце.

З другога курса ўніверсітэта пачаліся лекцыі па астраноміі і механіцы. Астраномію чытаў прафесар В. К. Цэраскі, аб якім я ўжо гаварыў. Чытаў ён здзіўляюча проста і цікава. Курс механікі вёў заснавальнік рускага самалётабудавання Нікалай Ягоравіч Жукоўскі. Лекцыі яго былі зразумелыя і цікавыя.

Ужо на трэцім курсе я адчуў імкненне да астрафізікі, у прыватнасці да вывучэння спектральна-двайных зорак. У гэты час у друку паявіліся адна за другой бліскучыя работы выдатнага Пулкаўскага астрафізіка А. А. Белапольскага, які першым у Расіі



**Брэдзіхінскі астрограф.**

пачаў фатаграфаваць спектры зорак. Па руху ліній у спектрах ён адкрыў некалькі спектральна-двайных зорак, зрабіў шэраг цікавых даследаванняў па Сонцу і планетах. Карыстаючыся друкаванымі данымі А. А. Белапольскага, я паказаў двaістасць зоркі бэты-Ліры. Па яго рэкамендацыі мой артыкул у 1897 годзе апублікаваў Італьянскі астрафізічны часопіс. Гэта была мая першая друкаваная праца.

Чатыры студэнцкія гады праляцелі непрыкметна. Я закончыў універсітэт з дыпломам першай ступені. Перада мной паўстала пытанне, як здзейсніць сваю мару — прысвяціць сваё жыццё астраноміі.

На лета 1897 года мяне запрасілі ў Калужскую губерню ў сям'ю Ганчаровых (з роду якіх была жонка А. С. Пушкіна) для заняткаў з іх малодшым сынам Коляй.

Зімой гэтага года я вярнуўся ў Маскву і неўзабаве выехаў у Смаленскую губерню, дзе рыхтаваў да паступлення ў Швейцарскі ўніверсітэт дзяўчыну Людмілу Еўграфаўну Папову. (Жанчын у рускія ўніверсітэты не прымалі.) Потым мы з Л. Е. Паповай пасябравалі, а ў 1898 годзе пажаніліся. Людміла Еўграфаўна атрымала ад бацькі вялікі пасаг і павезла мяне на свой кошт у Парыж, аб якім я даўно марыў.

А. А. Белапольскі даў мне пісьмо да рускага астранома Аляксея Паўлавіча Ганскага — супрацоўніка астрафізічнай абсерваторыі ў Медоне, непадалёку ад Парыжа, дырэктарам якой быў адзін з заснавальнікаў астрафізікі Жансен. У Медоне я пазнаёміўся з А. П. Ганскім. Людміла Еўграфаўна паехала ў Швейцарыю і пачала займацца ў Бернскім універсітэце, а я запісаўся студэнтам у Парыжскі ўніверсітэт — Сарбону. Апрача таго, я стаў наведваць Медонскую абсерваторыю, дзе пад кіраўніцтвам А. П. Ганскага праводзіў назіранні на рэфрактары, які меў аб'ектыў дыяметрам у 20 сантыметраў.

Французскай мовай я авалодаў хутка і праз тры тыдні пасля прыезду ў Парыж мог весці размову з яго жыхарамі.

Быў канец мая. Як і ў папярэднія гады, Жансен паехаў у сяленне Шамані, ля падножжа вышэйшай гары Альп — Манблана, на вяршыні якой была габудавана абсерваторыя. На Манблане працаваў тады і А. П. Ганскі. Мяне камандзіравалі ў Шамані, дзе я вызначаў з дапамогай дакладнага інструменту час і пасылаў сігналы на Манблан А. П. Ганскаму. Сваё заданне я выканаў добра і хутка вярнуўся ў Парыж. Неўзабаве ў мяне паявілася жаданне пасяліцца ў Медоне, каб мець магчымасць рабіць астранамічныя назіранні і лабараторныя даследаванні. Жансен просьбу маю задаволіў. У абсерваторыі мне быў адведзены пакой, і я пачаў рабіць фотаздымкі туманнасцяў на вялікім тэлескопе, які меў парабалічнае люстра дыяметрам у адзін метр.

У лістападзе 1899 года чакаўся вялікі дождж падаючых зорак Леанід, які назіраўся да таго часу тры разы з перапынкамі ў 33 гады. Для назірання гэтай рэдкай з'явы Жансен прапанаваў мне ляцець на паветраным шары.

Я згадзіўся. У ноч з 14 на 15 лістапада 1899 года шар «Аэраклуб» з двума пілотамі, хімікам Леспіо і мной узняўся ў гадзіну ночы і прызямліўся на світанні ў 130 кілометрах ад Парыжа. Я бачыў 91 падаючую зорку. Значная частка неба была закрыта ад мяне шарам. Калі-б не гэтая перашкода, я ўбачыў-бы падаючых зорак значна больш.

Работа ў Медоне ішла вельмі прадукцыйна. Я назіраў неба праз люстраны тэлескоп і рыхтаваўся да экспедыцыі на Манблан. Жансен даручыў мне падрыхтаваць спецыяльны спектрограф для вывучэння ліній сонечнага спектра.

У 1900 годзе я два разы ўзыходзіў на вяршыню Манблана. Першы раз прабыў там двое сутак, другі раз — цэлы тыдзень. Адчуваў сябе вельмі добра і паспяхова выканаў навуковыя заданні.

У пачатку 1901 года я вярнуўся ў Расію. За час знаходжання ў Францыі ў мяне значна пашырыўся навуковы кругагляд, узнікла шмат новых думак і гіпотэз.

Прыехаўшы ў Маскву, я некаторы час працаваў выкладчыкам матэматыкі ў шостай мужчынскай гімназіі.

Вясной 1903 года я прачытаў у газеце, што ў Екацерынаслаўскім Вышэйшым Горным Вучылішчы абвешчаны конкурс на замяшчэнне выкладчыка кафедры вышэйшай матэматыкі. Я падаў заяву. Вытрымаўшы конкурс, атрымаў пасаду штатнага выкладчыка ў вучылішчы.

Чытанне лекцый прыносіла мне задавальненне. Асабліва прыемна было, калі па вачах слухачоў я бачыў, што тое ці іншае месца захапляе іх. Аднак іменна ў гэты час я адчуў, што маё сапраўднае месца не тут, а на абсерваторыі. У час летніх і зімовых канікулаў я працаваў у Пулкаўскай абсерваторыі ў якасці практыканта.

У 1906 годзе споўнілася мая запаветная мара — мяне залічылі звышштатным ад'юнкт-астраномам Пулкаўскай абсерваторыі. Я быў вельмі ўзрадаваны. Для гэтай радасці мелася яшчэ і другая падстава: у Пулкаўскай абсерваторыі ў той час працаваў Аляксей Паўлавіч Ганскі, з якім я пазнаёміўся яшчэ ў Парыжы.

Вясной 1906 года мы з Аляксеем Паўлавічам звярнуліся ў Акадэмію навук з прапановай паслаць экспедыцыю ў Крым для даследавання так званага задыякальнага святла і вывучэння якасцей адлюстраванняў зорак. Прапанову нашу ў Акадэміі падтрымалі. Начальнікам экспедыцыі прызначылі А. П. Ганскага, а мяне — членам экспедыцыі.

Работа наша ў абсерваторыі на Ай-Петры праходзіла паспяхова. Але экспедыцыя аказалася карыснай не толькі ў выніках астранамічных назіранняў.

З Ялты ў Севастопаль мы вярталіся на конях. Калі праязджалі над Сімеізам, убачылі ля дарогі дзве астранамічныя вежы і каля іх — невялікі аднапавярховы дом. Аляксей Паўлавіч зараз-жа спыніў экіпаж, пайшоў у дом і даведаўся, што гаспадар гэтых пабудоў — уладар курорта «Сімеіз», вялікі аматар астраноміі Нікалай Сяргеевіч Мальцаў. Прыехаўшы ў Пулкава, А. П. Ганскі напісаў Н. С. Мальцаву пісьмо з просьбай паведаміць, хто вядзе назіранні на гэтай абсерваторыі. Адказ прышоў вельмі хутка. Мальцаў паведаміў, што ён пабудаваў абсерваторыю для сябе, аднак у сувязі з тым, што ён ужо стары і не можа як след выкарыстаць яе, прапаноўвае гэтую абсерваторыю ў дар А. П. Ганскаму. Аляксей Паўлавіч нават разгубіўся. Лёгка сказаць — атрымаць у дар тое, на ўтрыманне чаго няма ніякіх сродкаў. А. П. Ганскі перадаў змест пісьма дырэк-

тару Пулкаўскай абсерваторыі акадэміку О. А. Баклунд. Прапанова Н. С. Мальцава была прынята.

Каб не затрымліваць назіранні ў Сімеізе, О. А. Баклунд камандзіраваў туды летам 1908 года А. П. Ганскага. Тут адбылося вялікае няшчасце для Пулкаўскай абсерваторыі і ўсёй рускай навукі. А. П. Ганскі пайшоў купацца ў моры. Пры моцным прыбоі яго ўдарыла хваляй аб камень, і ён, страціўшы прытомнасць, патануў.

Пасля гібелі А. П. Ганскага Пулкаўская абсерваторыя камандзіравала ў Сімеіз старшага астранома А. Р. Арбінскага, а ў канцы кастрычніка — мяне. Я паехаў туды з маладым практыкантам Н. Н. Каліціным, які потым стаў выдатным вучоным. Мы зрабілі ў Сімеізе вялікае мноства астранамічных фотаздымкаў пры дапамозе двайнога кароткафокуснага астрографа, набытага Н. С. Мальцавым. У наступныя гады сімеізскія астраномы адкрылі пры дапамозе гэтага астрографа каля 200 малых планет і некалькі камет, у тым ліку 3 перыядычных.

І іншымі сваімі даследчымі работамі Сімеізская абсерваторыя ўпісала бліскучыя старонкі ў гісторыю рускай астраноміі. Але аб гэтым — у наступны раз.



## З блакнота падарожніка

**М. КРЫВАНОСАЎ,**
**заслужаны майстар спорту**

# ПАД АЛІМПІЙСКІМ ФАКЕЛАМ

### З вышыні палёту

Першая група совецкіх спартсменаў — удзельнікаў XVI Алімпійскіх гульняў — у кастрычніку выехала ў Мельбурн на цеплаходзе «Грузія». Астатнія 300 чалавек праходзілі трэніровачны збор у Ташкенце. Вылецелі мы ўжо незадоўга да пачатку гульняў — 3 лістапада.

З ташкенцкага аэрадрома легкакрылы металічны птах «ТУ-104» узяў курс на сталіцу Індыі — Дэлі. Кожны з нас упершыню ляцеў на такім дзівосным самалёце. Адчувалі мы сябе так, нібы ва ўтульнай гасцінай: ні шуму матораў, ні качкі, як гэта бывае на «ілах». А між тым пад крылом самалёта бездань — 11.000 метраў і ляцім з хуткасцю тысячы кіламетраў у гадзіну.

Літаральна за лічаныя секунды прамільгнулі пад намі Гімалаі. Славуты «дах свету» — вяршыня Эверэст — з такой вышыні нам здалася цацачнай.

Не прайшло і трох гадзін, як мы прызямліліся ў Дэлі. Стаянка была вельмі кароткай. Зноў палёт, зноў прызямленне, на гэты раз — у Рангуне. Яшчэ ў паветры гаварылі, што ў Бірме стаіць нясцерпная спёка. Зразумела, што на адзінаццацікілометровай вышыні гэтаму не верылася.

Моцную спёку адчулі мы, яшчэ не вылазячы з самалёта, дзе праходзілі таможныя фармальнасці. Але як толькі пакінулі самалёт — адразу нібы трапілі ў лазню. Умомант наша вопратка прамокла наскрозь. Мы проста здзіўляліся, як трываюць у такой гарачыні мясцовыя жыхары, калі нават у цяню тэмпература дасягае 40 градусаў. Але бірманцы прызвычаены да такой спёкі. Адзенне ў іх вельмі лёгкае — невялікі кавалак тканіны на бёдрах...

У гасцініцы мы ўключылі ўсе вентылятары, поўгадзіны стаялі пад халодным душам і толькі пасля гэтага трохі акрыялі. Толькі селі абедаць у рэстаране, як тут новы сюрпрыз экзотыкі: па вокнах поўзаюць яшчаркі, змеі. Мы ўжахнуліся. А афіцыянты спагадліва пасмейваюцца: гэтыя істоты

для іх такая-ж звычайная з'ява, як для нас мухі.

Збольшага азнаёміліся з Рангунам. Гэта вельмі старажытны горад, заснаваны 2.500 год таму назад. Зараз у ім звыш 800 тысяч жыхароў. На вуліцах — гіганцкія пальмы, акацыі. На ўсіх дрэвах мноства яркапёрых птушак.

Рангунцы асабліва ганарацца двума пагадамі — свяшчэннымі храмамі, якім ужо амаль па два тысячагоддзі. Увесь купал вялікай пагады аздоблены золатам, якое прыносілася ў ахвяру багам: багаты прыносіў залаты злітак або пласцінку, бяднейшы ахвяраваў залаты пясок. Паданне гаворыць, што гэтая пагада ўзведзена на сямі валасах Буды, заснавальніка будзійскай веры. Пагада і ўсе яе скарбы — непарушная святыня, будысты заходзяць у гэты храм толькі босымі. Нават японскія акупанты, якія ў свой час гаспадарылі ў Бірме, не адважыліся разрабаваць каштоўнасці пагады.

Усім нам спадабаліся бірманцы — гэтыя працавітыя, гасцінныя людзі. Не ўсім ім добра жывецца, многія нават не маюць даху над галавой. Мы былі частымі сведкамі таго, як дарослыя і дзеці спяць у парках і скверах, на тратуарах, у пад'ездах дамоў. Але ўсе бірманцы — і багатыя і бяздомныя — дружалюбна адносяцца да савецкіх людзей, да нашай краіны.

З Рангуна вылецелі 6 лістапада вечарам. Нязвыкла адчувалі сябе ў замежным двухматорным самалёце тыпу «Кастылейшэн». Камандзірам карабля аказаўся наш зямляк, прозвішча яго Жукаў. Мы не ўдаваліся ў прычыны таго, які лёс прымусіў яго пакінуць Радзіму. Але Жукаў усімі сіламі стараўся выклікаць нашу прыхільнасць. Раніцай 7 лістапада ён павіншаваў нас са святам Вялікага Кастрычніка. У гэты-ж дзень ён падрыхтаваў нам такую нечаканасць. У час абеду нам падалі меню, надрукаванае на рускай мове з гербам СССР( у меню былі рускія стравы).

На досвітку — пасадка ў Сінгапуры. Хоць быў ранні час, нас прышлі сустракаць тысячы людзей. Тут, на Малайскіх астравах, ведаюць прозвішчы многіх нашых спартсменаў.

## На пятым мацерыку

Гасцінна сустрэлі нас у невялічкім аўстралійскім гарадку Дарвіне — першым прыпынку на аўстралійскай зямлі. Тут таксама добра ведаюць нашых спартсменаў. Аўстралійцы называлі прозвішчы Куца, Панамаровай, Ігнацьева, Чукарына, Нета і многіх іншых.

Тысячагалосае «гут лаак» («жадаем шчасця») неслася нам на развітанне.

Да Мельбурна ляцелі сем гадзін. Чым бліжэй падляталі да гэтага горада, тым больш узрастала наша хваляванне. Як сустрэнуць нас у гэтым горадзе, як разгорнецца тут наша барацьба за спартыўную славу Радзімы?

І вось глыбокай ноччу пад крылом самалёта — мора агнёў Мельбурна. І мора людзей на аэрадроме. Агараджальная сетка ледзь вытрымлівала напор натоўпу людзей, якія хацелі паціснуць рукі пасланцам краіны Саветаў. Нас засыпалі кветкамі, з усіх бакоў чуліся прывітальныя воклічы на англійскай і рускай мовах. І на гэты мацярык лёс закінуў многіх рускіх.

Нельга было не расчуліцца, калі адзін мужчына з хлопчыкам на руках з хваляваннем прасіў нас выслухаць яго. «Я вінаваты перад вамі, — гаварыў мужчына, — але сын мой тут нарадзіўся, ён рускі, я прывіваю яму любоў да

рускіх, дайце яму што-небудзь рускае». І калі хлопчыку падаравалі савецкі значок, у бацькі пацяклі слёзы. Большасць сустракаючых нас рускіх не маглі стрымаць слёз. Як ні дзіўна, але трапляліся сярод гэтых людзей і такія, што намагаліся сапсаваць нам настрой пры гэтай цёплай сустрэчы.

Алімпійская вёска сустрэла нас рознакаляровымі сцягамі, вялікай эмблемай алімпійскіх гульняў на фасадзе аркі галоўнага ўваходу. Побач, на невялікім поплаве, такую-ж эмблему ўтвараюць жывыя кветкі. Домікі алімпійскай вёскі занялі плошчу звыш пяці квадратных кіламетраў.

Савецкая дэлегацыя размясцілася ў цэнтральнай частцы вёскі. Нашымі суседзямі былі каманды Польшчы, Чэхаславакіі, Румыніі, Італіі.

Вёска пабудавана з усімі выгадамі. У кожнай кватэры — ванны пакой, газавы камін, кухня з газавай плітой. Калі закончыліся алімпійскія гульні, мельбурнцы гэтыя кватэры раскупілі нарасхват.

Сталовая ўкамплектавана кухаркамі, якія ведаюць стравы і звычаі тых краін, чые дэлегацыі тут харчуюцца. Агульны клуб пабудаваны з такім разлікам, каб тут сустракаліся дэлегацыі ўсіх краін. Прасторны кінотэатр. Добры стадыён для трэніровак лёгкаатлетаў. Пляцоўкі для гульняў і атракцыёнаў. Навакол — мноства кветак.

Жанчын размясцілі ў гэтай-жа вёсцы, але... за высокай агарожай. Мужчынам сюды дазвалялася ўваходзіць толькі па спецыяльных пропусках.

**Аўстралійцы — народ вясёлы**

У той час, калі быў адкрыты аўстралійскі мацярык, карэннага насельніцтва тут налічвалася 300 тысяч. Зараз яно не дасягае і 50 тысяч. Большасць цяперашніх жыхароў паходзяць з Англіі і Амерыкі. Зразумела, што ўсюды людзі гавораць тут на англійскай мове.

Калі мы спыталі ў аднаго жыхара Аўстраліі, чаму славутая сумчатая жывёліна іхніх пустынь называецца кенгуру, ён сказаў, што не ведае гэтага. Прышлося напомніць яму паходжанне гэтай назвы. Калі капітан Кук упершыню прыплыў да берага невядомага мацерыка і ўбачыў кенгуру, то спытаў у карэнных жыхароў, што гэта за жывёліна. «Кенгуру», — адказалі Куку аўстралійцы, што на іхняй мове азначала: «Гэтага мы не ведаем». Для нас было тым больш дзіўна, што праз некалькі стагоддзяў карэнны жыхар Аўстраліі даў аналагічны адказ, толькі ўжо на англійскай мове.

Аўстралійцы вызначаюцца сваёй весялосцю, пачцівасцю. Амерыканскі даследчык Гертлей Грэтэн гаварыў, што аўстралійскія традыцыі грунтуюцца на рэспубліканскіх, нацыянальных і дэмакратычных ідэях. Пра народ гэтай краіны гавораць яшчэ і тое, што ён просты і незалежны, не любіць як англічан, так і амерыканцаў, якія імкнуцца пашыраць тут свой уплыў.

Цікава тое, што раней Аўстралія зусім не мела сваёй арміі. Цяпер свая армія ў краіне ёсць. Але дысцыпліна тут не ў пашане, салдаты не любяць афіцэраў і лічаць за ганьбу аддаваць ім чэсць. Затое аб савецкіх салдатах аўстралійцы самай высокай думкі. Калі на экране ў кіно з'яўляецца совецкі салдат ці афіцэр, аўстралійскія салдаты ўскокваюць з крэслаў, прымаюць стойку «смірна» і прыкладваюць руку да галаўнога ўбору.

Амаль круглы год у Аўстраліі стаіць гарачыня, а мужчыны не здымаюць традыцыйных чорных касцюмаў. Аўстралійцы не прызнаюць раскошы, у жанчын няма

дзённых і вячэрніх убранняў. Хто нават летам надзявае лёгкія туфлі, таго лічаць пестуном. Таму і багатыя людзі, каб заваяваць папулярнасць, апранаюцца проста.

Аўстралійцы не ведаюць ні напіткаў, ні мінеральных вод. Яны любяць сваё піва і вельмі ўдзячны, калі хто-небудзь хваліць яго. Мы гэтага не ведалі і калі аднойчы выпілі па куфлі піва і пахвалілі яго (піва сапраўды добрае), наведвальнікі бара не выпусцілі нас, пакуль мы не выпілі з імі яшчэ па куфлі.

Увесь вольны час аўстралійцы аддаюць свайму дому, кветнікам. Ім амаль невядома прывычка пабедаць не дома. У вялікай пашане тут радыё. Ледзь не кожны трэці чалавек мае радыёпрыёмнік, яго не выключаюць цэлы дзень.

Лёгкая атлетыка, тэніс і плаванне ў Аўстраліі лічацца народнымі відамі спорту. Уявіце такі малюнак. Сядзіць у бары за сталом група мужчын і спрачаецца, чыя муха хутчэй узляціць са стала або сядзе на яго. Пойдзе дождж — і тут спартыўная спрэчка: чыя кропля раней скоціцца з падаконніка.

Адукацыя ў Аўстраліі бясплатная і абавязковая для ўсіх дзяцей ад 6 да 14 год. Школы знаходзяцца пад кантролем урада штата. У краіне маюцца таксама сотні прыватных і царкоўных школ, тэхнічныя і сельскагаспадарчыя вучылішчы. Акрамя роднай мовы, у школах вывучаюць замежныя, у тым ліку і рускую мову. Рэлігійная адукацыя ўваходзіць у абавязковую праграму школы.

Асноўны занятак большасці аўстралійцаў — земляробства і жывёлагадоўля, пераважна авечкагадоўля. Меншая частка насельніцтва занята на прадпрыемствах у гарадах і на капальнях, дзе здабываюць вугаль, нафту, медзь, свінец, серабро.

**Цікавыя знаёмствы**

Набліжаўся дзень адкрыцця Алімпійскіх гульняў. Каманда савецкіх спартсменаў заканчвала апошнія трэніроўкі.

У гэтыя дні мы знаёміліся са сваімі будучымі канкурэнтамі і другімі зарубежнымі спартсменамі. І пакуль яшчэ алімпійскі факел не быў запалены, мы абменьваліся значкамі. Міхаіл Лаўроў завёў столькі новых сяброў, навымяняў столькі значкоў, што ўсе мы проста зайздросцілі яму. Аднак адзін афрыканскі спартсмен перамог і Лаўрова ў гэтым. Уся куртка ў яго была абвешана значкамі розных краін, нават нельга было разгледзець сапраўдны яе колер.

Адносіны паміж прадстаўнікамі ўсіх краін у алімпійскай вёсцы былі самымі прыязнымі, сяброўскімі. Гэтыя адносіны яшчэ раз даказалі, што спартсмены імкнуцца да міру і дружбы, да чэснай спартыўнай барацьбы.

Трэніроўкі праходзілі нярэдка сумесна з удзельнікамі другіх каманд. На першую трэніроўку нашы штангісты запрасілі амерыканскіх штангістаў Коно і Андэрсона.

Дажджлівым днём на стадыёне адбыўся і такі від трэніровак. Лёгкаатлеты СССР і Чэхаславакіі выступілі ў футбольным матчы. Вароты чэхаславацкай каманды абараняў Эміль Затопек, а цэнтрам нападу была яго жонка Дана Затопекова. Пасля матча яны доўга спрачаліся, хто з іх лепш правёў гульню. Спрачацца было аб чым: Дана забіла ў нашы вароты тры голы, а Эміль прапусціў у свае восем мячоў.

Мне не цярпелася хутчэй сустрэцца са сваімі даўнімі амерыканскімі супернікамі па кіданню молата. Завочна я ўжо быў знаёмы з Гарольдам Канолі. Пасля спаборніцтваў у Югаславіі ў 1954 годзе

я паслаў яму паштоўку з пажаданнем поспехаў. У адказ такую-ж паштоўку Канолі прыслаў мне ў Мінск. У кастрычніку таго-ж года я даведаўся, што Канолі кінуў молат на 66 м 71 см і пабіў мой сусветны рэкорд. Я многа трэніраваўся і вярнуў Радзіме рэкорд, перакрыўшы вынік амерыканца на 60 сантыметраў. Па дарозе ў Мельбурн да мяне дайшла вестка, што Канолі зноў апярэдзіў мяне — кінуў молат на 68 м 54 см.

У Мельбурне з Канолі мы спаткаліся 11 лістапада. Як і заўсёды бывае ў такіх выпадках, спачатку мы асцярожна прыглядаліся адзін да другога, стараліся па знешняму выгляду ацаніць суперніка. Але хутка мы асвоіліся, нават пасябравалі.

Коратка раскажу аб Канолі. Яму — 25 год. У абыходжанні гэта просты, сціплы хлопец. Выкладае гісторыю ў Бастонскім універсітэце. Рост яго — 180 сантыметраў, вага 103 — 105 кілаграмаў. У дзяцінстве Гарольд Канолі пашкодзіў левую руку, з таго часу яна засталася карацейшай за правую на 7 сантыметраў, а прадплечча і рука засталіся недаразвітымі. Кідаць молат пры такім фізічным недахопе цяжка і нават балюча, бо ўся цэнтрабежная сіла, якая ўзнікае пры вярчэнні молата, прыпадае на адну кароткую руку. І ўсё-ж Гарольд застаецца ўпорным і настойлівым пры дасягненні сваёй мэты.

На сумеснай трэніроўцы мы пазнаёміліся са спартыўнай тэхнікай амерыканскіх спартсменаў. Каб развіць сілу, амерыканцы выконваюць практыкаванні з гірамі, штангай, гантэлямі, гуляюць у рэгбі і баскетбол.

Былі ў нас і яшчэ сустрэчы на трэніроўках. Усё гэта было вельмі важна як для нашых, так і для замежных спартсменаў. Мы абменьваліся вопытам перад рашаючымі сустрэчамі пад алімпійскім факелам.

### Святочны Мельбурн

Дзівосным, казачным выглядаў Мельбурн у дні Алімпіяды. Усе шматпавярховыя будынкі цэнтральнай часткі горада апрануліся ў рэкламы, макеты. Цэлы квартал заняло спляценне велізарных алімпійскіх кольцаў. На фасадах дамоў з'явіліся скульптуры спартсменаў — прадстаўнікоў самых рознастайных відаў спорту. А на вуглавым будынку быў устаноўлены гіганцкі Дзед Мароз. Як у жывога, у яго міргалі вочы, указальны палец правай рукі таксама рухаўся, нібы Дзед Мароз клікаў да сябе на сакрэтную размову.

Як і ў Лондане, дзелавы цэнтральны раён Мельбурна носіць назву Сіці. Тут размешчаны банкі, біржы, канторы, акцыянерныя таварыствы, рэдакцыі газет. Прыгарад Мельбурна ў некалькі разоў больш за Сіці. Ён характэрны аднастайнасцю вуліц, дамы тут пераважна аднапавярховыя, але ў дні Алімпіяды і гэты раён быў упрыгожаны алімпійскімі кольцамі.

Вечарамі горад загараўся шматкаляровымі агнямі рэклам. У вітрынах магазінаў — карта падарожжа алімпійскага агню ад Алімпа да Мельбурна, механічныя спартсмены, якія займаліся кожны сваім практыкаваннем — веславалі, раскачвалі молат, націскалі на педалі веласіпеда...

### Алімпіяда пачалася

22 лістапада — дзень адкрыцця XVI Алімпійскіх гульняў. Надвор'е цудоўнае. Дэлегацыі 68 краін свету — каля 4.000 спартсменаў — выстраіліся на стадыёне «Крыкет-стадыум». Яго трыбуны ўмяшча-

юць больш 100 тысяч чалавек. Будаваўся гэты стадыён спецыяльна для гульні ў кракет. З цягам часу, калі лік балельшчыкаў павялічваўся, трыбуны надбудоўваліся. Да Алімпіяды на адной з трыбун быў надбудаваны трэці ярус.

13 гадзін па мельбурнскаму часу. Поўтысячны зводны аркестр узброеных сіл Аўстраліі на чале з капельмайстрам, маршыруючы па стадыёну, выконвае нацыянальныя музычныя творы.

Пачынаецца парад удзельнікаў. Па традыцыі першымі на дарожку выходзяць спартсмены Грэцыі. Дэлегацыі выходзілі ў алфавітным парадку. Некаторыя дэлегацыі складаліся з трох, двух і нават аднаго чалавека. Найбольш шматлікімі былі дэлегацыі Савецкага Саюза, ЗША і Аўстраліі.

Бурнымі воплескамі сустрэлі гледачы выхад нашай дэлегацыі. Амерыканцам таксама апладыравалі. А каманду Аўстраліі стадыён сустрэў магутнымі авацыямі.

Урачыстае шэсце працягвалася каля двух гадзін. Потым на трыбуну ўзняўся старшыня арганізацыйнага камітэта Х'юз. Ён прывітаў спартсменаў — удзельнікаў гульняў і аб'явіў, што ў горад толькі што прыбыў алімпійскі факел. Ён быў запалены ў Грэцыі на гары Алімп і гарэў усю дарогу да Мельбурна — 12.000 міль.

Увага балельшчыкаў і спартсменаў прыкавана да бегуна з палаючым факелам. Гэта чэмпіён Аўстраліі па бегу сярод юнакоў Рон Кларк. Кларк падымаецца на трыбуну і запальвае агонь у вялікай вазе. Паветра скаланулі гарматныя залпы. Хор, які размясціўся на трыбунах, выконвае Алімпійскі гімн. Яго падхопліваюць гледачы. На флагштоку павольна ўзнімаецца белы флаг з пяццю пераплеценымі кольцамі.

Свяшчэннік, узняўшыся на трыбуну, сваёй прамовай «свенціць» Алімпійскія гульні і іх удзельнікаў.

Цырымонія адкрыцця была вельмі працяглай. Пад спякотным сонцам многія трацілі прытомнасць, у тым ліку і некаторыя нашы спартсмены. Так здарылася і з Галінай Зыбінай. Мясцовыя газеты, вядома, не праміну лі такую «сенсацыю».

### «Ён перамог мяне сваёй тактыкай»

Спаборніцтвы пачаліся на наступны дзень пасля адкрыцця гульняў. Бадай самым папулярным месцам Алімпіяды быў стадыён «Крыкет-стадыум», дзе праходзілі спаборніцтвы лёгкаатлетаў. Натоўпы гледачоў запаўнялі трыбуны з самай раніцы. Многія бралі з сабой ежу, каб не пакідаць стадыён цэлы дзень. Былі і такія, што прыносілі гумавыя падушкі, каб тут-жа, на трыбунах, падмацаваць сілы кароткім сном.

Кумірам спаборніцтваў стаў савецкі бягун Уладзімір Куц. Ён выйграў залатыя медалі чэмпіёна Алімпіяды на дыстанцыях у 5 і 10 кіламетраў.

Усе газеты штодзённа прысвячалі Куцу артыкулы і нават цэлыя палосы. І гэта не дзіўна. Бег у Аўстраліі — надзвычай папулярны від спорту. А Куц прадэманстраваў такі бег, які раней аўстралійцам наўрад ці даводзілася бачыць.

У адной газеце было змешчана інтэрв'ю з англійскім бегуном Гардонам Піры — галоўным супернікам Куца на дыстанцыі ў 5 і 10 кіламетраў. І вось што сказаў Піры:

«Перамена тэмпу, перамена кроку — гэта былі пакуты, гэта быў драматычны момант для мяне. Дзевятнаццаць кругоў я бег за

Куцам па пятах, але далей я не мог ужо трываць. Яго апошні рывок за чатыры кругі да фінішу забіў мяне. Я марыў пасля гэтага толькі аб тым, як-бы закончыць дыстанцыю, ён перамог мяне сваёй мудрай, адкрытай і разам з тым хітрай тактыкай».

Куц сустракаўся з Піры на дыстанцыі і раней, да Алімпіяды. Я быў сведкам іх барацьбы ў нарвежскім горадзе Бергене. На працягу ўсёй пяцікілометровай дыстанцыі Куц ішоў першым. І толькі за сто метраў перад фінішам Піры, які дагэтуль эканоміў сілы, абагнаў Куца і стаў чэмпіёнам свету.

Цяпер совецкі спартсмен выставіў супроць Піры сваю новую тактыку і двойчы перамог яго.

Аўстралійцы натоўпамі бегалі за Куцам, прасілі аўтографы, фатаграфавалі яго.

Яшчэ перад пачаткам гульняў адзін карэспандэнт даведаўся, што Куц мае аўтамашыну і сам водзіць яе. Карэспандэнт папрасіў Куца сфатаграфавацца за рулём свайго аўтамабіля. Куц ужо ўключыў хуткасць, як нехта падказаў яму: «Валодзя, зачыні дзверку». Куц памкнуўся зачыняць і незнарок моцна націснуў на акселератар. Са страшэнным рэвам машына зрабіла рэзкі скачок і стукнулася аб слуп. Пярэдняя абліцоўка была пашкоджана. Карэспандэнт патрабаваў заплаціць за пашкоджанне. Праз некалькі дзён Куц стаў чэмпіёнам Алімпіяды. Карэспандэнт адразу адмовіўся ад сваіх прэтэнзій. Ён з гордасцю заяўляў: «Вялікі Куц разбіў маю машыну».

### Маё паражэнне

Раніцой 24 лістапада праходзілі класіфікацыйныя спаборніцтвы па кіданню молата. Класіфікацыйная норма раўнялася 54 метрам. Яе выканалі 15 удзельнікаў.

На 15 гадзін таго-ж дня былі назначаны фінальныя спаборніцтвы. Мне трэба было кідаць молат чатырнаццатым, а Канолі — пятнаццатым.

Да кідання молата ў гэты дзень была прыкавана асаблівая ўвага. Дзіва што, рэкардсмен свету Канолі ўпершыню сустракаецца з эксчэмпіёнам Крываносавым.

На шматлікіх папярэдніх трэніроўках мой молат ляцеў далей, чым звычайна. І, ідучы на спаборніцтвы, я быў упэўнены, што перамога будзе за мной.

Толькі многае склалася не ў нашу карысць. Мы прывыклі кідаць молат з гаравага або землянога ўтрамбаванага круга. Тут-жа круг быў зроблены з цэменту, паверхня яго была шурпатай. Акрамя ўсяго, дзьмуў моцны вецер, які вельмі перашкаджае рухам спартсмена па кругу. Моцны халодны вецер і спёка, — дзіўнае надвор'е.

Вынікі першых кідальнікаў пацвердзілі гэтыя сумненні. Паляк Рут кінуў молат усяго на 54 метры, у той час як на класіфікацыйных спаборніцтвах вынік яго быў значна лепшы — 63 м 58 см. Гэтак-жа няўдала выступілі і совецкі спартсмен Ягораў і нарвежац Страндлі.

Пры такім надвор'і мы не ведалі, як размінацца. Першую спробу я вырашыў зрабіць без размінкі. Вынік — 60 м 59 см. Пачаў размінку, але толькі марна патраціў сілы. Другая спроба — 63 метры, у Канолі — 60 м 78 см. У трэцяй спробе я дадаў яшчэ тры сантыметры, а ў Канолі — 62 м 40 см.

У фінале, акрамя мяне і Канолі, выступалі Самацветаў, венгр Чэрмак, амерыканец Хол і югаслаў Рачыч.

Першая фінальная спроба ў мяне была таксама няўдалай. Сіл засталося мала, яны патрачаны на непатрэбнай размінцы. Дрэнны вынік атрымаўся і ў Канолі. Толькі ў пя-

тай спробе яго снарад лёг на 63 м 19 см, — на 16 сантыметраў больш, чым у мяне.

Да апошняй, пятай спробы я рыхтаваўся з асаблівым стараннем. Раскруціў молат, асцярожна ўвайшоў у першы паварот. Заўважыў, што паварот зроблены марудна, пры такім павароце снарад далёка не паляціць. Спыняю вярчэнне, трэба пачынаць усё спачатку. І вось, спыняючыся, зачапіўся адной нагой за другую і выскачыў з круга. Апошняя, рашаючая спроба сарвалася.

Такім чынам, чэмпіёнам Алімпіяды стаў амерыканец Канолі. Яго вынік 63 м 19 см. У мяне — 63 м 0,3 см. Трэцяе месца заняў савецкі спартсмен Анатоль Самацветаў.

Як-бы ні скласліся абставіны, але паражэнне мае ідавочнае. Я лічу сваім свяшчэнным абавязкам — вярнуць Радзіме сусветны рэкорд па кіданню молата.

### Разам з балельшчыкамі

У Алімпійскіх гульнях мне прыходзілася ўдзельнічаць двойчы. На XV Алімпійскіх гульнях у Хельсінках кожны ўдзельнік у якасці гледача мог прайсці на любыя спаборніцтвы. У Мельбурне-ж прыходзілася купляць спецыяльны білет, якіх падчас не ўдавалася дастаць. Так што самі мы бачылі далёка не ўсе віды праграмы Алімпіяды.

Я пабываў на фінальных сустрэчах баксёраў. Мне здавалася, што, нягледзячы на цяжкую працу на рынгу, баксёру лягчэй, чым нам, балельшчыкам. Гэта я асабліва востра адчуваў, калі адным з першых выйшаў савецкі баксёр Сафронаў у пары з англічанінам Нікальсам. Сафронаў упэўнена пачаў атакаваць, але пад канец бой стаў прыкладна роўным. Калі суддзя аб'явіў чэмпіёнам Алімпійскіх гульняў Сафронава, мы, савецкія балельшчыкі, сустрэлі гэта авацыяй.

Добра выступалі нашы баксёры Енгібаран і Шаткоў. Толькі цяжкавагавік Мухін уступаў амерыканцу Рэйдмейкеру ў тэхнічных і фізічных адносінах і пацярпеў паражэнне накаутам.

Спадабалася мне амерыканская баскетбольная каманда. У ёй выступаў мацнейшы ігрок свету негр Расел. Рост яго — 2 м 06 см. Ён адзіны ігрок у свеце, які, падскочыўшы, дастае верхні край шчыта.

Ігралі каманды аднолькава. Але тэхніка пападання мячом у амерыканцаў больш высокая. Большасць мячоў амерыканскія баскетбалісты закінулі ў карзіну з сярэдзіны пляцоўкі. Для нашай каманды другое месца, якое яна заняла, — немалы поспех.

Быў я і на спаборніцтвах гімнастаў. Перавага нашых спартсменаў была абсалютнай. Толькі некаторыя суддзі суб'ектыўна залічвалі ачкі, таму савецкія гімнасты не намнога адарваліся ад спартсменаў другіх краін.

Чукарын і Латыніна выступалі лепш за ўсіх. Ім і прысуджана абсалютнае першынство Алімпіяды.

### Праз акіян

Да 5 снежня большасць членаў нашай каманды закончылі спаборніцтвы і перасяліліся на цеплаход «Грузія». Тут мы адчувалі сябе, як на роднай зямлі. З набліжэннем дня адплыцця ўсё больш і больш аўстралійцаў прыходзіла да прычалу.

У дзень адплыцця, 11 снежня, нягледзячы на ранні час, на прыстані сабраліся дзесяткі тысяч людзей. Яны трымаліся за канцы папяровых стужак, злучаных з суднам, да таго часу, пакуль цеплаход не адышоў ад прычалу.

— Шчаслівай дарогі!

— Прывітанне Расіі! — несліся ўслед нам воклічы.

10.600 кілометраў воднага шляху праз Ціхі акіян аддзялялі нас ад родных берагоў. Акіян гэты не такі ўжо і ціхі. Перад Японіяй нас напаткаў шторм у 9 балаў. Судна рыпела пад ударамі пеністых валоў, клалася на борт, узнімалася на грабяні велічэзных хваль.

У ціхае надвор'е мы загаралі на палубе, увечары збіраліся ў зале, спявалі, гулялі ў шахматы, шашкі.

Незабыўнай падзеяй у дарозе было свята Нептуна. Калі хто-небудзь першы раз пераплывае экватар, ён павінен атрымаць хрышчэнне: купацца ў марской вадзе. Экватар мы пераплывалі 19 снежня ў 4 гадзіны дня.

Свята Нептуна звязана з шэрагам цырымоній. Нептунам мы выбралі работніка Усесаюзнага камітэта фізкультуры і спорту Назарава. Апранулі Нептуна ў спецыяльнае ўбранне з каронай на галаве, у рукі далі трохзубец. Для світы сплялі з канатных валокнаў спадніцы, шапкі, бароды, скуру на целе размалявалі рознакаляровымі фарбамі. У 3 гадзіны 45 хвілін Нептун у суправаджэнні «світы» выйшаў на верхнюю палубу і заняў трон каля аднаго з басейнаў. Капітан «Грузіі» аддаў яму рапарт. Нептун і капітан выпілі па чарцы гарэлкі, і бог мораў Нептун пажадаў капітану шчаслівага плавання да родных берагоў і зацатрабаваў спіс пасажыраў, якія ўпершыню пераплываюць экватар. Першым у спісе значыўся старшыня Алімпійскага камітэта СССР тав. Андрыянаў. «Світа» робіць хрышчэнне: кідае Андрыянава ў ваду. Спачатку прытрымліваліся парадку, а потым у ваду боўтнуліся ўсе разам.

Паказаліся берагі савецкай зямлі, паказаўся Уладзівасток. Прывітанне табе, Радзіма! У далёкім Мельбурне мы памножылі тваю славу — прывезлі 37 залатых, 29 сярэбраных і 32 бронзавыя медалі.

**За рэкорд Радзімы!**

Многа думак, многа ўражанняў прывезлі мы з XVI Алімпійскіх гульняў. І калі я перабіраю ў памяці падзеі гэтых незабыўных дзён, кожны раз прыгадваю паядынак з Гарольдам Канолі і маё паражэнне.

У кожнага спартсмена ёсць сваё самалюбства, свая, я сказаў-бы, раўнівая прыхільнасць да любімага віду спорту. Але твая перамога ці паражэнне — гэта ўжо справа не толькі ўласнага самалюбства. За гэтым стаіць значна большае — справа чэсці Радзімы на міжнароднай арэне. Вось чаму, вярнуўшыся з Алімпіяды, я ўсю сваю энергію, усе свае помыслы накіроўваю на тое, каб вярнуць Радзіме рэкорд па мятанню молата.

Перш за ўсё я некалькі змяніў рэжым трэніровак, яшчэ больш увагі ўдзяляю фізічнай загартоўцы, развіццю сілы: стаў больш практыкавацца з гірамі, са штангай, гантэлямі, гуляць у валейбол і баскетбол. Вялікую дапамогу аказвае мне мой трэнер Яўген Міхайлавіч Шукевіч.

Новым сур'ёзным выпрабаваннем для мяне з'явіліся міжнародныя спаборніцтвы лёгкаатлетаў, якія праходзілі ў Белградзе ў чэрвені гэтага года. Тут сустрэліся спартсмены Савецкага Саюза, Польшчы, Румыніі, Грэцыі, Балгарыі, Чэхаславакіі, Венгрыі і Югаславіі. Мне прадстаяла спаборнічаць з югаслаўскім мятальнікам З. Безяком, які ў гэтым годзе меў другі вынік свету — 64 метры 73 сантыметры. Перамога ў гэтай сустрэчы была ма-

ёй — 62 метры 86 сантыметраў. Лепшы вынік Безяка не перавысіў 59 метраў 65 сантыметраў.

Радавацца яшчэ рана: мне не ўдалося нават дасягнуць свайго-ж алімпійскага выніку. Трэба яшчэ шмат працаваць над сабой, шмат трэніравацца.

На VI Сусветным фестывалі моладзі і студэнтаў у сталіцы нашай Радзімы мне прадстаіць зноў сустрэцца з мацнейшымі мятальнікамі свету. Хто выйдзе пераможцам, угадаць цяжка. Гэта пакажуць фестывальныя спаборніцтвы. Думаю, што свой абавязак перад Радзімай я выканаю з гонарам.





**Ф. І. Шаляпін.**
Здымак зроблены ў Белградзе ў 1930 годзе. Аўтограф вялікага артыста Е. Э. Віцінгу.

**Е. Э. ВІЦІНГ,**
**прафесар Беларускай Дзяржаўнай кансерваторыі**

# УСПАМІНЫ ПРА ШАЛЯПІНА

Упершыню я ўбачыў Фёдара Іванавіча Шаляпіна ў 1908 годзе ў Італіі, у Мілане, дзе я разам з другімі маладымі рускімі артыстамі вывучаў музыку. Помню, з якім хваляваннем глядзелі мы на вялікага артыста, любуючыся мужным тварам, прыгожай, стройнай фігурай, калі ён ішоў па прыстані.

Італьянскія артысты цёпла сустрэлі Фёдара Іванавіча, яны не хавалі свайго захаплення славутым спеваком. У Мілане не было чалавека, які не хацеў-бы ўбачыць Шаляпіна, пакланіцца яго таленту. Міланскі пасаж, ці, як яго называлі, «рынак спевакоў», з прыездам нашага земляка стаў асабліва ажыўленым. Пасля двух гадзін дня сюды збіраліся артысты,

мастакі, літаратары. Побач з пачынаючымі былі Карузо, Ціто Руфо, Сторкія, Бурцыя, а ў тыя дні — і Шаляпін.

Італьянцы любяць оперу. У гэтым няцяжка пераканацца, калі паглядзець, якая чарга выстройваецца ля білетных кас любога з міланскіх тэатраў, асабліва такога, як «Ля Скала». Вестка аб тым, што ў «Ла Скала» будзе спяваць Шаляпін, асабліва ўзрадавала нас, рускіх. З афіш стала вядома, што ў бліжэйшыя дні Фёдар Іванавіч выступае ў оперы Бойта «Мефістофель». З вялікімі цяжкасцямі атрымалі мы некалькі білетаў на галёрку і былі ўсцешаны, што зможам не толькі слухаць, але і бачыць вялікага спевака.

Настаў доўгачаканы вечар. Партэр і сем ярусаў запоўнены дарэшты. Ля дырыжорскага пульта — славуты Тасканіні. Аркестр выканаў уверцюру. Паднялася заслона, і ў дэкарацыйных воблаках паявіўся Мефістофель. Ён стаяў амаль голы і быў так старанна загрыміраваны, што, здавалася, кожны мускул на целе іграў. У глядзельнай зале пранёсся гром апладысментаў. Дырыжор зрабіў паўзу...

Для нас гэта было сапраўднае свята. Кожная фраза, прапетая Шаляпіным, кожны яго жэст успрыймаўся, як адкрыццё. А калі спявак выконваў «арыю са свістам», энтузіязм публікі — надзвычай тэмпераментнай італьянскай публікі — перайшоў усе межы. Людзі саскоквалі з месц, абдымаліся з зусім незнаёмымі. Твары ва ўсіх ззялі.

Поспех, які выпаў на долю Шаляпіна, быў незвычайным. Увесь Мілан гаварыў толькі аб гэтым спектаклі. Праз некалькі дзён мы вырашылі зайсці да Шаляпіна, каб асабіста выказаць сваё захапленне. Нас было чалавек пятнаццаць. Накіраваліся ў небагаты атэль «Еўропа», у якім жыў Фёдар Іванавіч. Доўга стаялі ля ўваходу — спрачаліся, каму ўвайсці першым. Адшукаўшы ўказаны дзяжурным нумар, нясмела пастукаліся.

— А́вантэ, — запрасіў гаспадар.

Бянтэжачыся, увайшлі і прывіталіся па-руску. Пачуўшы родную мову, Шаляпін вельмі ўзрадаваўся і падняўся насустрач. Мы ўбачылі высокага, стройнага бландына з кучаравымі валасамі і вельмі прыемнай усмешкай. На ім быў стракаты ўсходні халат.

Шаляпін доўга распытваў, адкуль мы, ці даўно ў Італіі. Калі прышоў акампаніятар, Фёдар Іванавіч прапанаваў нам паспяваць. Трое смельчакоў выканалі яго просьбу (я не быў у іх ліку). Фёдар Іванавіч асабліва пахваліў ба-



**Ф. І. Шаляпін** (справа) **і Е. Э. Віцінг**, Рыга, 1922 год.



**Ф. І. Шаляпін** (другі злева) **у Белградзе ў 1931 годзе.**

рытона Княгініна, які не без поспеху выступаў у ролі Рыгалета ў аднайменнай оперы Вердзі.

Шаляпін зачараваў не толькі нас, але і ўсю грамадскасць горада. Тэатральны Мілан з нецярпеннем чакаў артыкула вядомага італьянскага музыказнаўцы Карагаці, які супрацоўнічаў у сацыялістычнай газеце «Сакоколе кур'еры». А Карагаці не спяшаўся. І гэта зразумела: да думкі аднаго з лепшых музычных крытыкаў прыслухоўвалася не толькі італьянская грамадскасць, але і дзеячы мастацтва іншых краін. Аўтарытэт Карагаці быў настолькі вялікі, што лёс спевакоў у значнай меры залежаў ад яго прысуду.

Раней чым узяцца за пяро, Карагаці пажадаў асабіста сустрэцца з Фёдарам Іванавічам. Здарылася так, што Шаляпін праспаў умоўлены час сустрэчы і ўспомніў пра госця толькі ў той момант, калі пачуўся стук у дзверы. Фёдар Іванавіч ускочыў з пасцелі, сунуў ногі ў туфлі, зняў павязку са шкарпэткі і абвязаў ёю галаву. Як толькі паказаўся Карагаці, Шаляпін праспяваў па-італьянску фразу з «Барыса Гадунова»:

— Спыніся, я цар яшчэ.

Карагаці, які шмат пабачыў на сваім вяку, быў здзіўлены шаляпінскімі здольнасцямі пераўвасабляцца. А Шаляпін папрасіў прабачэння за тое, што праспаў.

Завязалася шчырая размова.

Праз два дні ў газеце з'явіўся артыкул. Шаляпін — лепшы бас свету, такі быў вывад крытыка.

Пасля 10—12 спектакляў, у якіх удзельнічаў Шаляпін, Мілан абляцела яшчэ адна навіна: Артур Тасканіні заявіў, што пакуль Шаляпін зможа спяваць у «Мефістофелі» ён, Тасканіні, не будзе дырыжыраваць операй з другім выканаўцам галоўнай ролі.

Па-сапраўднаму я пазнаёміўся з Шаляпіным, калі вярнуўся з Італіі. Летам 1908 года я прайшоў па конкурсу і быў прыняты ў Марыінскі тэатр. Мне пашанцавала: па-першае, я атрымаў магчымасць выступаць на сцэне аднаго з лепшых тэатраў, а па-другое, станавіўся партнёрам Фёдара Іванавіча. Ужо ў пачатку сезона я спадзяваўся, што Шаляпін прыедзе на гастролі і я ўбачу яго, хоць аб сумесных выступленнях я, вядома, і не думаў. Я-ж працаваў першы год. Але як толькі пачалася другая палавіна сезона, мяне выклікаў да сябе галоўны рэжысёр тэатра і паведаміў, што я буду спяваць у оперы «Фауст» разам з Шаляпіным. Пачаліся рэпетыцыі. На першай спеўцы Фёдар Іванавіч трымаў сябе стрымана, не выказваў сваёй думкі аб нашай рабоце, аднак мы, моладзь, адчувалі, што настрой у яго добры, што ён задаволены намі. Пасля спектакля ён нават павіншаваў многіх маладых спевакоў з поспехам. Праўда, мяне напаткала няўдача: у рэчытатыве перад кавацінай я забыў нейкае слова і замяніў яго сваім. Калі

праз некалькі год я зноў спяваў з Шаляпіным у той-жа оперы, ён сказаў мне пры выхадзе на сцэну:

— Глядзі, не пераблытай словы, — і напомніў іх.

Сярод пастановак Марыінскага тэатра, у якіх спяваў Шаляпін і ў якіх мне давялося быць яго партнёрам, «Фауст» асабліва запомніўся мне і па іншай прычыне. На прыкладзе «Фауста» лягчэй за ўсё можна было бачыць, як працаваў вялікі артыст. Ні ў адным спектаклі Шаляпін не паўтараўся. Нават смех Мефістофеля быў кожны раз іншым.

Даводзілася мне выступаць разам з Шаляпіным і ў другіх операх. Талент яго ўсё больш зачароўваў мяне. Я пранікся сардэчнай сімпатыяй да вялікага артыста, вывучыў яго характар, яго густы, асяроддзе.

У Марыінскім тэатры была вельмі строгая дысцыпліна. Усе артысты абавязаны былі з'яўляцца на спектакль роўна ў сем гадзін вечара. Гэта рабілася для таго, каб памочнік рэжысёра мог да спектакля абыйсці выканаўцаў і ў выпадку, калі хто-небудзь з іх спазняўся, своечасова паведаміць рэжысёру Тартакову. (Такія выпадкі былі вельмі рэдкія, бо гэта пагражала звальненнем з работы).



Ф. І. Шаляпін. 1921 год.

Фёдар Іванавіч прыходзіў заўсёды ў чвэрць восьмай. Звычайна быў ён у рускай світцы і ў бабровай шапцы, шыя захутана вялікім шарсцяным шалем.

Усе, і маладыя і сталыя, чакалі сустрэчы з ім. Ён лагодна адказваў на прывітанні, паспешліва праходзіў у артыстычную ўборную, гэтак-жа хутка пераапранаўся і грыміраваўся. І трэба аддаць яму належнае: ніхто з рускіх артыстаў не мог так удала накласці грым, як гэта рабіў Шаляпін. (Дапамагала яго ўменне маляваць.)

Загрыміраваўшыся, Фёдар Іванавіч ішоў да цырульніка па мянушцы Заіка, надзяваў патрэбны парык, рабіў наклейку вусоў і барады. (Калі было неабходна.) Урэшце пытаўся ў цырульніка:

— Ну, як па-твойму?

І калі атрымоўваў адказ «цудоўна», чакаў свайго выхаду на сцэну. Пры іншай ацэнцы — пераграміроўваўся нанава.

У Пецярбургу Шаляпін шмат часу бываў дома. Але гэта зусім не ад схільнасці да адзіноты. Дома ў Фёдара Іванавіча заўсёды было поўна гасцей. Асабліва часта наведвалі яго Максім Горкі, мастак Сероў, тэнар Пятроўскі, акампаніятар Пахітонаў (зараз працуе ў Ленінградскім тэатры оперы і балету імя С. М. Кірава). Дома Фёдар Іванавіч ніколі не гаварыў аб спяванні, тым больш ніколі не крытыкаваў сваіх таварышаў. Калі хто-небудзь кепска адзываўся аб знаёмым яму спеваку, Шаляпін рэзка заўважаў:

— Вам не падабаецца — не слухайце. А яму самому не спадабаецца — перастане спяваць.

Шаляпін не любіў дылетантаў у мастацтве. Калі за пастаноўку «Барыса Гадунова» на сцэне Марыінскага тэатра ўзяўся рэжысёр драматычнага Александрынскага тэатра Мерэнхольд, які не меў музычнай адукацыі, Шаляпін адкрыта выказваў сваё нездавальненне.

У ацэнцы сваіх паплечнікаў па мастацтву Шаляпін заўсёды прытрымліваўся аднаго крытэрыя — аб'ектыўнасці. На гэтыя ацэнкі ніколі не ўплывалі асабістыя адносіны. Так, напрыклад, Шаляпін вельмі высока цаніў талент Напраўніка, нягледзячы на тое, што якраз па патрабаванню апошняга малады спявак не быў прыняты пры першай спробе паступіць у Марыінскі тэатр.

Калі Фёдару Іванавічу напаміналі аб гэтым, ён, звычайна, адказваў:

— Хто ведае, магчыма, стары тады быў і праў...

Можа самай выдатнай якасцю Фёдара Іванавіча была любоў да простых, працоўных людзей. Ён добра ведаў быт, норавы, душу народа. З якім натхненнем выконваў ён народныя песні! А ведаў ён іх сапраўды вельмі многа. Памятаю выпадак, калі Шаляпін у сябе на кватэры спяваў з гадзіны ночы да пяці гадзін раніцы. Госці, якія былі ў яго ў той вечар, здзіўляліся, як адзін чалавек можа запомніць столькі рознастайных мелодый.

Пасля кожнай песні Шаляпін абяцаў:

— Зараз я вам заспяваю яшчэ лепшую.

Шаляпін ахвотна ўступаў у размовы з простымі людзьмі, з якімі яму даводзілася сустракацца, цікавіўся іх жыццём, іх патрэбамі, і пры магчымасці дапамагаў ім. Аднойчы ў Парыжы ён падараваў 35 000 франкаў дзецям беднякоў, каб яны маглі паехаць на дачу ў Нармандыю.

Усім, хто хоць раз сустракаўся з Шаляпіным, ён запамінаўся на ўсё жыццё. І гэта таму, што ён быў не толькі геніяльным артыстам, але і чалавекам вялікай душы.



К. ІДЭЛЬСОН

# САМУЙЛЁНАК — АПАВЯДАЛЬНІК



Споўнілася пяцьдзесят год з дня нараджэння выдатнага беларускага пісьменніка Эдуарда Самуйлёнка. Э. Самуйлёнак пачаў сваю літаратурную дзейнасць у канцы 1928 г., працуючы літработнікам газеты «Чырвоная Полаччына». Газета вучыла яго назіральнасці і аператыўнасці. Частыя паездкі давалі будучаму пісьменніку багаты жыццёвы матэрыял, які ён пасля выкарыстаў у сваіх мастацкіх творах. Самуйлёнак ніколі не быў халодным назіральнікам. Яго нарысы, карэспандэнцыі дыхалі сапраўднай усхваляванасцю.

У газеце і пачалася праца пісьменніка над апавяданнямі.

Самуйлёнак пачаў пісаць свае творы, апіраючыся на значныя традыцыі. Ён вучыўся пісаць у класікаў рускай савецкай літаратуры і, у першую чаргу, у вялікага пралетарскага пісьменніка А. М. Горкага. Рамантычная ўзнёсласць горкаўскіх герояў, іх вера ў лепшую будучыню і барацьба за яе сталі вядучымі рысамі станоўчых герояў Самуйлёнка.

Пісьменнік вучыўся ў выдатных беларускіх пісьменнікаў Я. Коласа, К. Чорнага, З. Бядулі, М. Лынькова. Творчая вучоба ў лепшых рускіх і беларускіх пісьменнікаў дапамагала фармаванню таленту Самуйлёнка.

Э. Самуйлёнак—пісьменнік шырокага творчага дыяпазону. Творчасць яго вылучаецца тэматычнай рознастайнасцю. Сацыялістычнае будаўніцтва ў горадзе, станаўленне калгаснага ладу ў вёсцы, барацьба з кулацтвам знайшлі сваё адлюстраванне ў апавяданнях «Русалчыны сцежкі», «Цагліна казsmата». Станаўленню новага савецкага чалавека прысвечана апавяданне «Паляўнічае шчасце». Аб падзеях грамадзянскай вайны гаворыцца ў апавяданні «Пункт апоры». Апавяданне «Сон» пабудавана на матэрыяле рэвалюцыйнай барацьбы з царызмам.

Пісьменніка цікавіла жыццё народаў іншых краін, іх барацьба за сваё вызваленне. Любоў і павагу выклікаў да сябе свабодалюбівы іспанскі народ. Грама-

дзянскай вайне ў Іспаніі прысвечана апавяданне «Урачыстая месса». У «Героі нацыі» Самуйлёнак выкрывае фашызм. Сваімі апавяданнямі пісьменнік значна пашырыў тэматычныя рамкі беларускай літаратуры.

Самуйлёнак стварыў цэлую галерэю станоўчых і адмоўных вобразаў, над якімі многа і настойліва працаваў. Пісьменнік настолькі зжываўся са сваім героем, што ён здаваўся яму жывым чалавекам, з якім можна гаварыць, якога можна бачыць. Марыя Іванаўна Кучынская, жонка Самуйлёнка, успамінае яго словы: «Мае героі мне спаць не даюць. Я іх бачу. Я чую, як яны гавораць са мной».

А Кузьма Чорны ўспамінаў: «Яго «землякі» — гэта тыпы, якія ён калі-небудзь бачыў у жыцці, якія пэўнымі сваімі рысамі назаўсёды засталіся ў яго памяці. Тут былі і сапраўдныя землякі, сяляне з Полаччыны, але многа было і людзей з іншых мясцовасцей, дзе прыходзілася іх бачыць. Ён падоўгу, бывала, расказваў аб гэтых сваіх «земляках», і з выразу яго твару, і з тону слоў можна было бачыць, што да рэальных рысаў жывога чалавека, якога ён ведае, усё больш і больш дадаецца фантазіі расказчыка і... тут пачынаецца ўжо творчасць. Смешная рыса вырастае ў непамерны камізм, звычайная непрыемнасць ператвараецца ў вялікае гора»... *

Э. Самуйлёнак часцей за ўсё імкнуўся выбраць незвычайныя, вострыя, напружаныя, драматычныя сітуацыі, у якія ён ставіў сваіх герояў. Гэта не толькі надавала цікавасць яго творам, заінтрыгоўвала чытача. У напружаных, вострых сітуацыях, незвычайных абставінах, з якіх, здаецца, няма выхаду, раскрываюцца характары герояў, іх багаты духоўны свет.

Возьмем для прыкладу апавяданне «Пункт апоры». Дзея адбываецца ў невялікім гарадку ў 1918 г. Сюды вось-вось павінны прыйсці немцы. За горадам знаходзяцца самалёты чырвоных, якія не могуць ляцець, бо няма гаручага. Здаецца, становішча безвыходнае. Але іменна ў гэтых абставінах праявіліся лепшыя маральныя якасці савецкіх людзей — байцоў атрада, гарадскіх рабочых. Яны шукалі выхад і знайшлі яго: у бакі самалётаў залілі спірт. Самалёты былі выратаваны.

У апавяданні «Герой нацыі» незвычайнай сітуацыяй з'яўляецца запрашэнне Штанге выступіць па радыё ў дзень нацыянальнага свята. Як павядзе сябе Штанге? Што ён будзе гаварыць? У гэтай драматычнай, псіхалагічна-напружанай сітуацыі раскрываецца маральная веліч героя, яго перавага над фашыстамі.

У апавяданні «Цагліна каземата» драматычным, глыбокаўсхваляваным з'яўляецца апісанне ночы, якую павінны правесці перад пакараннем Пятро Бычкоў з таварышамі. Драматызм гэтай сітуацыі ў тым, што павінны загінуць цудоўныя людзі, змагары за шчасце народа, сярод якіх і семнаццацігадовы Пятро. Перад ім жыццё толькі раскрыла свае далягляды. Пражыта толькі семнаццаць год! Але і ў гэтыя цяжкія хвіліны яны не схіляюць галовы. Ворагі не могуць іх запалохаць. Сілу ім дае вера, што прыдзе час, калі свабодна ўздыхне закуты народ. Гарачая вера ў перамогу народа робіць герояў гэтага апавядання рамантычнымі. І хоць яны загінуць, на іх месца прыдуць новыя і новыя атрады змагароў за народнае шчасце.

Эдуард Самуйлёнак вельмі любіў свой народ, сваю Радзіму. Шмат аб чым марыў ён напісаць. «Ён насіў у сабе вялікія магчымасці, гэта быў сапраўдны талент... Малады пісьменнік думаў аб тых карцінах жыцця, якія ён намалюе ў сваіх раманах...» **

Але Самуйлёнак не змог ажыццявіць усіх сваіх замыслаў. Заўчасная смерць вырвала з радоў беларускіх пісьменнікаў таленавітага празаіка. «Яго выключнае дараванне, — пісаў Я. Колас, — дараванне шырокага мастацкага дыяпазону не паспела развярнуцца ва ўсю сваю красу і сілу. Гэта быў пісьменнік з ярка акрэсленым, сугуба сваім мастацкім голасам...» ***

* К. Чорны. «Аб Эдуарду Самуйлёнку». «ЛІМ» ад 11 лютага 1940 г.

** Т а м-ж а.

*** Я. Колас. «Цяжкая ўтрата». «ЛІМ» ад 15 лютага 1939 г.



## Бібліяграфія

# ВЕРШЫ АБ ХАРАСТВЕ ПРАЦЫ

Браніслаў Спрынчан прышоў у літаратуру са сваёй тэмай — тэмай працы. Яго лірычны герой — гэта чалавек, закаханы ў сваю выдатную прафесію — прафесію рабочага, прафесію будаўніка. Сам рабочы па спецыяльнасці, паэт прызнаецца, у чым вытокі яго натхнення:

В родном цеху
На долгие года
Я закаляю каждый новый стих.
Я всей душой поэзию труда
У молота кузнечного постиг.

«Паэзія працы».

Не абстрактныя разважанні, а жыццёвая праўдзівасць складае пафас большасці яго вершаў. Паэт менш за ўсё клапоціцца аб штучным упрыгожванні сваіх твораў. Асноўную сваю задачу ён бачыць у тым, каб на звычайным, будзённым матэрыяле раскрыць радасць творчасці. У яго вершах, сабраных у зборніку «Над кручамі Сожа», мы знойдзем усхваляваныя строфы аб слаўнай рабочай сям'і і радкі аб сардэчнай удзячнасці юнака ветэрану працы, які адкрыў перад ім тайны майстэрства, партрэты людзей, блізкіх сэрцу аўтара... Нават у пейзажнай лірыцы Браніслава Спрынчана адчуваецца прысутнасць чалавекатворцы, які глядзіць на свет вачыма гаспадара. Праз усе вершы паэта праходзіць адна думка: шануйце працу, яна ўзвышае чалавека. З гордасцю за сваё высокае прызванне лірычны герой паэта заяўляе:

И хотя, бросая заготовку,
В капельках мазута и в пыли
Запятнал я новую спецовку,
Но на совесть пятна не легли.

«У кузні».

Гэтая думка набывае абагульненне ў вершы «Аўтаматчыцы», дзе дадзен партрэт прывабнай дзяўчыны, старannай працаўніцы:

Хоть блузка без узора
И маслом залита,
Но в этом — что за горе?
Была-б душа чиста.

Деталь кругла, как линза,
Уже блестит в руке.
Чернеет след мизинца
На розовой щеке.

Поверь мне — на заводе
Он так тебе к лицу,
Как пот и пыль в походе
Отличному бойцу.

Ёмкія словы! Не моднымі фасонамі стыльных касцюмаў вызначаецца вартасць чалавека, а той справай, якую ён штодзённа робіць на карысць людзям. Цудадзейная сіла калектыву не толькі здольна выкаваць і загартаваць самую складаную дэталь: у сваім горне яна выхоўвае і загартоўвае чалавечыя характары. Яркі абразок гэтай сілы паказаны ў вершы «Новы лёс». Маладому цыгану, які, па звычаю дзядоў, «за хлеб плясал,

как все цыгане, на животе и на спине», надакучыла беспрытульнае жыццё, і ён прышоў на завод. І калектыў ацаніў яго здольнасці і сілу, даў яму справу па душы. Цыган стаў новым чалавекам: «он первый парень в русской пляске и лучший в цехе кочегар».

Духоўная бадзёрасць, малады запал адчуваецца і ў многіх іншых вершах зборніка — «Куй жалеза, пакуль гарачае», «Тры нормы», «Зайздросная вышыня», «Вяртанне», «Кавальская зала», «Апошняя змена» і іншых.

Нават у вершах чыста лірычнага плана, як «Абнаўленне», паэт умее перадаць пачуцці чалавека працы, якому здаецца, што дождж «столько проявлял заботы, ласки: то гладил куст, то обмывал панели», а «небо, лопнувшее с треском, ремонтники скрепляют газосваркой».

«Над кручамі Сожа» — першая кніга Браніслава Спрынчана. У ёй нямала таленавітых, сапраўды чалавечных вершаў, якія даюць падставу чакаць ад паэта яшчэ больш дасканалых і глыбокіх твораў. Разам з тым хочацца зрабіць аўтару некалькі заўваг. У радзе вершаў ён не ўздымаецца над інфармацыйным вершаваным паведамленнем, і таму яны не пакідаюць прыкметнага следу ў памяці («Красавік», «Першая сустрэча», «Зімняе неба», «Аб любві», «Беларусь» і г. д.). Атрымліваецца гэта галоўным чынам таму, што паэт паказвае свайго лірычнага героя некалькі плакатна, знешне. Ён нібы баіцца, што калі знікнуць атрыбуты прафесіі героя, то мы не распазнаем яго.

Паэт злоўжывае тэхніцызмамі, таму некаторыя вершы здаюцца халаднаватымі. Тэма рабочага чалавека — вельмі вялікая, неабдымная тэма. Відавочна, што ў адным плане, у адной плоскасці нельга выразіць яе з належнай глыбінёй. У Спрынчана-ж яна трактуецца ў нейкай меры аднабакова. Мы бачым яго героя часцей за ўсё за рабочым станком, які з'яўляецца для яго абжытым месцам, родным домам. Гэта, вядома, вельмі каштоўная якасць вершаў Спрынчана. І ўсё-ж толькі гэтым немагчыма абмежавацца. Духоўны свет чалавека працы, нашага сучасніка, вельмі багаты і рознабаковы, запатрабаванні яго шырокія, і таму хацелася-б убачыць гэта ў новых творах паэта. Спробы Спрынчана паказаць свайго героя ў асабістым жыцці трэба прызнаць менш удалымі. Тут аўтара часам падсцерагае літаратуршчына, і замест жыццёвых назіранняў ён карыстаецца трафарэтнымі паэтычнымі хадамі, што асабліва адчуваецца ў вершах аб каханні. Там, дзе аўтар ідзе ад жыццёвай праўды, ёсць і пераканаўчасць і цеплыня пачуццяў і роздум. Але варта яму адступіцца ад жыццёвай праўды, як голас яго пачынае гучаць ненатуральна. Для прыкладу можна спаслацца на верш «Багатыры».

Закурим, что ли?
С крышки портсигара
На степь взглянули три богатыря.

. . . . . . . . . . .

И Муромец свой взгляд из-под
ладони
Направил на околицу села.

Багатыры з вядомай карціны спатрэбіліся паэту для таго, каб даказаць, што сённяшнія людзі штодзённа робяць подзвігі большыя, чым калісьці Ілья Мурамец. Думка правільная, але вырашана штучна, і відаць адразу, што багатыры ўваскрошаны аўтарам дзеля эфекту.

Вышэй мы адзначалі, што Браніслаў Спрынчан «поэзию труда у молота кузнечного постиг», што ён «в родном цеху на долгие года... закаляет каждый новый стих». Гэта не поза і не самахвальства аўтара, а добрасумленныя адносіны да важнай і адказнай справы. Іменна жыццё, наша многагранная рэчаіснасць паслужаць асновай новых твораў паэта і зарукай іх поспеху.

**Сцяпан ГАЎРУСЁЎ.**



# Таленты маладых



Тры дні гарэў факел фестывалю.

Тры дні з раніцы і ледзь не да самага світання на вуліцах і плошчах Мінска моладзь спявала песні, да знямогі танцавала. І ўсюды чуўся вясёлы бесклапотны смех шчаслівага юнацтва.

Пачалося ўсё 30 чэрвеня раніцай, калі ў раён Круглай плошчы сталі збірацца калоны ўдзельнікаў фестывалю. Юнакі і дзяўчаты, апранутыя ў фестывальныя касцюмы, ішлі са сцягамі, ехалі на тачанках, веласіпедах, аўтамашынах і матацыклах, неслі кветкі, рознакаляровыя шары, зялёныя галінкі, спявалі і смяяліся, нягледзячы на дождж.

А потым, калі вецер разагнаў хмары і яркія праменні сонца залілі трыбуны стадыёна «Дынамо», дарэшты запоўненыя людзьмі, на гаравую дарожку першай ступіла дэлегацыя Мінскай вобласці. За ёй на зялёным полі стадыёна выстраілася дэлегацыя Брэсцкай вобласці.



Маладыя калгасніцы сельгасарцелі імя Леніна Рэчыцкага раёна неслі наглядную дыяграму сваіх абавязацельстваў па надоях малака.

Брасчан пазналі адразу — не трэба было нават пытацца — і пазналі па дасціпна зробленаму макету крэпасці над Бугам. На аўтамашыне — частка крэпаснога форта. Зняможаныя байцы ў пракопчаных дымам гімнасцёрках застыглі з аўтаматамі ў руках. У глыбіні форта жанчына ў форме ваеннага ўрача перавязвае раненага салдата.

І макет, і грым быў зроблены так умела, што большасць гледачоў на трыбунах вырашыла: гэтую сцэну зрабілі артысты тэатра. Але людзі, якія паказалі адно толькі імгненне з незабыўнай эпапеі, абароны Брэсцкай крэпасці, не мелі ніякіх адносін да тэатра.

Можа ў будучым, калі





краіне давядзецца адстойваць сваю чэсць і незалежнасць. Яўгенія Шчарбакова і будзе медсястрой, а пакуль у яе самая мірная прафесія — яна ў адной з брэсцкіх цырульняў робіць жанчынам завіўкі. Зусім мірныя прафесіі і ў суровых байцоў: Уладзімір Алімаў—бетоншчык, Аляксандр Гаўрылюк — муляр, Нікалай Цітарэнка — дзяжурны па станцыі, Анатолій Карнееў — студэнт музычнага вучылішча.

І калі па стадыёну праязджала машына з макетам Брэсцкай крэпасці, адразу патухлі ўсмешкі і ў суровым маўчанні гледачы апладыравалі тым, хто, не шкадуючы жыцця, змагаўся супраць ворага.

І яшчэ адзін раз шматтысячны натоўп пагасіў усмешку на твары. Гэта было тады, калі над дэлегацыяй Гродзенскай вобласці на высокім пастаменце праплыла знаёмая па скульптуры ў Берліне фігура совецкага воіна з прыціснутай да грудзей дзяўчынкай. Студэнт Гродзенскага музычна-педагагічнага вучылішча Фелікс Галецкі і маленькая Валя Петрыкевіч здолелі вельмі прачула і непасрэдна перадаць суровую праўду нядаўніх дзён.

Пасля ўрачыстага адкрыцця фестывалю беларускія спартсмены і фізкультурнікі паказалі мноства захапляючых гімнастычных практыкаванняў. Мінчане і госці любаваліся славутай вазай, якую зрабілі спартсмены са сваіх целаў, зладжанымі гімнастычнымі практыкаваннямі, захапляючымі акрабатычнымі нумарамі.

Вось на полі стадыёна адзін да аднаго сталі дванаццаць спартсменаў. Студэнт інстытута фізкультуры Віктар Анціпін з разбегу прыгае цераз галовы сваіх таварышаў, пераварочваецца ў паветры, мякка апускаецца на зямлю, прыстройваецца да групы. І ўжо другі фізкультурнік робіць такое-ж зацяжное сальта, за ім трэці, чацвёрты...

Доўга апладыравалі прысутныя выкладчыку політэхнічнага інстытута Юрыю Грышакову і студэнту фізкультурнага інстытута Юрыю Бегельферу, якія на матацыкле рабілі стойкі на руках.

На здымку ўверсе: **Польская дэлегацыя ўручае падарунак.**

Унізе: **На поўнай хуткасці імчыць матацыкл. На ім спартсмены робяць складаныя практыкаванні.**

Парадавала вучаніца X класа 15 школы г. Мінска Зіна Вітко, якая дасканала рабіла на матацыкле складаныя акрабатычныя практыкаванні.

Пасля ўрачыстага адкрыцця пачалося масавае маладзёжнае гулянне. У парках, на плошчах выступалі калектывы мастацкай самадзейнасці, прафесіянальныя артысты, ішлі конкурсы на лепшы харавы калектыў, на лепшага танцора, дэкламатара, спевака.

Удзельнікі фестывалю сустракаліся з праслаўленымі партызанамі Вялікай Айчыннай вайны, з беларускімі пісьменнікамі, вучонымі, з жывёлаводамі і ільнаводамі.



На фестываль прыехаў славуты хор Лапацінай.

Усе дні на вуліцах Мінска можна было ўбачыць людзей у розных нацыянальных уборах, усюды можна было танцаваць і спяваць. Горад неяк нечакана ператварыўся ў вялізную сцэну. Гэта спраўляла сваё свята моладзь.

А ўвечары трэцяга дня, калі ў мінскім небе засвяціліся зоркі, пачалося факельнае шэсце. Зноў удзельнікі фестывалю прайшлі праз Круглую плошчу, адкуль тры дні назад пачалося шэсце. Зноў — песні, задорны, малады смех.

А цяпер, калі нашы чытачы глядзяць вось гэтыя здымкі, былыя ўдзельнікі фестывалю самааддана працуюць на калгасных палях і фермах, на фабрыках і заводах. Ну, а тыя, хто заваяваў права на ўдзел у міжнародным фестывалі, будуць аспрэчваць першынства сярод соцень маладых талентаў свету.

Вядома, ім гэта нялёгка; многа талентаў прыехала ў Маскву. Але яны ведаюць, што іх паслала беларуская моладзь, якая заўсёды ідзе ў першых радах савецкай моладзі.

**А. ПУШКАРСКІ.**



На плошчы выступалі харавыя калектывы.

# Нашы лаўрэаты

Іх семнаццаць пераможцаў. Спевакі, танцоры, выканаўцы на народных інструментах, прадстаўнікі прафесійнага і самадзейнага беларускага мастацтва, узнагароджаныя залатымі, срэбранымі ці бронзавымі медалямі Усесаюзнага конкурсу выканаўцаў фестывалю моладзі. Яны аб'ёднаны многімі агульнымі жыццёвымі і творчымі рысамі. Тут і чароўная маладосць, палымянае захапленне мастацтвам, настойлівае імкненне да перамогі — а без гэтага нельга спаборнічаць у конкурсах — і нарэшце, велізарная творчая праца, што «хаваецца» за віртуознымі рухамі танцораў, пявучымі пасажамі інструменталістаў, натхнёнай празрыстасцю і лёгкасцю гучання голасу спевакоў.

У большасці пераможцаў многа агульнага і ў тым, як яны сталі на шляхі да сапраўднага мастацтва. Дзямкова Галя, Прыдачына Валя, Траян Ніна, Адамейка Марыя, Марозава Валя, Загаруйка Ліда, Андрыенка Валя, Аўдзеенка Ганна — восем дзяўчат з розных раёнаў і гарадоў Беларусі аднымі з першых прыйшлі ў створаны Беларускі народны хор. Па сутнасці гэта з іх, былых выхаванак дзіцячых дамоў, тэлефаністак, рахункаводаў, кухараў, паштальёнаў, ткачых — дзяўчат з прыгожымі галасамі — пачаў свой шлях у беларускім мастацтве шырока вядомы зараз Дзяржаўны народны хор. Але калі гэтыя і іншыя дзяўчаты і хлопцы аддалі хору свае прыгожыя маладыя галасы, непахіснае жаданне ўпрыгожыць жыццё народа сваімі песнямі, дык і яны многім абавязаны калектыву, яго мастацкаму кіраўніку, народнаму артысту БССР Г. І. Цітовічу за тое, што здолелі зрабіць такі здзіўляючы крок ад самадзейнага да высокапрафесійнага мастацтва. Тыя восем залатых медаляў, што ўпрыгожваюць грудзі дзяўчат за цудоўнае выкананне беларускіх народных песень «Рэчанька», «Ой рана на Івана», «Жавараначкі, прыляціце», «Сярожка», «Пры Дунаёчку» і іншых, яскрава сведчаць пра непарыўнасць сувязей паміж самадзейнай народнай і прафесійнай творчасцю, пра іх узаемнае ўзбагачэнне.

Цымбалісты Веніямін Бурковіч і Нікалай Шмелькін таксама ўзнагароджаны залатымі медалямі. Сын беларускага селяніна з-пад Лагойску, дваццацігадовы Бурковіч прайшоў кароткі творчы шлях ад студэнта мінскага музычнага вучылішча і Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі да саліста філармоніі. Яго ігра на цымбалах захапіла шматлікіх слухачоў не толькі Беларусі, але і братніх савецкіх рэспублік. Цудоўнае выкананне канцэрта Камінскага, фантазіі Жыновіча, рапсодый Ліста зрабіла В. Бурковіча жаданым госцем на канцэртных эстрадах народнай Польшчы, Швецыі і Нарвегіі, упрыгожыла яго ганаровым званнем лаўрэата Усесаюзнага конкурсу фестывалю моладзі.



На фестывалі ў Мінску.

Таксама невялікая, але больш складаная біяграфія ў Н. Шмелькіна. Страціўшы ў першыя дні Вялікай Айчыннай вайны сваіх бацькоў, маленькі

Коля пасвіў жывёлу, батрачыў у вясковых багацеяў адной з вёсак Заходняй Беларусі. Пасля вызвалення краіны ён паступіў вучнем у Дзяржаўны Беларускі народны аркестр, стаў студэнтам кансерваторыі адразу па двух спецыяльнасцях: цымбалах і ўдарных інструментах. Паспяхова закончыўшы вучобу, ён сумяшчае канцэртную дзейнасць з працай у сімфанічным і народным аркестрах філармоніі. Залаты медаль лаўрэата Н. Шмелькін атрымаў на конкурсе за яркае выкананне такіх розных па характару і стылю твораў, як «Жаваранак» Глінкі, «Музычная табакерка» Лядава, «Прэлюдыі» Шастаковіча, «Сюіты» Жыновіча, «Канцэрта» Камінскага і інш.

Педагогу мінскага музычнага вучылішча Нікалаю Прошку 26 год. Ён закончыў у Маскве музычны інстытут імя Гнесіных, працаваў мастацкім кіраўніком многіх аркестраў палацаў культуры, салістам Маскоўскай эстрады. Але юнака цягнула на Беларусь. Так ён апынуўся ў Мінску. Пачаў працаваць у музычным вучылішчы і Палацы культуры профсаюзаў. На конкурсе ён атрымаў срэбны медаль за выкананне на балалайцы твораў Андрэева, Чайкоўскага.

Трое беларускіх спевакоў таксама ўзнагароджаны на конкурсе срэбнымі медалямі. Калі народная артыстка БССР Клаўдзія Кудрашова дабілася гэтай узнагароды за мастацкае выкананне твораў рускай музычнай класікі, такіх, як арыя Кашчэеўны з оперы «Кашчэй неўміручы» Рымскага-Корсакава, як рамансы «О, не сумуй», «Я чакаю цябе» Рахманінава, дык маладая салістка опернага тэатра Станіслава Гулевіч натхнёна спявала беларускія народныя песні. Ёй, былой калгасніцы са Свяцілавіцкага раёна на Гомельшчыне, срэбны медаль прысуджаны за выкананне песень «Што за месяц», «Чаму-ж мне не пець», «Полька Янка», «Кума мая, кумачка», тых песень, якія Стася Гулевіч спявала яшчэ тады, калі нават і не марыла быць прафесійнай спявачкай.

Станіслаў Самсонаў — адзін з беларускіх лаўрэатаў, хто не «здрадзіў» самадзейнасці і ўдзельнічаў у конкурсе як яе кадравы прадстаўнік. Майстар Мінскага тэхнічнага вучылішча № 9, Самсонаў выдатна выканаў «Песню аб Нёмане» Сакалоўскага, «Песню аб Заслонаве» Алоўнікава, беларускія народныя песні «Сваток» і «Забалела ды мая галованька» і разам з прадстаўнікамі прафесійнага мастацтва быў узнагароджаны срэбным медалем.

Маладых беларускіх танцораў — заслужаную артыстку БССР Ніну Давідзенка, Аляўціну Карзянкову і Валянціна Давыдава шматлікія гледачы многіх гарадоў рэспублікі любяць за непасрэднасць маладосці, тэхнічную дасканаласць выканання танца. Гэтыя-ж якасці не магло не адзначыць журы конкурсу. Вось чаму Н. Давідзенка і В. Давыдаў узнагароджаны срэбнымі медалямі за выкананне танца з балету «Дон-Кіхот» Мінкуса, А. Карзянкова — бронзавым медалем за «Іспанскі танец» Глазунова.

Усесаюзны конкурс індывідуальных выканаўцаў закончаны. Моладзь Беларусі з гонарам вытрымала свае першыя творчыя іспыты на ўсесаюзным спаборніцтве лепшых.

**І. НІСНЕВІЧ.**



**А гэта — танцоры Рэчыцкага дома культуры.**

# Каштоўны набытак

Бібліятэка Акадэміі навук БССР сумесна з Інстытутам літаратуры набыла кнігі і рукапісныя матэрыялы вядомага беларускага этнографа і вучонага Адама Багдановіча і яго сына, вядомага паэта Максіма Багдановіча.

Матэрыялы гэтыя прывезены з Яраслаўля, дзе Максім Багдановіч жыў да 1917 года; яго бацька — Адам Багдановіч там і памёр незадоўга да Вялікай Айчыннай вайны.

Літаратурная спадчына Багдановічаў уяўляе вялікую цікавасць. Тут — многія неапублікаваныя рукапісы Адама Багдановіча, у тым ліку такія яго працы, як: «Мова зямлі», «У апошнія гады» (старонкі з жыцця А. М. Горкага), «Кавалкі ўспамінаў аб Максіме Горкім», «Максім Горкі і Фёдар Шаляпін у Ніжнім Ноўгарадзе», «Успаміны аб сыне — Максіме Багдановічу».

Сярод кніг ёсць апавяданні М. Горкага з наступным аўтографам: «Старому сябру Адаму Ягоравічу Багдановічу. М. Горкі. На ўспамін. Сарэнта, 1 лістапада 1924 г.». Перасылаючы гэтую кнігу Адаму Багдановічу, жонка Горкага Екацярына Пешкова пісала: «Дарагі Адам Ягоравіч, па даручэнню Аляксея Максімавіча пасылаю Вам яго кніжку за 1922—1924 гг. апавяданняў. Нарэшце тут яна атрымана. Як жывеце, як здароўе?»

Вялікую каштоўнасць мае бібліятэка, якой карыстаўся Адам Ягоравіч Багдановіч. Тут — матэрыялы па этнаграфіі Расіі, творы Міцкевіча, Славацкага, Кандратовіча, вершы Гейнэ, Канапніцкай, рускія народныя прыказкі, украінскія прымаўкі і выслоўі, «Кабзар» Шэўчэнкі ў перакладзе рускіх паэтаў выдання 1860 года, дакументы па гісторыі старажытнага Полацка, матэрыялы па гісторыі Беларусі, Літвы, «Тарас на Парнасе» дарэвалюцыйнага выдання, «Новая зямля» Якуба Коласа і «Пад родным небам» З. Бядулі з аўтографамі аўтараў.

Рукапісы і кнігі будуць захоўвацца ў бібліятэцы Акадэміі навук, а таксама ў Інстытуце літаратуры.

У ліку набытых матэрыялаў ёсць маловядомыя творы М. Багдановіча, якія друкаваліся ў свой час у розных выданнях, у тым ліку ў часопісу «Рускі экскурсант».

Набыты таксама лісты маці паэта, запіскі, нататкі і вершы, перапісаныя рукой маці М. Багдановіча, а таксама рэдкія фатаграфіі бацькоў Максіма Багдановіча, яго самога, яго братоў.

С. ЕФІМАЎ.

# У музеі Адама Міцкевіча

Прайшло толькі паўтара года з дня адкрыцця дома-музея Адама Міцкевіча ў г. Навагрудку, а яго ўжо наведала 1287 турысцкіх і эк-



скурсанцкіх груп. Тут пабывалі суайчыннікі паэта — госці з Польскай Народнай Рэспублікі, турысты з Чэхаславакіі і Румыніі, рабочыя, калгаснікі, вучоныя, артысты, пісьменнікі і студэнты Літвы, Украіны, Расійскай Федэрацыі, Эстоніі, Латвіі.

У канцы красавіка гэтага года Навагрудчыну наведаў праўнук Адама Міцкевіча французскі журналіст Ежы Гарэцкі.

Музей папаўняецца новымі дакументамі, цікавымі экспанатамі. Дырэкцыя мастацкіх выставак і панарам Галоўнага ўпраўлення выяўленчага мастацтва Міністэрства культуры СССР прыслала ў падарунак музею гарэльеф М. Мільберга «Александр Пушкін і Адам Міцкевіч», які з'яўляецца гіпсавай копіяй гарэльефа мемарыяльнай дошкі, устаноўленай у Маскве на доме № 6 па вуліцы Неміровіча-Данчанкі, дзе ў 1827 годзе сустракаліся вялікія паэты двух брацкіх народаў. Асаблівую цікавасць уяўляюць «Нататкі лекцый і практыкаванняў Адама Міцкевіча выкладаных у Коўне». Дзякуючы намаганням Літоўскай Акадэміі навук, яны ўбачылі свет асобным выданнем. Гэтыя нататкі спатрэбяцца не аднаму даследчыку, як крыніца новых цікавых фактаў.

Канспекты міцкевічавых лекцый і практыкаванняў з'яўляюцца гістарычным дакументам ранняй дзейнасці скромнага настаўніка, які будзіў у маладых сэрцах вучняў веру ў лепшую будучыню народаў.

**Л. МІРАЧЫЦКІ,**
**навуковы супрацоўнік Дома-музея Адама Міцкевіча.**

# Дэкада ўкраінскай літаратуры

У канцы чэрвеня — пачатку ліпеня ў Беларусі гасцілі пасланцы брацкай украінскай літаратуры.

25 чэрвеня ў Мінскім аэрапорце сабраліся пісьменнікі, прадстаўнікі тэатральнай грамадскасці сталіцы, партыйных і савецкіх арганізацый. Яны чакалі самалёт, які ляцеў з Кіева. Горача, з букетамі кветак былі сустрэты ўкраінскія пісьменнікі Алесь Ганчар, Андрэй Малышка, Леанід Навічэнка, Мікола Нагнібяда, Платон Варанько, Васіль Казачэнка, Мікалай Ушакоў, Любоў Забашта, Валянціна Ткачэнка, Расціслаў Братунь, Алесь Підсуха, Дзмітро Білаус, Іван Чэндэй, Віктар Сакалоў.

Разам з пісьменнікамі прыляцелі артысты кіеўскіх тэатраў: заслужаныя артысты УССР Г. Шоліна і Б. Пузін, артысты В. Вепрык і П. Масоха.

— Дарагія браты і сёстры, дарагія госці, — звярнуўся да прыезджых Кандрат Крапіва, — мы рады вітаць вас на нашай беларускай зямлі. Ваш прыезд — гэта яшчэ адзін доказ даўняй непарушнай дружбы ўкраінскага і беларускага народаў, якая ўзмацнела ў сумеснай барацьбе за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Наша дружба яшчэ больш расквітнела за гады савецкай улады, пад сцягам ленінскай Камуністычнай партыі.

— Мы былі радасна ўсхваляваны, калі даведаліся, што ў Беларусі адбудзецца тыдзень украінскай літаратуры, — сказаў пры спатканні вядомы ўкраінскі пісьменнік Алесь Ганчар. — Ступаючы на зямлю беларускага народа, мы перадаем яму сардэчнае прывітанне з Украіны.

У той-жа дзень вечарам у памяшканні Палаца культуры прафсаюзаў адбылося ўрачыстае адкрыццё тыдня ўкраінскай літаратуры.

У зале сабралася мноства народу.

За сталом прэзідыума месцы занялі сакратар ЦК КПБ Ц. Я. Кісялёў, намеснікі Старшыні Совета Міністраў БССР Е. І. Уралава, К. В. Кісялёў, міністр культуры Г. Я. Кісялёў, першы сакратар Мінскага абкома КПБ В. Ф. Шаура, старшыня выканкома Мінскага горсовета В. І. Шарапаў, сакратар ЦК ЛКСМБ Г. А. Крыулін, а таксама пісьменнікі і прыехаўшыя госці, якіх прысутныя сустрэлі бурнымі воплескамі.

Вечар адкрыў старшыня праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР Пятрусь Броўка.

Алесь Ганчар расказаў аб поспехах сучаснай украінскай літаратуры.

Затым украінскія і беларускія паэты выступілі і прачыталі свае вершы.

У заключэнне адбыўся вялікі канцэрт з удзелам майстроў мастацтваў Украіны і Беларусі.

У наступныя дні госці знаёміліся

са сталіцай рэспублікі — Мінскам. Яны ўсклалі вянкі ля помніка Янкі Купалы ля помніка Вызвалення на Круглай плошчы, пабывалі на буйнейшых прадпрыемствах горада. А ўвечары сустракаліся з моладдзю і чытачамі.

Потым на працягу трох дзён украінскія пісьменнікі разам з вялікай групай беларускіх літаратараў ездзілі па абласцях і раёнах, выступалі перад калгаснікамі, знаёміліся з жыццём рэспублікі. Каго-б ні наведалі дарагія госці, куды-б ні заходзілі, усюды іх з беларускай шчырасцю, павагай і сардэчнасцю сустракалі нашы людзі.

Адна група ўкраінскіх пісьменнікаў накіравалася ў Брэст і там, на крайнім рубяжы Беларусі, на стыку двух брацкіх рэспублік, прадстаўнікі братніх літаратур — украінскія і беларускія пісьменнікі — сустрэліся ў клубе Брэсцкага гарнізона з рабочымі, прадстаўнікамі інтэлігенцыі, воінамі Савецкай Арміі. Выступалі тут Васіль Казачэнка, Мікола Нагнібяда, Віктар Сакалоў і Валянціна Ткачэнка. Госці наведалі калгасы вобласці і пабывалі ў Белавежскай пушчы.

Другая група паехала на Навагрудак, трэцяя — у Маладзечанскую вобласць.

Андрэя Малышку, Леаніда Навічэнку, Любоў Забашту, Дзмітро Білауса, Івана Чэндэя сустракалі з хлебам-соллю жыхары вёскі Вязынка, дзе нарадзіўся вялікі беларускі паэт Янка Купала. Госці пабывалі ў калгасах, на возеры Нарач і ў Браслаўскім рыбгасе, на возеры Свіцязь, там, дзе нарадзіўся вялікі польскі паэт Адам Міцкевіч.

Украінскім гасцям, якія пасля падарожжа вярнуліся ў Мінск, 1 ліпеня Урад Беларускай ССР наладзіў прыём, які прайшоў у цёплай, сардэчнай абстаноўцы.

Ад'язджаючы на радзіму, паэт Платон Варанько сказаў:

— Мы пакідаем гасцінную Беларусь, поўныя незабыўных уражанняў. Мы даведаліся, якіх поспехаў дабіўся беларускі народ за гады Савецкай улады. У сяброўскіх размовах з беларускімі пісьменнікамі мы даведаліся аб творчых планах адзін аднаго. У гутарках закранаяліся ўсе тыя пытанні, якія хвалююць нас у сувязі з набліжэннем 40-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Мы ўсе прышлі да вываду, што такія сустрэчы неабходна арганізоўваць не толькі паміж пісьменнікамі. Трэба, каб часцей бывалі адзін у аднаго нашы рабочыя, калгаснікі, вучоныя. Гэта яшчэ больш умацуе векавую дружбу нашых народаў, дапаможа ім дасягнуць новых поспехаў у развіцці эканомікі і культуры. Мы зробім усё, каб тыдзень беларускай літаратуры на Украіне, які будзе праведзены ў верасні гэтага года, прайшоў з такім-жа поспехам, як і тыдзень украінскай літаратуры ў Беларусі.

# Другая тэатральная прыбалтыйская вясна

Тэатральны фестываль «Прыбалтыйская вясна» праводзіцца ўжо другі раз. Творчыя калектывы Літвы, Латвіі і Эстоніі другі раз з'язджаюцца разам, каб паказаць лепшыя спектаклі, падрыхтаваныя на працягу сезона.

У гэтым годзе разам з тэатрамі Прыбалтыкі ў фестывалі прынялі ўдзел і нашы беларускія тэатральныя калектывы.

Фестываль праходзіў як творчая справаздача тэатраў у юбілейны, 40-ы год існавання савецкай улады.

Згодна ўмоў, фестываль праводзіўся ў два туры. Першы тур праходзіў у кожнай рэспубліцы на працягу месяца. Кожны тэатр павінен быў паказаць свой лепшы спектакль, падрыхтаваны ў перыяд з 1 чэрвеня 1956 г. па 1 красавіка 1957 года.

Тэатр імя Янкі Купалы прадставіў на фестываль сваю новую работу — спектакль «Салавей», інсцэніроўку вядомай аповесці Змітрака Бядулі. Новую оперу А. Багатырова «Надзежда Дурава» паказаў Беларускі Дзяржаўны тэатр оперы і балету. У яго-ж пастаноўцы быў паказаны балет Адана «Карсар».

Спектакль «Шчасце» па п'есе І. Дорскага і інсцэніроўку рамана Дастаеўскага «Униженные и оскорбленные» прывез на фестываль тэатр імя Якуба Коласа.

Вялікім поспехам у мінчан карыстаецца пастаноўка «Аптымістычнай



**Сцэна са спектакля «Васіліса Меленцьеўна» ў пастаноўцы Вільнюскага рускага драматычнага тэатра.**

Фото І. Салавейчыка.

трагедыі» Ус. Вішнеўскага Рускім Дзяржаўным драматычным тэатрам БССР імя Горкага. Не меншы поспех выпаў на долю гэтага спектакля і на фестывалі.

На тэатральным свяце выступілі таксама калектывы абласных тэатраў.

Пераможцам першага тура фестывалю сярод беларускіх тэатраў прызнаны спектакль «Салавей» у пастаноўцы тэатра імя Я. Купалы. Адзначаны, як добрыя, пастаноўкі «Униженные и оскорбленные» ў выкананні артыстаў тэатра імя Я. Коласа і «Крэмлёўскія куранты» ў пастаноўцы Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра.

Другі тур фестывалю адбыўся ў Вільнюсе. Для ўдзелу ў ім выязджалі калектывы тэатра імя Я. Купалы і Рускага драматычнага тэатра БССР, а таксама тэатры Латвіі і Эстоніі.

Перад закрыццём фестывалю адбылася канферэнцыя тэатральных дзеячоў. У выніку ўсебаковага абмеркавання лепшымі былі прызнаны спектаклі «Аптымістычная трагедыя» ў пастаноўцы Дзяржаўнага рускага тэатра БССР, «Геркус Мантас» у пастаноўцы Каўнаскага музычна-драматычнага тэатра і «Іграў я, скакаў я» ў пастаноўцы тэатра імя Яна Райніса.

Кубак фестывалю перададзены на захаванне нашаму рускаму драматычнаму тэатру.

Былі адзначаны лепшыя выканаўцы роляў. Званне лаўрэата фестывалю атрымалі: Ул. Дзядзюшка за выкананне ролі старога селяніна ў спектаклі «Салавей» і А. Клімава за выкананне ролі камісара ў спектаклі «Аптымістычная трагедыя».

Вялікая група ўдзельнікаў фестывалю ўзнагароджана Ганаровымі граматамі Міністэрства культуры БССР і Літоўскай ССР.

Фестываль «Прыбалтыйская вясна» адыграў вялікую ролю ў творчым жыцці тэатраў Беларусі і Прыбалтыкі. Ён стымуляваў іх творчы рост, садзейнічаў умацаванню культурных сувязей паміж братнімі рэспублікамі.

**А. ГРЫГОР'ЕВА.**

# Сардэчная дружба

Сардэчная, братняя дружба еднае беларускі і літоўскі народы. У нашай рэспубліцы не праходзіць ніводнага свята, каб на яго не былі запрошаны госці з Літвы. А ў Літве заўсёды гасцінна сустракаюць беларусаў.

Вялікай падзеяй у культурным жыцці абодвух рэспублік з'явілася правядзенне ў Вільнюсе «Прыбалтыйскай тэатральнай вясны», у якой прынялі ўдзел два беларускіх тэатры — Дзяржаўны рускі драматычны тэатр імя Горкага і Беларускі драматычны тэатр імя Янкі Купалы. Яны паказалі літоўскім гледачам свае апошнія спектаклі — «Аптымістычную трагедыю» Вс. Вішнеўскага і «Салаўя» Зм. Бядулі.

Часта пачалі абменьвацца канцэртамі калектывы мастацкай самадзейнасці абедзвюх рэспублік. Самадзейныя артысты Літвы прыязджалі з візітам дружбы ў сталіцу нашай рэспублікі — Мінск. У сваю чаргу калектывы мастацкай самадзейнасці працоўных рэзерваў Мінска, харавая капела калгаса «Сцяг Саветаў» Гродзенскай вобласці, танцавальны калектыў Смаргонскага раённага Дома культуры Маладзечанскай вобласці далі шэраг канцэртаў у братняй Літве.

Цікава прайшоў у Ашмянах злёт дружбы, у якім прыняла ўдзел моладзь Няменчынскага і Нова-Вільнюскага раёнаў Літоўскай ССР, Ашмянскага, Юрацішкаўскага і Смаргонскага раёнаў Маладзечанскай вобласці.

Насустрач VI Сусветнаму фестывалю моладзі ў Маладзечанскай вобласці праведзена эстафета культуры, якая перададзена ў Літоўскую ССР.

**О. ДЫГАЙЛА.**



## Коратка

### Расліны, якія „страляюць"

Ёсць нямала раслін, якія ў барацьбе за існаванне выпрацавалі арыгінальны спосаб рассейвання свайго насення,— яны «страляюць» ім, як стрэльба шротам.

У розных месцах нашай краіны можна сустрэць такія расліны. Гэта шалёны гурок, сібірская чубатка, жоўтая акацыя, фіялка і іншыя.

Рэкордных вынікаў па дальнасці «стральбы» дасягае шалёны гурок. Радзіма гэтай расліны — Каўказ.

Пры выспяванні ў сценках плоду, падобнага на звычайны гурок, разрастаюцца асобныя клеткі. Яны робяць унутры моцны ціск, які дасягае, прыкладна, трох атмасфер. Канец ножкі такога гурка выконвае ролю затычкі. Варта крануць яго, як ад унутранага ціску ён вылятае з моцным трэскам; струмень са «стрэліўшага» гурка можа пырснуць на адлегласць 6—8 метраў.

### Афрыканская аптэка

Калі ў вас забалела галава альбо вы прастудзіліся, пасядзеўшы пад ліўневым дажджом на стадыёне, вы ідзеце ў аптэку. Там да вашых паслуг самыя рознастайныя кроплі і парашкі, таблеткі і пілюлі. Але аптэкі сустракаюцца не ўсюды. Наўрад ці хто-небудзь разлічвае знайсці аптэку, скажам, у саванах Заходняй Афрыкі.

Але, аказваецца, і тут яны існуюць.

Калі не верыце, прагуляйцеся па саванах. Вы хутка ўбачыце невысокае раскідзістае дрэва з кароткім скрыўленым ствалом. Завецца яно саркацэфалюс.

Буйныя салодкія плады гэтага дрэва, якія па смаку нагадваюць суніцы,—лепшы ласунак тубыльцаў з Залатога Берага і Усходняга Судана. Цэніцца таксама жоўтая фарба для скуры, якая здабываецца з кары гэтага дрэва, і прыгожая чырвона-карычневая драўніна.

Але галоўнае не гэта.

Жаўтаваты густы настой кары гэтага дрэва ўжываецца як лякарства пры малярыі і малакроўі, а таксама пры страўнікавых захворваннях. Жвачка з кары дапамагае пры зубным болі. Высушаная кара і карэнне саркацэфалюса валодаюць лекавымі ўласцівасцямі і служаць для прысыпкі ран. Кара і карэнні вядомы пад назвай «афрыканскай хіны», бо яны доўгі час прымяняліся як замяняльнік хіны.

Выкарыстоўваецца таксама і лісце. Настой з яго ўжываецца для прымочак пры гарачцы.

Лекавыя ўласцівасці розных частак гэтага каштоўнага дрэва тлумачацца наяўнасцю ў іх асобных вяшчэстваў-алкалоідаў, якія валодаюць здольнасцю знішчаць хваробныя мікробы.

### Лятаючая касілка

Чарот у дэльце Дуная дасягае 6 метраў у вышыню. Запасы чароту тут вельмі вялізныя. Зусім нядаўна вучоныя Румыніі і Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі знайшлі спосаб прамысловага выкарыстання гэтай каштоўнай сыравіны. Чарот ідзе для вырабу кардону і паперы. Частка скошанага чароту адпраўляецца ў ГДР, дзе з яго робяць моцнае шаўкавістае валакно для мужчынскіх кашуль.

Восенню мінулага года рыбакі на Дунаі назіралі цікавы малюнак. Чарот касілі маторныя лодкі са спецыяльным прыстасаваннем. А над самымі густымі зараснікамі вісеў верталёт і касіў чарот магутнай касілкай, прымацаванай да яго колаў.

### Біцылін

Сотні тысяч людзей ва ўсім свеце з пачуццём вялікай удзячнасці называюць імёны вучоных, якія вынайшлі пеніцылін. Аднак гэты выдатны прэпарат мае сур'ёзны недахоп. Ён вельмі хутка выводзіцца з арганізма, і таму яго неабходна ўводзіць хвораму праз кожныя 3 — 4 — 6 гадзін.

Зараз адкрыты новы прэпарат, названы «біцылін», які ўяўляе сабой новую арыгінальную соль пеніцыліна. Прывіты з дапамогай аднаго ўкола дозай у 300 тысяч адзінак, гэты прэпарат захоўваецца ў лячэбнай канцэнтрацыі ў крыві і ў органах на працягу 6 — 7 дзён. Калі-ж дозу біцыліна павялічыць у чатыры разы, то ён можа трымацца ў арганізме хворага на працягу 30 і больш дзён. Значыць,

замест 180 уколаў у месяц дастаткова будзе рабіць толькі адзін укол.

## Паядынак у паветры

Цікавы выпадак адбыўся нядаўна над Кара-Сакальскім стэпам паблізу ракі Куры. Чабаны калгаса імя 28 красавіка фараліеўскага раёна ўбачылі, як на зямлю з вялікай вышыні апусціўся каршун і, схапіўшы кіпцюрамі гюрзу, узняўся ў неба.

Гадзюка аказалася велізарнай даўжыні—каля двух метраў. У паветры яна стала абвіваць шыю пярнатага драпежніка. Каршун разняў кіпцюры, каб скінуць уніз здабычу і потым зноў напасці на яе. Але гадзюка ўсё мацней і мацней сціскала яго горла.

Калгаснікі заўважылі, як каршун паступова пачаў слабець і хутка ўпаў на зямлю. Паветраны паядынак скончыўся гібеллю каршуна і гадзюкі.

## Брат „Цар-звона“

У адным з гарадоў Поўночнай Бірмы знаходзіцца вядомы Мінгунскі звон. Ён адліты са сплаву, напамінаючага бронзу, і з'яўляецца другім у свеце па велічыні пасля Цар-звона ў Маскоўскім Крэмлі.

## Лічыльныя машыны

У Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы пабудаваны электронныя лічыльныя машыны, кожная з якіх складаецца з 17 тысяч рэле, 90 тысяч сяленавых выпрамнікаў, 600 кіламетраў правадоў.

## Мільённая доля сантыметра

Новы амерыканскі мікрометр можа праводзіць вымярэнні лінейных размераў да адной мільённай долі сантыметра.

## Цікавыя дрэвы

У Кітаі пачалі культываваць шматгадовыя дрэвападобныя таматы і сою. З аднаго дрэва можна атрымліваць ураджай цэлыя дзесяць год.

Н. ЖЫГОЦКІ.

# ЧАМУ МЫ ТАК ГАВОРЫМ

## Выскачыў, як Пілір з канапель

Цяжка знайсці на Беларусі чалавека, які не ведаў-бы гэтай пагаворкі. Але мала хто адкажа на пытанне, адкуль яна паходзіць.

Даследчыкі сцвярджаюць наступнае. Жыў у эпоху Вялікага Літоўскага княства нейкі сенатар Філіп з Канопі (слова Канопі азначае назву вёскі, у якой гэты чалавек нарадзіўся). Гэты Філіп з Канопі, выступаючы аднойчы на сейме, сказаў нейкую недарэчнасць. У зале падняўся смех і выкрыкі: «Хто гэта там такі выскачыў?» — «Гэта Філіп з Канопі»,— адказвалі другія.

З таго часу і пайшла гэтая пагаворка. Яе ўжываюць у дачыненні да тых, хто сказаў што-небудзь недарэчнае. Адбылася толькі замена паасобных элементаў пагаворкі: слова «Канопі» — асацыіравалася ў народным уяўленні са словам «каноплі».

## Як камень у ваду

Гэты фразеалагізм узыходзіць да глыбокай старажытнасці і адлюстроўвае адзін з самых старажытных звычаяў у жыцці славянства.

Пры заключэнні міру старажытныя славяне кідалі ў ваду камень у знак таго, што так, як знік у вадзе камень, няхай знікне ўсялякая варожасць і зайздрасць паміж суседзямі.

З цягам часу гэты звычай перастаў бытаваць, аднак выраз захаваўся. У гэтым-жа значэнні ў рускай мове ўжываецца — «Как в воду кануть».

## Зарабіў, як Заблоцкі на мыле

Паданне сведчыць, што калісьці жыў купец Заблоцкі, чалавек скупы, прагавіты да нажывы. Накупляў ён аднойчы мыла і хацеў за дарагую цану прадаць яго за мяжою. Аднак у дарозе карабель, на якім ехаў Заблоцкі, пацярпеў крушэнне і тавар прышоў у нягоднасць. Прадпрыймальны купец не разгубіўся, зноў накупляў мыла і павёз яго на продаж. У тым горадзе, куды ён прыехаў, была вялікая мыльная фабрыка, мыла было танным, і таму Заблоцкі на сваім мыле нічога не зарабіў.

З таго часу і бярэ свой пачатак гэтая пагаворка.

У беларускіх народных гаворках гэты параўнаўчы зварот шырока ўжываецца ў іранічным сэнсе са значэннем «прайграць якую-небудзь справу», «няўдала», танна прадаць што-небудзь».

# Навука і тэхніка

□

У пераліку тавараў, якія прадае наша краіна за мяжу, прыбавілася новая назва — сталёвыя нафтасховішчы. Гісторыя ўзнікнення гэтага незвычайнага прадмета экспарту настолькі-ж кароткая, наколькі і павучальная.

Да самага апошняга часу на пабудову нафтасховішча патрабаваўся цэлы месяц. Вакол месца, дзе намячалася збудаваць велізарны рэзервуар для хавання нафтапрадуктаў, узводзіліся рыштаванні. Дзесяткі сталёвых лістоў падганяліся адзін да другога і потым прыварваліся. Варта было зваршчыку дапусціць зусім нязначную памылку або сшыць нетрывала, як потым, пры эксплуатацыі, узнікаў «выбух» шва. За «выбухам» ішла аварыя з цяжкімі вынікамі.

Совецкія спецыялісты распрацавалі і ажыццявілі новы метад збудавання нафтасховішчаў. Цяпер велізарныя цыліндрычныя рэзервуары робяцца са сталёвага рулона. Сховішча на 2000 кубічных метраў будуецца на працягу аднаго дня! Сусветная практыка ў гэтай галіне не ведала такіх тэмпаў. Якасць рэзервуараў, іх надзейнасць значна ўзраслі.

□

Вядома, якую шкоду прыносіць вялікая колькасць метана ў вугальных шахтах. Гэты газ дзейнічае на здароўе шахцёраў і мае велізарную небяспеку, як узрыўчатае рэчыва.

Дэгазацыя шахт, — выпампоўванне метана з-пад зямлі, — шырока практыкуецца ў каменнавугальных басейнах нашай краіны. Украінскія гарнякі вырашылі, што не патрэбна кідаць на вецер тое, што можа прынесці карысць. У Данбасе метан з шахт накіроўваецца ў топкі фабрык, заводаў і электрастанцый.

□

«АБС» — так названы новы фотаапарат, які выпускаецца адной з заходнегерманскіх фірм. Ён аформлены ў выглядзе наручнага гадзінніка. Відашукальнік гэтага фотаапарата дазваляе разглядаць аб'ект здымкаў на адлегласці 25 см, гэта дае магчымасць рабіць здымкі ў самы нечаканы момант, робячы звычайны жэст рукой, як пры вызначэнні часу. Апарат разам з касетай важыць 45 грамаў.



Касета зараджаецца плёнкай на 8 кадраў памерам 3×4 мм. Высокая светасіла аб'ектыва ў спалучэнні з кароткафокуснасцю дазваляе рабіць здымкі без усякіх клопатаў аб наводцы на рэзкасць у самых складаных светавых умовах. У спалучэнні са спецыяльным павелічальнікам і навейшымі спосабамі апрацоўкі плёнкі фотаапарат «АБС» дае высокаякасныя здымкі памерам 6 X 9 см.



Кухонны набор, паказаны на гэтым здымку, выпускаецца ў Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы. Ён уключае 30 прадметаў. Усе яны (акра-



мя электрапліткі) зроблены з алюмінія і зручна ўпакоўваюцца ў вядзерца, якое зачыняецца вечкам. Вышыня вядзерца — 28 см, дыяметр — 26 см. Вага ўсіх запакаваных прадметаў складае 4,4 кг. Усе прадметы — нармальных памераў і з поспехам могуць быць выкарыстаны як у падарожжы, так і ў быту.



Часопіс «Вынаходніцтва ў СССР» паведамляе аб стварэнні першага аўтаматычнага пад'ёмнага крана. Ва ўсіх вядомых цяпер кранах машыніст знаходзіцца ў кабіне і па сігналах знізу пераключае рычаг і педалі. У яго ўвесь час заняты рукі і ногі, напружаны зрок і слых.

Галоўны інжынер кіеўскага завода машынабудавання М. Ю. Чаныкаеў сканструяваў кран-аўтамат «БК-215». На грудзях у машыніста, які знаходзіцца не ў кабіне, а на зямлі, у тым месцы, якое абслугоўваецца кранам, размешчаны невялікі электрапульт. Ад пульта да крана цягнецца многажыльны кабель. Для перасоўвання крана і стралы цяпер дастаткова націску той ці іншай кнопкі.



У Чэхаславакіі сканструяваны арыгінальныя ўльтрагукавыя перфаратары. Яны прызначаюцца для прабівання адтулін у матэрыялах любой цвёрдасці. Памеры адтулін не абмяжоўваюцца. Аб хуткасці работы перфаратараў можна меркаваць па такіх дадзеных: шкло таўшчынёй поўсантыметра прабіваецца за адну мінуту, цвёрдыя сплавы за 10 — 15 мінут.



Кампанія Бэла (ЗША) распрацавала новыя ўзоры тэлефонаў. Яны дазваляюць бачыць твар субяседніка, як-бы далёка ён ні знаходзіўся. Для асоб, якія не жадаюць, каб іх бачылі, прадугледжана магчымасць выключэння перадаючага прыстасавання. Мяркуецца злучыць бачнатэлефоннай лініяй Н'ю-Йорк з Лос-Анжэласам. Адлюстраванне будзе перадавацца па двух дадатковых дротах.



Наша айчынная прамысловасць асвойвае вытворчасць новага віду сінтэтычнага валакна — хларына. Гэтае валакно валодае сапраўды цудоўнымі ўласцівасцямі,— з яго можна зрабіць трыкатажную бялізну, пры нашэнні якой змяншаюцца або зусім знікаюць болі ад радзікуліту, рэўматызму і падагры. Першыя партыі трыкатажу з хларына будуць хутка выпушчаны фабрыкамі Росгалоўтрыкатажу.



Прафесар Пенсільванскага універсітэта (ЗША) Тін Хсі-Чэнг сканструяваў новы кароўнік, абсталяваны спецыяльнымі душавымі ўстаноўкамі, якія прыводзяцца ў дзеянне... самімі



каровамі. Жывёла, праходзячы праз вароты, наступае на педалі, зробленыя ў падлозе; ад гэтага пачынаюць дзейнічаць душы, якія абмываюць кароў з усіх бакоў. У вадкасці раст-

вораны хімічныя рэактывы, бясшкодныя для кароў, але смяротныя для насякомых. Рэгулярнае прымяненне такой «санапрацоўкі» прыводзіць да значнага павелічэння тэмпаў развіцця жывёлы.

□

На Кутаіскім аўтазаводзе распрацаваны канструкцыі новых самазвалаў. Характэрнай асаблівасцю новых машын з'яўляецца магчымасць весці разгрузку не толькі назад, але і ўправа, і ўлева. Доследныя ўзоры кутаіскіх самазвалаў праходзяць выпрабаванні.

□

«Паўлавіцкая-198» — так названы новы высокаўраджайны гатунак азімай пшаніцы, які выведзены селекцыянерам Л. Пруцэкам. Сярэдняя ўраджайнасць гэтай пшаніцы складае 50 цэнтнераў з гектара. «Паўлавіцкая-198» валодае высокай устойлівасцю супроць палягання, не хварэе грыбковымі захворваннямі, добра расце ў нізінных месцах.

□

У Англіі створан арыгінальны апарат для зняцця копій з любых тэкстаў. Для гэтага не патрабуецца ні чарніла, ні якой-небудзь фарбы, ніякага падрыхтоўчага працэсу. Арыгінал, з якога патрэбна зняць копію, укладваецца ў шчыліну апарата, пад ліст спецыяльнай паперы, адчувальнай да цеплавога апраменьвання. Потым уключаецца магутная інфрачырвоная лямпа. Месцы, дзе няма адбітку (тэксту або малюнка), адлюстроўваюць паток інфрачырвоных праменняў, а надрукаваны або напісаны тэкст паглынае іх, што выклікае рэакцыю на ўкладзеным лісце паперы. У выніку атрымліваецца дакладная копія. Новы апарат атрымаў назву «Машына-сакратар».



# Так яны жывуць

У горадзе Дзюсельдорфе (Заходняя Германія), паведамляе часопіс «Тайм», заканчваецца будаўніцтва ўпраўлення па збіранню мясцовых падаткаў. Для гэтага будынка скульптар Кратц зрабіў незвычайныя дзвярныя ручкі. Гэта не проста ручкі, а сімвалы. На ўваходнай палавіне дзвярэй ручка адлюстроўвае фігуру, якая ўсміхаецца, рукі яе поўныя залатых манет. Яна адлюстроўвае настрой падаткаплацельшчыка, калі ён прыходзіць плаціць падатак. На выхадных дзвярах ручка адлюстроўвае тую-ж фігуру, але з сумным выразам твару і пустымі рукамі, вывернутымі ўверх далонямі.

Муніцыпальны совет адобрыў гэтыя ручкі, зыходзячы з меркаванняў, што «гэта вельмі чулліві юмар, у якім мае патрэбу падаткаплацельшчык».

✦

Адзін з гаспадароў чыкагскіх бойняў містэр Брэдлі, якога называюць «каралём марожанага мяса», захапляецца калекцыяніраваннем. У адрозненне ад натоўпу філатэлістаў і нумізматаў, якія збіраюць паштовыя маркі і старыя манеты, Брэдлі з гонарам калекцыяніруе... свіныя хвосцікі.

✦

Вядомая эстрадная актрыса Франка Май з такім азартам выконвала модны танец рок-энд-рол, што ў яе проста на сцэне наступіў параліч ног. Толькі праз поўмесяца двум італьянскім урачом-спецыялістам удалося вылячыць хваробу 21-гадовай аматаркі дзікага танца.

✦

Адзін прадпрыймальны дзялок з горада Альбасеце (Іспанія) вырашыў разбагацець. З гэтай мэтай ён заняўся гандлем білетамі... на той свет. Сваім кліентам ён дэманстраваў зроблены ім-жа самім «план размяшчэння месц на небе» па цане 50 песет за кожнае месца. У спісах яго кліентуры — звыш ста дзівакоў.

✦

Нейкая Хэцэл Уілер з Н'ю-Йорка гушкалася ў качалцы на працягу 72 гадзін 13 мінут. Яна на 7 гадзін пабіла свой папярэдні рэкорд. Яе канкурэнт, нейкі паштовы чыноўнік з Родчэстэра, таксама пабіў свой папярэдні рэкорд, прагушкаўшыся на працягу 99 гадзін 33 мінут.

✦

На працягу доўгага часу дзяржаўны служачы Альберт Кот з Аўгуста быў вядомы тым, што з'ядаў вялікую колькасць яек. Гэта не давала спакою фотарэпарцёру П. Дж. Тэрылю з форта Ландэрдэль, і ён выклікаў Кота на спаборніцтва. Выклік быў прыняты. Хто вышаў пераможцам, зарубежны друк не паведамляе. Але якую колькасць яек з'елі праціўнікі, відаць хаця-б з таго, што ўсякага, хто з'ядае за адзін раз поў-

сотні яек, Тэрыль называе «навічком», з якім ён нават «не сядзе за адзін стол».



Пасля 18-месячнай распрацоўкі сістэмы пакаранняў эксперты па пытаннях выхавання ў Ніжняй Саксоніі (Заходняя Германія) апублікавалі «Каталаг школьных пакаранняў». У ім прадугледжаны і такія «класічныя», асабліва для старой прускай школы, метады «выхавання», як прымяненне дубца. Праўда, вучоныя мужы, аддаючы даніну прагрэсу, літасціва вызвалілі ад пакарання вучняў першага і другога класаў.



Арыгінальнае рашэнне прыняў нядаўна школьны камітэт амерыканскага горада Хаустана. Ён забараніў вывучэнне ў школах падручніка канкрэтнай эканомікі на той аснове, што там маецца фраза: «Урад павінен імкнуцца да паляпшэння добрабыту ўсяго народа».

«Не дзіўна, а сорамна, — піша ў рэдакцыю часопіса «Тайм» Натаніель Магрудэр з горада Дэнвіля (штат Вірджынія), — што на чале навучання нашых дзяцей стаяць такія цемрашалы. Справа ў тым, што злашчасная фраза, якая выклікала такое абурэнне заўзятых законадаўцаў, узята з... прадмовы па канстытуцыі ЗША. Няўжо-ж цяпер і наша амерыканская канстытуцыя ўяўляе «чырвоную небяспеку»?»



Калі фінансавыя органы азнаёміліся з гандлёвымі кнігамі н'ю-йоркскага ўладальніка антыкварнага магазіна Салюс, дык яны знайшлі ў іх 1.145 разоў паўтораны запіс: «Праданы зуб са сківіцы Кларка Гіблса»—акцёра Галівуда. Зуб купляўся галоўным чынам яго не ў меру заўзятымі паклонніцамі.



Парыжскі прафесар Ларош абнародаваў нядаўна вынікі сваіх навуковых адкрыццяў — як уплывае гародніна на фармаванне характару і душэўны стан чалавека. Калі верыць пану прафесару, то, напрыклад, салат развівае музычнасць, грушы садзейнічаюць лагічнаму мысленню, морква і шпінат пазбаўляюць ад меланхоліі, бульба змякчае нервознасць, а спаржа павышае пачуццё адказнасці.

Не выключана магчымасць, што сёйтой і ўсумніцца ў дакладнасці гэтых «навуковых» адкрыццяў. Можа хтонебудзь нават укажа пану прафесару, што хоць многія кіруючыя дзеячы на Захадзе не грэбуюць ні грушамі, ні спаржай — іх справы і заявы не адзначаюцца ні лагічным мысленнем, ні пачуццём адказнасці.



# *Гумар і сатыра*

# МІМАХОДАМ

**Кароткія жарты**

Мал. І. Белановіча.

## СІТУАЦЫЯ

Закаханы студэнт гаворыць свайму аднакурсніку перад экзаменамі:

— Пра сябе я ўжо і не думаю. Каб толькі яна здала на выдатна...



## РЭЗАЛЮЦЫЯ

У памяшканні хаты-чытальні аднойчы праходзіў комсамольскі сход. Сакратар зрабіў даклад «Аб пераадоленні рэлігійных перажыткаў». Выступаючыя ў спрэчках адзначылі, што некаторыя вясковыя дзяўчаты хадзілі ў царкву спецыяльна для таго, каб паглядзець на маладога папа. Сход прыняў рэзалюцыю: «Выставіць супраць папа прыгожага лектара».



## З АДНОЙ — ШЭСЦЬ

У раённы горад прыехаў з вобласці лектар і прачытаў лекцыю «Ці ёсць жыццё на Марсе?» Яе зарэгістравалі і ўзялі на ўлік раённая і гарадская бібліятэкі, аддзел культуры, райком комсамола, дом культуры і дом піянераў. У хуткім часе ў вобласці атрымалі звесткі, што ў горадзе прачытана... шэсць лекцый на навукова-папулярныя тэмы.




## ДЗЕЛЯ ФОРМЫ

У розных кутках гарадскога парку прыбіты дошчачкі з кароткім і суровым надпісам: «Рваць кветкі катэгарычна забараняецца. Штраф — 100 руб.» Праўда, навокал — ні кветкі. Горсовет забыўся пасадзіць кветкі, але прыняў меры да іх абароны.



## ПРЫЗНАННЕ

— Разумееш, спецыяльна перад экзаменам з'еў у сталоўцы двое мазгоў, а ледзь здаў на «тройку».

## ПАЧАТАК ПРАМОВЫ

— Праца Міхаіла Міхайлавіча мае несумненную каштоўнасць, хоць і не пазбаўлена некаторых нязначных недахопаў, як, паміж іншым, і ўсялякая добрасумленная работа. З аднаго боку, Міхаіл Міхайлавіч быццам і не робіць ніякіх адкрыццяў, але, з другога боку, усе знаёмыя нам рэчы пад пяром аўтара гучаць неяк па-новаму...

Можна і не слухаць далей прамоўцу. Яго пазіцыя зразумелая з самага пачатку.



## РАЗМОВА

— Вы спазніліся на цэлых 15 хвілін.

— Я хадзіў у дэканат даведацца, ці будзе ваша лекцыя.



Яўген **КРЫСКАВЕЦ**.

## Шахматы

**А. СУЭЦІН,**
**майстар спорту**

# РУСКІЯ КЛАСІКІ І ШАХМАТЫ

Гістарычныя дакументы — дзённікі, пісьмы, мемуары — дазваляюць занесці ў спісы аматараў шахматнай ігры вялікія імёны Пушкіна, Лермантава, Талстога, Чэрнышэўскага, Тургенева і многіх другіх класікаў рускай літаратуры. Такая крыніца, як творы пісьменнікаў, таксама дазваляе рабіць вывады аб адносінах іх да шахматаў, пра ролю шахматаў у жыцці і творчасці пісьменніка.

Заснавальнік рускай літаратуры А. С. Пушкін шмат часу праводзіў за шахматнай дошкай і адносіўся да шахматаў зусім не як да забаўкі. У яго бібліятэцы былі шахматныя дапаможнікі Філідора і Пятрова. Вядома яго выказванне з пісьма да Н. П. Пушкінай аб неабходнасці шахматаў «ва ўсякай дабраўпарадкаванай сям'і». Шмат хто памятае вядомую страфу з «Яўгенія Онегіна», дзе Ленскі, гуляючы з Ольгай у шахматы, «пешкою ладью берет в рассеяньи свою».

Шахматы былі верным спадарожнікам жыцця М. Ю. Лермантава. «У хатнім жыцці сваім,—успамінае А. П. Шан-Гірэй,—Лермантаў быў амаль заўсёды вясёлы, роўнага характару, займаўся музыкай, а больш маляваннем, пераважна ў батальным жанры, таксама гулялі мы нярэдка ў шахматы...»

Вялікай была схільнасць да шахматаў у Л. Н. Талстога. За апошнія 15 год свайго жыцця ён сгуляў з А. Б. Гальдэнвейзерам да 700 партый. Паводле ацэнкі Гальдэнвейзера, Леў Нікалаевіч «гуляў вельмі нядрэнна, звычайна атакуючы праціўніка без дастатковай ацэнкі становішча і рэсурсаў для атакі... Калі Леў Нікалаевіч выігрываў, ён па-дзіцячаму радаваўся, пры праігрыванні шчыра засмучаўся». Талстой цаніў у шахматах элемент барацьбы. Прывядзем адно з выказванняў Л. Н. Талстога аб шахматах: «Я люблю шахматы таму, што гэта добры адпачынак: яны прымушаюць працаваць галавой, але вельмі своеасаблíва і аднастайна. Ні ўяўленнямі, ні якой іншай справай не заняты і таму галава адпачывае». У творах Талстога ёсць шмат сцэн і эпізодаў, звязаных з шахматамі. У «Вайне і міры» ёсць цікавыя параўнанні ваенных дзеянняў з гульнёю ў шахматы. Палемізуючы з гісторыкам Напалеона Т'ерам, які імкнецца апраўдаць становішча свайго героя тым, што ён «быў прыцягнуты да сцен Масквы міжвольна», Талстой заўважае: «Добры ігрок, які прайграў у шахматы, шчыра перакананы, што яго пройгрыш адбыўся з-за яго памылкі, і ён шукае гэтую памылку ў пачатку сваёй ігры, але забывае, што ў кожным яго кроку на працягу ўсёй ігры былі такія-ж памылкі, што ні адзін яго ход не быў дасканалы. Памылка, на якую ён звяртае ўвагу, відаць яму толькі таму, што яго праціўнік скарыстаў яе. Наколькі-ж складанейшая ігра вайны, якая адбываецца ў вядомых умовах часу, дзе не адна воля кіруе пазбаўленымі жыцця машынамі, а дзе ўсё вынікае з незлічымага сутыкнення розных дэспатызмаў».

Самым выдатным шахматыстам паміж рускіх пісьменнікаў быў, бясспрэчна, І. С. Тургенеў. «Ці ведаеце, які мой галоў-

ны занятак? Гуляю ў шахматы з суседзямі альбо нават адзін, разбіраю шахматныя гульні па кнігах. Ад практыкавання я дасягнуў некаторай сілы»,—пісаў Тургенеў 29 чэрвеня 1853 года С. Т. Аксакаву. Паэт Я. П. Палонскі ва ўспамінах, якія датычаць апошніх год жыцця вялікага пісьменніка, расказвае, што Тургенеў «быў выдатным шахматыстам, тэарэтычна і практычна вывучаў гэтую гульню і хоць даўно ўжо не гуляў, але мог аддаць мне каралеву і ўсёроўна выігрываў». У майскім нумары «Шахматнага лістка» за 1862 год ёсць заметка аб турніры ў вядомым парыжскім кафэ Рэжанс. Першае месца атрымаў А. дэ Рывер, другое І. С. Тургенеў. Аўтару гэтых радкоў ў 1954—1955 годзе давялося быць у Парыжы і зайсці ў кафэ Рэжанс. Цяпер там ужо не гуляюць у шахматы, але захавалася некалькі вядомых карцін, звязаных з «шахматным» мінулым кафэ. На адной з іх намаляваны за гульнёй у шахматы вялікі рускі пісьменнік І. С. Тургенеў.

## ЗАДАЧА-ЖАРТ

Чорныя сыгралі g7-g5, і ў тое-ж імгненне абодва партнёры разам ускрыкнулі: «Здаюся!»



Прапануем чытачам растлумачыць, чаму так адбылося і хто з ігракоў меў рацыю так сказаць.

## ЗМЕСТ



### НАШЫ ЗЕМЛЯКІ



### З БЛАКНОТА ПАДАРОЖНІКА



### БІБЛІЯГРАФІЯ



### У СВЕЦЕ МАСТАЦТВАЎ



Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон — 93-854.

АТ 03559. Здадзена ў набор 10.VII-57 г. Падпісана да друку 7.VIII.57 г. Заказ 488.

Фармат паперы 70×108/16. Друк. арк. 10. Вуч.-выд. арк. 12. Тыраж 16 500 экз. Цана 4 руб.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.



**Раніцай.** Фотаэцюд А. Дзітлава.